ДЖЭРОМ КЛАПКА ДЖЭРОМ,
АЎТАР ПАДАРОЖНАЙ АПОВЕСЦІ
"ТРОЕ Ў ЧОЎНЕ І ПЁС З ІМІ",
НЕ ЎПЭЎНЕНЫ,
ШТО ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.

БО НАЎРАД ЦІ:
- ДЗЯДЗЬКА ПОДЖЭР ПАВЕСІЦЬ КАРЦІНУ РОЎНА;
- ГАРЫС ЗМОЖА ЯК СЛЕД ЗАСПЯВАЦЬ КАМІЧНЫЯ КУПЛЕТЫ;
- ДЖОРДЖ ЗГАТУЕ ІРЛАНДСКАЕ РАГУ;
- ШАНОЎНАЯ ПУБЛІКА СВОЕЧАСОВА ВЫБЛЫТАЕЦЦА З ГЭМПТАН-КОРЦКАГА ЛАБІРЫНТУ;
- КАРЧМАР І П'ЯНТОСЫ-ЗАЎСЁДНІКІ ЗЛОВЯЦЬ ГІГАНЦКУЮ СТРОНГУ;
- МАНМАРАНСІ ЎЧЭПІЦЬ ЗА ХВОСТ ТАЎСТАГА КАТА.

ВЫДАВЕЦТВА ЛОГВІНАЎ



ДЖЭРОМ К. ДЖЭРОМ

# ТРОЕ Ў ЧОЎНЕ І ПЁС З ІМІ

ПЕРАКЛАДЧЫК
ПАВАЛ КАСЦЮКЕВІЧ

МАСТАЧКА
КАЦЯРЫНА ПІКІРЭНЯ

ЛОГВІНАЎ




*Джэром Клапка Джэром, аўтар падарожнай аповесці “Трое ў чоўне і пёс з імі”, зусім не ўпэўнены, што ўсё будзе добра. Бо наўрад ці дзядзька Поджэр павесіць карціну роўна, Гарыс даспявае камічныя куплеты, а Джордж паспяхова зварыць ірландскае рагу. Гучыць цалкам неверагодна, што нехта своечасова выберацца з Гэмптан-Корцкага лабірынта, што карчмар разам з п’янтосамі-заўсёднікамі зловіць гіганцкую стронгу, а Манмарансі ўчэпіць тлустага ката за хвост.*



ISBN 978-609-8213-71-3

# Манмарансі думае пра Беларусь

## Прадмова перакладчыка

Тое мусіў быць бездакорны дзень. Прачнуўшыся ў канцы XIX стагоддзя на ўскрайку грандыёзнай імперыі, нашы джэнтльмены планавалі прабегчы вачыма свежую газету, струшчыць бекон з яечняй, выпаліць па цыгары і зашпурнуць транты ў кэб. Пасля на чыгуначным, выкшталтаваным у маўрытанскім стылі, вакзале заскочыць у экспрэс. Цягнік адымчыць сябрыну да ўтульнага чоўна на маляўнічай рацэ.

Усё загрузла на этапе газеты. Грандыёзная імперыя выявілася ці то не такой прасунутай, ці то не такой дружалюбнай — аднак газеты на мове нашых джэнтльменаў не знайшлося. Пасланы ў найбліжэйшы кіёск boy вярнуўся з пустымі рукамі. У кіёску прадаваліся ўсялякія “Ведомости” з метраполіі, пракідваліся мясцовыя масава-палітычныя выданні. Але ж нашым джэнтльменам хацелася зірнуць надвор’е ды на апошнія рыбацкія байкі, узятыя жыўцом з тутэйшага грунту. І каб не надта напружваць глузды ў час адпачынку, хацелася прачытаць гэтыя звесткі на (пры)роднай мове. Па магчымасці — з рысункамі.

Факт адсутнасці газеты нашых джэнтльменаў нескончона засмуціў. Яны пастанавілі гэдакую прыкрасць як найхутчэй ліквідаваць. Адпрэчылі бекон, адставілі транты. І сталі пасылаць карэспандэнтаў у ваколіцы — занатаваць звесткі пра надвор’е і паклёўку, тым жа часам як самі джэнтльмены ўзяліся аператыўна праходзіць рэгістрацыю новай газеты і вярстаць першыя нумары.

Справа зацягвала і зацягвалася. Аднак, стоячы за варштатам або перад імперскімі паліцыянтамі

ў рэдакцыйным пакоі падчасператрусу, нашы джэнтльмены песцілі надзею, што ў блізкім часе яны нарэшце разарвуць зачараванае кола і апынуцца ў запаветным чоўне ля зацішнай рэчкі. Тыдзень-два рэлаксацыі па-за гоманам і тлумам гэтага свету.

Дарэчы кажучы, шмат у чым дзякуючы газеце, якую заснавалі нашы джэнтльмены, яе артыкулам і рысункам, якія чытачы ўзялі на ўзбраенне і ва ўжытак, пачала канструявацца-спраўджвацца цэлая краіна.

Тым часам у грандыёзнай імперыі, што тады ўзнялася з калень, выявіліся гліняныя ногі. Пачаўся гэты прыкры ланцуг непаразуменняў, які прынята менаваць "ХХ стагоддзем". У яго гармідары нашым джэнтльменам было досыць лёгка забыцца не толькі пра вандроўкі, але нават пра ранішні бекон з цыгарай.

Толькі праз стагоддзе, годзе так у 1993-м, удалося да канца прайсці ўсе этапы гэтага газета-бекона-цыгара-транта-вакзальна-рачнога плана. Праўда, на чаўнах супраць плыні хадзіць зрабілася нямодна, і нашы джэнтльмены арандавалі байдаркі для сплаву ўніз па рацэ.

Дык вось, спасярод паляны, на беразе ракі нашы джэнтльмены ўпершыню нацягваюць байдаркі і, паводле добрай завядзёнкі вольных людзей, палка спрачаюцца пра ўсё на свеце. Як вынік — расколваюцца на тры ваяўнічыя фракцыі.

У сваёй правіцы першая фракцыя трымае завадатара, па сумяшчальніцтве рэдактара той самай, ужо адноўленай, газеты Сяргея Дубаўца. Яму рачная вандроўка бачылася на манер рэканкісты. Мроілася, як на байдарках, нібыта на ладдзях, выгнанцы і вяртанцы прычальваюць да берагоў сваёй старой-новай краіны. Пасля шматвекавой акупацыі і паняволення дакранаюцца да святых мясцін і пакланяюцца слядам велічнае мінуўшчыны. Трывала стоячы на зямлі, сябрына жыва ўяўляе на мясцовасці, як тут усё дзеялася

раней. Вывучае стыхіі і сумовіцца з наваколлем без украпленняў каланіяльных словаў.

Другую фракцыю ўзначаліў паэт Ігар Бабкоў, прапаведнік царквы сяброўскага оверкіля. Ён вызнаваў, што самавіты джэнтльмен/лэдзі хоць раз у сваім жыцці мусіць зрабіць оверкіль, то-бок перакуліцца на байдарцы і заставацца ў гэтай пазіцыі як найдаўжэй. Запэўніваў, што, куляючыся, патрапляеш не ў мокрую ваду, а ў іншую яву. Не ідзеш на дно, а злятаеш у паралельнае вымярэнне. Прарочыў, маўляў, перакуленая байдарка ператвараецца ў цэпелін. Знізу (то-бок зверху) бляклым ценем трымціць-хістаецца паняволены запаволены край. А тут, у тоўшчы вод, заложна праплываюць глыбокія сэнсы, вяршаліны падводных дуброваў і тлустыя кавалкі фаўны. На глыбакаводных стаянках з падводных кацялкоў даносяцца галасы рыб, а на паверхні рачнога дна зазыўна бліскае перакуленае неба.

Трэцюю сілу, якая ні нашым ні вашым, ачоліў філосаф Валянцін Акудовіч. У рачных вандроўках горачна лабіраваў нікуды не плыць і ні да чаго не приставаць. Гэтая прынцыповая пазіцыя статычнага актывізму падмацоўвалася дзвюма разумовымі высновамі, якія ўзрушылі глузд філосафа:

1. “Краіна была сканструяваная і спраўджаная дзеля таго, каб з радараў гэтай самай краіны ўмагчымілася знікнуць яе апалагетам і пачынальнікам (і, знікшы, тыя дэфілююць па водных шляхах краіны дагары нагамі)”.

Другую думку — а ёй мы заканцуем нашу прадмову, крыху расцягнутую, нібыта група вандроўных летуценнікаў, — філосаф знайшоў яшчэ больш вярэдлівай:

2. “Каб дасягнуць пункта «выйсці на ваду», нам спатрэбілася амаль сто гадоў, дык колькі ж, напрамілы Бог, давядзецца чакаць выканання пунктаў «прычаліць да берага» і «згатаваць гарбаты»?”

# *Раздзел I*



*Тры трухлякі. — Пакуты Джорджа і Гарыса. — Ахвяра тысячы хвароб. — Эфектыўны метад. — Уся праўда пра дзіцячую немач. — Мы запрацаваліся, і нам трэба адпачынак. — Глыбокае пагружэнне на тыдзень. — Джордж прапануе рачную вандроўку. — Манмарансі запісваецца ў апазіцыю. — Адмарозкі зазналі паразу.*

Н*ас было чацвёра: Джордж*, Ўільям Сам'юэль Гарыс, ваш пакорлівы служка і Манмарансі. Мы сядзелі ў гасцёўні, палілі люлькі і наракалі на свой стан здароўя. Ці, дакладней, на свой стан нездароўя.

Пачуваліся мы развалінамі, і гэта нас моцна трывожыла. Гарыс паведаміў: часам на яго навальваецца гэткая млосць, што ён не чуе, дзе верх, а дзе ніз. Але Джордж запярэчыў, што сапраўдная млоснасць чапляецца да яго і што менавіта ён — а не нехта там яшчэ! — страціў кантроль над сітуацыяй.

Што да мяне, то ў мяне ўсё пагана з пячонкай. Адкуль мне стала вядома? Дык я ж прачытаў суправаджальны буклет да скрынкі з таблеткамі. У буклеце падрабязна пералічылі сімптомы хворай пячонкі. У сябе я знайшоў іх усе.

О як. Не магу прайсці паўз рэкламу якога-небудзь медыкамента і не зрабіць адназначнай высновы: "Я таксама на гэта хворы". Да таго ж у найбольш небяспечнай, жахлівай форме. І кожны раз дыягназ стопрацэнтова адпавядае знойдзеным мною ў сабе сімптомам і адчуванням!

Памятаю, пайшоў я аднойчы ў бібліятэку Брытанскага музея, каб прачытаць пра лекаванне адной дробнай немачы, якую я хапянуў, мусіць, пра сянніцу. Узяўшы даведнік, агораў патрэбныя старонкі. І неяк неўпрыцям стаў гартаць старонкі даведніка далей, гэтак пакрысе ўцягваючыся ў вывучэнне іншых хвароб. Першым трапіў на вока нейкі смерцяносны біч-жываглот. Прагледзеўшы палову спіса папярэдніх сімптомаў, я раптам усвядоміў, што маю іх усе.

На імгненне я выпрастаўся, зледзянелы ад жуды. У роспачы я стаў гартаць даведнік далей. Натрапіў на артыкул "Брушны тыфус". Прачытаўшы ўсе адзнакі, высветліў: і на гэтую пошасць я безумоўна таксама хворы. Хварэю, не ведаючы пра яе, ужо колькі месяцаў. Тады я паспрабаваў дазнацца, што там у мяне яшчэ. Разгарнуў даведнік на "скоках Святога Віта". Як і чакалася, я пакутую на іх — ад макаўкі да пят.

Мне нават зрабілася цікава. Я стаў вывучаць свой выпадак руплівей. Каб вызнаць усё ад дошчачкі да

дошчачкі, проста прайшоўся па алфавіце. Прачытаў пра *бранхіт*, зразумеў, што ў мяне баліць горла, а крытычная стадыя пачнецца праз які тыдзень. *Васкуліт*, даведаўся я з палёгкай, хапіў мяне ў лёгкай форме — гэта дазволіць мне працягнуць яшчэ некалькі гадкоў. *Гепатыт*? Ёсць то ёсць, родненькі! Прычым з цяжкімі ўскладненнямі! *Дыфтэрыю* я, здаецца, успадкаваў ад мамы з таткам…

Я сумленна цярэбіўся праз усе дваццаць шэсць літар ангельскага алфавіта і, зрэшты, прыйшоў да высновы, што адзіная немач, якой у мяне няма, — гэта амазалеласць.

Спярша нават зрабілася крыўдна. Амазалеласць! Проста нейкая абраза! Чаму гэта ў кожнай пакаёўкі на каленках ёсць, а вось у мяне, пацыента ў самым росквіце, ды раптам няма? Што за пякучая несправядлівасць?! Аднак па некаторым часе я кінуў дурное. Нагадаў самому сабе, што пакутую на ўсе астатнія, вядомыя медыцыне ды біялогіі, захворванні, пошасці й разлады. І адразу ж палагаднеў. Вырашыў — сяк-так перабуду ўжо без мазалёў.

...Затое падагра, ды яшчэ ў сваёй найгнюснейшай стадыі, спасцігла мяне, а да майго ведама ніхто і не давёў. Язва кішкі-дванасткі, як высвятляецца, у мяне зеўрае змалку. Пасля язвы хваробы ў кніжцы скончыліся, таму я вырашыў: такой бяды, хопіць.

Я сядзеў у одуме. Мне прыйшло да галавы: бач ты, з медыцынскага гледзішча я хадзячы унікум, знаход-

ка для ўніверсітэцкіх заняткаў! Студэнтам больш не давядзецца праходзіць медыцынскую практыку ў шпіталях — цяпер у іх ёсць я! Усё, што ім зараз трэба зрабіць, — гэта пазавіхацца вакол мяне, і канец — маеш дыплом!

Потым я зрабіў прыблізны падлік, колькі гадоў мне засталося. Паспрабаваў зладзіць сабе медагляд — і памацаў пульс. Цішыня. Потым, праўда, нешта там запульсавала. Я дастаў гадзіннік, каб засячы час. Налічыў сто сорак сем удараў за хвіліну. Паклаў руку на сэрца. Зноў цішыня. Сэрца спынілася. Давялося паверыць самому сабе на слова, што сэрца ў мяне ёсць і што яно ўсё ж б'ецца. Але ж руку на адсячэнне я б не даў. Потым я паляпаў сябе па грудзіне, ад маёй, з дазволу сказаць, таліі ажно да шыі. Потым крыху адхіліўся па рабрынах у бокі, і пасля — па спіне, крыху ніжэй за патыліцу. Аднак зноў нічога не адчуў і не намацаў. Паспрабаваў глянуць на язык і высалапіў яго штомоцы. Заплюшчыўшы адно вока, паспрабаваў абгледзець язык другім. Але ўбачыў толькі кончык. Адзінае, што мне ўдалося заўважыць, — да ўсяго я яшчэ хворы на шкарлаціну.

У чытальную залу я ўваходзіў здаровым шчаслівым. А выпаўзаў адтуль вартым жалю трухляком.

Я вырашыў пайсці да лекара. Ён мой знаёмы, і калі мне падаецца, што я хворы, ён мацае мне пульс, абглядае язык, балбоча пра надвор'е і не бярэ за гэта ні шэлега. Мне падумалася, што годна яму аддзячу, калі наведаю першым менавіта яго.

“Што трэба медыкам, — развažаў я, — дык гэта практыка. І вось мой таварыш-лекар можа прыдбаць мяне. З мяне ён атрымае больш практыкі, чым са ста пяцісот іншых шараговых пацыентаў, у якіх можна нашкрэбаць максімум адну-дзве кволенькія хваробкі”.

Я прыйшоў да свайго лекара. Ён запытаўся:

— Што ў цябе баліць?

Я адказаў:

— Мілы мой дружа! Я не буду красці твой час, апавядаючы, што ў мяне баліць і якія хваробы я маю. Жыццё надта кароткае, і я магу памерці яшчэ да таго, як скончу аповед. Але я скажу табе, сябра, чаго ў мяне няма. У мяне няма амазалеласці. Чаму ў мяне яе няма — ат, невядома. Прымі як дадзенае — няма і ўсё тут. А вось УСЮ РЭШТУ я маю.

І апавёў таварышу, як уся праўда выйшла наверх.

Пасля мой сябра папрасіў адкрыць рот і зазірнуў усярэдзіну. Учапіўся ў запясце. І калі я зусім не чакаў, раптоўна бадну́ў мяне ў грудзіну — далібог, падступны ўчынак! Пасля гэтага ён сеў за стол, выпісаў рэцэпт, згарнуў яго ў дзве столкі і працягнуў мне. Я запхнуў паперку ў кішэню і выйшаў з кабінета.

Рэцэпта я не разгортваў. Я адразу панёс яго ў найбліжэйшую аптэку і ўручыў там фармаколагу. Той, прачытаўшы паперку, вярнуў яе мне, сказаўшы, што з гэтым не да яго. Я абурыўся:

— Вы фармаколаг ці хто?

Ён адказаў:

— Тут аптэка. Калі б тут былі па сумяшчальніцтве гастраномія або пансіянат, я б вам дапамог. Бачыце, мне і самому часам не вельмі падабаецца, што ў мяне ёсць ліцэнзія толькі на гандаль лекамі.

Я разгарнуў рэцэпт. Там было напісана:

*400 грам біфштэксу з 0,5 светлага піва, 3 разы на дзень.*
*15 кіламетраў пехам, шторанку, раз на дзень.*
*1 пасцель, прымаць аб 11-й вечара, раз на ноч.*
*І не тлумі, дружа, сабе голаў рэчамі, у якіх ні халеры не петрыш!*

Стуль я трымаюся гэтых рэкамендацый. Вынікі — самыя паспяховыя. Выдае на тое, што я ўратаваў сабе жыццё, бо яно, як бачыце, усё яшчэ працягваецца.

Але вернемся да "пячонкавага" буклета. У мяне былі ўсе сімптомы, і, несумнеўна, галоўным сярод іх значылася "сістэматычнае нежаданне працаваць".

Якія пакуты я змалку зазнаў праз гэты сімптом — словамі не сказаць! Я стаў закладнікам хваробы яшчэ ў калысцы. У дзяцінстве хвароба не давала мне палёгкі нават на адзін-адзіненькі дзень. І нікому не прыйшло да галавы, што прычына майго гультаявання — хворая пячонка. Вось жа, тады медыцына была значна менш развітая і ўсё прыпісалі хлапечай ляноце.

— І чаму гэта ты, дробны сімулянт, не ўстаеш зранку, а толькі лынды б'еш у ложку?! — пыталіся ў мяне, канешне, ведам не ведаючы пра мае беды са здароўем.

Таблетак, вядома ж, я не атрымліваў — дзе там! Затое атрымліваў поўхі. І, як ні дзіўна гэта прагучыць,

раз-пораз гэтыя поўхі прыводзілі мяне да ладу. Але ж толькі на пэўны час. Цяпер я ведаю — нават адна-адзіная поўха мела магутны ўплыў на пячонку: яна прыводзіла мяне ў рух, прымушаючы рабіць карысныя справы значна мацней, чым цэлая бляшанка таблетак сёння.

Такое часта здараецца. Простыя дзедаўскія сродкі выяўляюцца эфектыўнейшымі за найноўшую аптэчную атруту.

Дык вось. Джордж, Гарыс і я прасядзелі паўтары гадзіны, апавядаючы адзін аднаму пра свае немачы. Я расказаў Джорджу і Гарысу, як пачуваюся зранку, а Гарыс падзяліўся тым, якія пакуты зазнае перад сном. Джордж, стоячы на кілімку перад камінам, паказаў нам на мігах іскрамётны спектакль пра свае начныя пакуты. Так вымоўна і так пранікнёна.

Дарэчы, Джордж толькі думае, быццам ён хворы. Па праўдзе кажучы, ён здаровы як бык.

У гэты самы момант спадарыня Попетс пагрукала ў дзверы і спытала, ці гатовыя мы да вячэры. Абмяняўшыся тужлівымі ўсмешкамі, мы адказалі ёй: “Так”. Маўляў, тае бяды, паспрабуем зжаваць чаго праз сілу. Гарыс дадаў, што невялікія колькасці харчу ў страўніку могуць затрымаць развіццё хваробы.

І спадарыня Попетс занесла ў гасцёўню паднос. Сяк-так дапоўзшы да стала, мы пакалупаліся трохі ў стэйках з цыбуляй ды рэвеневым пірагу.

Мяне тады, мусіць, агарнула агульная млявасць і абыякавасць да жыцця. З паўгадзіны я рабіў ураджанне чала-

века, слаба зацікаўленага ежаю — што для мяне зусім не ўласціва. Нават да свайго ўлюбёнага сыру не дакрануўся.

Калі харчовы абавязак быў выкананы, мы зноў напоўнілі шклянкі. Запалілі люлькі і вярнуліся да абмеркавання нашых гізунтаў. У нас не было на руках дакладных дыягназаў. Але адзінагалосная выснова гучала гэтак: “Няважна, якая немач нас грызе, — яе карані трэба шукаць у пераўтоме ад інтэнсіўнай працы”.

— Усё, што нам трэба, — гэта добры адпачынак, — зазначыў Гарыс.

— Адпачынак і яшчэ раз адпачынак, — дадаў Джордж. — Інтэлектуальнае launtamленне выклікала генеральную астэнію і індыферэнтнасць да жыцця. Змена абстаноўкі й вызваленне ад патрэбы думаць — вось тыя захады, што, безумоўна, адновяць наш разумовы і душэўны баланс.

У Джорджа ёсць кузіна, якая ў паліцэйскіх пратаколах фігуруе як “студэнтка медыцынскага”. Менавіта ад яе Джордж і пераняў псеўданавуковую манеру выказвацца.

Я пагадзіўся з Джорджам, што добра было б знайсці нейкі зацішны куток. Такую сабе дзюрку, адасобленую ад звар’яцелага тлуму нашай цывілізацыі. Там, сярод дрымотных сцежак і прысадаў, мы прабавілі б казачны, поўны сонца і мрояў тыдзень. Нейкі зарослы ручай, аблюбаваны феямі, утульнае гняздзечка на самай вяршыні свету, да якога амаль не далятае прыкры гоман дзевятнаццатага стагоддзя.

Гарыс сказаў, што гэта было б нудна і правінцыйна. І дадаў, маўляў, ён цудоўна ведае, што я маю на ўвазе. Месца, дзе ўсе кладуцца спаць а восьмай гадзіне. Дзе не дазнаешся вынікаў апошніх скачак — ані за фунт стэрлінгаў, ані за фунт сцерлядзі, дзе давядзецца дыбаць пятнаццаць кіламетраў, адно каб набыць тытуню.

— Толькі не гэта! — сказаў Джордж. — Бо калі нам патрэбны спакой і змена абстаноўкі, няма нічога лепшага за мора.

Марское падарожжа адпрэчыў я. Бо ад яго ёсць карысць толькі тады, калі едзеш на пару месяцаў. Калі ж гаворка пра тыдзень, то падарожжа абавязкова ператворыцца ў кашмар.

Ты адплываеш у панядзелак, песцячы думку, што ў моры цябе чакае асалода. Махаеш на развітанне таварышам на беразе. Запальваеш сваю найвялікшую люльку і паўлінам пахаджаеш па палубе, нібы ты капітан Кук, сэр Фрэнсіс Дрэйк і Хрысцяна Калумб у адной асобе.

У аўторак ты думаеш, што лепш бы ён не наступаў. У сераду, чацвер і пятніцу ты жадаеш аднаго — хуткай смерці. Але ў суботу ты ўжо можаш выпіць пару глыткоў цялячага булёну, неяк прытуліцца на палубе ды адказваць адно ледзь прыкметнай, пакутніцкай усмешкай на жаласлівыя роспыты пра сваё здароўе. У нядзелю ты ўжо ўстаў на ногі і нават каштуеш на зуб цвёрдую ежу. А ў панядзелак ранкам ты стаіш з валізай і парасонам ля борта, чакаючы высадкі на бераг ды гонячы з галавы

прыкрую думку, што вандроўка якраз была пачала табе падабацца.

Памятаю, мой швагер паехаў аднойчы ў кароткае марское падарожжа, каб трохі паправіць расхістанае здароўе. Зняў каюту на рэйс “Лондан-Ліверпуль-Лондан”. І адзінае, чым быў заняты, прыплыўшы ў Ліверпуль, — гэта каму б увапхнуць зваротны квіток.

Паводле чутак, швагер нават прапаноўваў неймаверную зніжку. Урэшце за васямнаццаць пенсаў гэты падарунак лёсу адышоў гепатытнага выгляду юнаку, якому лекар прапісаў марскія падарожжы ды гімнастычныя практыкаванні.

“Марскія падарожжы?! — курлыкаў мой швагер, пяшчотна ўпіхваючы квіток у руку юнака. — Далібог, вам хопіць іхняга паветра на ўсё жыццё! Я ўжо не кажу пра фізкультуру! Тут, на палубе карабля, вы зробіце значна больш гімнастычных кульбітаў, чым на нерухомай сушы”.

Сам швагер вярнуўся цягнікам. Ён сказаў, што Брытанская чыгунка нашмат больш карысная для яго здароўя.

Іншы мой знаёмец на тыдзень паехаў у марское падарожжа ўздоўж паўднёвага берага. Перад адплыццём да яго падышоў сцюарт ды запытаў, будзе ён разлічвацца за сталаванне пасля кожнай яды ці заплаціць за ўсё наперад.

Сцюарт параіў другі варыянт, бо так выходзіла значна танней. Ён дадаў, што поўны тыдзень харчавання будзе каштаваць паўтраця фунта. На сняданак згатуюць

# Маршрут першы:

## Рака Шчара, Берасцейшчына

Як спявае Яўген Барышнікаў, "скрозь дрымоту палёў, скрозь гаі і гушчары нясе цёмна-рудыя воды мая Шчара". Па пастаральнай Шчары спярша плывеш як па запаведніку прыродным – абапал лянівыя чорныя чаплі і буслы мянцяць дзюбы, а рачныя чарапахі грэюць на пяколку свае лунаходныя панцыры. Пасля – як па запаведніку гістарычным. Рака пераўвасабляецца ў цэнтральны праспект Слоніма: царква, касцёл, сінагога, мячэт... Парачкі, што хацелі, ды – бач ты – не змаглі адасобіцца на беразе ракі сярод засені прыбярэжных таполяў.



## Каардынаты маршруту

Пачатак вандроўкі – невялічкая азярына, проста лічаныя метры ад трас(ц)ы "Менск-Берасце" (калі ехаць са сталіцы, дык крыху не даязджаючы да Івацэвіч). Арыенцір – праваслаўная каплічка. Заканцаваць паход з сяльпоўскім шампанам і рачнымі ракамі можна ў ваколіцах Слоніма.



рыбу. Пасля рыбы — смажанае мяса. Другі сняданак а першай гадзіне — ён будзе складацца з чатырох страваў. Абед а шостай: суп, рыба, закускі, смажанае мяса, курка, салат, сырная талерка, дэсерт. І лёгкі булён а дзясятай вечара.

Знаёмец падумаў, што варыянт на паўтраця фунта (ён вялікі ненажэра!) прапускаць катэгарычна нельга.

Другі сняданак прынеслі адразу пасля адплыцця з Шырнэса. Знаёмец не дужа агаладаў, як хацелася б, і таму здаволіўся кавалкам варанай цяляціны й суніцамі з вяршкамі. Пасля ежы яму, з аднаго боку, падумалася, што за нейкія паўтраця фунта ён мае гэшефт. Але з іншага — яго не пакідала ўражанне, быццам ён душыцца варанай цяляцінай ужо некалькі тыдняў і што паўжыцця сядзіць выключна на суніцах з вяршкамі.

Ні цяляціна, ні суніцы з вяршкамі майго знаёмца больш не вабілі. Хутчэй наадварот — гідзілі.

А шостай вечара да яго прыйшлі й паведамілі, што абед пададзены. Гэтая вестка не выклікала ў майго знаёмца ані каліва імпэту, але ж ён разважыў, што паўтраця фунта трэба хоць неяк ды адбіць. І вось, па сценачцы, чапляючыся за поручні, ён сяк-так спусціўся ў каюткампанію. Прыемны водар цыбулі з гарачай вяндлінай, змяшаны з пахам падсмажанай рыбы і зеляніны, сустрэў яго ўнізе.

Тут да яго падгроб сцюарт, з ліслівай усмешкай спытаўшы:

— Што вам падаць, сэр?

— Руку, і вывесці адсюль, — млява адказаў мой знаёмец.

Далікатна падтрымліваючы пад рукі, яго спрытна паднялі наверх і пакінулі з падветранага боку палубы.

Наступныя чатыры дні мой знаёмец вёў жыццё праведніка. Пасціўся капітанскімі сухарамі (хоць сам капітан, трэба сказаць, жыў не толькі на іх) ды содавай вадзічкай. Бліжэй да суботы знаёмец зрабіўся такі дзёрзкі, ажно пачаў жлукціць вадкую гарбатку й трушчыць нішчымны тост. А ў панядзелак ужо заліваўся курыным булёнам. Ён сышоў з трапа ў аўторак. І калі параплаў адчальваў ад прыстані, мой знаёмец з відочным шкадаваннем глядзеў яму наўздагон.

— Вось так сплывае мой скарб! — казаў ён сабе. — Сплывае й забірае харчоў на паўтраця фунта!

Калі б яму далі хоць яшчэ адзін дзень, — бедаваў мой знаёмец, — ох, ён бы ім усім паказаў!

Таму я й выказаўся супраць марскіх падарожжаў. Як я ўжо казаў вышэй, турбаваўся я не за сябе. Мяне ж ніколі не нудзіла на палубе. Я баяўся за Джорджа.

Джордж адказаў, што з ім усё будзе ў парадку і яму, хутчэй за ўсё, спадабаецца, але ён параіў нам з Гарысам нават не думаць пра мора, бо ён можа паклясціся мамай і таткам, што на палубе зробіцца млосна якраз нам.

Гарыс зазначыў, што для яго заўжды застаецца таямніцай, як у людзей наагул атрымліваецца хварэць на марскую хваробу. На яго думку, гэтыя людзі пакутуюць наўмысна — манерна ўдаюць немач. Гарыс дадаў, што

ён бы і рады, каб яму хоць разочак зрабілася моташна, ды нешта ніяк не атрымліваецца.

Потым ён расказаў нам фрашку. Ён перасякаў Ла-Манш, і была такая гойданка, што ўсе пасажыры і каманда покатам ляжалі ў сваіх каютах. Адзін ён ды яшчэ капітан параплава засталіся тымі, каго не нудзіла і хто трымаўся на нагах. Раз-пораз трымацца на нагах замест капітана прыходзіў памочнік капітана. То-бок тымі, хто трымаўся на нагах, заўжды былі ён, Гарыс, і яшчэ адзін чалавек. Калі ж не было іншага, тады трымаўся адзін Гарыс.

Дзіўна, што ніхто ніколі не пакутуе ад марской хваробы на сушы. На палубе ты сутыкаешся з процьмай людзей, якім вельмі пагана. Часам на караблі іх не раўнуючы як селядцоў у бочцы. Прычым варта заўважыць, я ніколі не сустракаў чалавека, які б на сушы наракаў, як на палубе яго катавала марская хвароба. Вось дзівосы: і куды толькі, з першым крокам на мулкую глебу, знікаюць усе тыя сотні тысяч марскіх пакутнікаў, якімі кішма кішыць палуба кожнага карабля?

Каб усе тыя людзі былі такімі, як хлопец, якога я аднойчы бачыў на саўтэндскім пірсе, я з упэўненасцю сказаў бы, што таямніца раскрытая. Уявіце карціну: пасажыры толькі-толькі сышлі з параплава на пірс, а нейкі хлопец небяспечна перагнуўся за абмежавальныя парэнчы. Я падбег, каб ратаваць небараку.

— Гэй, дружа, дай назад! — звярнуўся я да хлопца, трусячы яго за плячо. — Ты зараз выкулішся ў мора!

— Я малю аб гэтым Госпада, — пачуў я адказ.

Давялося пакінуць хлопца ў спакоі.

Праз тры тыдні я сустрэў яго ў кафетэрыі Бацкага гатэля. Хлопец выхваляўся нейкаму знаёмаму пра свае марскія геройствы. Заліваўся салаўём — маўляў, ён соль мора.

— Я сапраўдны марскі воўк! — адказаў ён на ліслівае пытанне пра гойданку. — Ну, так, мушу прызнацца, аднойчы мяне ўсё ж загайдала… Падчас шторму на мысе Горн. Трохі пазней, тым жа ранкам, мы пацярпелі крушэнне.

Я ўлез у гутарку:

— Ці не вы аднойчы, ачмурэлы і млявы, кірэчыліся на саўтэндскім пірсе ды малілі, каб вас выкінулі за борт?

— Саўтэндскім пірсе? — перапытаў ён са збянтэжанай мінаю.

— Так! Вы плылі ў Ярмут, амаль з месяц таму.

— А, ну, так, Саўтэнд! — адказаў ён, прасвятлеўшы. — Цяпер прыгадаў! У той дзень адвячоркам мне сапраўды зрабілася моташна. Дык, я вам скажу, гэта ўсё марынаваныя гуркі. Горшых я ў падарожжах не каштаваў. А вам не бывала ад іх кепска?

Што да мяне, дык я вынайшаў цудоўны сродак прадухіліць угойдванне. Трэба захоўваць раўнавагу. Вы становіцеся на сярэдзіну палубы. Калі корпус параплава ўздымаецца і гайдаецца, вы нахіляеце тулава, каб яно заўжды было перпендыкулярна зямлі. Нос карабля пайшоў угору? Вы хіліцеся ўперад, пакуль палуба ледзь не кранецца вашага носа. Калі ж угару ляціць карма, хілі-

цеся назад. Эфектыўны сродак на гадзіну-дзве. Шкада, што балансаваць гэтак цэлымі днямі няможна.

І тут Джордж прапанаваў:

— А гайда ўверх па Тэмзе!

І дадаў, што нам трэба ўдыхнуць свежага паветра, размяць суставы й акунуцца ў цішыню. Пастаянная змена краявіду будзе займаць наш мозг (нават тое рэчыва, што месціцца ў Гарысавай галаве), а фізічная праца выкліча здаровы апетыт і моцны сон.

Небяспечна, запярэчыў на гэта Гарыс, займацца тым, што наганяе на Джорджа сон, бо ён і так вечна спіць. Ён, Гарыс, нават не ўяўляе, як Джордж зможа спаць яшчэ больш, чым спіць цяпер, бо ў сутках, незалежна ад сезона, па-ранейшаму ўсяго дваццаць чатыры гадзіны. Калі б Джордж спаў крышачку даўжэй, чым ён гэта робіць цяперака, ён бы проста лічыўся мёртвым. У такім выпадку ён прынамсі зэканоміў бы на харчах і кватэрнай плаце.

Гарыс глыбакадумна заўважыў, што рачная вандроўка яму пасуе. (Не ведаю, хто тут каму пасаваў, гэта ж урэшце не хакей на траве.) Аднак, здаецца, падарожжа на чоўне падыходзіла ўсім.

Мяне яно таксама задавальняла. І мы з Гарысам пахвалілі Джорджа за плённую ідэю. Нават у адзін голас выказалі здзіўленне, як гэта ў Джорджа ўрэшце атрымалася выказаць прапанову, у якой прабліснуў хоць нейкі сэнс.

Адзіны, хто застаўся ў непрымірымай апазіцыі, быў Манмарансі. Яго ніколі не хвалявалі ні спорт, ні ахова здароўя, а толькі вайна.

— Калегі, я шчыра рады за вас, — сказаў ён. — Нарэшце вам усім усё падабаецца. Але ж мне — НЕ! Рэчка-шмэчка! Спадарства, дзікая прырода — не мая стыхія, і ў дадатак я не куру. Калі я згледжу пацука на беразе, дык у чоўне вы мяне не ўтрымаеце. Наскрозь вас бачу: як толькі я засну, вы кінеце веславаць і дзеля забаўкі выкуліце мяне за борт. Як на мяне, ваш план — страшэнная дурасць!

Але ў нас было тры галасы супраць аднаго — элегантная перамога духу вандроўніцтва над чорнымі сіламі дамаседства.

## *Раздзел II*

*Абмеркаванне планаў. — Перавагі начлегу на вольным паветры. — Кепскі бок таго ж медаля. — Няпросты кампраміс. — Манмарансі ва ўсёй красе. — Асцярогі, ці не занадта чулы Манмарансі для гэтага свету... — ...Якія ў тым жа раздзеле развейваюцца як беспадстаўныя. — Зборы адкладаюцца.*

Разгарнуўшы на стале мапу, мы прыступілі да абмеркавання планаў.

Пастанавілі, што вырушым у наступную суботу з Кінгстанскага вакзала. Мы з Гарысам выплывем зранку, каб прыгнаць човен да Чэтзі. А Джордж, які да полудня не можа пакінуць Сіці (Джордж ходзіць спаць у банк штодня ад дзясятай да чацвёртай — акрамя суботы, калі яго будзяць і выганяюць з канторы а другой), далучыцца да нас ужо там.

Дзе будзем начаваць: на вольным паветры ці ў гатэлях?

Мы з Джорджам выказаліся за вольнае паветра. Гэта будзе дзёрзка і весела, вольніца на старадаўні манер.

...Памярцвелыя згадкі пра сонечную пазалоту пакрысе бляknуць у сарцавіне халодных тужлівых мар. Ціха-ціхенька, як прысаромленыя дзеці, птушкі спынілі спевы. І толькі немы крык чаротніцы і рэзкае крэканне драча скаланаюць вусціш водных абсягаў, над якімі робіць свой апошні выдых дзень — перад самым сконам.

З туманных лясоў на рачны бераг маўклівай ардой сунуцца ў наступ шэрыя цені. Войскі Яе Мосці Ночы, праганяючы ар’ергард святла, прамінаюць зарасці чароту, нячутнымі ды нябачнымі крокамі рушаць наперад, па-над расхваляванай прыбярэжнай травой. І Яе Мосць Ноч, займаючы свой змрочны пасад у прывідным палацы, прасцірае чорныя крылы над сутонлівым светам і, крыху асветленая бляклымі зоркамі, пануе ў цішыні й нерухомасці.

А мы ў сваіх мроях ужо заводзім наш човен у нейкі зацішны ручай. Ставім намёт. Гатуем ды з’ядаем нашу сціплую вячэру. Пасля набіваем ды закурваем вялікія люлькі. Прыязная гутарка ліецца мілагучным пошапкам. У перапынках нашых размоваў рака, што плёхаецца аб барты, сакочучы, дзеліцца з намі дзіўнымі былінамі й таямніцамі. Нізкім голасам зацягвае старадаўнюю калыханку, якой яна люляе ўжо спакон веку і будзе гушкаць да сканчэння дзён, ажно пакуль яе голас не загрубее і не састарыцца. Гэтую калыханку мы, адданыя шанавальнікі яе зменлівага аблічча і заўзятыя аматары паляжаць на яе рухомым улонні, думаем, што

разумеем, але ўсё ніяк не можам перакласці на людскую мову.

Зачараваныя, мы сядзім на беразе. А месяц, які таксама любіць тыя спевы і нават спусціўся, каб па-братняму пацалаваць раку, абвіў яе сваімі срэбнымі рукамі. Мы бачым, як рака струменіць, як спявае, як шапоча, як спакойна ды павольна, нібы ў зачараваным сне, рушыць да свайго ўладара — мора-акіяна.

Урэшце нашыя галасы знікаюць у цішыні. Люлькі гаснуць. І мы, зазвычай ветраныя мужчыны, змаўкаем і дзіўным чынам адчуваем сябе абцяжаранымі думкамі: ці то тужлівымі, ці то радаснымі. Нечаканы выбух смеху — і мы падымаемся на ногі. Выкалупваем попел з выпаленых люлек, даем адзін аднаму “Дабранач!” і, загайданыя ўсплёскамі ды шапатаннем вады, засынаем пад велічнымі, нерухомымі зорамі.

І снім пяшчотнае аблічча юнай зямлі. Дзіцячыя грахі і глупствы пакуль што не састарылі яе палкага сэрца. Яна зноў харашмяная, як у тыя старадаўнія часы, калі яна, маладая маці, гайдала нас, сваіх дзетак, на шырокіх грудзях. Калі подлая, фанабэрлівая цывілізацыя яшчэ не выцягнула нас падманам з яе цёплых абдымкаў. Калі атрутная ўсмешка штучнасці яшчэ не прымусіла нас саромецца простых словаў і гутарак, якія мы вялі з ёй. Калі мы яшчэ не сталі цурацца яе матчынай хаты, у якой чалавецтва хавалася тысячагоддзямі...

...Але Гарыс спытаў:

— А што калі пойдзе дождж?

Гэты чалавек — непрабіўны. Паэзіі ў ім — ні на грам, ніякай прагі ўзнёслага. Заплакаць без дай прычыны? Такога з Гарысам не адбудзецца ніколі ні пры якіх умовах! Калі вочы Гарыса поўняцца слязьмі, руку на адсячэнне — ён толькі што струшчыў сырую цыбуліну або занадта захапіўся гарчыцай.

Калі вам давядзецца стаяць уначы на беразе мора разам з Гарысам і вы прамовіце:

— Чуеш?.. Ці не русалкі гэта пяюць у падводных глыбінях? Ці, можа, тужлівыя вадзянікі завялі жалобныя песні для збялелых тапельцаў, якіх зацягнула ў водарасці?

Тады Гарыс возьме вас за руку і скажа:

— Ды ведаю я, што гэта, дзядзька! Твае галюцынацыі ад прастуды! Давай, хадзем са мной. Я тут ведаю адзін закутак, дзе наліваюць шыкоўнае віскі — у момант ачуняеш!

Гарыс заўжды ведае “адзін закутак”, дзе наліваюць нешта шыкоўнае. Думаю, што калі б вы сустрэліся з Гарысам у райскім садзе (мы ж можам такое дапусціць, чыста гіпатэтычна?), дык ён бы, напэўна, звярнуўся да вас са словамі:

— Рады, рады, што заляцеў да нас, чалавеча! Я тут ведаю адну палянку, дзе наліваюць проста шыкоўную амброзію.

Дзеля справядлівасці трэба заўважыць: калі справа дойдзе да пастаноўкі намёта, дык Гарысаў прыземлены светапогляд будзе вельмі дарэчы. Ставіць намёт падчас залевы — непрыемная проза жыцця.

Вечарэе. Вы прамоклі да ніткі. У чоўне вады па костачку, і ўсе рэчы набрынялі вільгаццю. На балоцістым беразе вы выбралі лапік, які, так бы мовіць, менш балоцісты. На ім вы атабарваецеся і, разгарнуўшы намёт, удвух намагаецеся яго паставіць.

Намёт мокры і цяжкі. Ён ходзіць ходырам і ўрэшце хавае вас пад сабой. Ліпне вам да твараў, даводзіць вас да шаленства. Тым часам дождж сумленна палівае вас зверху. Паставіць намёт нават у сухое надвор'е — той яшчэ клопат, а ўжо падчас залевы — дык проста сізіфава праца. Замест таго каб дапамагаць, ваш таварыш, здаецца, адно строіць дурня. Як толькі вы замацавалі як мае быць свой бок намёта, сябра тут жа задзірае свой і гэтым бурыць усю канструкцыю.

— Гэй! Ты што творыш? — крычыце вы.

— А ты што?! — крычыць сябра ў адказ. — Адпусці, каму кажу!

— Не тузай! Ты ўсё сапсаваў, афэлак! — лаецеся вы.

— Нічога я не сапсаваў! — адгукаецца ён. — Адпусці свой канец!

— Сам адпусці! Ты не так усё робіш! — равяце вы, ледзьве стрымліваючыся, каб не ўчапіцца яму ў горла. І тузаеце за вяроўкі. З іншага боку вылятаюць усе забітыя калкі.

— Ідыёт самы натуральны! — мармыча ён напаўголасу. Потым адбываецца страшэнны рывок з яго боку. У выніку валіцца ўжо ваш бок намёта. Вы адкладаеце драўляную даўбешку. Лётаеце па коле, даступна тлума-

чачы сябру, што вы думаеце пра ўсю гэтую сітуёвіну. Той таксама пачынае бегаць за вамі, даводзячы сваё бачанне праблемы. І гэтак вы гойсаеце адзін за адным, наразаючы кола за колам. Перабрэхваецеся. Урэшце намёт валіцца ў купу, пакідаючы толькі руіны. Цяпер усё, што засталося, — гэта спапяляць адзін аднаго позіркам ды абурана выгукаць на два галасы:

— Што, нечаканка?! А я табе казаў!

Тым часам трэці ваш сябар, які з ціхімі праклёнамі апошнія дзесяць хвілін вычэрпваў ваду з чоўна чарпаком, абтросшы ад вады рукавы, цяпер вельмі хоча ведаць, у якога квача вы тут, хай вас няхай, удваіх гуляецеся? І чаму намёт, трасца на вас ды халера, дагэтуль не стаіць?!

Урэшце сяк-так вы той намёт ставіце і выгружаеце ў яго рыштунак. Развесці вогнішча — скулля атрымалася. Тады, запаліўшы спіртоўку, вы ўсе трое гуртуецеся вакол яе.

Дажджавая вада ў ежы — галоўны сакрэт дыетычнага харчавання. Хлеб складаецца на дзве траціны з дажджу. Мясны пірог набрыняў вадой. Сочыва — глейкае. І масла, і соль, і кава — усе ў вадзе, ажно да атрымання аднароднай супакашы.

Пасля вячэры высвятляецца, што тытунь таксама мокры і пакурыць немагчыма. Дзякуй богу, у вас ёсць у запасе пляшачка з іншым вадкім рэчывам, якое бадзёрыць і весяліць. Ужытае ў належных колькасцях, рэчыва вяртае вам страчаны інтарэс да жыцця і дазваляе нармальна заснуць.

І вось вы сніце, што нейкі слон знянацку ўсеўся на вашы грудзі. Потым выбухнуў нейкі вулкан і шпурнуў вас на марское дно — але ж пры гэтым слон па-ранейшаму ціхамірна ляжыць-спачывае ў вас на грудзях. Вы прачынаецеся, ахоплены панікай, бо ж адбываецца страшная катастрофа! Першае ўражанне — наступіў канец свету. Другое — яшчэ не наступіў, і гэта ўсяго толькі зладзеі ды забойцы або проста пажар. Гэтую думку вы выказваеце гучным голасам. Аднак на дапамогу вам ніхто не спяшаецца, а вы адчуваеце, як полчышчы невядомых злыдняў топчуць вас нагамі, а самы злыднючы з іх спрабуе вас задушыць.

Але кепска не аднаму вам. З-пад вашага лежака даносіцца скуголенне нейкага небаракі. Вы гартуеце сілы, каб прыхапіць з сабой на той свет як мага больш ворагаў. Утрапёна цярэбіцеся, раздаючы кухталі ды выспяткі налева й направа. Шалёна гырчыце. Урэшце нябачныя злыдні вас адпускаюць. Вашая галава апынаецца на вольным паветры. На адлегласці паўметра вы цьмяна прыкмячаеце яшчэ аднаго паўголага бандыта, што ладзіцца пазбавіць вас жыцця. Вы ўжо рыхтуецеся да смяротнага бою, калі раптам да галавы даходзіць, што гэта Джым.

— А-а, дык гэта ты?! — вымаўляе ён, таксама пазнаўшы вас.

— Ну я, — адказваеце вы, праціраючы вочы. — А што здарылася?

— Мусіць, намёт, хрэн яму ў вочы, зваліўся, — кажа ён. — А дзе Біл?

Потым вы абодва галосіце ў адзін голас: "Біл! Га, Біл?" — і зямля пад вамі ходзіць ходырам. Адказу няма, але аднекуль з руінаў намёта вы чуеце нейкі прыглушаны голас:

— Злазь з маёй галавы, я каму сказаў!

І на волю выцярэбліваецца Біл. Брудны, пакамечаны Біл з неапраўдана агрэсіўным настроем. Ён не сумняецца, што гэта загадзя падрыхтаваная змова.

Раніцою вы ўсе трое маўчыце, бо ўначы схапілі прастуду. А таксама злуяцеся, і таму падчас сняданку лаеце адзін аднаго драматычным шэптам.

...Такім чынам мы пастанавілі, што пагоднымі начамі будзем спаць у намёце. А ў гатэль, ці ў заезны дом, ці ў шынок мы пакіруем, калі пойдзе дождж або калі нам захочацца разнастайнасці.

Манмарансі цалкам пагадзіўся на такі кампраміс. Рамантычная самота яму яўна не да душы. Дайце яму пашумней ды пагарачэй. Такія вячоркі, каб аж чэрці скакалі!

Гледзячы на Манмарансі, вы можаце падумаць, што гэта анёл, пасланы на Зямлю, хіба толькі не ў чалавечай абалонцы, а ў абліччы зухаватага фокстэр'ера. Ёсць нешта ў Манмарансі ад чараў лекара-філантропа, які ратуе сотні жыццяў на дзень, не бярэ за гэта ні фунта і ў чыёй кватэры задарма жывуць дзесяць не знаёмых яму жабракоў. Манмарансі ўмее расчуліць да слёз добрапрыстойных бабулек і дзядкоў.

Калі ён пераехаў да мяне, я ніколі не думаў, што здолею трымаць яго пры сабе так доўга. Зазвычай,

назіраючы, як гэтае невінёнтачка ляжыць на кілімку і пазірае на мяне яснымі вачыма, я думаў: “Гэты незямны сабачка не затрымаецца ў нас, грэшных, надта доўга. Ён жа жыхар нябёсаў, якога хутка возьмуць наверх у вогненнай калясніцы”.

Але калі мне выставілі рахунак за тузін курак, якіх ён перадушыў, і калі я выцягнуў яго за шорсткі карак (пакуль ён гырчаў і брыкаўся) са ста чатырнаццаці дваровых боек, калі атрымаў мёртвага ката, кінутага мне ў якасці рэчавага доказу нейкай раз’юшанай жанчынкай, якая ў дадатак абазвала мяне забойцам, калі аднойчы я быў абуджаны а другой ранку суседам, якога люты псюк не выпускаў з уласнай паветкі, і сусед сядзеў там, настрашаны, цэлыя дзве гадзіны халоднай ноччу, і калі я даведаўся, што не вядомы мне садоўнік пайшоў у заклад і выйграў трыццаць шылінгаў, бо мой анёлак, разадраўшы трыццаць пацукоў, пабіў рэкорд, — вось менавіта тады я зрабіў выснову, што Манмарансі ўсё ж дазволяць застацца на Зямлі яшчэ трошачкі.

Валэндацца па завуголлях, збіраць банду самых заўзятых у горадзе галаварэзаў і весці іх на бітву з іншымі адчайнымі галаварэзамі — вось што Манмарансі называе “прыстойным жыццём”. Менавіта таму я загадзя адчуў, што заезныя дамы і шынкі атрымаюць у душы Манмарансі самы сардэчны прыём.

У пытанні начлегаў мы прыйшлі да пагаднення. Засталося абмеркаваць, што трэба ўзяць з сабою. Ды толькі мы сталі спрачацца, як Гарыс перапыніў нас, баста,

хопіць гаварнечы, і прапанаваў прыемную праходку, бо ён якраз знайшоў адзін шынок, побач з плошчай, дзе мы можам пакаштаваць шыкоўнага ірландскага віскі.

Джордж сказаў, што яго смажыць (я не ведаю выпадкаў, калі б яго не смажыла), і дадаў, быццам мае прарочае адчуванне, што маю незадаволенасць усім і ўсімі ўлагодзіць чарачка падагрэтага віскі са скрылікам лімону. Абмеркаванне планаў, да радасці ўсіх, было перанесена на заўтрашні вечар. Шаноўны сход, начапіўшы капелюшы, вырушыў на вуліцу.

*Раздзел III*



*У нас ёсць план. — Гарысаў стыль працы. — Дзядзька Поджэр вешае карціну. — Сказаў як звязаў. — Прыемнасці ранішняга купання. — Запасны набор на выпадак, калі перакулімся.*

Наступным вечарам мы сабраліся зноў, каб абмеркаваць і канчаткова ўпарадкаваць нашыя планы.

Гарыс сказаў:

— Зараз самае галоўнае — падумаць, якія рэчы мы возьмем з сабою. Ты, Джэй, ухапі якую-небудзь паперку — будзеш занатоўваць. А ты, Джордж, дастань прэйскурант з прадуктовай крамы. А я, калі мне дадуць аловак, звяду ўсё ў адзін спіс.

У гэтым увесь Гарыс: заўжды бярэ на сябе цяжар адказнасці — і самаахвярна перавальвае яго на плечы сяброў. Гарыс пачасту нагадвае мне майго гаротнага дзядзьку Поджэра.

Далібог, вы ніколі не бачылі такога вэрхалу, які ўсчынаўся ў доме, калі дзядзька Поджэр вырашаў узяць усё ў свае рукі!

Неяк з багетнай майстэрні прыслалі карціну. Стаіць сабе ў гасцёўні і чакае, каб яе павесілі. Дзядзьку Поджэра пытаюцца, што трэба рабіць, і той адказвае:

— Карціна пад маім самым бязлітасным кантролем! Каб вы нават не бралі сабе гэта ў галаву і не турбаваліся. Яе павешу я сам!

Потым дзядзька Поджэр здымае палітон і бярэцца за працу. Спярша ён пасылае дачку па шасціпенсавыя цвікі і аднаго з сыноў ёй наўздагон — сказаць, якога памеру цвікі павінны быць. Дзядзька Поджэр пакрысе ўваходзіць у смак, прымушаючы ўвесь дом танцаваць кадрылю.

— Ўіл, цяпер злётай і прынясі тату малаток! — гарлае ён. — А ты, Том, прынясеш лінейку. Потым мне спатрэбяцца драбіны, і ў дадатак можаш узяць кухоннае крэсла… Гэй, Джым! Скокні да спадара Гагалса ды скажы яму, што тата сардэчна вітае васпана і спадзяецца, што падагра яго больш не дапякае, і ці не пазычыць ён ровень? А ты, Марыя, стой тут, бо трэба, каб нехта мне пасвяціў, а калі дачка вернецца, дык хай бяжыць зноў і прынясе кавалак дроту, і, Том… Дзе гэты Том?! Том, хадзі сюды! Я хачу, каб ты трымаў карціну.

Тут дзядзька Поджэр падымае карціну — і ўпускае яе. І яна вылятае з рамкі, і ён спрабуе не пашкодзіць шкло, і, вядома ж, рэжацца, і гойсае па пакоі, шукаючы сваю насоўку. Ён не можа знайсці яе, бо яна ляжыць

у кішэні палітона, які ён кагадзе зняў і адразу забыўся, дзе кінуў вопратку. І ўсе сямейнікі, якія дагэтуль мусілі шукаць па ўсім доме дзядзькавы прылады, цяпер павінны пераключыцца на палітон. Сам дзядзька Поджэр блытаецца ў іх пад нагамі, замінаючы руху:

— Што, аніводная жывая душа ў гэтым доме не ў курсе, дзе ляжыць мой палітон?! Добрая сямейка, горшую цяжка ўявіць, далібог! Вас жа тут шасцёра! Што, аніхтотанькі з усёй пачэснай кампаніі не можа знайсці палітона, які я зняў, мусіць, хвіліны тры назад... Добра, а зараз...

Дзядзька Поджэр падымаецца на ногі і, заўважыўшы, што сядзеў на палітоне, выгукае:

— Можаце больш не шукаць, я знайшоў яго сам! Людцы, даражэнькія, з гэткім жа поспехам я мог узяць у памочнікі нашу котку!

Праз паўгадзіны, за якія дзядзькаў палец перавязалі, новае шкло ўсталявалі й прынеслі драбіны, крэсла ды свечкі, дзядзька Поджэр заходзіць на другое кола. Уся сям'я, уключаючы малую дачку і работніцу-падзёншчыцу, атачае яго паўколам, гатовая ў любы момант даць помачы. Два чалавекі мусяць трымаць крэсла, трэці страхуе дзядзьку, покі той караскацца на крэсла, чацвёрты падае цвік, пяты — малаток. Сам дзядзька бярэ цвік — і ўпускае яго.

— Ну, вось, добры гандаль! — выгуквае ён пакрыўджаным голасам. — Цяпер і цвік згубіўся!

І ўсе кленчаць і шнараць у пошуках цвіка, пакуль дзядзька Поджэр узвышаецца на верхатуры, наракаю-

чы, што яму даводзіцца цэлы вечар гібець на клятым крэсле.

Нарэшце цвік знаходзяць, аднак за гэты час дзядзька Поджэр згубіў малаток.

— Дзе мой малаток?! Куды я яго запраторыў? Святыя ўгоднікі! Сямёра людзей тоўпяцца тут, і ніводзін не бачыў, куды я паклаў малаток!

Мы знаходзім малаток, а дзядзька Поджэр ужо згубіў адзнаку для дзіркі, і ўсе мы па чарзе мусім караскацца на суседняе крэсла ды выглядаць на сценцы тую адзнаку. Мы знаходзім розныя адзнакі, і ён называе нас ёлупнямі, аднаго за адным, па чарзе, і загадвае злазіць на дол. Потым бярэ лінейку і ўсё мерае наноў сам. Тады высвятляецца, што ён хацеў адступіць ад кута палову ад трыццаці аднаго і трох восьмых сантыметра. Ён спрабуе гэтыя лічбы падзяліць у галаве — і канчаткова шалее.

Тады падзяліць у галаве спрабуем мы. Вынікі атрымліваюцца розныя, і мы люта вызвераемся адно на аднаго. За ўсім гэтым гармідарам забываюцца першапачатковыя лічбы, і дзядзька Поджэр мусіць мераць усё з пачатку.

Гэтым разам ён выкарыстоўвае вяроўку, і ў самы крытычны момант, калі стары абэлтух нахіляецца на крэсле пад вуглом сорак пяць градусаў і сіліцца дапяць да пункта, які месціцца сантыметраў восем па-за межамі яго магчымасцяў, вяроўка выслізгвае. І дзядзька Поджэр валіцца на піяніна. Раптоўнасць, з якой ягоная галава і цела пляскаюцца на ўсе клавішы ў адначассе, стварае непаўторны музычны эфект.

Цётка Марыя кажа, што яна не дазволіць дзецям стаяць поруч і слухаць такія непрыстойныя выразы.

Урэшце дзядзька Поджэр зноў крэсліць патрэбную адзнаку і левай рукой падносіць да яе цвік, а малаток бярэ ў правую. І першым жа ўдарам трапляе сабе па левым адзінцы і енчыць, пакуль малаток падае камусьці на нагу.

Цётка Марыя стрымана заўважае, што калі наступным разам дзядзька Поджэр будзе заганяць цвік у сценку, дык хай паведаміць ёй загадзя, каб яна падчас гэтай аперацыі з’ездзіла на тыдзень да сваёй маці.

— Бабства! Вечна вы носіцеся з усякай драбязой, як дурань з дзвярмі, — кажа дзядзька Поджэр, падымаючыся. — І што тут такога? Так, мне падабаецца праца па доме.

І ён заходзіць на новае кола, і пасля другога ўдару цвік з паловай малатка праходзіць наскрозь праз тынкоўку. Інерцыя размазвае дзядзьку па сценцы з сілаю дастаткова магутнай, каб расплюскаць яму нос.

Потым нам ізноў даводзіцца шукаць яму лінейку і вяроўку. У сценцы зеўрае новая дзірка. І недзе апоўначы карціна ўжо вісіць — крыва і ненадзейна, дый сценка вакол рамкі выглядае гэтак, нібыта яе раўнялі граблямі. Усе ў доме валяцца з ног. Апроч неўтаймаванага дзядзькі Поджэра.

— Ну, вось, людцы, калі ласка! — кажа ён, грузна саскокваючы з крэсла на мазоль работніцы-падзёншчыцы, і трыумфальна аглядае гармідар, які сам і нарабіў — Ну і што тут складанага?! А хто іншы дзеля такой драбязы яшчэ й майстра наняў бы.

Я ўпэўнены: праз колькі гадоў Гарыс зробіцца такім самым, як дзядзька Поджэр, пра што я яму і паведаміў. І дадаў, што не дазволю Гарысу так перапрацоўваць:

— Не, Гарыс! Паперку, аловак і прэйскурант возьмеш ты, занатоўваць будзе Джорж, а ўсю асноўную працу зраблю за вас я.

Першы спіс, складзены намі, быў адпрэчаны. Зрабілася абсалютна зразумела, што вярхоўі Тэмзы проста не змесцяць карабля, які на сваім борце змясціў бы ўсе тыя рэчы, што мы пазначылі як самыя неабходныя. Тады мы парвалі спіс і пераглянуліся.

Джордж заўважыў:

— Гэта наша канцэптуальная памылка! Трэба думаць не пра рэчы, якія мы можам у вандроўку ўзяць, а пра рэчы, без якіх нам у вандроўцы ніяк не абысціся.

Джордж зрэдчас мае рацыю, нават дзіўна. Я назваў яго заўвагу прыкладам прастадушнай мудрасці.

Трохі ўбок. Джорджава заўвага датычыць не толькі цяперашняга нашага выпадку, а ўвогуле ўсіх нашых вандровак па Рацэ Жыцця. Як жа шмат народу, нават пад пагрозаю пайсці на дно пад цяжарам усіх тых недарэчных рэчаў, усё роўна набіткоўвае свае чаўны тым, што лічыць неабходным мінімумам для прыемнай і выгоднай вандроўкі. Большасць жа тых трантаў напраўду ёсць нікчэмным хлудам.

Як жа любяць яны нагрувашчваць свой хісткі ветразнік! Тут вам і горы шмацця, і цэлыя вялізныя камяніцы з натоўпам бескарысных лёкаяў. Прымаць на борт

## Каардынаты маршруту

Пачатак – паўднёвы бераг агульнага з Расіяй возера Лісна. Вандроўка сканчаецца на месцачковым пляжы (ён жа бяскрайні поплаў са сцяной бору на даляглядзе) ля вёскі Юзафова. З сяльпо, барам і магчымымі цёркамі з мясцовымі аўтарытэтамі.



# Маршрут другі:

## рака Свольна, Віцебшчына

Верхнядзвіншчына: беларуская Сібір, рамантыка пустэчаў. Але ў апошнія гады рэгіён ажыў дзякуючы засяленню сотні зуброў і прыездам кагалу арабскіх шэйхаў, ахвочых на тых зуброў паляваць. Шэйхам працярэбілі сярод пушчы шыкоўную аўтамабільную трасу, а тыя ў падзяку забяспечылі рэгіён працоўнымі месцамі.

Дзёрзкі, наравісты маршрут, але дзякуючы дыхтоўна ўсталяваным стаянкам у куртуазна-гарэмным стылі з альтанкамі і барбекюшніцамі – большасць з якіх адкрытая для паспалітага рэкахода, – навакольныя дзіч і пустка робяцца яшчэ больш шчымлівымі й звонкімі.



фальшывых сяброў, на якіх ім, па шчырасці, пляваць і якім, у сваю чаргу, пляваць на гаспадароў. Наладоўваць човен даражэзнымі забаўкамі, якімі ніхто не цешыцца. Абзаводзіцца фармальнасцямі і навамоднымі штукамі. Напакоўваць прастору прэтэнзіямі і амбіцыямі, а таксама — о божачкі, зараз самае паскуднае! — страхам, маўляў, што пра іх падумаюць суседзі. Як жа любяць яны наладоўваць трум раскошай, ад якой толькі шалееш, асалодамі, якія даўно нагналі аскоміну. А яшчэ цягаць бутафорскую карону з пер'я, якая, не раўнуючы жалезны вянец на галаве сярэднявечнага асуджанага, раніць ды нясцерпна вярэдзіць тую шматпакутную галаву, якая яе носіць!

Усё гэта хломазд, людцы, сапраўдны хлуд! Кідайце яго за борт! Такі цяжкі човен не пацягнуць. Здурнееце вяслуючы. Ён груваскі ды нязграбны, ад клопату і боязі за яго змесціва ў вас не будзе ані хвіліны спакою. Не застанецца ні секунды для мройнай ляноты. Не будзе часу любавацца лёгкімі ценямі, што слізгаюць па водмелях, або назіраць за зіхоткімі промнямі сонца, якія пырхаюць па воднай зыбаўцы, за мажнымі дрэвамі, што шыхтуюцца ля ракі, пазіраючы на свае адбіткі, глянуць на смарагдава-залатыя лясы й бела-жоўтыя лілеі, на панура-дрыготкі трыснёг, ці асаку, ці папараць, ці блакітныя братчыкі.

Кідайце ўсё за борт, людцы! Хай у вашай лёгкай лодцы жыцця будуць толькі патрэбныя рэчы.

Утульны дамок. Простыя забавы. Адзін-два сябры, годныя гэтага звання. Чалавек, якога вы любіце і які

любіць вас. Кот, сабака, люлька (ці дзве). Грошы, каб хапіла на ежку, адзежку ды малую віскі дзежку. Бо смага — з'ява небяспечная!

І тады адразу ж убачыце: такі човен цягнуць лягчэй. Цяпер яго не так лёгка патапіць. І нават калі ён перакуліцца — не бяды! Просты груз не баіцца шкоды. А ў вас будзе час і на слова, і на справу. Будзе час узяць чарку пад жыццядайным сонцам. Будзе час паслухаць Эолаву музыку, якую боскі вецер выцылінгвае на сардэчных струнах чалавецтва, будзе час... Ох, выбачайце! Я трохі злоўжываю вашым...

Дык вось, мы пакінулі спіс Джорджу, і ён узяўся яго складаць.

— Намёта браць не будзем,— сказаў Джордж,— лепш човен з паветкай. Проста і зручна.

Мы пагадзіліся — слушная прапанова. Не ведаю, ці бачылі вы калі-небудзь човен з паветкай? Да бартоў прымацоўваюцца жалезныя абады. Потым іх ахінаюць вялізным кавалкам брызенту. Брызент прышпільваюць да абадоў па ўсёй даўжыні борта. Гэтая канструкцыя ператварае човен у такі сабе дамок: утульны і ўгрэўны, хіба трохі задушлівы.

Што ж, кожны плюс мае свае мінусы, як сказаў адзін джэнтльмен, у якога памерла цешча, але на якога сапхнулі ўсе выдаткі па яе пахаванні.

Джордж дадаў, што ў вандроўку кожнаму трэба ўзяць па адным пледзе, ліхтарык, мяцёлку, шуфлік, кавалак мыла, грабянец (адзін на ўсіх), зубную шчотку (кожнаму

сваю), ночвы, лязо для галення (такое ўражанне, што вучым мову нанова, праўда?) і парачку ручнікоў для купання.

Я заўважыў, што людзі, якія едуць на раку, заўжды маюць грандыёзныя планы наконт купання, але, прыехаўшы туды, у вадзе не надта бавяцца.

Тое самае можна сказаць пра выправы на мора. Калі я мрою пра будучую вандроўку, седзячы ў Лондане, маўляў, прыехаўшы на мора, буду падымацца рана ранкам і хадзіць купацца да сняданку.

...Тым летам я з душэўным трымценнем спакаваў штонцы для плавання і купальны ручнік. У мяне ёсць чырвоныя штонцы. Я заўжды ўяўляю, як купаюся ў чырвоных штонцах. Яны цудоўна мне пасуюць.

Аднак ужо на пляжы купацца хацелася не так моцна, як дома. Насамрэч мне найбольш хацелася заставацца ў ложку да апошняга моманту і потым адразу выходзіць на сняданак.

Але аднойчы ці двойчы высокія ідэалы перамаглі. Я падняўся а шостай ранку. Неяк апрануўся, узяў ручнік і штонцы для плавання ды без асаблівай ахвоты пацёгся ў бок мора.

Мяне ўсё злавала. Здаецца, нейкія злыдні наўмысна пускалі пранізлівы ўсходні вецер, які падступна чакаў, пакуль я выйду з вады. Мне знарок падсоўвалі толькі колкія камяні, проста пад ногі. Нехта загадзя навастрыў скалы і злёгку прысыпаў іх пясочкам, каб я не заўважыў. Браў марскую ваду і адводзіў яе на тры кіламетры ад бе-

рага, каб я, скурчаны ад холаду, абхапіўшы сябе рукамі і ўвесь скаланаючыся ад дрыжыкаў, мусіў брысці па вадзе пяць сантыметраў глыбінёй.

Калі ж я ўрэшце дайшоў да глыбіні, мора выявілася сцюдзёным і лютым.

Агромністая хваля схапіла мяне. Скруціла, не раўнуючы эмбрыёна, і шпурнула з усёй сіламоцы проста на скалу, якую невядомыя зламыснікі дагодліва падставілі мне пад спіну. Перш чым я паспеў выгукнуць "Аёечкі!" ды зразумець, што адбываецца, хваля вярнулася і пацягнула мяне ў адкрыты акіян. Я стаў адчайна прабівацца назад да берага. Са страхам думаць, ці ўбачу я хоць некалі родны дом ды сяброў. Шкадаваць, што я мог бы абыходзіцца лепш з маёй малодшай сястрычкай, калі быў хлопчыкам. І толькі калі я страціў усякую надзею, хваля схлынула і пакінула мяне на пяску, распластанага ў позе марской зоркі. Я падняўся на ногі, глянуў назад — і ўбачыў, што змагаўся за сваё жыццё на паўметровай глыбіні. Я пабрыў да берага, апрануўся, прычыкільгаў назад і зрабіў выгляд, што проста ў захапленні ад купання ў моры.

І цяпер мы абмяркоўвалі нашу вандроўку так, нібыта збіраліся сядзець у рацэ кожны ранак да абеду.

Джордж сказаў, што будзе так прыемна свежым ранкам прачнуцца ў чоўне і адразу ж даць нырца ў празрыстую ваду. Гарыс заўважыў, што лепшага сродку на апетыт перад сняданкам чалавецтва не ведае. І дадаў, што купанне заўжды будзіць у ім апетыт. Калі купанне

прывядзе да таго, — запярэчыў Джордж, — што Гарыс будзе есці яшчэ больш, чым трушчыць цяпер, дык ён, Джордж, катэгарычна супраць, каб Гарыс нават набліжаўся да вады.

Джордж нагадаў, што мы й без таго будзем выжыльвацца, прычым супраць плыні, уверх па Тэмзе, каб давалачы неабходную Гарысу купу харчоў.

Я запярэчыў Джорджу: якая ж гэта будзе радасць — чысты і свежы Гарыс у чоўне, нават калі нам давядзецца ўзяць з сабой яшчэ парачку цэнтнераў правіянту. Джордж знайшоў рацыю ў маіх словах і больш супраць заплываў Гарыса не выказваўся.

Урэшце ўсе мы пагадзіліся: каб не прымушаць нікога чакаць, возьмем тры купальныя ручнікі.

Наконт вопраткі Джордж зазначыў, што па два фланэлевыя гарнітуры на чалавека хопіць, бо мы будзем па меры забруджвання самі мыць іх у Тэмзе. Мы пацікавіліся, ці спрабаваў ён хоць раз памыць фланэльку ў рацэ, і Джордж адказаў, маўляў, сам — дык не, але ведае пару хлопцаў, якія мылі, прычым досыць паспяхова. Гарыс і я далі слабіну, на імгненне нам падалося, што Джордж ведае, пра што кажа. Паверылі, быццам тры прыстойныя джэнтльмены без асаблівага становішча і ўплыву ў грамадстве, без досведу ў пранні, уласнымі рукамі пры дапамозе абмылка здолеюць вымыць свае кашулі ды нагавіцы ў Тэмзе.

Потым (калі, натуральна, было запозна) мы зразумелі, што Джордж быў звычайным пустабрэхам, які ні

халеры не цяміць у мыцці вопратکі. Бачылі б вы гэтыя гарнітуры пасля Тэмзы! Але мяне яшчэ да вандроўкі, як пішуць у бульварных раманах, мучылі цьмяныя сумненні.

Джордж добра насцярожыў нас, калі сказаў, што на выпадак *оверкіля* трэба ўзяць на запас паболей бялізны ды купу шкарпэтак. А таксама прыхапіць гору анучаў, каб выціраць імі мокрыя месцы, якія апынуліся ў вадзе. Ды не забыць пару зменных чаравікаў, разам з вясларнымі туфлямі, калі нам заманецца іх абуць — пасля таго як перакулімся.

# *Раздзел IV*



*Харчовая праблема. — Скажы парафінаваму алею “не”. — Перавагі сырнай ссабойкі. — Замужняя жанчына ўцякае з дому. — Запасы на выпадак, калі ўсё-такі перакулімся. — Я пакуюся. — Круты нораў зубных шчотак. — Джордж з Гарысам пакуюцца. — Паскудныя паводзіны Манмарансі. — Мы кладзёмся спаць.*

П*отым мы абмеркавалі* меню. Джордж сказаў:

— Пачнём са сняданкаў.

Джордж — чалавек сістэматычны.

— Для сняданкаў нам спатрэбіцца патэльня.

Гарыс запярэчыў, што патэльня — цяжкастраўны прадукт, але мы палічылі гэтую рэмарку за кепскі жарт, і Джордж працягнуў:

— Запарнік, чайнік, плітка на метылавым спірце...

— І ніякага алею! — дадаў Джордж і зірнуў на нас са значэннем. Гарыс і я кіўнулі.

Узяўшы колісь у вандроўку плітку на парафінавым алеі, мы потым далі зарок, што гэта быў першы і апошні раз.

Той тыдзень мы ўсё роўна як жылі на нафтаперагонным заводзе. Парафінавы алей пратачаўся паўсюль. Я ніколі не думаў, што ён такі ўсюдыісны. Мы хавалі яго на носе, але ён урываўся й на карму. Алей насычаў усю прастору чоўна і ўсё рэчы па дарозе. Потым алейны водар пратачыўся ў раку, напаіў сабою навакольную прыроду і спаскудзіў паветра. Часам дзьмуў алейна-ўсходні вецер, а пасля мяняўся на алейна-заходні, потым рэй вёў паўночна-алейны брыз і зрэшты — паўднёва-алейная марынада. Было неістотна, ці паветраныя масы далятаді да нас са снягоў Арктыкі, ці са спясочаных пустэльняў Арабіі, — усе яны прыходзілі, набрынялыя парафінам.

Алей падняўся ўгору і забрыдзіў заход сонца. Месяцовая дарожка стоадсоткава складалася з парафіну.

Каб пазбыцца алею, мы ўцяклі ў Марлоў. Пакінуўшы човен ля моста, мы далі драпака па цэнтральнай гарадской алеі. Але й тут… ён дыхаў нам у спіну. Паветра ўсяго горада проста напаілася алеем. Мы мінулі цвінтар, і нам падалося, што людзей у Марлоў хаваюць проста ў алеі. Галоўная вуліца смярдзела парафінам, ажно зрабілася цікава, як жа тут выжываюць мясцовыя жыхары. Потым мы брылі па Бірмінгемскім тракце, але адна трасца — навакольныя вёскі таксама патаналі ў алеі!

У канцы вандроўкі апоўначы мы сабраліся ў чыстым полі ля разгалістага дуба і пакляліся ўсім святым (увесь

мінулы тыдзень мы кляліся шараговымі клятвамі абы-ваценя, але ў цяперашнюю прысягу пастараліся ўкласці ўсё наша красамоўства) — больш ніколі-ніколі, нізавошта не браць з сабою ў вандроўкі парафінавы алей, хай яго няхай, хрэн яму ў вочы, хіба што з медыцынскімі мэтамі.

Вось як сталася, што гэтым разам мы зрабілі свой выбар на карысць дэнатуратавага спірту. Хаця тое яшчэ паскудства. Давядзецца есці дэнатуратавы хлеб і дэнатуратавы пірог. Ды ўсё-ткі чалавечы арганізм лепш страўвуе дэнатурат, чым парафін.

Яшчэ для сняданку Джордж прапанаваў яйкі і бекон — іх лёгка гатаваць. А таксама саланіну, гарбату, хлеб з маслам і сочывам. Для другога сняданку падыдзе салодкае печыва, зноў жа саланіна, хлеб з маслам і сочывам... Але ж — ніякага сыру!

Сыр, як і алей, занадта ўсюдыісны. Ён мае амбіцыі завалодаць светам. Ён пратачаецца на карму і надае сырнага водару ўсім іншым прадуктам. Ты ўжо не адрозніваеш: ці ты ясі шарлотку, швабскія кілбаскі ці суніцы з вяршкамі. Усё смакуе як сыр. А паху — аж занадта!

Памятаю свайго таварыша, які купіў пару сырных галоваў у Ліверпулі. Тое былі першакласныя галовы: спелыя, сакавітыя і духмяныя — на дзвесце конскіх сілаў кожная. Пах ад іх разносіўся пяць кіламетраў навакол ды мог збіць з ног чалавека ў радыусе дваццаці метраў.

Тады я быў у Ліверпулі, і мой таварыш папрасіў мяне прыхапіць іх у Лондан, паколькі сам ён затрымліваў-

ся на дзень-два, а сыру нельга захоўвацца ў цяпле так доўга.

— Ды з прыемнасцю, даражэнькі, — адказаў я, — са шчырай душою!

Я завітаў па сырныя галовы і занёс іх у кэб. Гэта быў падзаняпалы ўжо транспарт, які цягнуў самнамбулічны здэхала з дрыготкай у нагах, чый гаспадар-рамізнік у запале красамоўства аднойчы назваў яго “мой конік”. Я паклаў сыр на гару. З цяжкасцю зрушыўшыся, наша каламажка натужліва набрала прымальную для асфальтаўкладнай машыны хуткасць. Да павароту наш “конік” рухаўся трохі хутчэй, чым труп на катафалку. Аднак за паваротам вецер змяніў кірунак — і дзьмухнуў сырам у бок нашага буцэфала. Пырхаючы ад страху, той прыпусціў пяць кіламетраў на гадзіну. А вецер па-ранейшаму нам спадарожнічаў. Яшчэ да таго, як мы дасягнулі канца вуліцы, колішні здэхала развіў хуткасць у сем кіламетраў на гадзіну, пакідаючы бадзёрых калек і жвавых бабулек на другім і трэцім месцах адпаведна.

Каб спыніць калымагу ля вакзала, спатрэбіліся два грузчыкі і сам рамізнік. І я не ўпэўнены, што яны б далі рады, калі б урэшце адзін з грузчыкаў не здагадаўся падпаліць ля конскай храпы кавалак абгорткавай паперы.

Я купіў квіток і з сырам у руках ганарліва пакрочыў на платформу. Людзі пашанотна расступаліся перада мною. Цягнік стаяў набіткаваны пасажырамі. У маім купэ ўжо сядзела сем чалавек. Адзін сварлівы спадар у пахілым веку паспрабаваў быў мяне не пусціць, але я ўсё

роўна ўшыўся ўсярэдзіну. У купэ я паклаў сыры на сетку для рэчаў, праціснуўся між пасажыраў і з прыязнай усмешкай сказаў, што сёння надзіва спякотны дзень. Мінула пару хвілін — і спадар у пахілым веку зноў пачаў выказваць неспакой.

— Тут такая задуха! — сказаў ён.

— Хоць сякеру вешай, — пацвердзіў ягоны сусед.

Яны абодва сталі чыхаць. На трэцім чыху яны ўсё скемілі ды без лішніх словаў выскачылі вонкі. Потым паднялася мажная матрона і сказала, маўляў, сорам і ганьба гэтак здзекавацца з прыстойных людзей. Сабраўшы торбу і восем пакункаў, яна знікла таксама. Чацвёра іншых пасажыраў пасядзелі сабе, ажно пакуль самавітага выгляду джэнтльмен, які чымсьці нагадваў супрацоўніка рытуальнай канторы, не сказаў, што гэты пах нагадвае яму мёртвых немаўлят. І тады астатнія тры пасажыры, адначасна кінуўшыся з купэ, пабіліся аб дзвярны вушак.

Я ўсміхнуўся чалавеку ў чорным і сказаў, што цяпер купэ належыць толькі нам. Ён прыязна ўсміхнуўся і заўважыў, што людзі часта падымаюць гвалт дзеля драбязы. Але з цягам падарожжа ён неяк дзіўна пашарэў. У Кру я запрасіў яго выпіць па чарачцы. Ён прыняў запрашэнне. Мы працярэбіліся ў вагон-рэстаран, дзе нам давялося хвілін пятнаццаць уздыхаць, грукаць касцяшкамі па стале й круціць нашымі парасонамі, перш чым маладая кельнерка падышла ды запытался, чаго мы жадаем.

— Вам што? — пацікавіўся я, павярнуўшыся тварам да майго спадарожніка.

— Мне, калі ласка, патройную порцыю брэндзі, — адказаў ён.

Выпіўшы сваю порцыю, спадар у чорным ціхенька вылузнуў вонкі. І ў наша купэ больш не вяртаўся. Можа быць, даплаціў розніцу і паехаў першым класам.

Няглядзячы на тое, што цягнік ехаў набіткаваны людзьмі, ад станцыі Кру я атрымаў купэ на аднаго. Калі мы спыняліся на станцыях, людзі, згледзеўшы пустое купэ, імгненна кідаліся да мяне.

“Марыя! Хутчэй сюдой, тут шмат месцаў!”, “Заходзім, Том, заходзім!” — крычалі яны. І спяшаліся, цягнучы важкія торбы. І ціскаліся, каб патрапіць у вагон як найхутчэй. Першы чалавек адчыняў дзверы купэ і тут жа саслізгваў з прыступак назад ды завальваўся на рукі людзей, якія яго падпіралі з тылу. І тады ўжо яны ўсім натоўпам ўрываліся ў купэ, ветрылі носам, а потым адно за адным давалі драпака ў іншыя вагоны або плацілі розніцу і пераходзілі ў першы клас.

У Юстане я завёз сыр да хаты майго таварыша. Калі яго жонка зайшла ў гасцёўню, то стала прынюхвацца. Потым сказала:

— Што здарылася? Толькі гавары праўду!

Я адказаў:

— Гэта сыр. Том купіў яго ў Ліверпулі і папрасіў прывезці.

Я дадаў, што яна, пэўна, разумее, што я не маю да гэтага ніякага дачынення. Жонка Тома адказала, што не сумняецца ў гэтым, а вось мужа пасля вяртання чакае сур’ёзная размова.

Мой таварыш затрымаўся ў Ліверпулі даўжэй, чым меркаваў. І праз тры дні яго адсутнасці мяне паклікала ягоная жонка. Яна сказала:

— Што дакладна сказаў Том пра тыя сыры?

— Прасіў захоўваць іх у вільготным месцы, і каб ніхто іх не чапаў.

Яна адказала:

— Нікому ў галаву й не прыйдзе іх чапаць. Скажы, ці ён нюхаў іх?

Я адказаў, што, мабыць, нюхаў, і дадаў, што, напэўна, Том мае да гэтых сыроў моцную прывязанасць.

— Слухай, Том не надта засмуціцца, калі я дам хлопцам адзін залаты й папрашу іх гэты сыр закапаць?

Я адказаў, што тады, мабыць, усмешка радасці больш ніколі не расквеціць твару яе мужа.

Тут жанчыне прыйшла ў галаву ідэя. Яна сказала:

— А ты, ці не мог бы ты ўзяць сыр на захаванне? Можна, я дашлю яго табе?

— Васпані! — трымаў водпаведзь я. — Як да мяне, дык мне сырны водар даспадобы. Азіраючыся назад, мушу сказаць, што ліверпульскае падарожжа з сырнымі галовамі сталася феерычным завяршэннем маіх прыемных выходных. Разам з тым, жывучы побач з іншымі людзьмі, мы павінны з імі лічыцца. Рэч у тым, што жанчына, пад чыім дахам я маю гонар пражываць, — удава і, наколькі мне вядома, у дадатак сірата. Яна выказвае магутную неахвоту, каб ёй нехта, паводле яе словаў, "наносіў крыўду"...

Так, я ўжыў усё сваё красамоўства:

— ...Васпані, прысутнасць сыра вашага мужа ў яе доме, — а я гэтак інстыктыўна адчуваю, — можа, якраз лічыцца нанясеннем такой крыўды. А пра сябе катэгарычна скажу, што ніколі не крыўдзіў удоваў і сірот.

— Добра-добра... — адказала жонка майго таварыша, падымаючыся. — Што тут скажаш? Пакуль гэты сыр не з'ядуць, трэба забіраць дзетак і пераязджаць у гатэль. Я адмаўляюся жыць разам з ім пад адным дахам!

Жонка таварыша датрымалася слова, пакінуўшы ў доме гаспадарыць працаўніцу-падзёншчыцу, якая на пытанне, як яна трывае гэты смурод, няўцямна перапытвала: "Які смурод?" Калі працаўніцу падвялі ўшчыльную да сырных галоваў і папрасілі ўдыхнуць на ўсе застаўкі, дык яна сказала, што, маўляў, звятрыла далікатны дынны водар. То-бок былі ўсе падставы меркаваць, што сырны мікраклімат гэтага дома прынясе той працаўніцы мінімальную шкоду, і таму яе пакінулі на варце.

Рахунак за гатэль дасягнуў пятнаццаці залатых. Мой таварыш, як след усё палічыўшы, выснаваў, што сыр абышоўся яму ў восем з паловай фунтаў стэрлінгаў. Так, яму вельмі падабаецца сырны скрылік на сняданак, але ж не такім коштам!

Урэшце мой таварыш вырашыў пазбыцца галоваў. Ён выкінуў іх у канал, але мусіў вылавіць назад, бо сталі абурацца лодачнікі. Яны сцвярджалі, што ад сыру сталі множыцца прыпадкі агульнай млявасці. І тады, адной цёмнай ноччу, мой таварыш падкінуў сырныя галовы ў акруговы морг. Аднак там іх знайшоў судовы

медэксперт і ўсчаў вялікі вэрхал. Ён казаў, што супраць яго плятуцца інтрыгі, бо нехта хоча ажывіць нябожчыкаў і тым самым пазбавіць яго заробку.

Мой таварыш урэшце пазбыўся сыру, узяўшы галовы ў прыморскі гарадок і закапаўшы іх на пляжы. Неўзабаве гарадок здабыў рэпутацыю курорта. Адпачывальнікі казалі, што раней не заўважалі, наколькі насычанае тут паветра, а сухотнікі ды астматыкі валілі туды валам.

Дарма што я сырная душа, я лічу — Джордж меў рацыю, калі казаў, што сыру нам браць не варта ні грама.

— Чаяванняў ладзіць не будзем, — сказаў Джордж (у гэтую хвіліну Гарыс пабляднеў). — Але будзем есці як след а сёмай: тут табе разам узятыя полудзень, адвячоркавая гарбата ды вячэра.

Гарыс крыху вярнуўся да колеру. Джордж прапанаваў захапіць мяса, салодкіх пірагоў з садавіновым начыннем, вяндліны, памідораў, садавіны і ўсякай зяляніны. З напояў возьмем Гарысавай вязка-густой бурды. Яе можна мяшаць з вадою і называць гэта ліманадам. А таксама шмат гарбаты і пляшку віскі, як дадаў Джордж, “на выпадак, калі мы ўсё-такі перакулімся”.

Гэты Джордж проста носіцца са сваім оверкілем, як дурань з дзвярмі. Як на мяне, дык з такім “перакуленым” настроем ісці ў вандроўку небяспечна.

Але я ўсцешыўся, што мы захопім віскі.

Віна ці піва вырашылі не браць. Цягнуць іх у вяслярскія вандроўкі — яшчэ адна канцэптуальная памылка. Яны робяць вас млявым, а вашы рухі запаволенымі.

Шклянка віна ўвечары, калі вы валэндаецеся па горадзе і казеліце вочы на дзяўчат, — яшчэ туды-сюды, але

барані вас божа піць віно, калі сонца пячэ вам галаву, а справаў трэба зрабіць яшчэ шмат.

Перш чым адвітацца тым вечарам, мы накідалі спіс рэчаў, якія трэба ўзяць з сабою, — досыць даўжэзны спіс.

Наступнага дня — а была пятніца — мы прынеслі ўсе рэчы і ўвечары зноў сабраліся, каб спакавацца. Мы прыдбалі вялізны скураны саквяж для вопраткі і парачку кашоў для харчу і кухонных прыладаў. Мы перасунулі стол да акна, скінулі ўсё пасярод гасцёўні ў купу, селі вакол і сталі прыглядацца.

Я сказаў, што спакую ўсё.

Увогуле я ганаруся тым, як умею пакавацца. Пакаванне — адно з тых умельстваў, якімі я, на маю думку, валодаю лепей за ўсё астатняе чалавецтва (мне нават самому дзіўна, як шмат налічваецца такіх умельстваў).

Я пераканаў Джорджа і Гарыса і сказаў, хай лепей яны пакінуць усе зборы на мне. Яны так хутка пагадзіліся з маёй прапановаю, ажно зрабілася ніякавата. Джордж узяў люльку і расхамячыўся на фатэлі, а Гарыс закінуў ногі на стол і запаліў цыгару.

О, не гэтак я ўсё сабе ўяўляў! Я меркаваў, што буду кіраваць працэсам, а Гарыс і Джордж зробяцца маімі падначаленымі. Раз-пораз я б адпіхваў іх убок і прыгаворваў: “Ды не так!”, “Дай я сам!”, “Бачыш, як проста?” Я настаўляў бы і напраўляў бы іх, скажам так.

Але яны ўсё зразумелі не так, я ажно ўззлаваўся. Нічога мяне так не злуе, як бачыць, што іншыя сядзяць і калупаюцца ў носе, пакуль я выжыльваюся.

Колісь я жыў з чалавекам, які злаваў мяне гэткім чынам. Ён узлягаў на канапе і гадзіна за гадзінай назіраў, як я нешта раблю, праводзячы вачыма кожны мой рух і кожнае маё найменшае перасоўванне па гасцёўні. Пры гэтым ён казаў, што яму даспадобы назіраць, як я ўвіхаюся. Ён казаў, што гэта прымушае яго думаць, што жыццё не пустапарожняя мроя, ад якой адно пазяхаюць і летуценяць, а сапраўды годны вычын са сваімі абавязкамі і руплівай працай. І што ён дзівуецца, як гэта ён жыў да мяне, не маючы магчымасці паназіраць, як працуюць іншыя людзі.

Але я зусім не такі. Я не магу спакойна сядзець і глядзець, як іншы чалавек напружвае жылы. Мне карціць падскочыць і кіраваць працэсам. Пахаджаючы з рукамі ў кішэнях, я казаў бы яму, *што* і *як* рабіць. Нічога не магу з сабой зрабіць, такі ўжо я чалавекалюбны працаголік...

Я прамаўчаў і працягваў пакавацца. А пакаваўся я значна даўжэй, чым меркаваў напачатку. Урэшце я скончыў набіваць саквояж і, сеўшы на яго зверху, стаў зашпільваць папругі.

— А чаравікаў браць не збіраешся? — запытаў Гарыс.

Азірнуўшыся, я ўбачыў, што забыў абутак.

У гэтым увесь Гарыс. Сказаць мне пра чаравікі да таго, як я наладаваў і зашпіліў саквояж, ён не мог. Тут засмяяўся Джордж адным са сваіх самых раздражняльна-бессэнсоўных, тупалобна-дубаломных смяшкоў, ад якіх я проста звярэю.

Я расшпіліў саквояж і запакаваў чаравікі. І толькі сабраўся зашпіляць яго, як у галаву мне стрэліла жахлівая пытанне. Ці ўзяў я зубную шчотку?

Не ведаю, чаму гэтак адбываецца, але я ніколі не памятаю, ці спакаваў зубную шчотку. Думка пра шчотку зубным болем пераследуе мяне ў вандроўках і псуе жыццё. Мне сніцца, што я яе не ўзяў — я прахопліваюся ў поце, ускручваюся з ложка і палюю на яе. І гэтак, зранку, я ўпакоўваю яе яшчэ да таго, як пачысціў зубы, і мушу зноў усё распакаваць, каб узяць яе, а яна заўжды апынаецца на самым дне, і потым я дастаю яе і забываю зноў, і ў самы апошні момант мушу ляцець на другі паверх, каб захапіць з сабою і несці да вакзала, загорнутую ў насоўку.

Вядома ж, я мусіў перbegatрусіць усе рэчы — і вядома ж, ніякай шчоткі не знайшлося. Я вярнуў усе рэчы да стану, у якім яны перабывалі да стварэння свету, калі панаваў хаос і была цемра над безданню. Я сямнаццаць разоў натрапляў на шчоткі Гарыса і Джорджа, але ж на сваю — скулля! Я дастаў усё назад, усе рэчы, адну за адной. Браў у рукі кожную і абмацваў яе. Урэшце знайшоў шчотку ў чаравіку. І спакаваў усё яшчэ раз.

Калі я скончыў, Джордж спытаў, ці ўзяў я мыльніцу. Я адказаў, што пляваць. Я захлопнуў сакваяж і зашпіліў яго на папругі, і тут зразумеў, што забыў усярэдзіне свой капшук для тытуню і давядзецца усё расшпіляць нанова.

Сакваяж быў канчаткова зашпілены а палове на адзінаццатую. Мне засталося спакаваць кашы. Гарыс зазначыў, што нам трэба было пачынаць пакавацца як найменей за дванаццаць гадзін да адпраўлення, і дадаў,

што лепей будзе, калі ўсё дапакуюць яны з Джорджам. Я пагадзіўся і ўсеўся, а яны ўзяліся за працу.

Пачалі яны ў ахвотку, яўна жадаючы прадэманстраваць, як належыць пакавацца. Я ж не рабіў ніякіх заўваг — адно сядзеў і чакаў.

Калі Джорджа павесяць, Гарыс зробіцца найгоршым пакавальнікам у свеце. Я глянуў на гару талерак, кубкаў, імбрыкаў, пляшак, слоікаў, пірагоў, спіртовак, тартоў, памідораў і ўсяго ўсялякага ды адчуў, што развязка блізкая.

Я не памыліўся. Для пачатку яны разбілі кубак. Але гэта быў толькі пачатак. Яны зрабілі гэта, каб прадэманстраваць, на што здатныя і як могуць зацікавіць публіку.

Тут Гарыс паставіў сунічнае сочыва на памідоры і расціснуў іх, так што ім з Джорджам давялося даставаць таматную пасту чайнай лыжачкай.

Потым прыйшла чарга Джорджа. Ён растаптаў масла. Я нічога не сказаў, адно падышоў бліжэй і, сеўшы на край стала, стаў назіраць. Гэта раз'юшыла іх значна больш за любыя абразы і праклёны. Гэта ўзнервавала іх: яны тапталіся па рэчах, забывалі іх за спінай, і калі трэба было, дык не маглі нічога знайсці. Яны паклалі пірог на дно, а ўсе цяжкасці — на гару. Пірог ператварыўся ў кашу.

Яны рассыпалі соль, паразмазвалі паўсюль масла. Я й не ведаў, што масла за няшчасныя тры шылінгі можна размазаць па такой вялікай паверхні. Потым Джордж адляпіў масла ад падэшвы пантофлі і яны ўдвух

пнуліся запхнуць яго ў чайнік. Масла не лезла, бо тое, што ўжо было там, не хацела вылазіць вонкі. Урэшце яны гэтае нешта выкалупалі і паклалі на крэсла. Тым часам Гарыс сеў на масла і масла прыліпла да яго азадка, а яны шукалі яго па ўсім пакоі.

— Мамай і таткам клянуся, я клаў яго на крэсла! — сказаў Джордж, аглядаючы пустое месца.

— Я бачыў таксама, якую хвіліну таму, — пацвердзіў Гарыс.

Шукаючы, яны шнyралі па ўсіх кутах гасцёўні. Сустрэліся ўсярэдзіне. Пераглянуліся.

— Нешта неймавернае! — сказаў Джордж.

— Містыка дый годзе! — дадаў Гарыс.

Потым Джордж аббег Гарыса і ўбачыў імбрык.

— Ну, ты даеш! Масла тут і было ўвесь гэты час! — выгукнуў абурана ён.

— Дзе? — крыкнуў Гарыс, круцячыся вакол сваёй восі.

— Ды стой ты на месцы! — гыркнуў той, скачучы за ім.

Яны выкалупалі масла і пасля запхнулі яго ў запарнік.

Ясная рэч, Манмарансі не застаўся ўбаку. Галоўная мроя Манмарансі ў жыцці — гэта заступаць людзям дарогу і каб за гэта яго моцна лаялі. Калі ён можа пратачыцца ў якое-небудзь месца, дзе яго ніхто не хоча бачыць, дзе ён зробіцца аб'ектам усеагульнага раздражнення, давядзе людзей да шалу і прымусіць кідацца яму ў галаву цяжкімі прадметамі, — у гэтую, і толькі ў гэтую хвілю Манмарансі адчувае, што дзень мінуў недарэмна.

Каб на яго натыкаліся, каб яго клялі гадзіну навылёт — вось ягоная мроя над мроямі й жыццядайная крыніца чыстай асалоды. Калі план Манмарансі здзяйсняецца, яго фанабэрыя не ведае межаў.

Манмарансі прыйшоў і сеў акурат на тое месца, дзе меркавалася складаць спакаваныя рэчы. Ён быў цалкам перакананы, што калі Гарыс ці Джордж працягваюць свае рукі ў пошуках чаго-небудзь, дык ім абавязкова патрэбны ягоны халодны й мокры нос.

Манмарансі залез лапай у сочыва. Схапіў зубамі чайныя лыжачкі. Абышоўся з лімонамі, як з пацукамі, — залез у кош і прыдушыў траіх, перш чым Гарыс паспеў выгнаць яго ўдарам патэльні.

Гарыс сказаў, што гэта я падбухторваю сабаку. Глупства! Такія экзэмпляры, як Манмарансі, не маюць патрэбы ў падбухторваннях. Шкадлівасць у іхняй крыві.

Пакаванне скончылася а палове на першую ночы. Гарыс сеў на вялікі кош і выказаў надзею, што нічога не разбілася. Джордж сказаў, што калі нешта разбілася, дык хай сабе трохі пабудзе разбітым. Гэтая мудрасць, здаецца, вельмі прыпала яму да сэрца. Ён дадаў, што хоча спаць. Мы ўсе таксама гэта дадалі.

Той ноччу Гарыс застаўся ў нас.

Мы падняліся на другі паверх, кінулі манетку — і мне выпала спаць з Гарысам у адным ложку. Ён спытаўся, як мы яго падзелім:

— Джэй, на якім баку ты хочаш спаць?

Я адказаў, што кручуся з боку на бок. Гарыс сказаў, што гэта кепскі жарт.

Джордж запытаўся:

— Хлопцы, а якой вас будзіць?

— А сёмай, — буркнуў Гарыс.

Я запярэчыў: не, а шостай — мне трэба напісаць пару лістоў.

Пасля кароткай спрэчкі мы прынялі саламонава рашэнне.

— Джордж, абудзі нас а шостай трыццаць, — папрасіў я.

Джордж нічога не адказаў. Мы падышлі, каб зірнуць, што з ім. Ён ужо спаў. Тады мы паставілі таз з вадой на месца, дзе ён мусіць паставіць ногі, калі прачнецца заўтра зранку, і пайшлі спаць таксама.

## *Раздзел V*

*Нас будзіць спадарыня Попетс. — Абібок Джордж. — Выбрыкі прагнозу надвор'я. — Наш багаж. — Усюдыісныя хлопцы. — Несанкцыянаваны мітынг. — Мы выязджаем з шыкам і прыбываем на вакзал Ватэрлоа. — Абыякавасць БЧ (Брытанскай чыгункі) да такой драбязы, як расклад цягнікоў. — Мы адчальваем.*

А *разбудзіла нас спада*рыня Попетс:

— Маладыя людзі, ідзе на дзясятую!

— Хто куды ідзе?! — перапытаў, падскочыўшы ў ложку, я.

— Зараз дзевяць гадзін, — адказала спадарыня Попетс праз замочную адтуліну. — Мне падаецца, вы праспалі.

Я пабудзіў Гарыса і паведаміў яму навіну. Ён сказаў:

— Здаецца, ты хацеў падняцца а шостай?

— Хацеў. І чаго ты мяне не пабудзіў?

— Ну а як я цябе пабуджу, калі ты не пабудзіў мяне?! — абурыўся Гарыс. — Цяпер у найлепшым выпадку мы адчалім а дванаццатай. Дык нашто тады ўвогуле падымацца?

— Пад'ём! Скажы яшчэ дзякуй! Бо калі б я цябе не падняў, ты праваляўся б у ложку ўсе два тыдні адпачынку!

У гэткай манеры мы гыркалі адзін на аднаго яшчэ колькі хвілін, аж пакуль нашу лаянку не перарваў неймаверны храп Джорджа. Упершыню за сённяшні ранак мы прыгадалі пра існаванне нашага сябра. Так-так-так... І гэты чалавек яшчэ пытаўся, а якой гадзіне нас пабудзіць!

Тут ён і ляжаў: на спіне, з разяўленым ротам ды сагнутымі каленамі.

Не маю паняцця, з якой прычыны, але выгляд іншага чалавека, які храпе ў ложку, калі сам я ўжо не сплю, даводзіць мяне да шаленства. Мне так балюча глядзець, як сонны чалавек прафуквае свае найкаштоўнейшыя гадзіны! Унікальныя моманты чалавечага існавання мантачацца на такую марную марнасць, як сон.

Якраз гэткім чынам і ўзлягаў на ложку Джордж, адпрэчыўшы ў сваім бяздарным гультаяванні божы дар — абудзіцца да жыцця. Ягоны бясцэнны час, кажнюсенькая секунда-драбок, якія ён мусіў рупліва ашчаджаць ды скарыстоўваць, цяпер распушчаліся ў невараці. Замест таго каб перабываць у душазгубным падабенстве смерці, Джордж мог бы трушчыць яечню з беконам, чухаць за вухам Манмарансі ці нават фліртаваць з пакаёўкамі.

Жудаснае адкрыццё агаломшыла нас з Гарысам увадначас. Мы адразу ж заключылі хаўрус, каб сумесна

ўратаваць Джорджа. Мы адразу ж годна спынілі нашу сварку, заўвіхаліся вакол Джорджа, сталі шпурляць у яго ўсякае-рознае шкумаццё. Гарыс пляснуў Джорджа пантофляй, а я гукнуў яму ў самае вуха.

Нарэшце той прачнуўся.

— Шотако?.. — прамармытаў ён і сеў на ложку.

— Падымайся, тупалобіна! — зароў Гарыс. — Ужо чвэртка на дзясятую!

— Чаго? — енчыў Джордж. Высунуўшыся з ложка, яго ногі адразу ж трапілі ў таз. — Хто, хай яго няхай, паставіў тут ваду?

Мы адказалі, што трэба быць зусім бязвокім, каб не заўважыць таза пасярод пакою.

Скончыўшы адзявацца і дайшоўшы да ранішняга туалета, мы прыгадалі, што нашы зубныя шчоткі, шчотка для абутку ды грабянец (ведаю-ведаю, гэтая зубная шчотка загоніць мяне ў магілу!) ляжаць у саквояжы, і нам давядзецца клэпаць на другі паверх, каб выцягнуць іх. Урэшце мы пачысцілі зубы і спакавалі ўсё нанова. І тут Джорджу спатрэбілася брытва. Мы запэўнілі яго, што адзін дзень можна перабыць непаголеным. Мы нізашто не будзем знарок дзеля яго — і такіх забывак, як ён! — зноў распакоўваць саквояж.

Джордж сказаў:

— Не вярзіце чухні! Як я такі заняхаены магу паехаць у Сіці?

Вядома, з’яўленне пароспага шчэццю Джорджа мусіць стаць праўдзівым выпрабаваннем для ўсёй дзела-

вой часткі Лондана. Але ж пакуты банкіраў нас не абыходзілі. Як заўважыў Гарыс у сваёй праставата-вульгарнай манеры: “Сіці-шміці, нічога яму не здарыцца!”

Мы спусціліся на сняданак. Манмарансі запрасіў развітацца двух іншых сабак, і яны ўтрох файна прабавілі час, зладзіўшы бойку на прыступках. Мы ўціхамірылі іх парасонам і селі пад’есці адбіўных ды халоднай цяляціны.

Гарыс зазначыў:

— З’есці добры сняданак — насампершая справа!

І пачаў з пары адбіўных, прыгаворваючы, што варта іх пакаштаваць, пакуль гарачыя, бо цяляціна можа й пачакаць.

Джордж ухапіў газету і прачытаў нам пра трагічныя здарэнні на вадзе. А таксама прагноз надвор’я, які прадракаў “дождж, пахаладанне, падвышаную вільготнасць”, а яшчэ ўсякія-розныя жахі ды вышуканыя пакаранні: “месцамі навальніцы, усходні вецер, зоны нізкага атмасфернага ціску ў Сярэдніх Графствах, уключаючы Лондан і Ла-Манш”. І наастачу — “падзенне ртутнага слупка”.

Я шчыра перакананы, што з усіх дурнотаў, якіх мы нахапаліся апошнім часам, самая шкодная — гэтак званы “прагноз надвор’я”. Ён дакладна ўгадвае толькі тое надвор’е, якое было ўчора ці колькі дзён таму. Але заўтрашняе ён прадракае з дакладнасцю да наадварот.

Памятаю, як аднойчы такім во прагнозам, вычытаным у мясцовай газеце, мы незваротна спаскудзілі восеньскі адпачынак.



## Каардынаты маршруту

Пачатак ад чыгуначнай станцыі "Харошкі", канец – паводле прынцыпу "спыніце байдарку, я злезу". Маршрут праходзіць амаль што заўжды побач з чыгуначнымі і аўтамабільнымі трасамі – вельмі зручная дэталь для перасвараных ушчэнт экіпажаў.



# Маршрут трэці:
## рака Моўчадзь, Гарадзеншчына

Галоўная атракцыя гэтага збольшага пастаральнага маршруту – поўная адсутнасць вады (на ўчастку за Гезгальскай плацінай). Плыткая і прысыпаная рэчка дзякуючы перакрыццю плаціны на некалькі гадзін у суткі ператвараецца ў бурапенную шэльму, якая змушае актывізаваць камандную працу: перацягваць байдаркі па суху, акі па мору, змагацца з карчамі, бабровымі атакамі і спакусай лавіць шчупакоў рукамі. Калі праз лічаныя кіламетры Моўчадзь зноў вяртаецца ў свае лагодныя берагі, дык можна сцерці пот з чала, пераглянуцца з калегамі і выдыхнуць: “Што гэта было?”

“Па краіне чакаюцца моцныя ападкі з бурай”, — паведамілі нам зранку ў панядзелак, і мы скасавалі наш пікнік. Засталіся дома, чакаючы дажджоў. Людзі ехалі па вуліцы ў дрожках і кэбах, вясёлыя ды ўсцешаныя. З бясхмарнага неба свяціла сонца.

— Гуляйце-гуляйце... — казалі мы, гледзячы на іх праз акно. — Яшчэ пабяжыце дадому, адхапіўшы душ!

Мы ўявілі, якімі мокрымі зробяцца мінакі. Потым адышлі ад вокнаў і запалілі камін. Дасталі кнігі, гербарыі з водарасцямі й калекцыю ракавінак. Апоўдні, калі ў пакой паліліся сонечныя промні і зрабілася горача, мы зноў падумалі пра хуткія навальніцы й моцны дождж.

— Ат, дождж пойдзе пасля абеду, вось убачыце! — падбадзёрвалі мы адзін аднаго. — Шкада ўсіх гэтых вясёлых гулякаў, якія прамокнуць да рубчыка...

А першай гадзіне дня гаспадыня кватэры завітала да нас і пацікавілася, чаму такім пагодным дзяньком мы гібеем у хаце.

— Ой, не, дзякуй! — адказалі мы, пацэкваючы языком, як вялікія знаўцы. — Сёння мы дакладна нікуды не пойдзем. Прабачце, але пад дажджом нам мокнуць не хочацца!

Полудзень амаль мінуўся, аднак нічога не абяцала буры. Мы імкнуліся падбадзёрыць адзін аднаго дапушчэннем, што, маўляў, дождж абрынецца з яснага неба, калі людзі будуць збірацца ісці дадому, у час, калі ў іх не будзе ніякага прытулку, і яны прамокнуць наскрозь.

Але да вечара не ўпала ніводнай кроплі, і гэтак завяршыўся цудоўны дзень ды наступіла пагодная ноч.

Наступным ранкам мы дазналіся, што сёння будзе "пагодны дзень, цёплае надвор'е". Мы лёгка апрануліся ды выйшлі. І праз паўтары гадзіны пасля нашага выхаду выбухнуў моцны дождж ды залютаваў пранізлівы сівер! І гэтая салодкая парачка панавала цэлы дзень навылёт. Мы вярнуліся дадому — прастуджаныя, скурчаныя ад раматусу, — і адразу ж злеглі.

Не разбяры-бяры гэтае надвор'е. Асягнуць розумам ягоныя выбрыкі немагчыма. Ад барометраў таксама мала карысці — яны заблытваюць не менш за газетныя абяцанкі.

Адзін такі прыбор вісеў на сценцы оксфардскага гатэля, у якім я спыніўся леташняй вясною. Калі я зайшоў у вестыбюль, барометр паказваў "яснае надвор'е". А знадворку — от хоць ты што! — ліла як з цэбра. Я ляпнуў па барометры — стрэлка скокнула ўгору і паказала "вельмі суха". Хлопчык на пабягушках спыніўся ля мяне і сказаў, што барометр мае на ўвазе заўтра. Я заўважыў, мабыць, ён мае на ўвазе два тыдні назад. Але хлопчык заўпарціўся: не, заўтра.

Наступным ранкам я зноўку ляпнуў па барометры, і ён скокнуў яшчэ вышэй. У сераду я схадзіў і вытнуў прыбор яшчэ раз. Стрэлка стала аббягаць спярша сектар "ясна", потым "вельмі суха", аж пакуль урэшце не наблізілася да "вялікай сухмені". Ды не зафіксавалася там на абмежавальніку — далей бегчы ўжо не было куды.

Стрэлка зрабіла ўсё, што было ў яе змозе, аднак прыбор сканструявалі такім чынам, што без таго, каб не разбіць яго, было няможна прадказаць сухое надвор'е мацней. Мусіць, барометр хацеў працягнуць рух і прадказаць татальную засуху, знікненне водных запасаў з зямнога аблічча, сонечны апакаліпсіс, глабальны сухавей і да таго падобныя з'явы, але абмежавальнік прадухіліў гэтыя памкненні, і паказанні зафіксавалася на банальнай "вялікай сухмені".

Тым часам дождж ператварыўся ў беспрасветную залеву. Праз паводку нізкія кварталы горада апынуліся пад вадой.

Хлопчык сказаў, што паказанні барометра прадракаюць, што некалі ў будучым абавязкова ўсталюецца цудоўнае сухое надвор'е, і прадэкламаваў вершык, які нашкрэбалі па-над механічным аракулам:

*Надвое бабка варажыла:*
*ці здырдзіцца, ці будзе жыва.*

Добрага надвор'я тым летам не ўсталявалася наагул. На маю думку, барометр меў на ўвазе наступную вясну.

А цяпер з'явіліся барометры новага ўзору, доўгія і прамыя. Я дагэтуль не магу разабрацца, што ў іх да чаго. Адзін канец паказвае ціск, які быў а дзясятай ранку ўчора, а другі — а дзясятай ранку сёння. Але вы, зразумелая рэч, так рана ўстаць не можаце. Гэтыя барометры надта дзіўныя: ціск падымаецца — слупок падымаецца. Ціск падае — слупок падымаецца. І калі ты пляскаеш

па ім, дык ён увогуле перастае рэагаваць. Можна карэктаваць яго і паводле вашага размяшчэння над узроўнем мора, і паводле шкалы Фарэнгейта, але — от хоць ты што! — нават тады ён не скажа вам праўды.

Але каму ён трэба, гэты прагноз надвор'я?! Калі будзе непагадзь, дык навошта пра гэта ведаць загадзя і псаваць сабе настрой?

Адзіны прарок, які нам даспадобы, гэта дзядуля, які панурай раніцой — у час, калі нам асабліва хочацца, каб было сонца, — азірнуўшыся на далягляд і прафесійна прыгледзеўшыся, вымаўляе:

— Ат, дзетачка, усё распагодзіцца... Усё будзе добра, дзетачка.

"Ну, патрыярх, безумоўна, у курсе", — думаем мы і, даючы яму дабрыдзень, пяем хвалу:

— Старажылы ведаюць усё!

І нават калі дзядуля памыліўся, бо ні чорта не распагодзілася, а наадварот — ліе дзень навылёт, мы захоўваем да яго прыязнае стаўленне.

"Ну, што тут паробіш! — разважаем мы. — Аксакал зрабіў усё, што мог".

А вось стасоўна дзеда, які прадказвае кепскае надвор'е, мы гадуем толькі з'едлівыя і помслівыя думкі.

— Ну, што, распагодзіцца, як думаеце? — гучна пытаемся мы яго, праходзячы побач.

— Ой, не, дзетачка! Баюся, зацягнула тое неба на цэлы дзень... — адказвае ён, ківаючы галавой.

"Стары мухамор! — мармычам мы. — Ды што ён ведае?!"

Калі дзядулькавы прадказанні спраўджваюцца, мы раз'юшваемся нават больш. Бо гэты дзед, ведаючы ўсё ад пачатку, мусіў нешта ды зрабіць са сваімі прароцтвамі!

Гэтым адметным ранкам было надта сонечна і лагодна, каб са сваімі жахалкамі пра "падзенні ртутнага слупка", "паветраныя масы, якія шырокім фронтам наступаюць на Паўночную Еўропу" і "падвышаны атмасферны ціск" Джордж здолеў нас засмуціць. Убачыўшы, што ўся ягоная прапаганда кепскага настрою пайшла Манмарансі пад хвост, Джордж скраў цыгарку, якую я скруціў для сябе, і збег на працу.

З'еўшы рэшткі сняданку, мы з Гарысам паперацяггвалі багаж да ганка і сталі чакаць брычку.

От жа ж багажу ў нас паназбіралася! Туліўся тут вялікі скураны саквояж. Торбы паменей, два кашы, вялікі скрутак лахманоў. Чатыры-пяць накідак ды пыльнікаў, парачка парасонаў, а таксама патэльня, якую на хуткую руку загарнулі ў прамысловую паперу. Горы майна, ажно нам з Гарысам зрабілася сорамна. Аднак, здавалася б, чаго тут саромецца?

Брычка пакуль не праязджала, але вулічныя хлопчыкі ўжо ўвіхаліся побач, спадзеючыся на захапляльнае прадстаўленне.

Першы прыбег Бігсаў хлопец. Бігс — наш зяленшчык. Яго найвялікшы дар — знаходзіць і браць сабе на працу самых крымінальных і беспрынцыпных хлапцоў, якіх толькі выпрадукавала наша цывілізацыя. Калі ў нашым раёне адбываецца надзвычайнае здарэнне ці які закалот, мы адразу беспамылкова ведаем: гэта зрабіў новы Бігсаў






## МОСТ НАД РАКОЙ

На мапе мост над ракой – азнака агрэсіўнай перпендыкулярнай цывілізацыі, а таксама пункт імавернага кантакту з аўталаўкай. Вылезшы перад ім з мулкага сядалішча байдаркі, памятайце! Мост над ракой – ваш шанец зрабіць дзёрзкі ўчынак. Пакаштаваць піва са смятанай, або пладова-ягаднае віно з марозівам, ці плюнуць на макаўку кіраўніку рачной вандроўкі, які адстаў ад асноўнай групы. Масты над рэкамі бываюць пешаходныя, аўтамабільныя, чыгуначныя і разбураныя. Як паказвае картаграфічная практыка, першыя тры тыпы мастоў з лёгкасцю могуць выявіцца чацвёртым.



хлопец. Мае сябры казалі ў адзін голас, што слыннае забойства на вуліцы Грэйт-Корам 1872 года — справа рук тадышняга Бігсавага хлопца. Калі б на перакрыжаваным допыце, на які ён быў пакліканы суседам з дома №19 на раніцу пасля забойства (і дзе да іх на прыступках далучыўся жыхар дома №21), ён не падаў свайго поўнага алібі, дык яму б свяціла шыбеніца. Тадышняга Бігсавага хлопца я не ведаю, але, мяркуючы па наступніках, я б на месцы следчых не надта верыў у тое алібі.

Бігсаў хлопец, як было сказана раней, прыбег. Здавалася, калі ён толькі трапіў нам на вока, дык вельмі спяшаўся. Аднак, кінуўшы позірк на Гарыса, мяне, Манмарансі ды нашыя рэчы, запаволіў хаду і вылупіў вочы. Мы з Гарысам скасавурыліся на хлопца. Нашы пагардлівыя зіркі маглі абразіць любую хоць трошкі чуллівую натуру, але Бігсавы хлопцы, як вядома, не з такоўскіх. Хлопец стаў як слуп, пару метраў ад прыступак нашай камяніцы. Абапёршыся на агароджу й выбраўшы сцяблінку пажаваць, ён глядзеў на нас. Ён відочна хацеў пабачыць увесь спектакль цалкам.

У гэты момант хлопчык, працаўнік "Садавіны-гародніны", ішоў па другім баку вуліцы. Бігсаў хлопец гукнуў яму:

— Кватэра сорак два з першага паверха пераязджае!

Хлопец з "Садавіны-гародніны" перабег на супрацьлеглы бок і заняў пазіцыю на другім баку сходаў. Потым маладзён з абутковай крамы запыніў крок і далучыўся да Бігсавага хлопца. Тым часам галоўны па пустых бутэльках у бары "Карвет" займаў на тратуары пазіцыю незалежнага назіральніка.

— Яны ўжо дакладна не памруць з голаду! — прамовіў маладзён з абутковай крамы.

— А што ты хацеў... Трэба сёе-тое прыхапіць з сабой, калі хочаш пераплысці Атлантыку на звычайным чоўне, — адгукнуўся галоўны па пустых бутэльках.

— Яны не едуць праз Атлантыку, — перарваў іх Бігсаў хлопец. — Яны едуць у Афрыку шукаць доктара Лівінгстона.

Тым часам назбіраўся такі сабе невялічкі несанкцыянаваны сход, і ўсе пыталіся адно аднаго, што ж здарылася. Першая партыя (маладыя ды гарачыя) трымалася думкі, што тут гуляюць вяселле, і паказвалі на Гарыса, маўляў, вось і жаніх. Тады як старэйшая, больш узважаная частка публікі схілялася да ідэі, што ладзяць пахаванне, ды паказвала на мяне, глядзіце, вось брат нябожчыка.

Урэшце пад'ехала пустая брычка. Як правіла, калі не трэба, дык пустыя брычкі гойсаюць тут з частатой тры штукі на хвіліну. Кружляюць без пасажыраў і ствараюць заторы.

Мы спакавалі ў брычку ўсе нашыя транты, уключна з намі самімі. Выкінулі парачку сяброў Манмарансі, якія, відаць, пакляліся, што ніколі і нізашто не кінуць свайго таварыша. Урэшце мы выехалі з вуліцы пад ухвальнае галашэнне публікі, а Бігсаў хлопец шпурнуў у нас моркву — на шчасце.

На вакзал Ватэрлоа мы прыбылі аб адзінаццатай і запыталіся, з якой платформы адпраўляецца цягнік на адзінаццаць-нуль-пяць. Натуральна, ніхто не ведаў. На Ватэрлоа ніхто ніколі не ў курсе, з якой платформы

мусіць адправіцца патрэбны цягнік ці куды паехаў цягнік, які ўжо адправіўся. Тут ніхто не ведае хоць што-небудзь пра цягнікі.

Насільшчык, які ўзяў нашыя рэчы, выказаў дапушчэнне, што цягнік адправіцца з другой платформы. Аднак жа другі насільшчык, з якім мы абмеркавалі гэтае пытанне, сказаў, што чуў пагалоску, быццам цягнік на нуль-пяць адпраўляецца з першай платформы. Начальнік станцыі, у сваю чаргу, быў перакананы: цягнік адправіцца з платформы для прыгарадных маршрутаў.

Каб пакласці канец дыскусіі, мы падняліся на другі паверх і спыталіся напрасткі ў начальніка бюро даведак. Той паведаміў, што якую хвіліну назад сустрэў аднаго чалавека, які сказаў яму, маўляў, патрэбны нам цягнік паедзе з трэцяй платформы. Мы пайшлі на трэцюю платформу, дзе чарговыя эксперты Брытанскай чыгункі паведамілі, што, на іх думку, тут, хутчэй за ўсё, ходзіць саўтгэмптанскі хуткасны ці ўіндзарская вузкакалейка, але дзвесце працэнтаў, што тут блізка няма аніякага цягніка на Кінгстан. Але ж галаву на адсячэнне, што гэта менавіта так, яны не дадуць.

Пасля чаго наш насільшчык сказаў, што, мусіць, наш цягнік адпраўляецца з верхняй платформы, і яму падаецца, ён ведае, пра які цягнік гаворка. Мы падняліся на гэтую платформу. Там убачылі машыніста і запыталі, ці не едзе ён на Кінгстан. Ён адказаў, што да канца не ўпэўнены, але хутчэй не, чым так, і ў любым разе ён адназначна не адзінаццаць-нуль-пяць на Кінгстан. Яму

здаецца, што ён — дзевяць-трыццаць-дзве на Вірджынія Ўотэр, ці ў скрайнім выпадку дзесяць-нуль-нуль на выспу Ўайт, ці некуды ў тым кірунку... І калі мы даедзем да канцавога прыпынку, дык, пэўна, зарыентуемся на месцы. Мы сунулі яму ў руку паўзалатоўкі і папрасілі стаць адзінаццаць-нуль-пяць на Кінгстан.

— Тут ніхто не дазнаецца, хто вы такі і куды вы едзеце, — запэўнілі яго мы. — А калі ведаеце дарогу, дык ціхенька адпраўляйцеся і кіруйце сабе ў Кінгстан.

— Ну, хлопцы, чорт яго ведае, — адказаў удзячны машыніст. — Мабыць, ваша праўда, і нейкі цягнік усё ж мусіць пайсці ў Кінгстан, і гэтым цягніком, напэўна, магу быць я... Тады яшчэ паўзалатоўкі, на добрую справу.

Гэтак мы паехалі ў Кінгстан праз Лондан з дапамогай “Паўднёва-заходняй кампаніі” Брытанскай чыгункі.

Пасля мы высветлілі, што цягнік, на якім мы адправіліся, быў паштовым да Эксэтэра, і дыспетчары згубілі процьму часу, шукаючы яго. Але той растаў, як цукар у кіпні.

Наш човен чакаў нас у Кінгстане проста пад мостам. Тут мы спынілі цягнік. Выгрузілі ля моста ўвесь наш багаж і залезлі ў човен.

— Гатовыя? — крыкнуў лодачнік.

— Гатовыя! — адгукнуліся мы. З Гарысам на вёслах, са мной на стырне і з Манмарансі, абражаным і з недаверам у вачах, на карме. Мы адчалілі й паплылі па рацэ, якая на пару тыдняў мусіла зрабіцца нашым домам.

## *Раздзел VI*

*Кінгстан. — Дзесяць вякоў ангельскай гісторыі. — Трапныя заўвагі пра інтэр'ер з моранага дубу і жыццё наагул. — Трагедыя Стыўвінга-малодшага. — Ці варта натхняцца старасветчынай? — Я не справіўся з кіраваннем. — І што з гэтага вынікла. — Гэмптан-Корцкі лабірынт. — Гарыс-правадыр.*

Р*аскашавала раніца. Ці* то позняя вясна, ці то ранняе лета, каму як больш падабаецца, пара, калі далікатная паўпразрыстая трава і лістота робяцца сакавітай зялёнінай, а прырода навокал выглядае, быццам юнае дзяўчо, якое трымціць на парозе дарослага жыцця.

Дзівосныя вулкі Кінгстана ў месцах, дзе яны падбягаюць да вады, у зіхоткіх промнях сонца выглядалі маляўніча. Бліскучая рака, баркі, што калываліся на яе паверхні, зарослыя сцежкі, дагледжаныя маёнткі на

супрацьлеглым беразе. Гарыс у паласатым, чырвона-аранжавым швэдры налягае на вёслы. Старадаўні палац Цюдараў шарэе ў прагалах прысадаў. Усё складалася ў сонечную мазаіку: зыркую, але ціхамірную, жыццядайную, але супакойную, — ажно я адчуў, што, яшчэ задоўга да надыходу ціхага часу, наваколле закалыхвае і зававлівае мяне ў сонны свет.

Я прымроіў Кінгстан, або Кёнінгестун, як яго называлі даўней. Уявіў часы, калі тут каранаваліся саксонскія кёнінгі. Юлій Цэзар тут пераходзіў праз раку — рымскія легіёны атабарваліся на стромых грудках над Тэмзаю.

Цэзар, усё роўна як Лізавета I на старасці гадоў, спыняўся ў Брытаніі дзе толькі можна. Але ён усё-ткі быў менш апантаны за старую добрую каралеву. Прынамсі, калі меркаваць па шматлікіх ганаровых шыльдах, тая мела пункцік — не прапусціла ў Англіі ніводнай гасцініцы.

Яна проста межаў не ведала са сваімі начлегамі й вячэрамі, наша Ангельская Цнатлівіца! Наўрад ці ёсць хоць адна піўнуха ці іншая такая ўстанова ў радыусе дваццаці кіламетраў ад Лондана, якой яна б не наведала пры нагодзе, ці не вячэрала там, ці не начавала.

Дапусцім, калі Гарыс раптам пачне сваё жыццё з чыстай старонкі. Рашуча парве са сваёй сумнеўнай мінуўшчынай і зробіцца прэм'ер-міністрам. А потым, вядома ж, памрэ. Дык якія, напрамілы Бог, павесяць шыльды ў страўнях, якія ён уганараваў сваёй прысутнасцю?!

“У гэтай карчме Ўільям Сам'юэль Гарыс прайшоўся па цёмным піве”, або

“Улетку 88-га Ўільям Сам'юэль Гарыс прыняў тут два віскі з ільдом”, ці нават

“Адсюль, з гэтай піўнухі, Ўільяма Сам’юэля Гарыса вынеслі ў снежні 1886-га”?

Не, такіх дабраславёных установаў набярэцца аж зашмат! Таму, мяркуем, знакамітымі зробяцца якраз нешматлікія кнайпы, у якіх ён нічога не спажываў.

“Гэта адзіная рэстарацыя ў паўночным Лондане, у якой Ўільям Сам’юэль Гарыс не выпіў ні куфліка!”

І людзі пацякуць сюды ракой. Цікава ж высветліць, што ў гэтай рэстарацыі такога адметнага і незвычайнага.

...Як нябога, слабенькі розумам ангельскі кароль Эдвіг, мусіць, ненавідзеў Кёнінгестун! Каранацыя далася ў знакі. Цалкам можа быць, ніхто не ўзгадніў з ім меню — падалі падсмажаную галаву вепрука, нашпігаваную слівавымі цукатамі (мне б дакладна такія прысмакі не спадабаліся). А можа, ён перабраў з херасам або медавухай.

Каб выкраіць для сябе апошнія ціхмяныя гадзіны, кароль адасобіўся ў пачывальні са сваёй каханай каралевай Эльвігай. Стоячы і трымаючыся за рукі, яны ўдваіх глядзелі з акна на ціхамірнае месяцовае святло на рацэ. З аддаленых пакояў палаца несліся зыкі зухаватай пагулянкі, раз-пораз перарываныя раптоўнымі выбухамі попіўкі ды пабіўкі. Гэта грубіян-архібіскуп Ода і манах Дунстан гвалтоўна прабіліся ў спальню. Выгукнуўшы свае агідныя абразы прыўкраснай каралеве, яны сіламоц пацягнулі небараку Эдвіга да п’янага натоўпу. (Праўда, пасля вяселля Ода і Дунстан атрымалі сваё — Эдвіг іх пакараў. Аднаго абылгаў, другога выгнаў за межы краіны.)

Праз гады пад грукат зброі саксонскія каралі і саксонскія гулякі ўрымсціліся ў суседніх магілах. Веліч і раскоша Кінгстана на пэўны час мінулася, каб узняцца зноў, калі Гэмптан-Корт зрабіўся рэзідэнцыяй Цюдараў і Сцюартаў. Тады каралеўскія баркі вышнуроўваліся на шматлікіх рачных прычалах. А фарсуністыя паромнікі самавіта пахаджалі па кладцы і гарлалі: “Пераправа, пераправа! Перабавім злева ўправа!”

Шмат старых камяніцаў наўкола вельмі выразна сведчаць пра тыя дні, калі Кінгстан быў каралеўскім горадам. Калі магнатэрыя і прыдворныя жылі тут поруч са сваім валадаром. Калі доўгая дарога да палацавай брамы поўнілася бразгатам сталі і грукатам падковаў, шамаценнем ядвабу ды аксаміту, а таксама галасамі прыдворных прыгажунь. Вялізныя, прасторныя камяніцы з усімі гэтымі альковамі, мансарднымі вокнамі, гіганцкімі камінамі, спічастымі дахамі нагадваюць пра эпоху камзолаў ды рэйтузаў. Пра час расшытых пярлінамі карсажаў. Пра час шматслоўных клятваў ды кляцьбаў. Тыя камяніцы паўсталі ў дні, калі “нашы продкі ўмелі будаваць”. Важкія чырвоныя цагліны з цягам часу, падаецца, зрасліся ў адно цэлае. А дубовыя сходы ўжо не рыпяць і не енчаць, калі ты шныраеш туд-сюд.

Гэта нагадала мне пра адны шыкоўныя сходы з моранага дубу ў іншым кінгстанскім доме на рынкавым пляцы. Цяпер там крама, але калісь відочна была якаясь сядзіба нейкай важнай персоны.

Аднойчы мой сябар, які быў у Кінгстане, зайшоў у гэтую краму, каб набыць капялюш, і, зусім не гандлюючыся,

засунуў у кішэню руку ды выклаў патрэбную суму. Гаспадар крамы (ён ведаў майго сябра) спярша крыху збянтэжыўся. Але хутка агойтаўся і, адчуваючы, што неяк трэба заахвочваць такіх рахманых кліентаў, спытаў нашага героя, ці не хоча ён убачыць выдатны мораны дуб. Мой сябра пагадзіўся, і гаспадар павёў яго праз гандлёвую залу. Потым яны падняліся па сходах і глянулі на балюстрады выкшталцонай працы. Сценкі да самай столі былі абшаляваныя шыкоўным разьблёным дубам, які мог бы ўпрыгожыць нават палац.

Са сходаў яны пайшлі ў пачывальню, вялізную і светлую, аздобленую блакітнымі шпалерамі вясёлых адценняў. Але ў пачывальні не было нічога адметнага, і мой сябра запытаў, навошта яго сюды прывялі. Гаспадар падышоў да шпалераў і пагрукаў па іх. Сценка адгукнулася драўляным водгуллем.

— Дуб, — патлумачыў гаспадар крамы. — Усё мораны дуб, ад падлогі да столі. Такі самы, які вы бачылі на сходах.

— О, багі! Вы ж не хочаце сказаць, што абклеілі мораны дуб блакітнымі шпалерамі?! — выгукнуў мой сябра.

— Абклеіў, — быў адказ. — Дорага каштавала. Вядома, спярша давялося ўсё абшыць фанерай. Але цяпер спальня глядзіцца весялей. Бо раней, зайшоўшы сюды, хацелася павесіцца.

Нават у думках я не вынес гаспадару крамы абвінавальнага выраку (спадзяюся, яму будзе ад гэтага трохі лягчэй). З перспектывы абывацеля, які хоча як мага

больш спрасціць сабе жыццё, — а не з гледзішча заўзятых антыквараў, гэтых панурых утрапёнцаў, — дык сякую-такую рацыю гаспадар крамы мае. На мораны дуб, безумоўна, прыемна глядзець, і ім нават можна абшаляваць які лапік сценкі... Але ж жыць спасярод яго — ад'яда для сэрца і вока! Гэта ўсё роўна, што пасяліцца ў саборы.

Мяне ў гэтай гісторыі засмуціла іншае. Спальню, абшытую дубам, задарма атрымаў чалавек, якому анітрохі не абыходзіць антыкварыят, тым часам як іншыя людзі, якім моцна да душы такія інтэр'еры, вымушаныя выдаткоўваць на іх шалёныя грошы.

Выглядае, што такі ён, закон жыцця. Кожны чалавек мае, чаго яму не трэба, а тое, што хоча ён, сыходзіць да іншых. Жанаты мужчына мае жонку, і здаецца, не надта яму тая спадарожніца жыцця патрэбная, тым часам як халасцяк выплакаў вочы ад самоты. У бедняка, які ледзьве сточвае канцы з канцамі, ёсць восем чароўных дзетак, а заможная старая пара, не маючы нікога, хто б мог успадкаваць усе іхнія багацці, памірае бяздзетная.

А яшчэ дзяўчаты з кавалерамі. Паненка, у якой ёсць хлопец, пляваць на яго хацела. Прызнаецца, што перабудзе й без кавалера, бо той яе раздражняе, і чаму б яму не пайсці й не закруціць любошчы са спадарыняй Той або са спадарыняй Гэтай, якія, хоць і брыдчэйшыя ды старэйшыя, але не маюць каханкаў? Сама ж паненка ў кавалерах не зацікаўленая. Замужжа не ўваходзіць у ейныя планы.

Напэўна, не варта засяроджвацца на такім парадоксе жыцця, бо ад гэтага толькі засмучаешся.

У нашай школе вучыўся хлопец, якога мы клікалі Кепска Будзе. Яго сапраўднае імя было Стыўвінгс. Гэта быў ці не самы незвычайны хлопец, якога я сустракаў у жыцці. У адрозненне ад іншых вучняў, ён быў адзіны ў класе, хто шчыра любіў вучыцца. Дарослыя давалі яму пытля за тое, што ён пад коўдрай вучыць старагрэцкую мову. Ад няправільных французскіх дзеясловаў яго было за вушы не адцягнуць.

Сэрца Кепска Будзе поўнілася дзіўнай і вычварнай прагай: апраўдаць давер бацькоў і стаць гонарам школы. Ён гарэў няўцямным для нас жаданнем выйграваць вучнёўскія конкурсы і залатыя медалі, палаў імкненнем вырасці адукаваным чалавекам. А таксама быў апантаны ўсякімі іншымі хваравітымі ідэямі. З роду не ведаў я такога дзіўнага чалавека, хоць ён быў бяскрыўдны, як немаўля.

Дык вось, Кепска Будзе хварэў двойчы на тыдзень, і таму вымушаны быў прапускаць заняткі. Больш хваравітага хлопца, чым ён, цяжка было ўявіць. Як толькі на адлегласці дваццаці кіламетраў ад яго на свет выпаўзала якаясь хвароба, дык ён абавязкова хапаў яе, прычым хварэў на яе ў самай вострай форме. Кепска Будзе падхопліваў бранхіт на Купалле і кветкавую алергію на Каляды. Пасля паўтарамесячнай засухі яго мог раптам скруціць раматус, або ён выходзіў у лістападаўскі туман — і вяртаўся з сонечным ударам.

Яму, гаротніку, далі болеспатольнае і вырвалі ўсе яго зубы, бо боль быў проста нясцерпны. А калі яму ўставілі пратэзы, дык запаленне ўскладнілася неўралгіяй вуха-горла. Кепска Будзе круглы год хадзіў прастуджаны (за выняткам тых двух месяцаў, калі схапіў шкарлятыну). А абмаражэнні ператварыліся для яго ў звыклую руціну.

Падчас пошасці халеры 1871 года якімсьці цудам нашай акругі хвароба не закранула. Быў усяго толькі адзін выпадак — наш юны Кепска Будзе.

Пакуль ён хварэў, яго прымушалі ляжаць, піць гогаль-могаль, есці курыны булён і вінаград з цяпліцы. Кепска Будзе румзаў, бо яму не давалі практыкаванняў па лаціне і забіралі падручнікі па нямецкай мове.

А мы, іншыя хлопцы, маглі запрадаць хоць дзесяць па дзесяць школьных семестраў за адзін-адзінюткі дзень хваробы, бо ў нас не было ні найменшага жадання, каб бацькі намі ганарыліся. Але ўсё, на што мы былі здатныя, — гэта прадзьмуць сабе шыю. Мы стаялі на скразняках, але ад гэтага толькі асвяжаліся ды загартоўваліся. Мы цягнулі ў рот усякую брыдоту, каб атруціцца, але з'едзенае толькі дадавала нам вагі й апетыту. Да святаў нас не брала ніякая трасца. Але наконадні святаў мы хапалі прастуду, перханне і ўсякую іншую трасцу, якія мучалі нас роўна да вечара апошняга дня вакацыяў. І, нягледзячы на ўсе нашы хітрыкі, у гэты вечар мы зноў ачуньвалі і рабіліся здаровымі й загартаванымі.

Ды такі ўжо наш лёс. Людзі — тая ж траўка, якой наканавана быць скошанай ды пакладзенай на вышкі сушыцца!

Вяртаючыся да дубовых інтэр’ераў. Яны, нашыя прапра-прадзяды, мусіць, мелі што сказаць пра прыгожасць і мастацтва. Але ж чаму з усяго багацця мастацкіх скарбаў мінуўшчыны нам дасталіся адно выкапаныя транты і лахманы трыста-чатырыстагадовай даўніны? Цікава, ці сапраўды столькі красы ў старых супавых талерках, піўных куфлях і падсвечніках, якія мы абагаўляем сёння? Ці гэта проста аўра ўчарашняга дня, што зіхціць вакол ды чаруе вока? Ці, можа, усе гэтыя вышыванкі і віньеткі, якія мы вешаем на сценкі, пару стагоддзяў таму былі звыклымі прадметамі для штодзённага ўжытку? А ружовыя пастушкі і жоўтыя пастушкі, якіх мы расстаўляем паўсюль ды з замілаваннем дэманструем гасцям, каб сарваць захопленыя ўздыхі, можа, былі ў свой час нядбаліцамі з гаспадарскага скарбу, якія маткі васямнаццатага стагоддзя давалі сваім заплаканым дзеткам, а тыя сувалі іх у рот?

Ці працягнецца гэтае абагаўленне старасветчыны ў будучым? Ці ж танныя нядбаліцы дня сённяшняга ператворацца ў знакамітыя скарбы дня заўтрашняга? Ці ж у 2020 годзе стосы талерак з распіснымі вярбовымі лісткамі будуць на вагу золата? Ці ж фаянсавы кубак з залатым канцікамі харашмянай залатой кветкі невядомай пароды на дnішчы, якую наша Трыша цяпер бесклапотна разбіла, у будучыні дбайна склеяць ды паставяць на адмысловую палічку, і з яе будзе дазволена выціраць пыл адно гаспадыні?

Парцалянавы сабачка, што ўпрыгожвае пачывальню ў кватэры, якую я арандаваў разам з мэбляй. Белы

такі. У яго блакітныя вочы. Носік чырвоненькі, з чорнымі кропачкамі. Выцягнуў шыйку, а выраз яго прыязнай пысы мяжуе з прыдуркаватасцю. Ён мне не вельмі падабаецца. Можа, ён і твор мастацтва, але раздражняе. Сябры легкадумна кпяць з яго, і нават гаспадыня кватэры, не маючы да сабачкі ніякіх сімпатыяў, заўжды выбачаецца за яго прысутнасць, ды што тут зробіш: цётка падарыла.

Але праз дзвесце гадоў цалкам верагодна, што гэтага сабачку адкульсьці выкапаюць: бязногага, з паламаным хвастом. Прададуць як узор старадаўняй ангельскай парцаляны ды змесцяць навідавоку за шклом. Да сабачкі будуць падыходзіць і захапляцца. Людзей зачаруе дыхтоўная афарбоўка носа, і яны будуць рабіць смелыя дапушчэнні: як жа, мабыць, зграбна глядзеўся б гэты хвост, калі б не адваліўся.

Аднак сёння прыгажосць гэтага сабачкі добра схаваная ад нашага вока. Мы надта знаёмыя з ім. Гэта як зоркі і заход сонца: мы не заўважаем іхняга хараства, бо яны набілі аскоміну. Тое самае і з парцалянавым сабачкам. У нейкім 2288 годзе людзі будуць увіхацца вакол яго. Рабленне такіх сабачак стане сімвалам вяртання да каранёў. Нашыя нашчадкі пачнуць вывучаць, як старажытныя брытанцы, то-бок мы, тых сабачак рабілі, а таксама казаць, якімі мудрымі мы былі. Нас будуць называць з пашанаю "вялікімі майстрамі мінуўшчыны" й "высокаразвітым грамадствам з перадавым выяўленчым мастацтвам, чый росквіт прыпаў на дзевятнаццатае

стагоддзе", цывілізацыяй, якая паклала пачатак "культуры парцалянавых сабачкаў".

Вышыўку, якую мая старэйшая дачка зрабіла ў школе, абвесцяць "габеленам віктарыянскай эпохі" і зробяць немавед якім бясцэнным экспанатам. Блакітна-белыя кубкі з цяперашніх прыдарожных гатэляў адшукаюць, усе патрэсканыя і пакрышаныя, і стануць прадаваць за золата. Людзі з найвышэйшага грамадства будуць пацягваць з яго крушон. Падарожнікі з Японіі будуць купляць нашы бірулькі "на памяць пра Лондан" ды іншыя сувенірныя вырабы і цягнуць іх назад у Токіа як "рэдкі ўзор англасаксонскай старасветчыны".

На гэтым месцы Гарыс адкінуў вёслы. Потым узнёсся ды паваліўся на спіну, выпраставшы ногі ў паветра. Манмарансі, заскавытаўшы, зрабіў сальта-мартале. А кош, які ляжаў зверху, перакуліўся, і ўсё з яго павывальвалася.

Я самую маласць збянтэжыўся, але не страціў спакою і ветліва спытаўся:

— Гэй, што такое?

— "Што такое"?! Ах, ты!..

Не, лепш я ўстрымаюся і не буду паўтараць выразу, які выгукнуў у мой бок Гарыс. Я, можа, і вінаваты, не спрачаюся. Але ж нічога не можа выбачыць моўнай агрэсіі й грубасці ў выразе думак, асабліва Гарысу, мужчыну, якога так дбайна выхоўвалі. А мяне цалкам можна зразумець: разважаў пра ўсякае-рознае дый забыўся, што мяне пасадзілі за стырно.

Ну, так — мы ўрэзаліся ў пешаходную сцежку ля буксірнага канала на беразе каля Мідлсэкса. Колькі імгненняў было цяжка разабрацца, дзе заканчваецца наш човен, а дзе пачынаецца бераг Тэмзы. Але па невялікім часе мы выявілі, дзе што, і аддзялілі іх адно ад другога.

Гарыс сказаў, што ўдосталь навеславаўся ды саступае месца мне. Але паколькі мы ўжо зайшлі на буксірны канал, я вырашыў трохі папрастаць ногі. Вылез і пацягнуў човен на канаце паўз Гэмптан-Корт.

Які цудоўны стары мур высіцца ўздоўж канала! Мінаючы Гэмптан-Корт, я заўжды гляджу на яго з душэўным трымценнем. Такі яскравы, дыхтоўны мур! Якую паглядную карціну ён стварае разам з лішайнікам, што караскаецца па яго адхонах. З мохам, які расце тут. З яшчэ нясмелай маладой лазой, якая вызірае зверху, каб разгледзець, што адбываецца на запруджанай рацэ. А таксама з памяркоўным старым плюшчом, што кусціцца трохі ніжэй. Кожныя пяць крокаў мур мяняе сваё аблічча, проста пяцьдзясят адценняў новага! Каб я ўмеў маляваць, не сумняюся, тут жа накідаў бы цудоўны скетч.

Часам мне здаецца, што я мог бы жыць тут, у Гэмптан-Корцкім каралеўскім палацы. Ён такі ціхамірны, і так прыемна паблукаць на досвітку па ягоных завуголлях, пакуль няма людзей.

Зрэшты, ці варта дадумваць, як у палацы ўсё адбываецца насамрэч. Увечары тут, мабыць, вельмі панура ды нудна. Полымя свечкі кідае водсветы на цагляныя сцены. Рэха далёкіх крокаў грукоча ў халодных каменных

калідорах. Яны з шоргатам падбіраюцца бліжэй і аціхаюць. І тады наступае магільная цішыня, і чуваць толькі стук устурбаванага сэрца.

Усе мы, мужчыны ці жанчыны, дзеці сонца. Мы любім святло і жыццё. З гэтае прычыны мы ўсё больш гуртуемся ў гарадах ды гарадках, а вёскі штогод пусцеюць. Так, пры сонечным святле, удзень, калі прырода ажывае і атуляе нас, пагоркі ды пушчы робяцца нам даспадобы. Але ўначы, калі Матухна Зямля кладзецца спаць, пакідаючы нас сам-насам з… Ой, не! Свет падаецца такім самотным. Мы жахаемся, усё роўна як дзеці, якіх пакінулі дома адных. Мы кідаемся ў слёзы. Сядзім і сумуем па вулках, залітых святлом ліхтароў. Тужым па зыках чалавечых галасоў, па будзённай гамане людскога жыцця. У велічнай цішы, калі дрэвы шаргацяць пад начным ветрам, мы пачуваемся такімі нямоглымі ды маленькімі! Наўкола так шмат зданяў, і іх ціхуткія ўздыхі засмучаюць нас несканчона. Дык збіраймася ж разам у вялікіх гарадах! Запалім вялікае вогнішча газавых ліхтароў. Будзьма гаманіць ды спяваць хорам, каб пачувацца моцнымі й адважнымі!

Гарыс спытаўся, ці наведваў я Гэмптан-Корцкі лабірынт. І дадаў, што аднойчы ён быў там праваднікам.

Гарыс вывучыў схему лабірынта, і яна падалася яму да смешнага простай — ажно спачатку яму было шкада двух пенсаў за ўваход. Толькі пазней ён зразумеў, што такую схему зрабілі знарок, у якасці жарту, бо яна ані блізка не адпавядала самому лабірынту, а толькі збівала з панталыку.

Ігар Бабкоў

# Шостае падарожжа

Тваe валасы зблытаныя з мокрай травой.
Як чужы успамін, жужалка паўзе па сцяне.
Неспакойныя песні вецер пяе ў трыснягу.
Маладая вада шапоча аб бясконцай вайне.

Дык хутчэй жа, вандроўнік, збірайся ў дарогу, хутчэй.
На пагорках Еўропы зваяваныя спяць каралі.
Праз халодныя ночы мы пройдзем пад канвоем вачэй
І аднойчы на золку вярнемся да гэтай зямлі.

Сярод глогу і руты на захадзе спіць акіян.
Толькі верасу вочы сумуюць аб забытай віне.
Там, дзе кроплі шыпшыны, мы знойдзем свой пакінуты дом.
Там маладая вада шапоча аб бясконцай вайне.



Гарыс павеў у лабірынт сваю вясковую кузіну. Ён сказаў ёй:

— Мы хуценька заскочым у лабірынт, каб ты паставіла сабе галачку. Але ж ён просты, як венік, таму называць яго лабірынтам не выпадае. На павароце трэба кожны раз збочваць направа, і па ўсім. Мы там пагуляем якіх хвілінак дзесяць, а потым пойдзем на другі сняданак.

Неўзабаве пасля ўваходу ў лабірынт яны сустрэлі групу людзей, якія паскардзіліся, што бадзяюцца тут ужо сорак пяць хвілін, і ім гэта страшэнна абрыдла. Гарыс прапанаваў групе следаваць за ім. Маўляў, ён толькі што зайшоў сюды. Вось яшчэ зойдзе трошачкі глыбей, а потым адразу ж выйдзе. Група падзякавала Гарысу й пашыхтавалася ў яго за спінай.

Па дарозе да Гарыса далучаліся іншыя людзі, чыёй запаветнай марай было выбрацца на волю. Працэсія расла, аж пакуль урэшце не ўвабрала ў сябе ўсіх наведнікаў лабірынта. Людзі, што ўжо страцілі ўсякую надзею хоць некалі знайсці выхад ці ўваход, пабачыць дом і сям’ю, — убачыўшы Гарыса ды ягоную світу, крэплі духам. Са словамі дабраславення і падзякі ўсе яны далучаліся да іх. Гарыс кажа, што налічыў чалавек дваццаць, якія паслухмяна следавалі за ім. Адна жанчынка з дзіцем, што совалася тут цэлы ранак, узяла Гарыса за руку і ўчапілася ў яе мёртвым ухопам.

Гарыс на кожным павароце ўсё збочваў ды збочваў направа. І яны ўсё ішлі ды ішлі. Кузіна з вёскі адзначыла, што лабірынт, мусіць, вялізны.

— О, так, адзін з найвялікшых у Еўропе! — адказаў Гарыс.

— Пэўна, так, — пагадзілася кузіна. — Мы агоралі, мабыць, кіламетры з тры.

Гарыса наведала крамольная думка, што нешта тут не так, але ён як нічога ніякага працягваў ісці. Пакуль працэсія не заўважыла на пяску паўпенсавую булачку, якую — так бажылася кузіна — яна бачыла сем хвілін таму. Гарыс запярэчыў: "Ды не можа быць!" — але жанчына з дзіцем на тое: яшчэ як можа, яна сама забрала гэтую булачку ў дзіцяці й кінула на зямлю за імгненне да таго, як яны сустрэлі Гарыса. Жанчына нават дадала, што лепш бы гэтая сустрэча з Гарысам ніколі не адбылася. Яна выказала здагадку, што Гарыс — махляр ды лжэпрарок. Гарыса гэта моцна раззлавала, ён выцягнуў схему і папулярна патлумачыў сваю тэорыю.

— Схема працуе, калі ведаеш, дзе ты знаходзішся, — сказаў адзін з удзельнікаў працэсіі.

Свайго месцазнаходжання Гарыс не ведаў. І прапанаваў, што найлепшае выйсце ў гэтай сітуацыі — вярнуцца да ўваходу, каб пачаць абыход спачатку. План "Вяртанне" імпэту не выклікаў, але, беручы пад увагу моцнае памкненне прысутных патрапіць хоць куды, яго прынялі адзінагалосна. Усе павярнуліся на сто восемдзесят градусаў і зноў пакрочылі за Гарысам. Хвілін праз дзесяць грамада апынулася ў цэнтры лабірынта.

У першае імгненне Гарыс хацеў зрабіць выгляд, нібыта гэта тое, што ён і меў на мэце, але натоўп

расхваляваўся. Тады Гарыс вырашыў падаць гэтую акалічнасць як неістотную выпадковасць.

Як бы там ні было, а цяпер яны прынамсі ведаюць, дзе знаходзяцца. Схема ў руках. Выбавіцца з абдымкаў лабірынта было справай тэхнікі, і працэсія пайшла на трэці заход.

Праз тры хвіліны яны зноў вярнуліся ў цэнтр.

Людзі проста скамянелі. Любы маршрут вёў назад у цэнтр. Гэта паўтаралася так часта, што некаторыя проста атабарыліся ў цэнтры лабірынта ды цярпліва сачылі за кружляннямі і вяртаннямі іншых. Па некаторым часе Гарыс зноў дастаў сваю схему. Выгляд схемы толькі раз'юшыў натоўп, не раўнуючы як чырвоная ануча быка. Гарысу параілі скамечыць гэтую паганую паперку ды пусціць яе на бігудзі. Менавіта ў той момант, казаў потым Гарыс, ён "з усёй выразнасцю адчуў, што не карыстаецца сярод гэтых людзей вялікай папулярнасцю".

Урэшце ўсе канчаткова ачмурэлі. Давялося гукаць служку. Той наблізіўся да агароджы і ўскараскаўся па драбінах. На словах патлумачыў, куды трэба ісці. Але мазгі настолькі загусцелі, што нічога ўжо не хацелі разумець, і служка папрасіў усіх заставацца на месцах, бо ён зараз падыдзе. Працэсія збілася ў купу і чакала, а служка злез з агароджы і пакіраваў да іх.

Гэты маладзён, ясная справа, быў новенькі-нявыхаваненькі. Калі ён трапіў у лабірынт, дык нікога там не знайшоў. Трохі паблукаў, шукаючы, а пасля згубіўся сам. Раз-пораз яна бачылі, як ён мільгаў, як мітусіўся

з таго боку сцяны, і ён таксама бачыў іх, і спяшаўся ў іхны бок, і яны чакалі яшчэ пяць хвілін, а потым чулі здаля, як ён крычаў, маўляў, куды ж яны ўсе пазнікалі.

Давялося чакаць, пакуль на пошукі не выправіцца служка з досведам, які быў сышоў на абед.

Гарыс сказаў, што знадворку гэты лабірынт выглядае проста. Мы пагадзіліся, што абавязкова запусцім туды Джорджа, але ўжо на зваротным шляху.

## *Раздзел VII*



*Тэмза ў нядзельным уборы. — Што апрануць у рачную вандроўку. — Новыя перспектывы для моднікаў. — Гарысава безгустоўнасць. — Джорджава фуфайка. — Пікнік з выкшталцонымі паненкамі. — Надмагілле спадарыні Томас. — Чалавек, які не любіў ні склепікаў, ні саркафагікаў, ні чарапочкаў. — Гарыс крыўдуе. — Што ён думае пра Джорджа, банкі і ліманад. — Гарыс дэманструе цуды акрабатыкі.*

Пакуль Гарыс апісваў свае злыбеды ў лабірынце, мы наблізіліся да шлюза Моўлсі. Потым праходзілі яго. Даўгавата, дарма што шлюз шырокі, а мы былі тут адзіным чоўнам. Ніколі не бачыў, каб перад шлюзам Моўлсі панавала бязлюддзе. А ён жа (калі не браць пад увагу Бултэрскага шлюза) ці не самы загружаны на Тэмзе, і ля яго звычайна шнуруюцца даўжэзныя чэргі.

Часам тут нават вады не відаць за ўсім гэтым зіхоткім гушчаром, што складаецца са светлых швэдраў, кепак, фарсуністых капелюшоў ды стракатых парасонаў. А таксама ядвабных апранах, накідак, хвалістых стужак і пухкай белай вопраткі. Калі глядзіш на шлюз з узбярэжнай, дык можа падасца, што гэта вялізная скрыня, у якую абы-як папаскідалі лугавыя краскі. Ляжаць сабе ўпокат вясёлкавай купаю, заслаўшы сабою ўсё днішча.

У пагодную нядзельку гэтае стракатае прадстаўленне доўжыцца ад ранку да вечара. Уніз па вадзе, уверх па вадзе — калываюцца, чакаючы сваёй чаргі звонку, доўгія чэргі знерухомелых чаўноў. А вакол увіхаюцца чаўны, якія плывуць і праплываюць шлюз, і таму зіхоткая рака ад каралеўскага палаца аж да Гэмптанскай царквы засланая жоўтымі, блакітнымі, аранжавымі, белымі, чырвонымі і ружовымі плямамі. Ці не ўсе жыхары Гэмптана і Моўлсі апрануліся ў вяслярскія ўбранні, прыехалі пашпацыраваць ля шлюза з сабакамі. Фліртуюць, кураць, казеляць вочы на чаўны. Кепкі ды камізэлькі на мужчынах, зграбныя стракатыя сукенкі на жанчынах. Узбуджаныя сабакі, рухавыя лодкі, белыя ветразі, паглядны краявід, зіхоткая вада — усё складаецца ў маляўнічы калейдаскоп. Ці не самы яскравы, які я бачыў у прадмесцях нашага панурага дзядулі Лондана.

Тэмза дае адвесці душу моднікам. Тут мы, мужчыны, можам прадэманстраваць наш густ у колерах. І як на мяне, дык, здаецца, мы не падаем тварам у гразь. Я люблю дадаваць у вопратку крышачку чырвонага, спалучаць чырвонае з чорным. Я шатэн, валасы з адлівам —

неблагое адценне, кажуць,— і таму насычаная чырвань пасуе мне на ўсе сто. Вось чаму я раз-пораз чапляю блакітны гальштук, які надзвычай спалучаецца з маёй шавялюрай. Абуваю чаравікі з юхтавай скуры. Павязваю чырвоную ядвабную хустку вакол таліі. Хустка глядзіцца значна лепш за папругу.

Гарыс заўжды аддае перавагу аранжаваму й жоўтаму, але, на маю думку, моцна ў гэтым памыляецца. Яго твар надта смуглявы для жоўтага. Жоўты — от хоць ты што! — Гарысу не пасуе. Я прапанаваў бы яму блакітны фон з белым ці крэмавым на першым плане. Але бач ты! Чым менш чалавек мае густу, тым больш ён упарціцца. Шкада. Гарысу наканавана выглядаць нехлямяжа ў сваім капелюшы, хаця ёсць у яго ў запасе пару колераў, у якіх ён глядзіцца не так і кепска.

Джордж купіў сабе колькі рэчаў для вандроўкі, і яны мяне трохі ўзлавалі. Як, напрыклад, ягоная фуфайка колеру "вырві вока". Не хацелася, каб Джордж пачуў мае заўвагі пра абноўку, але іншых словаў у мяне папросту не было.

У чацвер вечарам ён прынёс фуфайку дадому і паказаў нам. Калі мы пацікавіліся, якога яна колеру, ён адказаў, што не ведае. Я нават не ўпэўнены, што для гэтага колеру існуе назва. Прадавец вопраткі запэўніваў, што яе пашылі "ў арыентальным стылі". Джордж апрануў фуфайку і спытаў нашага меркавання. Гарыс адказаў, што ў якасці пудзіла, калі яе павесіць над кветнікам, каб адпалохвала птушак напрадвесні, — дык Джорджа-

ва фуфайка самае тое. Але калі дапусціць яе ў якасці вопраткі для сыноў чалавечых, то яна пасавацьме хіба што балаганным блазнам, бо моцна паскудзіць увесь выгляд. Джордж пакрыўдзіўся. Гарыс заўважыў: бывае, праўда вочы коле.

Ва ўсёй гэтай гісторыі пра фуфайку нас найбольш трывожыла тое, што пачварная вопратка можа прыцягнуць нездаровую ўвагу да ўсяго нашага чоўна.

Калі жанчыны апрануцца адпаведна, плаваць у чоўне ім зробіцца прыемней. Нічога так не пасуе жанчыне, як з густам падабраны паходны касцюм. Але ўсё будзе добра толькі тады, калі дамы ўрэшце зразумеюць, што касцюм мусіць быць прыдатны менавіта для вандроўкі, а не для выстаўлення ў вітрыне. Калі ў вас на борце людзі, якія больш дбаюць пра свой выгляд, чым пра саму вандроўку, гэта адназначна ўсё сапсуе.

Аднойчы мне з прыяцелем собіла адправіцца на рачны пікнік з дзвюма выкшталцонымі паненкамі. Ох, пакуты й выпрабаванні!

Паненкі прыгожа ўбраліся — у карункі і ядваб. І кветачкі, і жычкі, і чаравічкі, і ажурныя пальчаткі. Толькі ўсё гэта больш пасавала для фотастудыі, чым для пікніка на Тэмзе. На іх красаваліся паходныя строі ад французскіх куцюр'е. Што было на іх фоне лішнім, дык гэта сама прырода.

Спачатку паненкі заявілі, што човен брудны. Тады дзеля іх мы працерлі цалкам усе сядзенні. Потым паказалі ім вынікі нашай працы, але тыя ўсё роўна веры

не далі. Адна з іх правяла па сядзенні пальчыкам у белай пальчатцы. Паказала плямку сяброўцы, і абедзве скрушна ўздыхнулі.

Потым паненкі ўладкаваліся ля мачты, з такімі грымасамі, быццам у першых хрысціянскіх пакутнікаў на крыжы. Калі на іх трапляла трохі пырскаў ад вясла, іх жэсты выразна гаварылі, што мы, маўляў, незваротна сапсавалі ім увесь касцюм, а плямы ад вады ніколі не сыдуць, а ўядуцца ў сукенку на векі вечныя.

Я быў сама лагода. Стараўся, як мог. Падымаў вясло на паўметра і рабіў паўзу ў канцы кожнага грабка, каб з вёслаў паспела сцячы вада. (Мой прыяцель, пабачыўшы такое, праз нейкі час сказаў, што побач з такім майстрам, як я, ён адчувае сваю поўную прафесійную няздатнасць, а таму лепш не будзе веславаць увогуле. З маёй ласкавай згоды, ён лепш пасядзіць ды павывучае маю вяслярскую тэхніку зблізку.)

Нягледзячы на ўсе мае высілкі, я не мог стрымаць усіх пырскаў. Раз-пораз яны траплялі на дзявочыя строі.

Уголас нашы паненкі незадаволенасці не выказвалі. Аднак, сеўшы шчыльненька адна ля адной, яны тоненька так склалі вусны. Кожны раз, калі кроплі траплялі на дзяўчат, іх біла заўважная дрыготка. Паненкі прымалі пакуты з велічнай маўклівасцю. Гэтая шляхетнасць мусіла б цешыць вока, аднак мяне яна толькі засмуціла. Я надта чуллівы. Мае рухі зрабіліся хапатлівыя і сутаргавыя, і з гэтай прычыны я стаў пырскацца яшчэ больш, дарма што асцярожнічаў, аж язык высалапіў.

Урэшце я здаўся. Сказаў, што саступлю месца прыяцелю. Той пагадзіўся, што так будзе лепей, і мы памяняліся месцамі. Паненкі міжвольна выдыхнулі, калі ўбачылі, што я пакідаю вёслы, і нават трохі ачунялі. Гаротніцы! Лепш бы яны змірыліся з маёй прысутнасцю! Бо чалавек, якога яны цяпер атрымалі за весляра, быў, няма чаго казаць, хлопец вясёлы ды шчыры, але ж таўстаскуры й недалікатны. Спагады ў яго было, не раўнуючы ў шчанюка ньюфаўндленда. Вы можаце спапяляць яго позіркам хоць гадзіну, ён нават і не заўважыць, а калі й заўважыць, дык не схамянецца.

Прыяцель задаў зухаватага тэмпу. Вёслы ўзнялі пырскі, якія зіхцелі й шыпелі, як фантан, і прымусілі паненак імгнення выпрастаць спіны. Выліўшы за адзін узмах на сукенку адной з дзяўчатак больш за літр вады, прыяцель зычліва ўсміхнуўся і перапрасіў:

— Я, дальбог, прашу мяне выбачыць! — і прапанаваў паненцы сваю насоўку, каб выцерці пляму.

— О, нічога страшнага... — прамармытала гаротніца ў адказ, захінаючыся сырым пледам ды накідкамі. Потым зрабіла марнае намаганне абараніць сябе карункавым парасонам.

Падчас другога сняданку ім таксама не пашчасціла. Іх хацелі пасадзіць проста на траву, хоць яна тут расла занадта пыльная. Камлі дрэваў, на якія ім прапаноўвалі абаперціся, мяркуючы па ўсім, ніхто не парупіўся для іх працерці. Таму паненкі разаслалі свае хусцінкі ды ўселіся на іх строга перпендыкулярна зямлі.

Нехта з нас, несучы мясны пірог на тацы, спатыкнуўся аб карэнне. Пірог вылецеў з рук. На шчасце, у паненак нічога не трапіла. Але гэтае здарэнне адкрыла ім вочы на новую небяспеку, змушаючы ўвесь час заставацца напагатове. Калі хтосьці з нас набліжаўся, несучы штосьці, што магло зваліцца й нарабіць бяды, яны праводзілі яго позіркамі, поўнымі вусцішы, аж пакуль ён не сядаў.

— Ну, што, дзяўчаткі? — звярнуўся мой прыяцель да паненак, калі абед скончыўся. — Хадзем, памыйма посуд!

Спярша яны яго не зразумелі. А калі ўсё-ткі асягнулі розумам сказанае, дык заўважылі, што, на жаль, кепска ведаюць, як гэта робіцца.

— О, я зараз пакажу вам! — закрычаў прыяцель. — Страшэнна вясёлы занятак. Вы становіцеся на ка... Я маю на ўвазе, нагінаецеся над вадою, ну, разумееце, вось так, і мыеце посуд у вадзе.

Старэйшая зазначыла, што, на вялікі жаль, іхнія сукенкі не прызначаныя для працы.

— Сукенкам нічога не будзе! — шчыра запэўніў мой прыяцель. — Толькі закатайце рукавы.

І ён такі прымусіў іх працаваць. Ён пераканаў паненак, што на пікніку мыццё посуду — другая пасля яды асалода. Яны адказалі, што гэта цікавы досвед.

Цяпер, калі я прыгадваю той выпадак, сумняюся, ці быў мой сябра такім ужо няўважлівым, як падавалася? Або ён проста... Не, не можа быць!.. Ён меў такі праставаты, амаль дзіцячы выраз твару!

Гарыс захацеў сысці на бераг ля Гэмптанскай царквы і зірнуць на магілу спадарыні Томас.

— Хто такая спадарыня Томас? — пацікавіўся я.

— А я скуль ведаю? Нейкая жанчынка, у якой шыкоўны помнік, і я хачу на яго глянуць.

Я быў супраць. Можа, канешне, я нейкі не такі, але надмагіллі мяне не спакушаюць. Я ведаю, што, прыехаўшы ў нейкі незнаёмы гарадок ці вёску, прынята насамперш прыпусціць у бок царкоўнага цвінтара, каб пацешыцца выглядам магілаў. Але такі від адпачынку асабіста мне нецікавы.

Мяне не вабіць цягацца за жвавымі дзядулямі ўкруг змрочных і халодных храмаў ды чытаць эпітафіі. Таксама мушу сказаць, што выгляд кавалка медзі, прыкручанага да каменнай пліты, чамусьці ніяк не можа нарадзіць у маім сэрцы простага чалавечага шчасця.

Я магу вывесці з сябе самых цярплівых дзячкоў каменным выразам твару, з якім гляджу на самыя слязлівыя й гаротлівыя эпітафіі, не кажучы пра маю поўную абыякавасць да радаводу тутэйшых дынастыяў. А маё кепска схаванае жаданне выйсці прэч проста раніць іх пачуцці.

Адным цудоўным сонечным ранкам я прыйшоў да каменнага мура, які атачаў невялічкую вясковую царкву. Я курыў люльку і ў глыбокай ціхай радасці жывіўся душой ад салодкай пастаральнай карціны: шэрая старая цэркаўка, уся парослая плюшчом, з дзівосным разьблёным ганкам. Белая дарожка з вязамі паабапал спускаецца з пагорка. Хаткі з саламянымі стрэхамі вызіраюць

# Маршрут чацвёрты:
## рака Сцвіга, Гомельшчына



Маршрут катэгарычна не пасуе для ўкушаных гадзюкай ці тарантулам.
Калі ў першы дзень вандроўкі вы зладзіце са спакусай і плынню ды не сыдзеце ў суседнюю Украіну, дык уніз па рэчцы вас чакаюць прынады абсалютнага адлюддзя: гіганцкія Альманскія балаты, дзе ў Гая Рычы ў наступным дзесяцігоддзі запланаваныя здымкі "Баскервільскага сабакі".
Тут на колішніх прыродных палігонах савецкія бамбардавікі забаўляліся беспаспяховым знішчэннем палескай фаўны.







## Каардынаты маршруту

Пачатак – вёска Дзяржынск. Абавязкова вазьміце тэлефон якога-небудзь уласніка армейскага грузавіка, які ў вёсцы дзяржыць ці не кожны жыхар (матор трэба, каб гайсаць на грыбныя пікнікі і ягадныя праменады). Канец вандроўкі – вёска Аздамічы. Раней папросту няма куды – балоты, сэр.

па-над дагледжанымі парканамі, серабрыстая рака ў даліне ды лясістыя пагоркі на самым даляглядзе...

Прыгажэнны краявід! Сапраўдная ідылія. Колькі там было паэзіі ды натхнення! Я адчуваў, як раблюся ўсё больш гарманічным ды шляхетным. Ува мне спела пачуццё новага жыцця, мне хацелася ніколі больш не распуснічаць і ўвогуле не грашыць. Маўляў, пераеду сюды і буду тут жыць, і ні за што не стану рабіць ніякіх кепстваў. Толькі беззаганнае ды шчырае жыццё. А калі пастарэю, мой галаў аздобіць высакародная сівізна... І да таго падобныя думкі.

У гэты момант я выбачыў усім сваім сябрам ды сваякам усе іхнія заганы і ў думках дабраславіў іх. Сябры ды сваякі, мабыць, не ведалі, што я іх дабраславіў. Яны працягвалі крочыць крывой дарожкай ліхадзейства, нават не падазраваючы, *што* я, далёка-далёка, у гэтай забытай Богам вёсцы, зрабіў для іх. Але мне хацелася б, каб яны гэта ведалі, бо мне аж няўсцерп праглася, каб усе яны тут жа сталіся шчаслівыя.

Я працягваў абдумваць усе гэтыя велікадушныя і лагодныя ідэі, аж пакуль маю адзіноту не перарваў крык:

— Спакойна, я ўжо іду, мой юнача! Я ўжо іду! Я ўжо хутка, хвілінку цярпення!

Я азірнуўся ды ўбачыў на цвінтары старога лысага чалавека, які чыкільгаў у мой бок, несучы ў руцэ вялізную звязку ключоў, якія трэсліся й бразгаталі на кожным кроку.

Я паспрабаваў адагнаць яго выразам маўклівай ганарлівасці, але ён усё адно набліжаўся, раз-пораз выгукваючы:

— Лячу, я ўжо лячу, даражэнькі! Я трохі кульгаю. Бо не такі спрытны, як быў даўней... Сюдой-сюдой, юнача!

— Ідзіце адкуль прыйшлі, дзядуля!

— Бег-прыбег, як толькі змог, юнача, — адказаў ён. — Жонка ўбачыла цябе ў самы апошні момант. Хадзем, юнача, за мной!

— Ідзіце адсюль! — паўтарыў я. — Пакіньце мяне ў спакоі, пакуль я не пералез праз мур і не падняў на вас рукі.

Здаецца, дзядок шчыра здзівіўся.

— Як, ты не хочаш убачыць магілак?

— Не, — адказаў я. — Не хачу. Я хачу застацца тут, абапёршыся на гэты шурпаты мур. Ідзіце, дзядуля, скуль прыйшлі, і не турбуйце мяне. Мяне апанавалі прыгожыя й далікатныя думкі, я хачу тут пастаяць-падумаць, бо мне прыемна ды хораша. І не даводзьце мяне да вар'яцтва, разбураючы тут найлепшыя мае пачуцці ўсялякай лухтой пра “магілкі ды помнічкі”. Ідзіце, напрамілы Бог, і хай вас тут і пахаваюць, пажадана нядорага — тады я, можа быць, заплачу палову выдаткаў.

На імгненне дзядок збянтэжыўся. Ён пацёр вочы і зноў агледзеў мяне з ног да макаўкі. Не, ён не памыліўся. Прынамсі звонку я выглядаў на асобу з гэтага свету.

— Дык ты нетутэйшы? Ты тут не жывеш?

— Не жыву. Бо калі б жыў, то вас, дзядуля, тут не жыло б.

— А, ну, супакоіў старога... — прамовіў ён. — Гайда глядзець склепікі, саркафагікі, дамавіначкі й эпітафійкі!

— Дастаў, дзед! — адказаў я, ушчэнт раз'юшаны. — Я не хачу бачыць ніякіх магілак, прынамсі ў вашых мясцінах — то дакладна! На чорта?! У мяне ёсць свае магілы, магілы маёй сям'і. Ды мой дзядзька Поджэр мае такую магілу на кладах Кенсал-Грын! Гэта гонар усёй акругі! Або склеп майго дзядулі ў Баў, які з радасцю прыме ў свае казематы ажно восем наведнікаў. А мая стрыечная бабка Сюзанна мае цагляную магілу ў Фінчлі — з разьбяным барэльефам на надмагіллі, які абрысамі нагадвае імбрычак для кавы, аздоблены белай мармуровай рамкай таўшчынёй дваццаць сантыметраў. Адна рамка каштавала купу грошай! Калі мне захочацца магілачак ды склепікаў, я пайду адводзіць душу туды. А чужыя косткі заграбайце без мяне. Ну, хіба толькі калі загуляеце на вяроўках вы сам, дык я яшчэ прыеду зірнуць на вашу магілу. Вось і ўсё, што я магу для вас зрабіць.

Дзядок заплакаў. Ён дадаў, што на адной магілцы ёсць абломкі камення, якія, так кажуць, з'яўляюцца, цалкам верагодна, парэшткамі статуі мужчыны. А яшчэ ёсць магіла, на якой выбітыя словы, якіх ніхто пакуль не змог расшыфраваць.

Але я быў няўмольны, і ён сумна-пакрыўджаным голасам запытаў:

— А можа, хочаш убачыць мемарыяльную шыльдачку?

Я адмовіўся і ад шыльдачкі, і тады ён выцягнуў свой апошні козыр. Ён наблізіўся і прашаптаў:

— У мяне там, у склепіку, ёсць два сапраўдныя чарапочкі! Хадзем!.. Напрамілы Бог, хопіць капрызіцца,

хадзем ужо зірнем на чарапочкі! Юнача, ты ж прыехаў адпачываць, так? Дык падымі сабе настрой! Хлопча, хадзем, паглядзім чарапы!

Я павярнуўся на сто восемдзесят градусаў і даў дзёру. Уцякаючы, я чуў за спінай, як ён гукае:

— Вярніся, паглядзіш на чарапы! Сюды, тут чарапо-о-очкі!!!

І вось, калі ласка, Гарыс — яшчэ адзін аматар магілак, саркафагікаў ды эпітафіек на помнічках. Думка, што ён не ўбачыць магілы спадарыні Томас, даводзіць яго да шаленства! Гарыс дадаў, што марыў зірнуць на магілу спадарыні Томас з першага імгнення, калі я толькі прапанаваў адпачынак на Тэмзе. Увогуле, кажа Гарыс, ён бы не паехаў у гэтую вандроўку са мной і Джорджам, калі б ведаў, што яму не выпадзе ўбачыць магілы.

Я нагадаў яму, што а пятай мы мусім даплыць да Шэпертана, дзе нас будзе чакаць Джордж. Тады Гарыс пераключыўся на Джорджа, маўляў, якое трасцы мы павінны кружляць ды віхляць па рацэ, толькі каб падаць човен да трапа роўна а пятай вечара?! Чаму Джордж і пальцам не паківаў, каб дапамагчы нам? Чаму не ўзяў напракат і сам не спакаваў гэтую плывучую гаргару? Чаму б яму было не ўзяць выходны ў сваім банку і самому не спусціцца з намі па рацэ адразу? Хай іх няхай, гэтыя банкі! Якога д’ябла Джордж праседжвае ў іх порткі?!

— Я ніводнага разу не бачыў, каб ён нешта ў тым банку рабіў! — гарачыўся Гарыс. — Як ні зайду, сядзіць поседам за тоўстай шыбай. Удае, нібы працуе. Якая

карысць ад чалавека, які дурэе за тоўстай шыбай? Вось я, напрыклад, для пражытку мушу працаваць. Дык няхай і ён папрацуе! Якая карысць ад яго праседжванняў?!. Якая карысць увогуле ад гэтых банкаў? Яны прысабечваюць твае грошы, і калі ты працягваеш у акенца чэк, яны вяртаюць яго са словамі: "Няма пакрыцця" ці "Звярніцеся да начальніка філіяла". На чорта нам такая праца?! За мінулы тыдзень я двойчы сутыкаўся з гэтымі іхнімі выбрыкамі.

— Абрыдла! — працягваў крычаць Гарыс. — Усё, закрываю да ліхаматары свой фунтавы дэпазіт! Калі б Джордж ужо ехаў з намі, мы б маглі спакойна схадзіць і паглядзець магілу. Не ўпэўнены, што ён увогуле ў тым банку. Вечна ён недзе шлындаецца, спіхваючы ўсю працу на нас. Усё, я сыходжу — пайду прамачу горла ў шынку.

Я нагадаў Гарысу, што да найбліжэйшага бара яшчэ плысці й плысці. І тады ён адчыхвосціў таксама рэчку, бо "якая карысць ад матухны-Тэмзы, калі просты ангельскі народ памірае на яе абсягах ад смагі?"

Найлепшае ў такіх выпадках — пакінуць Гарыса сам-насам з яго праклёнамі. Ён спагоніць злосць ды супакоіцца. Але я нагадаў яму, што ў сакваяжы ляжыць ліманадны парашок, а слоік пітной вады на носе чоўна, і абодва складнікі толькі чакаюць, каб Гарыс злучыў іх у прахалодны й асвяжальны напой.

І тут Гарыс прайшоўся па ліманадзе, які ёсць нічым іншым, як "памыямі з багадзельні". Дарэчы, гэтаксама ён мянуе садавіновае піва, малінавы сіроп і да таго па-

добную бурду. Гарыс трымаецца думкі, што ўсе яны спараджаюць нестрававанне, нішчаць цела і душу, а таксама спрычыняюцца да паловы злачынстваў у Брытаніі.

Гарыс дадаў, што хай там што, але ён мусіць нешта выпіць. Ён злез са свайго месца ды нахіліўся, каб узяць пляшку. Тая якраз ляжала на дне каша, яе было цяжка дастаць. Ён мусіў нахіляцца ўсё ніжэй і ніжэй, адначасова намагаючыся кіраваць чоўнам. Маючы перакручаны дагары нагамі пункт агляду, ён узяў няслушны курс — і мы ўбіліся ў бераг, і ён згубіў раўнавагу і даў нырца ў кош, стаўшы на галаву ды ўчапіўшыся ў барты чоўна так адчайна, як за людзей чапляецца Кашчавая. Ногі ўзляцелі ўгару. Ад страху заваліцца за борт Гарыс намагаўся не рухацца. І балансаваў гэтак, пакуль я не схапіў ягоных ног ды не стаў выцягваць яго з каша, але гэты мой вызвольны рух раз'юшыў Гарыса яшчэ больш.

# *Раздзел VIII*



*Шантаж. — Як правільна займацца вымагальніцтвам. — Гнюсны эгаізм уласнікаў зямлі. — Нехрысціянскія пачуцці Гарыса. — Гарыс спявае камічныя куплеты. — Вечарынка вяршкоў грамадства. — Ганебнае ашуканства двух студэнтаў. — Трохі бескарыснай інфармацыі. — Джордж купляе банджа.*

М*ы прысталі да лугоў* ля Кэмптан-Парку і з'елі другі сняданак. Тут цудоўны куток: утравелая раўніна, што спускаецца да самага берага, на якім хіляцца да вады ніцыя вербы. Толькі мы приступіліся да дэсерту — хлеб з сочывам, — як да нас падышоў нейкі ягамосць у саколцы, з кароткай люлькай у зубах. Ягамосць стаў дапытвацца, ці мы ў курсе, што парушаем межы прыватнай маёмасці. Мы адказалі, што яшчэ не заглыбіліся ў гэтае пытанне дастаткова, каб прыйсці да адназначных высноваў, але ж калі ягамосць

дасць слова джэнтльмена, што мы ўсё ж іх парушаем, дык мы без найменшых ваганняў дамо яму веры.

Ягамосць горача запэўніў нас, што так, парушаем. Мы яму падзякавалі. Аднак ён па-ранейшаму назаляў нам сваёй прысутнасцю. Прычым выглядаў настолькі незадаволеным, што мы запыталіся, ці можам нешта зрабіць для яго, а Гарыс, сэрца на далоні, нават прапанаваў ягамосці хлеба з сочывам.

Напэўна, ягамосць належаў да нейкай таемнай секты, якая сувора забараняе сваім чальцам спажываць хлеб з сочывам, бо ён тут жа адмовіўся — гэткім тонам, быццам нашая прапанова адначасова спакушала і катавала яго. І дадаў, што ягоны абавязак — нас выгнаць.

Гарыс сказаў, што калі ўжо такі абавязак, дык няхай ягамосць абавязкова яго выконвае. І нават пацікавіўся, ці ёсць у ягамосця адпаведная стратэгія, каб выканаць свой абавязак найлепшым чынам.

А Гарыс, скажу я вам, — мажны дзяцюк. І таму прыблудны ягамосць, змераўшы Гарыса позіркам ад ног да макаўкі, сказаў, што лепей пойдзе параіцца з гаспадаром, а потым вернецца ды абавязкова шпурне нас абодвух у раку.

Вядома ж, больш мы яго не бачылі, і вядома ж, усё, чаго ён прагнуў, — гэта залатая манета. Рэч у тым, што ўлетку на пэўных адрэзках ракі можна зарабіць не абы-які капіталец, шантажуючы слабавольных адпачывальнікаў наступным чынам: прайдзісвет прыходзіць і прадстаўляецца пасланцом уладальніка зямлі.

У такіх выпадках прапаную шаноўнай грамадзе назваць пасланцу вашае імя і адрас, і калі гэта сапраўдны

пасланец і ўласнік зямлі напраўду мае нешта ў дачыненні да вас, то хай яны ўвіхаюцца і даводзяць праз афіцыйныя органы, якую шкоду вы ўчынілі той зямлі сваім на ёй сядзеннем. Але ж большасць людзей нагэтулькі лянотная і недасведчаная, што хутчэй упакорыцца ды адшпіліць адступныя, чым пакладзе канец гэтаму сваволлю і дасць належны адпор.

Увогуле эгаізм уласнікаў зямлі ўражвае. Калі б іхняя воля, дык яны даўно ўжо перакрылі Тэмзу ўпоперак. Яны ўжо гэта зрабілі сям-там: на некаторых ручаях і прытоках.

Уладальнікі земляных участкаў утыкаюць тычкі на поймах рэк, працягваюць ланцугі ад берага да берага ды прыбіваюць на кожным дрэве вялізныя шыльды з папярэджаннямі й пагрозамі. Выгляд гэтых шыльдаў абуджае ў маім сэрцы ўсе благія інстынкты. Мне хочацца паздзіраць іх да ліхаматары, а пасля папрыбіваць да лабацін тых людзей, якія іх там павесілі. І гэтак да пераможнага канца, пакуль я ўсіх іх не закапаю ў зямельку ды пастаўлю іхнія папераджальныя шыльды ў якасці надмагілляў.

Я падзяліўся сваімі пачуццямі з Гарысам, і ён сказаў, што паводзіны землеўласнікаў злуюць яго значна больш, чым мяне. Ён дадаў, што яму адразу хочацца не толькі прыстукнуць таго чалавека, што павесіў шыльду, але ж таксама ўтрупяніць усё ягонае сямейства, уходаць усіх ягоных сяброў, а потым спагнаць злосць на сваяках ды наастачу спапяліць усе іхнія хаты.

Мне падалося, што Гарыс трохі перабольшвае. Але той сказаў:

— Нічога я не перабольшваю! Я пазакопваю іх усіх, паспальваю іхнія хаты і пайду сабе спяваць камічныя куплеты на папялішчы.

Слухаць Гарыса, які апавядае, што пойдзе па крывавым шляху забойцы, было нясцерпна. Мы не мусім дазваляць нашай празе справядлівасці скочвацца да банальнай помсты. Я доўга пераконваў Гарыса, каб ён трымаўся больш хрысціянскай перспектывы. Урэшце Гарыса ўдалося ўмовіць. Ён прысягнуў, што не будзе ўмешваць у гэтую справу сяброў і сваякоў. А таксама адмовіцца ад камічных куплетаў на папялішчах.

Калі вы ніколі не чулі, як Гарыс спявае камічныя куплеты, дык ніколі не зразумееце, якую вялікую ласку я зрабіў чалавецтву.

Гарыс мае ідэю-фікс: яму, вялікаму выканаўцу камічных куплетаў, трэба спяваць іх паўсюль і заўжды. Цікава, што ўсе яго сябры, якія ўжо чулі, як Гарыс выконвае камічныя куплеты, маюць іншую ідэю-фікс — забараніць Гарысу спяваць камічныя куплеты. Яны ўпэўненыя, што яму ні ў якім разе, ніколі і ні пры якіх умовах не варта даваць ні найменшай магчымасці іх выканаць.

Калі Гарыс прыходзіць на прыём і яго просяць заспяваць, то спачатку ён удае, быццам вагаецца:

— Ну, вы ведаеце, я ўмею спяваць толькі камічныя куплеты...

Затое з самога тону, якім ён гэта прамаўляе, вынікае, быццам спявае ён іх настолькі добра, што чалавеку

абавязкова варта паслухаць, і толькі пасля ўжо спакойна класціся ды паміраць.

— Ах, чароўна, чароўна! — узрушваецца гаспадыня. — Спадар Гарыс, просім!

Гарыс падымаецца ды ідзе да піяніна, а яго твар аквечаны прасветлай усмешкай дабрадзея.

— Шаноўная грамада, цішэй! — гукае гаспадыня на ўсе бакі. — Спадар Гарыс зараз будзе спяваць камічныя куплеты!

— Ой, як цікава! — мармычуць госці. І спяшаюцца з аранжарэі, падымаюцца па сходах, збягаюцца, збіраючы людзей з усяго дома.

Усе гуртуюцца ў гасцёўні. Сядаюць наўкола, усміхаючыся ў прадчуванні канцэрта. І Гарыс пачынае.

Натуральна, моцных вакальных дадзеных пры спяванні камічных куплетаў чакаць не даводзіцца. Вы не маеце ілюзій, што будзе добрая фразіроўка ды вакальная тэхніка. Вам не абыходзіць, калі, узяўшы надта высокую ноту, выканаўца рэзка й нечакана з'язджае ўніз. Вам пляваць на рытм. Вас не турбуе, што выканаўца забег паперад акампанементу на два радкі й спрачаецца на гэты конт пасярод радка з піяністам, а потым пачынае куплет наноў. Але вы прынамсі спадзяецеся, што выканаўца ведае словы.

Вы ніяк не чакаеце, што выканаўца памятае толькі тры радкі першага куплета, а потым будзе паўтараць іх, пакуль не настае час спяваць прыпеў. Вы таксама не чакаеце, што куплетыст раптоўна спыніцца пасярод радка,

хіхікне й скажа: “А зараз будзе смешна!” — але сам — от хоць ты што! — не ўзгадае ніводнага слова з наступнага радка. Потым паспрабуе нешта мармытаць сабе пад нос. Урэшце ён такі ўспомніць, але гэта будзе ўжо зусім іншая частка песні. Потым зноў спыніцца і без ніякага папярэджання прымусіць слухаць усю песню спачатку. Вы не чакаеце...

...Зрэшты, лепш я падам запіс таго, як Гарыс спявае свае камічныя куплеты, каб вы самі маглі ўсё пачуць і ацаніць.

ГАРЫС (*стоячы перад піяніна і звяртаючыся да наперад усцешанай публікі*). Баюся, гэта надта старая песня... Падазраю, вы ўсе яе ведаеце. Але я ведаю толькі яе. Такім чынам, шаноўнае спадарства, “Песенька Суддзі” з “Пінафоры”... Не, не з “Пінафоры”... у сэнсе... ну, вы самі ўсё разумееце... з іншай камічнай оперы... Прыпеў заспяваем разам.

(*Сярод публікі прабягае шэпт у прадчуванні асалоды, а таксама ад страху, што давядзецца далучыцца ў прыпеве. Неўратычны піяніст выдатна выконвае прэлюдыю да “Песенькі Суддзі” з “Суда прысяжных”. Настае час далучыцца Гарысу. Гарыс не далучаецца. Неўратычны піяніст грае ўступ яшчэ раз. Гарыс, які пачаў спяваць адначасова з пачаткам уступу, выдае першыя два радкі “Арыі лорда Адміралцейства” з “Пінафоры”. Неўратычны піяніст намагаецца хуценька праскочыць прэлюдыю, але ў яго не атрымліваецца. Ён следуе за Гарысам, граючы “Песеньку Суддзі” з аперэты “Суд прысяжных”,*

*аднак рады не дае. І спрабуе ўспомніць, што ён робіць і дзе знаходзіцца. Урэшце, адчуўшы запамароку, спыняецца.*)

ГАРЫС (*з ноткамі спагады ў голасе*). Нармальна, нармальна! Малайчына, вы добра трымаецеся — працягвайце!

НЕЎРАТЫЧНЫ ПІЯНІСТ. Баюся, тут памылка. А што вы спяваеце?

ГАРЫС (*жвавенька*). “Песеньку Суддзі” з “Суда прысяжных”. А што вы граеце?

СЯБАР ГАРЫСА (*з задняга шэрага*). Не, тупалобіна! Ты пяеш “Арыю лорда Адміралцейства” з “Пінафоры”.

(*Доўгая спрэчка паміж Гарысам і Гарысавым сябрам пра тое, што ж насамрэч спявае Гарыс. Сябра ўрэшце пагаджаецца, што яму ўсё роўна, якую песню выконвае Гарыс, абы ўжо заспяваў, і Гарыс з выразам несправядліва нанесенай яму крыўды на твары просіць піяніста пачаць спачатку. Піяніст, у сваю чаргу, пачынае прэлюдыю да “Арыі лорда Адміралцейства”, але Гарыс, палічыўшы гэта шыкоўным уступам, пачынае.*)

ГАРЫС. *Калі хадзіў я ў адвакатах,*
*Сядзелі махляры па хатах.*

(*Усеагульны выбух смеху, які Гарыс прымае за ўхваленне. Піяніст, згадаўшы пра жонку й дзяцей, адмаўляецца ад няроўнай бітвы й выходзіць у сад. Яго месца займае новы піяніст, з таўсцейшай скурай.*)

НОВЫ ПІЯНІСТ (*натхнёна*). Ну, чалавеча, пачынай, а я падхаплю. Не будзем пераймацца ўсякімі прэлюдыямі.

ГАРЫС (*да якога пакрысе дайшло тлумачэнне сябра, смеючыся*). Святыя ўгоднікі! Прабачаюся. Госпадзе, ну канешне, я пераблытаў дзве песні. Гэта ўсё Джэнкінс збівае нас усіх з ладу... Пачынайма!

ГАРЫС (*спявае, ягоны голас, здаецца, даносіцца з сутарэння і гучыць як першыя прыкметы землятрусу*). *Калі я ў канторы кур'ерам служыў...* (*у бок піяніста*): Надта нізка, чалавеча, надта нізка! Давай пачнем спачатку, калі ты не супраць.

(*Гарыс спявае першы радок зноў, гэтым разам — фальцэтам. Публіка моцна ўражаная. Псіхічна няўстойлівая кабета ля каміна пачынае плакаць. Яе даводзіцца вывесці ў сад.*)

ГАРЫС (*працягваючы*). "Я спраўна ў кантору... пасылкі насіў"... Мм... "Пакункі насіў"?.. Не-не! "Паперы насіў"? Што ж там? "Графіны насіў"? Не! Во: "Я спраўна ў канторы манокль насіў"! Прабачце, далей будзе смешна... Не магу спяваць! І я... і я... Ой, ну хопіць!... Давайце ўрэшце пяройдзем да прыпеву (*спявае*):

*І я... кагось там-там... вяду ў паход...*
*За мной ідзе ўвесь Каралеўскі Флот...*

Як вы ведаеце, два апошнія радкі прыпеву трэба паўтарыць усім разам.

ХОР ГАСЦЕЙ: *І ён... кагось там-там... вядзе ў паход...*
*За ім ідзе ўвесь Каралеўскі Флот...*

Гарыс ніколі не адчувае, якой доўбняй ён сябе выстаўляе перад іншымі і як псуе настрой людзям, якія ні ў чым

перад ім не вінаватыя. Не, ён шчыра перакананы, што забаўляе іх. І ў дадатак абяцае, што заспявае новую серыю камічных куплетаў пасля вячэры.

Што да прыёмаў ды камічных куплетаў, дык мне прыгадаўся яшчэ адзін варты аповеду інцыдэнт, у якім я быў колісь замяшаны і які пралівае святло на глыбінныя механізмы чалавечай прыроды ў цэлым.

Аднойчы ў нас ладзілася элегантная і выкшталцоная вечарынка. Мы апранулі нашы найлепшыя строі. Гутарылі далікатна і разважна. Любаваліся сабой як маглі. Усе, за выключэннем двух маладзёнаў, студэнтаў, якія нядаўна вярнуліся з Нямеччыны. Звычайныя хлопцы, што пачуваліся ў нашым асяроддзі трохі няёмка. Праўда палягала ў тым, што яны нам былі не роўня. Нашы дасціпныя размовы й вытанчаны густ значна пераўзыходзілі іхні інтэлектуальны ўзровень. Тут яны былі не ў сваёй талерцы. Усе моўчкі пагаджаліся, што ім не варта было сюды прыходзіць.

Мы гралі фрагменты з сярэднявечных саксонцаў. Абмяркоўвалі філасофію ды этыку. Мы фліртавалі стрымана й зухавата. Сыпалі досціпамі — вядома ж, на вышуканы, шляхетны манер.

Пасля вячэры нехта працытаваў французскі верш, і ўсе ўхвальна загаманілі. Потым адна дама праспявала сентыментальную баладу па-іспанску, і адзін ці двое гасцей пусцілі слязу — нагэтулькі яна прагучала пранікнёна і ўзнёсла.

Пасля балады двое студэнтаў падняліся й запыталі, ці чулі мы што пра гера Шлосэна-Бошэна. Ён кагадзе

прыехаў і цяпер сядзіць у ядальні на першым паверсе. Маўляў, ён шыкоўна спявае свае знакамітыя камічныя куплеты па-нямецку.

Ніхто з нас нічога не чуў пра гэтага спадара.

Тады студэнты горача запэўнілі нас, што гэта будуць гамерычна смешныя куплеты. І калі мы выявім жаданне, дык яны могуць спусціцца да гера Шлосэна-Бошэна — яны добрыя знаёмыя — і папрасіць яго іх нам заспяваць. Хлопцы сказалі, яго куплеты настолькі смешныя, што калі гер Шлосэн-Бошэн спяваў іх нямецкаму кайзеру, дык яго (вядома ж, кайзера) давялося пакласці на ложак.

Яны дадалі, што ніхто не можа спяваць так, як гер Шлосэн-Бошэн. Падчас спеваў ён захоўвае гранічную сур'ёзнасць. То-бок вам можа падацца, што ён спявае трагічныя балады, і менавіта гэтае ўражанне безумоўна зробіць увесь нумар яшчэ весялейшым. Ні з тону гера Шлосэна-Бошэна, — дадалі маладзёны, — ні з ягонай манеры выканання нельга зрабіць выснову, што ён спявае нешта іранічнае. Гэта сапсуе ўсю справу. Менавіта ягоны вельмі сур'ёзны, амаль патэтычны выгляд стварае жаданы камічны эфект.

Мы ўсе адказалі, што проста прагнем паслухаць шаноўнага гера і хочам пасмяяцца як след. Маладзёны спусціліся на першы паверх і прывялі гера Шлосэна-Бошэна да нас.

Ён, здавалася, ахвотна пагадзіўся, бо адразу ж і ўсеўся за піяніна без лішніх словаў.

— О, вы пазабавіцеся! Вы парвяце бакі ад смеху, — прашапталі два маладзёны, мінаючы пакой, і занялі незаўважную пазіцыю па-за спінай выканаўцы.

Гер Шлосэн-Бошэн акампанаваў сам сабе. Па шчырасці, уступ не абяцаў набліжэння камічнага куплету. Ліліся дзівосныя, не пазбаўленыя гатычнай панурасці, пераборы. Па нашых спінах прабеглі мурашы. Але мы шэптам супакоілі адно аднаго — гэта такі нямецкі хітрык. І сталі з нецярпеннем чакаць спеваў.

Па-нямецку я не разумею. Я вучыў гэтую мову ў школе, але два гады па школе забыў усё да апошняга слова (і з таго моманту пачуваюся значна лепш). Аднак у той вечар мне не хацелася, каб госці палічылі мяне невукам. І тады я прыўлашчыў тактыку, якая падалася мне ўдалай. Я сачыў за двума студэнтамі і рэагаваў гэтаксама, як яны. Калі студэнты хіхікалі, я хіхікаў таксама. Калі яны рагаталі, я таксама рагатаў. Я раз-пораз пырскаў са смеху так, нібыта гэта я заўважыў нейкі жарцік, які ўцёк з-пад увагі іншых. Я падумаў, гэта ўдалы хітрык.

Слухаючы песню, я заўважыў, што шмат іншых гасцей таксама сачылі за двума студэнтамі. Госці хіхікалі, калі хіхікалі студэнты. Усе рагаталі, калі рагаталі студэнты. Я сам пырскаў са смеху раз-пораз. І пакуль доўжыліся ўсе гэтыя хіхіканні, рагатанні і выбухі раптоўнага смеху, усё ішло спраўным парадкам.

Аднак сам нямецкі выканаўца не цешыўся. Спярша, калі мы засмяяліся ўпершыню, яго твар выразіў немалое здзіўленне. Так, нібыта смех быў самай апошняй эмо-

цыяй, якую ён чакаў пачуць на свой спеў. Мы палічылі гэты трук вельмі дасціпным. Нам падалося, што гэтая яго шчырая сур'ёзнасць ёсць важнай часткай праграмы. Найменшы намёк, што яму самому смешна, мог зруйнаваць увесь нумар. Калі мы працягнулі рагатаць, дык яго здзіўленне саступіла месца раз'юшанасці і абурэнню, і ён абводзіў усіх прысутных лютым позіркам (за выключэннем двух студэнтаў, якія стаялі ў яго за спінай і заставаліся па-за вокам). Ад гэтага ў нас пачаліся канвульсіі. Мы зняможана перасміхнуліся. Нават словаў хапіла б, каб загнаць нас у гістэрыку, а тут яшчэ выканаўца дадаў сур'ёзнасці — і ото ж маеш, аж занадта!

На апошніх фразах гер Шлосэн-Бошэн пераўзышоў самога сябе. Ён кінуў у залю позірк, у якім было сканцэнтравана столькі лютасці, што, калі б нас не папярэдзілі, мы маглі б і абразіцца. Ён дадаў у свой лямант пякельнай агоніі. Калі б мы не ведалі, што гэта смешная песенька, дык заплакалі б наўзрыдзь.

Ён скончыў сярод усеагульнага рогату. Мы загукалі, што гэта быў найсмяшнейшы нумар, які мы толькі чулі ў сваім жыцці. І дадалі, што вельмі дзіўна, чуючы такое, згаджацца з пашыранай думкай, быццам немцы зусім не маюць пачуцця гумару. Потым мы спыталі выканаўцу, чаму ён не пераклаў песеньку на ангельскую. Каб простыя ангельцы маглі яе зразумець і пачуць яе ва ўсёй сваёй камічнай красе.

Тут гер Шлосэн-Бошэн падняўся і стаў пускаць перуны ва ўсе бакі. Ён аблаяў нас па-нямецку. А гэтая мова,

# Андрэй Хадановіч

## З нізкі "Вершы пра Акудовіча"

*

Я прыгожы і яшчэ не стары.
Гэта ведаюць усе камары.

*

О, колькі ёсць напояў, друг Гарацыа,
Якіх не асушыць меліярацыі!

*

Заснула ў спальніку сама,
Бо Акудовіча няма.

*

Плыў Акудовіч з мокрай барадой.
І дух святы насіўся над вадой.

## Два ў адным

(сумесна з Сяргеем Прылуцкім)

1

Спіць філасаф з камаром на лобе:
Дзве істоты – у адной асобе.

2

Спіць філасаф з камаром у роце:
Дзве асобы – у адной істоце.



мушу прызнаць, як ніякая іншая, прыдатная для такіх мэтаў. Ён скакаў, сціскаў кулакі. Заклікаў на дапамогу ўсе вядомыя яму ангельскія словы і словазлучэнні. Ён дадаў, што за ўсё жыццё ніхто так яго не абражаў.

Высветлілася, што песенька ўвогуле не была смешная. У ёй вялося пра маладзіцу, якая жыла ў гарах Гарца і якая ахвяравала жыццём, каб ўратаваць свайго каханка. Калі праз некаторы час каханак памёр, дык яны сустрэліся як бясплотныя духі. У апошняй страфе каханак ашукаў маладзіцу, здрадзіўшы ёй з іншым жаночым духам. Я не надта абазнаны ў падрабязнасцях, скажу толькі, што гэта бясконца тужлівая балада. Гер Шлосэн-Бошэн сказаў, што аднойчы ён спяваў яе перад нямецкім кайзерам, і той (вядома ж, кайзер) румзаў, як смаркаты інфант. Ён (вядома ж, гер Шлосэн-Бошэн) сказаў, што гэтая песня праславілася як адна з самых трагічных і маркотных песень у нямецкай культуры.

Для нас настаў цяжкі, вельмі цяжкі момант. Проста нявыкрутка. Мы азірнуліся ў пошуках двух студэнтаў, што заварылі гэтую кашу. Але ж пасля песні яны расталі, як цукар у кіпні.

Так падышла да канца тая шляхетная вечарынка. Я ніколі не бачыў, каб вечарынкі сканчаліся так бязгучна й раптоўна. Мы не зычылі дабранач адно аднаму. Мы спусціліся ўсім гуртом на першы паверх, асцярожна ступаючы ды адварочваючы твары. Шэптам папрасілі ў служкі нашыя капелюшы й палітоны. Самі сабе адчынілі дзверы ды выслізнулі вонкі. І хуценька прыпусцілі за рог дома, па магчымасці абмінаючы адно аднаго.

З таго часу я больш ніколі не цікавіўся спеўнай культурай Нямеччыны.

А палове на чацвёртую мы дасягнулі шлюза Санберы. Перад шлюзам краявід ладнее. Ад завадзяў — вачэй не адвесці. Аднак не старайцеся на гэтым адцінку веславаць супраць плыні.

Аднойчы я паспрабаваў. Я веславаў і спытаў хлопцаў, якія сядзелі за стырном, ці думаюць яны, што такое магчыма. Яны адказалі, што так, напэўна. Калі, вядома ж, я мацней налягу на вёслы. Мы былі пад малым пешаходным мастком, які быў перакінуты між дзвюма грэблямі, калі яны гэтак сказалі. І я выцягнуў рукі наперад, зачапіў вёсламі ваду — і пацягнуў.

Я налёг на вёслы як мае быць. Мае рукі, ногі ды спіна ўвайшлі ў рытм. Я хвостка веславаў і ўрэшце разышоўся на ўсю сілу-моц. Мае сябрукі сказалі, што назіраць за мной — адна асалода. Праз пяць хвілін я падумаў, што мы набліжаемся да грэблі, і азірнуўся. Мы былі пад мастком, дакладна ў тым самым месцы, дзе я пачаў, а гэтыя два доўбні дралі бакі ад рогату. Я мусіў выгінацца, як ангельскі цюцька, адно каб лодка заставалася пад мостам.

Таму сёння веславаць супраць моцнай плыні я пакінуў іншым.

Мы дайшлі да Ўолтана, досыць вялікага гарадка. Як гэта вядзецца з усімі гарадкамі на рацэ, толькі невялічкі яго кавалак выходзіць да вады. Ажно з чоўна здаецца, што гэта невялічкая вёсачка, агулам хатак на шэсць. Ўіндзар і Эбінгдан — адзіныя гарады паміж Лонданам

і Оксфардам, на якія вы можаце палюбавацца з ракі. Усе астатнія хаваюцца за рогам і цікуюць за рэчкай праз адну-адзіную вуліцу. Выказваю ўсім гэтым гарадкам падзяку за такую далікатнасць. За тое, што яны пакідаюць рачны бераг дрэвам, нівам і суднаходству.

Нават прамысловы Рэдынг, які ўсяляк намагаецца сапсаваць і спаскудзіць наваколле, з ракі выглядае дабрадушна. З гэтага ракурсу яму хапае велікадушнасці не праяўляць так свайго выродлівага аблічча.

Цэзар — ну а як жа без яго?! — вядома, адзначыўся і тут. Ці то стаяў паблізу лагерам, ці то збудаваў умацаванне. Ці то яшчэ што... Цэзар — заўзяты тэмзалюб. А таксама каралева Лізавета I, якая аблазіла раку ўздоўж і ўпоперак. Куды на мапе ні тыцні, нага каралевы там ужо ступала. Кромвель і Брэдшо (не наш сучаснік, аўтар шляхаводнікаў, а кашталян караля Карла I) таксама ўвіхаліся недзе паблізу.

Думаю, гэтая пачэсная кампанія магла б зладзіць разам шыкоўны пікнік.

У Ўолтанскай царкве захоўваецца выкаваны з металу "намордні мегеры". У нашай сівой даўніне гэтую катавальную прыладу ўжывалі, каб надзейна заткнуць надта гаваркіх. Цяпер такі спосаб уціхамірвання прыйшоў у заняпад. Думаю, жалеза падаражэла, а матэрыял, слабейшы за яго, ніяк не стрымлівае жаданне паразмаўляць.

У царкве таксама ёсць надмагіллі, і я баяўся, што Гарыс будзе блукаць сярод іх вечнасць. Але ён чамусьці абмінуў нябожчыкаў увагай, і мы працягнулі наш шлях.

Пад мостам шалёна віравала вада. Таму выглядала гэта вельмі маляўніча, але з практычнага гледзішча — адно раздражненне, бо віры спрычыняюцца да спрэчак між весляром і стырнавым.

Праваруч праплывае Оўтландскі парк — слынная мясціна здаўна-здавён. Генрых VIII Сіняя Барада канфіскаваў тутэйшы палац у нейкага свайго васала — я забыўся, у каго дакладна, — ды там пасяліўся. У парку ёсць грот, які можна пабачыць, заплаціўшы за ўваходны квіток. Той грот шмат каму падабаецца, але, на маю думку, ат, невялікае што. Апошняя герцагіня Ёркская, што жыла ў Оўтландзе, вельмі любіла сабак і трымала іх тут вялікую зграю. Для сабак яна зрабіла адмысловы магільнік, дзе ладзіла ім пахаванні. І вось тут яны цяпер ляжаць: сабак з пяцьдзясят, з надмагіллямі і эпітафіямі над кожным капцом. Ну, пэўна ж, жывёліны заслугоўваюць гэтага не менш, чым любы сярэднестатыстычны хрысціянін.

За Корвей Стэйкс, на першай лукавіне пасля Ўолтанскага моста, адбылася бітва Цэзара з брыцкім правадыром Касівелаўнам. Касівелаўн падрыхтаваў раку да прыходу Цэзара, загнаўшы палі ўпоперак ракі (і, без сумневу, павесіўшы папераджальную шыльду). Але Цэзар усё роўна перабраўся на другі бераг. Скулля ты выпудзіш Цэзара з Тэмзы! Такія людзі, як Цэзар, вельмі спатрэбіліся б нам цяпер — у нашых змаганнях з прагнымі землеўласнікамі.

Галіфорд і Шэпертан з вады выглядаюць харашмянымі вёсачкамі, але нічога адметнага пра ніводную

з іх сказаць нельга. На цвінтары ў Шэпертане — магіла з вершам на пліце. Я пераймаўся, ці не захоча Гарыс вылезці на праходку. Калі мы мыналі цвінтар, я бачыў, як той зіркаў прагным вокам. І тады я ўдаў нягеглы рух — як бы незнарок змахнуў яго кепку ў ваду. Цалкам захоплены ратаваннем кепкі ды вывяржэннем праклёнаў на адрас такога няўклюды, як я, Гарыс неяк выпусціў з галавы свае ўлюбёныя саркафагікі.

Каля Ўэйбрыджа рачулка Ўэн (малы ручай, па якім можна хадзіць невялікім чоўнам да Гілдфарда і які я калісьці хацеў даследаваць, ды так рукі й не дайшлі), ручай Борн, а таксама Басінгстоцкі канал зліваюцца ды ўпадаюць у Тэмзу. Грэбля каля самага гарадка, і першае, што мы ўбачылі, калі даплылі да парогаў, была фуфайка Джорджа ля брамных слупоў шлюза. Бліжэйшы агляд паказаў, што ўсярэдзіне фуфайкі перабываў сам Джордж.

Манмарансі захлынуўся ад брэху, я свіснуў, Гарыс загарлаў. Джордж памахаў капелюшом і крыкнуў нешта ў адказ. Наглядчык выскачыў з вартоўні, відаць, падумаўшы, што нехта ўваліўся ў ваду. І, здаецца, нават засмуціўся, дазнаўшыся, што ніхто не пацярпеў.

— Гэта што, патэльня? — запытаўся Гарыс.

— Гэта апошні піск моды, — адказаў Джордж з шалёным бляскам уваччу. — У вярхоўях ракі яно ёсць у кожнага. Гэта банджа.

— Не ведаў, што ты граеш на банджа! — выдыхнулі мы з Гарысам у адзін голас.

— Я таксама, — адказаў Джордж. — Але мне тут давялі, што гэта элементарна. І нават прадалі самавучыцель!

## *Раздзел IX*



*Знаёмцеся, ваша новая праца. — Развязнасць буксірных канатаў. — Як цяжка кіраваць ветразева-вяслярскай тройкай. — Усё прапала! — Каханне часам прыносіць карысць грамадству. — Дзіўнае знікненне адной цётачкі. — Спех людзям на смех. — Перавагі сітуацыі, калі жанчыны ўзялі вас на буксір. — Нябачны шлюз, або Рака з прывідамі. — Чароўная музыка. — Мы ўратаваныя!*

*Прымушалі мы Джорджа* працаваць — і ўрэшце прымусілі. Той, вядома ж, адбіваўся, як толькі мог, — ішла зацятая барацьба. Адбіваўся, бо, маўляў, перад адпачынкам у яго на працы ў Сіці было суцэльнае пекла.

На гэта Гарыс, чалавек з натуры нечуллівы і не схільны да спагады, адказаў:

— Зараз, дзеля разнастайнасці, у цябе будзе пекла на Тэмзе! Перамена пеклаў заўжды ідзе на карысць. Раздзявайся і работай!

Нават у такога нахабы, як Джордж, засталіся рэшткі сумлення. Ён зрабіў шчодрую прапанову. Ён застаецца ў чоўне і гатуе гарбату, пакуль мы з Гарысам вылазім і цягнем човен на буксіры. Маўляў, запарванне гарбаты — цяжкая, утомная праца, а мы з Гарысам выглядаем зморанымі. У адказ на прапанову мы выпхнулі Джорджа з чоўна і ўручылі яму буксірны канат.

З буксірнымі канатамі заўжды маеш прыгоды. Ты спакойна й паволі складваеш іх, нібыта новую пару штаноў. Але праз пяць хвілін ужытку яны ператвараюцца ў жахлівыя, зблытаныя ўшчэнт кудлы.

Нікога не хачу пакрыўдзіць, але я ўпэўнены, што калі вы возьмеце першы-лепшы буксірны канат і, разблытаўшы, выцягнеце яго на роўным месцы, а потым адвернецеся на якія паўхвілінкі, дык, павярнуўшыся назад, з жахам убачыце, што ён ужо збіўся ў купу, перакруціўся ды зблытаўся ў вузлы. Яго абодва канцы згубіліся ў невараці. А па ўсёй яго даўжыні напладзілася безліч петляў. Я гатовы пайсці ў заклад, што ў вас зойме хвілін сорак, каб яго разблытаць, сеўшы на траве і кленучы ўвесь белы свет.

Такая мая думка пра ўсе буксірныя канаты. Вядома ж, ёсць і прыемныя выключэнні. Не буду сцвярджаць, што іх няма зусім. Напэўна, у прыродзе сустракаюцца нейкія канаты, якія ратуюць гонар сваіх калег па вяровачным цэху. Сумленныя, прыстойныя канаты. Канаты, якія не маюць фантазіяў, што яны, маўляў, вязаны швэдрык. Канаты, якія не спрабуюць сплесціся ў ажурнае макрамэ адразу, як толькі іх пакінулі без увагі.

Паўтаруся, такія прыстойныя канаты могуць існаваць у прыродзе, прынамсі я дужа хачу ў гэта верыць. Аднак сустракаць іх мне не даводзілася.

Перад самым шлюзам я ўзяў буксірны канат на сябе. Легкадумнаму Гарысу я канат не даверыў. Я паволі зматаў канат у прыстойнае кола. Перавязаўшы яго ўсярэдзіне і склаўшы ў дзве столкі, я далікатна паклаў яго на днішча чоўна. Гарыс прафесійным рухам падняў канат з зямлі і ўрачыста перапаручыў місію Джорджу. Джордж, трымаючы канат на выцягнутых руках, стаў грэбліва разблытваць яго, усё роўна што пялюшкі немаўляці. Разблытаў метраў дзесяць-пятнаццаць, і цяпер канат больш нагадваў кепска звязаны кілімчык для выцірання ног.

Заўжды тая ж бяда. Чалавек на беразе, які спрабуе развязаць канат, перакананы, што ва ўсім вінаваты той, хто яго змотваў. А калі нехта валачэ човен супраць плыні, у яго што ў сэрцы, тое на языку:

— Ты што творыш, абалдуіна?! Ты чаго вяжаш з каната рыбную сетку?! Панакруціў тут вузлоў! Чаму нельга зматаць канат як след, палена ты дурное?! — раве ён раз-пораз, адчайна змагаючыся з канатам. І шпурляе яго на буксірную сцежку, і безупынку ўвіхаецца вакол яго, намагаючыся адшукаць канец.

З іншага боку, чалавек, які змотваў, думае, што віной усяму — дурашлёп, які спрабуе канат разблытаць.

— Да цябе канат быў добра згорнуты! — адгукаецца ён абурана. — Думай, калі за нешта бярэшся! Вечна робіш абы з рук! У цябе нават жалезная труба запляцецца ў вузел.

Яны лютуюць, ажно гатовыя павесіць адзін аднаго з дапамогай згаданага вышэй каната. Мінае хвілін дзесяць, і чалавек, які стаіць на беразе, выбухае кароткім енкам і відочна шалее. Пачынае таптаць і тузаць канат. Ухапіўшы першы-лепшы кавалак, валтузіць яго па зямлі. Натуральна, ад гэтых маніпуляцый канат заблытваецца яшчэ больш. Яго сябра выскоквае з чоўна на дапамогу. Яны сутыкаюцца. Абодва хапаюцца за адзін і той жа канец. Цягнуць яго ў процілеглыя бакі. Ды яшчэ абураюцца, што той зачапіўся. Урэшце выблытваюцца. Абарочваюцца. І маюць навіну: човен сплыў і кіруе напрасткі да дамбы з вадаспадам.

Бачыў я такі выпадак. Усё адбылося ля Бовені адным досыць ветраным ранкам. Мы сплаўляліся па рацэ. Падышоўшы да лукавіны, згледзелі двух мужчынаў на беразе. Яны абменьваліся збянтэжанымі зіркамі і выглядалі вартымі жалю. Паміж імі ляжаў буксірны канат. Было ясна, што сталася нейкая злыбяда. Мы запаволілі хаду і запыталі, што здарылася.

— Уцёк наш човен... — адказалі яны замучаным голасам. — Мы пайшлі разблытаць буксірны канат і толькі азірнуліся, а ён цю-цю!

Пры гэтым яны выглядалі пакрыўджанымі і безумоўна прыпісвалі гэты падступны і няўдзячны ўчынак самому чоўну.

Уцекача мы знайшлі за кіламетр уніз па рацэ. Засеў у чароце. Мы прыцягнулі човен назад. Магу пайсці ў заклад: наступнага дня гэтая парачка трымала човен на кароткай шворцы.

Ніколі не забуду карціну з тымі двума мужчынамі, якія соваюцца тут-сюд па беразе з буксірным канатам, шукаючы свой човен.

Заўжды на рацэ можна падгледзець шмат забаўных сцэнак, у якіх гвозд праграмы — буксірны канат. Адзін з самых распаўсюджаных выпадкаў: два буксірнікі ідуць сабе жвавенька адны. Занураныя ў захапляльную дыскусію, пакуль іх сябар у чоўне, метраў сто ззаду іх, адчайна гукае, патрабуючы спыніцца, ды роспачна сігналізуе вяслом. Нешта пайшло не так: ці то стырно захрасла ў муле, ці то лодачны гак выкуліўся за борт, ці то капялюш знесла, і вада хутка імчыць яго ўпрочкі.

Сябра просіць іх спыніцца, спярша лагодна і ветліва.

— Гэй! Можна на хвілінку спыніцца? — крычыць ён прыязна. — У мяне капялюш сплыў.

Потым ужо трохі менш пачціва:

— Гэй! Том, Джэк! Вы што, аглухлі?

Пасля:

— Каб з вас вяроўкі вязалі, прыпыленыя афэлкі! Гэй! Стоп, чортавы дзеці!

Урэшце яго перасмыквае, і ён пускаецца ў скокі. Ад крыку ягоны твар пунсавее. Ён кляне ўсё на свеце. А на беразе стаяць малыя падшыванцы ды кпяць з яго. Калі човен мінае паўз іх з хуткасцю сем кіламетраў на гадзіну, шпурляюць у яго каменнем. Аднак сябра не ў змозе вылезці з чоўна.

Большасці праблем можна пазбегнуць, калі тыя, з канатамі, будуць трымаць у галаве, што яны зараз заняты буксіраваннем, і раз-пораз азірацца, каб дазнацца,

як маецца іх таварыш. А лепей, каб цягнуў адзін чалавек. Калі цягнуць двое, дык яны захапляюцца размовай, тады як сам човен не надта й супрацiўляецца, а таму не можа нагадаць пра сваю прысутнасць.

Пазней, калі мы абмяркоўвалі за вячэрай гэтую праблему, Джордж расказаў нам забаўны выпадак у якасці прыкладу, як двое з канатамі могуць ушчэнт забыцца пра човен.

Джордж і трое іншых мужчынаў, пачаў ён, адным вечарам веславалі ў моцна загружаным чоўне ўверх ад Мэйдэнгэда. Трохі далей ад Кукгэмскага шлюза яны ўбачылі хлопца і дзяўчыну. Тыя ішлі па буксірнай сцежцы, захопленыя размовай. Паміж імі цягнуўся лодачны бусак, а да бусака быў прывязаны канат. Канат валачыўся за парачкай, а яго канец даў нырца ў ваду. І ніякага чоўна ні далёка, ні блізка. Адно было зразумела: калісьці нейкі човен быў далучаны да буксірнага каната, але што з ім сталася і які лёс напаткаў тых, хто знаходзіўся ў ім, было пакрыта таямніцай. Аднак якая б катастрофа там ні здарылася, яна яўна не патрывожыла маладых людзей, якія цягнулі човен. Яны мелі лодачны бусак, мелі канат — і больш ім нічога для шчасця было не трэба.

Джордж ужо збіраўся быў клікнуць іх, але ў той самы момант у яго галаве мільганула бліскучая ідэя, і ён устрымаўся. Ён схапіў бусак і дацягнуўся ім да канца буксірнага каната. Потым яны зрабілі пятлю на канцы каната і прычапілі яго да мачты свайго чоўна. Пасля дасталі з вады вёслы, выгодна паселі на карме і запалілі люлькі.

І маладая пара цягнула чатырох здаравезных бугаёў ды іх цяжэзны човен ажно да Марлоў.

Джордж кажа, што ніколі не бачыў такой глыбокай засмучанасці, сканцэнтраванай у адным позірку, якая была на тварах у той маладой пары, калі, дайшоўшы да шлюза, яны ўрэшце ўбачылі, што апошнія тры кіламетры цягнулі чужы човен. Джордж мяркуе, што толькі прысутнасць цудоўнай спадарожніцы ўстрымала маладога чалавека ад ужывання нецэнзурных выразаў.

Дзяўчына першая агойталася ад неспадзяванкі. Спляснуўшы рукамі, выгукнула:

— Аёй, Генры, а дзе ж тады цётачка?

Гарыс пацікавіўся, ці знайшлі яны потым сваю цётачку. Джордж не ведаў.

Іншае небяспечнае непаразуменне між буксіроўшчыкамі ды стырнавым бачылі мы з Джорджам ля Ўолтана. Там буксірная сцежка пакрысе спускаецца да вады. Мы атабарыліся на процілеглым беразе, таму бачылі збольшага ўсё развіццё падзеяў. Пакрысе перад нашымі вачыма праплыў маленькі човен, які на вялікай хуткасці цягнула здаравезная цяглавая кабыла, на спіне якой сядзеў шчуплы хлопчык. У чоўне расхамячыліся пяць сонных бамбізаў. А стырнавы дык увогуле дрых сном праведніка.

“От жа было б відовішча, калі б яны збочылі не на тую сцежку”, — прамармытаў Джордж, калі яны міналі паўз нас. У гэты далікатны момант стырнавы сапраўды павярнуў не туды і човен укляпаўся ў бераг, выдаўшы такі гук, нібыта парвалася сто тысяч ільняных прасцін. Двое бамбізаў, вялікі кош, трое вёслаў у вокамгненне пакінулі човен праз левы борт і апынуліся на беразе. Праз

якую хвілю двое іншых бамбізаў вываліліся праз правы борт і апынуліся сярод лодачных бусакоў, ветразяў, саквояжаў ды пляшак. Апошні катапультаваў на дваццаць метраў далей і прыназеміўся на ўласную галаву.

Выдае на тое, што яны мімаволі разгрузілі човен і ён прыпусціў яшчэ хутчэй. Хлопчык залямантаваў на ўсё горла і гэтым пусціў сваю кабылу наўгалоп. Бамбізы селі і ўперыліся адзін у аднаго. Сплыло некалькі хвілін, пакуль яны разабралі, што тут да чаго. А калі ўрэшце скемілі, дык загаласілі, каб хлопчык спыніўся. Аднак той быў надта заняты кіраваннем кабылы, каб пачуць іх. Мы назіралі, як яны прыпусцілі за чоўнам і неўзабаве згінулі з вачэй за паваротам ракі.

Не скажу, што мне іх шкада. Наадварот, я хацеў бы, каб усіх абалдуяў, чый човен цягнуць гэткім чынам (а такіх шмат), напаткала тая самая непрыемнасць. Акрамя рызыкі, якую яны прычынялі сабе, яны зрабіліся небяспекай і фактарам раздражнення для ўсіх іншых побач. Перасоўваючыся з такой хуткасцю, немагчыма саступіць дарогу іншым чоўнам або іншым чоўнам — саступіць дарогу ім. Іх канат абавязкова чапляецца за вашу мачту і перакульвае вас, або захоплівае кагосьці на борце і цягне яго ў ваду, ці шкодзіць камусьці твар. Найлепш не саступаць ім дарогу і быць гатовымі адагнаць іх вяслом.

З усіх гісторыяў пра буксіроўку найбольш уражваюць тыя, калі вас бяруць на буксір дзяўчаты. Гэта незабыўна, абавязкова трэба зведаць. Каб добра ўзяць на буксір, патрэбныя тры дзяўчыны. Дзве трымаюць канат, а трэцяя ўвіхаецца каля іх ды хіхікае.

Яны пачынаюць з таго, што звязваюць самі сябе разам. Канат абвіваецца ў іх вакол ног. Яны мусяць сесці на сцежку і пачаць развязваць адна адну, пасля чаго канат зацягваецца ў іх на шыях, ажно яны пачынаюць задыхацца. Урэшце дзяўчаты яго развязваюць. Яны вырушваюць, цягнучы човен на небяспечнай хуткасці. Праз сто метраў яны задыхаліся і знянацку спыняюцца. І як нічога ніякага садзяцца на траўцы і смяюцца. І перш чым вы скемілі, што да чаго, і схапілі вёслы, ваш човен апынуўся на сярэдзіне ракі і стаў упоперак. А дзяўчаты падымаюцца на ногі і шчыра здзіўляюцца.

— Ой, глядзі! — крычаць яны. — Яны выплылі на самую сярэдзіну!

Потым яны досыць рашуча цягнуць човен на сябе, але раптам адной прыходзіць да галавы падкасаць рукавы, і таму яны ўсе разам усё кідаюць і спыняюцца, а човен наскоквае на мель.

Вы ўзножваецеся, намагаецеся адштурхнуцца ды ўмольваеце іх не спыняцца.

— Не чуем! — крычаць яны ў адказ. — Што здарылася?

— Не спыняйцеся! — равяце вы.

— Не спы... што?

— Не спыняйцеся — цягніце, цягніце!

— Эмілі, ідзі глянь, што ім трэба, — кажа адна. Эмілі падыходзіць і пытаецца, што здарылася.

— Што трэба? — пытае яна. — Што здарылася?

— Нічога не здарылася, — адказваеце вы. — Усё нармальна, толькі цягніце, не спыняйцеся.

— Чаму?

— Таму што мы не можам кіраваць чоўнам, калі вы спыняецеся. Трэба даць імпульс.

— Даць ім? Каму ім?

— Ім-пульс даць — трэба, каб вы трымалі човен на хадзе.

— А-а, ясна! Я перадам. А мы правільна ўсё робім?

— Усё цудоўна, толькі не спыняйцеся!

— Нам няцяжка. Я думала, будзе цяжэй.

— Не, лёгка, лёгка! Проста ўвесь час цягніце патроху, і ўсё будзе добра.

— Ясна. Дастаньце мне мой чырвоны шаль, ён пад падушкай.

Вы знаходзіце шаль і працягваеце яго, тым часам падыходзіць другая і таксама просіць свой шаль. І яны таксама бяруць для Мэры, на ўсялякі выпадак, а Мэры ён не трэба, і таму яны прыносяць яго назад і просяць замест яго грабянец. Урэшце праз дваццаць хвілін яны ўсё-ткі рушылі, але на наступным павароце ўбачылі карову, і вам трэба пакінуць човен, каб адцягнуць жывёліну з дарогі.

Ніколі не знудзішся, калі цягнуць жанчыны.

Далей на далей, Джордж узяў канат і няспешна пацягнуў нас да Пентан-Гуцкай пярэспы. Там мы абмеркавалі пытанне стаянкі. Гэтай ноччу мы вырашылі спаць у чоўне: ці то спыніцца проста зараз, ці то за Стэйнзам-на-Тэмзе. Думаць пра начлег, пакуль сонца яшчэ не знікла, было, мусіць, зарана, і мы пастанавілі рушыць да Раніміда, пяць кіламетраў ніжэй, зацішнага куточка сярод лясоў, які будзе нам добрым прытулкам.

Аднак пасля нам усім захацелася спыніцца ля Пентан-Гуцкай пярэспы. Зранку ісці пяць ці сем кіламетраў супраць плыні — драбяза. Але напрыканцы доўгага і ўтомнага дня, дык цяжкавата. Падчас гэтых апошніх кіламетраў вам пляваць на навакольныя краявіды. Аціхае гамана, не чуваць смеху. Кожны кіламетр ідзе за два. Вы не верыце, што прайшлі ўсяго столькі і столькі. Вы перакананыя, што мапы брэшуць. Калі вы агорваеце адлеглась, якая вам здаецца дваццаццю кіламетрамі, а шлюза як не было, дык і няма, — вы пачынаеце падазраваць, што нехта папросту разабраў яго і цішком звёз у лес.

Аднойчы я з гэтымі шлюзамі страціў галаву (у пераносным сэнсе). Я выправіўся ў вандроўку з маладой дамай, стрыечнай сястрой па кудзелі. Мы сплаўляліся да Гронінга. Бралася на ноч, і мы баяліся не паспець да цямна — прынамсі сястра баялася. Была палова на сёмую, калі мы дапялі да Бенсанаўскага шлюза і пачаўся заход сонца, і тады сястра захвалявалася. Яна сказала, што павінна паспець да вячэры. Я адказаў ёй, што на гэтае мерапрыемства я і сам не супраць трапіць. І я разгарнуў мапу, якую захапіў з сабою, каб паглядзець, колькі нам яшчэ. Я ўбачыў, што засталося ўсяго пару кіламетраў да наступнага шлюза — Ўолінгфордскага, і сем — да Кліўскага.

— А-а, ды цярпіма! — супакоіўся я. — Мы пройдзем наступны шлюз да сёмай і потым застанецца толькі яшчэ адзін шлюз.

І я налёг на вёслы.

Мы мінулі мост, і неўзабаве я запытаў сястру, ці не бачыць яна шлюз. Яна адказала, што не, ніякага шлюза,

і я выгукнуў: “Аёй!” і працягваў веславаць. Праз пяць хвілін я спытаўся зноў.

— Не, — адказала яна. — Аніякага знаку.

— Ты ўпэўнена, што пазнаеш шлюз, калі ўбачыш яго? — нясмела, не жадаючы абразіць сястру, запытаў я.

Яе пытанне не абразіла, і яна прапанавала мне выглядаць шлюз самому. Я склаў вёслы і стаў узірацца ўдалечыню. Перад намі кіламетры два наперад у прыцемках рассцілалася рака, але шлюза — ані знаку.

— Мы ж не заблукалі, праўда? — запыталася мая спадарожніца.

Мне было няясна, як такое магчыма ў прынцыпе. Я высунуў дапушчэнне, што нас неяк занесла ў вадазліўны канал і цяпер нясе да дамбы з вадаспадам.

Гэтае дапушчэнне не прыпала ёй да душы, і яна кінулася ў слёзы. Яна казала, што мы абое патонем і гэта будзе ёй справядлівай карай за легкадумную згоду паехаць са мной.

Такая кара падалася мне перабольшанай, а сястры — не, бо цяпер яна хацела аднаго: каб усё хутчэй скончылася.

Я намагаўся пераканаць яе, што гэта не самы ўдалы варыянт, і паспрабаваў спусціць усё на тармазах. Я сказаў, што праблема, відаць, палягае ў тым, што я вяслую не так спрытна, як спадзяваўся, але, напэўна, неўзабаве мы даплывём да шлюза. Гэтак я працягнуў яшчэ пару кіламетраў.

Потым нервавацца пачаў я сам. І зноў зірнуў на мапу. На ёй быў ясна пазначаны Ўолінгфордскі шлюз, паўтраця кіламетра за Бэнсанскім. Гэта была добрая, надзейная

## Міхал Анемпадыстаў

# Аку-аку

Разам з Турам Хэердалам,
разам з Хэердалам Турам
Па марах і акіянах
Мы дрэйфуем, мы вандруем
І спяваем акустычна:
– Аку-аку,
Аку-аку.

А Кусто плыве пад намі
У сваёй падводнай лодцы.
З ім плывуць яго малойцы,
Навукоўцы-моразнаўцы,
І спяваюць акустычна:
– Аку-аку,
Аку-аку.

А акулы хочуць з'есці
Акуліста бартавога.
Не дамо таго, што хочуць –
Хай галоднымі здыхаюць.
Мы спяваем акустычна:
– Аку-аку,
Аку-аку.

А куды плывем-вандруем
Па марох і пад марамі,
Нам пакуль што невядома
Ды і ведаць нецікава.
П'ем мы каву і спяваем
акустычна:
– Аку-аку,
Аку-аку.



Аку-аку, Акудовіч
Праплываў у байдарцы побач
І праз хвілю быў за мілю,
А праз дзве наогул знік.
Ўсё плыве і ўсё знікае
Сонца дыск ля небакраю.
Дзень мінае, мы спяваем
Акустычна:
– Аку-аку,
Аку-аку.









мапа, і апрача таго, я выразна памятаў Ўолінгфоскі шлюз. Я праходзіў праз яго двойчы. Дзе мы цяпер? Што з намі здарылася? Я быў падумаў, што ўсё гэта сон, і я сапраўды заснуў у ложку, і праз хвіліну прачнуся, і мне скажуць, што ўжо бярэцца на дзясятую гадзіну.

Я запытаўся сястру, можа, гэта сон, а яна адказала, што збіралася задаць мне тое самае пытанне, і пасля нам абаім зрабілася цікава, калі мы абое спім, дык хто з нас той, каму сніцца сон, а хто — усяго толькі саснёны персанаж?

Я па-ранейшаму веславаў, а шлюза па-ранейшаму не было, і ў вечаровым святле Тэмза рабілася ўсё больш і больш змрочная і таямнічая, і рэчы наўкола падаваліся дзівоснымі й вусцішнымі. У галаву палезлі лесавікі і Плачкі, Балотныя Агеньчыкі і тыя распусныя вадзяніцы, якія сядзяць усю ноч на скале і завабліваюць падарожнікаў у віры, а таксама ўсялякая іншая набрыдзь. Я дужа пашкадаваў, што я не настолькі пабожны, каб ведаць малітвы... І раптам пасярод гэтых думак я пачуў благаславёныя словы застольнай песенькі "Здароў, здароў, уся шайка тут", якую, фальшывячы, нехта выцылінгваў на гармоніку. І я зразумеў, што мы ўратаваныя.

Зазвычай я не цярплю гармоніка. Але — Божа ж ты мой! — якімі прыгожымі падаліся зыкі гэтага інструмента нам тады! Значна, значна прыгажэйшымі за Арфееў спеў ці Апалонаву ліру... Ды за што заўгодна! Які-небудзь узнёслы харал у тым нашым прыгнечаным стане, пэўна, толькі даканаў бы нас. Бо ў дасканала выкананых, кранальных сугуччах мы павінны былі пачуць папярэджан-

не зверху і пакінуць усякую надзею. Але ў праставатай песеньцы, абы-як сыгранай на сіпатым гармоніку, было нешта неверагодна людскае і жыццесцвярджальнае.

Мілыя сэрцу гукі праплывалі побач. Неўзабаве з намі параўнаўся і сам човен з музыкамі.

У ім сядзела кампанія Арысаў і Енрыетаў (мясцовыя не напружваюцца, вымаўляючы ўсе гукі, асабліва "г"), якая вырушылі на шпацыр, бо як жа іначай, калі "свеціць месяц, свеціць ясны". (Ніякага месяца не было, але гэта ўжо зусім не іх віна.) Мабыць, я ніколі не бачыў больш прыемных і прыязных людзей за ўсё маё жыццё. Я павітаўся з імі ды папрасіў паказаць дарогу да Ўолінгфордскага шлюза. Я патлумачыў, што апошнія дзве гадзіны мы шукаем менавіта яго.

— Ўолінгфордскі?! — выгукнулі яны. — Каб вы былі здаровенькі! Яго вось ужо год як няма. Нямашака ніякага шлюза, чалавеча! Вы ўжо амаль дапялі да Кліўскага. Здурнець можна, Біл! Прыкінь, малец з дзеўкай шукаюць Ўолінгфордскі шлюз!

Во як. Мне захацелася кінуцца ім на шыю і, блаславўляючы, пераражагнаць. Аднак прыліву пачуццяў замінала надта хуткая плынь. І таму я задаволіўся звычайным стрыманым "дзякуй".

Мы з сястрой дзякавалі ім зноў і зноў, і казалі, якая гэта чароўная ноч, і зычылі ім прыемнай вандроўкі, і, мне здацца, я нават запрасіў іх пагасціць у Лондане тыдзень, а мая стрыечная сястра дадала, што яе маці будзе вельмі радая іх бачыць. Мы радасна зацягнулі хор салдатаў з "Фаўста" — і нават паспелі дамоў на вячэру.

## Раздзел X



*Стаянка, сэр! — Укручаныя брызентам. — Крыкі аб паратунку. — Утаймаванне наравістых чайнікаў. — Вячэра. — Хочаш стаць дабрадзейным, спытай мяне. — Найму ўтульны бязлюдны астравок, пажадана ў Паўднёвай Атлантыцы. — Кур'ёзны выпадак з бацькам Джорджа. — Бяссонне.*

Г*арыс і я падумалі ўжо,* што шлюз Бэл-Вір таксама разабралі. Джордж дацягнуў нас да Стэйнса, а потым за буксірны канат узяліся мы з Гарысам. Нам адразу ж падалося, што мы валачэм за сабой пяцьдзясят тонаў і ўжо агаралі кіламетраў семдзесят. Калі мы прайшлі шлюз, бралася на восьмую. Мы прайшлі яго, трымаючыся левага берага. Седзячы ў чоўне, шукалі прыдатную стаянку, дзе можна будзе зацягнуць яго на сушу.

Спярша мы мерыліся працягнуць да вострава Магна Карта і атабарыцца ў адной з маляўнічых бухтачак,

якую можна знайсці на гэтай вузенькай берагавой лініі. Цудоўны куточак на беразе Тэмзы. І каб па лагоднай зялёнай даліне гуляў вецер. Але неўзабаве нам ужо не хацелася ўсёй гэтай маляўнічасці, на якую мы нагледзеліся за дзень. Начлег між вугальнай баркай і газаперапрацоўчым заводам цалкам бы нас задаволіў. Маляўнічыя куткі нагналі аскоміны. Хацелася праглынуць вячэру і пакласціся спаць. Аднак мы дапялі да патрэбнага пункту (яго называюць "Далінай пікнікоў") і заплылі ў вельмі прыгожую затоку пад вязам, да пакручастага карэння якога мы й прывязалі човен.

Потым у праграме значылася вячэра (мы нават былі згодныя прапусціць чаяванне, каб ашчадзіць час), але Джордж сказаў рашучае "не". Маўляў, пакуль яшчэ светла і нам усё відно, трэба перш-наперш нацягнуць брызент. А потым, сказаў ён, калі зробім усю працу, сядзем і з лёгкай душою павячэраем.

Нацягванне брызенту забрала значна больш высілкаў, чым падавалася спярша. У тэорыі ўсё выглядала проста. Бярэш пяць жалезных, дугою выгнутых абручоў, якія нагадваюць браму для кракету, і ўсталёўваеш іх на бартах. Потым нацягваеш на абручы кавалак брызенту і прымацоўваеш яго ўнізе. Нам здавалася, што за дзесяць хвілін мы дамо рады.

Мы пераацанілі нашы магчымасці.

Мы схапілі абручы і сталі пхаць іх у адмысловыя гнёзды. Вам не перадаць, які небяспечны гэта занятак! Азіраючыся назад, я нават дзіўлюся, што ўсе мы засталіся жывыя і можам пра гэта сведчыць. Тое былі не

абручы, а нейкія чэрці! Па-першае, яны не ўлазілі ў свае гнёзды, і мы мусілі скакаць на іх, пхаць іх нагамі і забіваць бусаком. Калі ж мы іх загналі, высветлілася, што для кожнага гнязда мусіць быць свой адмысловы абруч, і давялося іх усе выцягваць.

Але абручы не вылазілі, пакуль за іх не схапіліся двое з нас і не пазмагаліся з імі добрыя пяць хвілін. Раз-пораз, раптоўна выскокваючы ды адкідваючы нас у ваду, абручы намагаліся нас патапіць. Кожны абруч меў гаплік пасярэдзіне, і калі мы не пільнавалі, дык злыдзень чапляўся ім за найбольш далікатныя часткі цела. Пакуль мы змагаліся з адной палоўкай абруча, схіляючы яго да выканання сваіх абавязкаў, дык другая палоўка здрадніцкім манерам падбіралася па дузе ззаду і пляжыла нас па галовах.

Урэшце мы іх прымацавалі. Цяпер заставаўся брызент. Джордж разгарнуў яго і прышпіліў адзін канец на носе чоўна. Гарыс стаяў пасярэдзіне, каб пераняць брызент ад Джорджа і перакінуць яго мне. Я ж чакаў на карме.

Да мяне брызент даходзіў доўга. Сваю працу Джордж зрабіў спрытна, але Гарыс быў навічок і таму даў пудла. Як ён прымудрыўся так напартачыць, я не ведаю — ды ён сам, бадай, не ў стане патлумачыць, — але нейкім таямнічым чынам пасля дзесяці хвілін звышчалавечых высілкаў у Гарыса атрымалася цалкам укруціцца ў брызент. Ён настолькі шчыльна і дасканала захінуўся, што сам выблытацца быў ужо не ў змозе. Вядома, як кожны англелец, Гарыс адчайна змагаўся за свабоду, і ў гэтай

справядлівай бітве за волю і долю (як я даведаўся ўжо потым) здабыў сцяг перамогі над Джорджам, збіўшы яго з ног. Тут ужо Джордж, кленучы Гарыса, пачаў ваявацъ з брызентам і неўзабаве таксама шчыльна ім абкруціўся ды надзейна захрас.

Я пакуль не ведаў пра ўсе гэтыя жарсці. Я сам быў не ў курсе, як належыць нахінаць паветку брызентам. Мне загадалі стаяць, дзе я стаяў, і чакаць, пакуль не перакінуць кавалак брызенту мне. Таму мы з Манмарансі, як добрыя дурні, стаялі і чакалі. Так, вядома, мы бачылі, што брызент шалёна соваецца й дыбіцца, але ж нам здавалася, што ўсё ідзе згодна з інструкцыяй па зборцы, і мы не ўмешваліся.

Мы таксама чулі, як з-пад брызентавых шатаў да нас нясуцца грозьбы і праклёны, але прыпісалі гэта цяжкім умовам працы нашых таварышаў, і таму зрабілі выснову, што лепш ужо трохі пачакаць і далучыцца да вытворчага працэсу, калі ўсё ўлагодзіцца.

Мы пачакалі, але выдавала на тое, што становішча ўсё больш і больш ускладнялася. Пакуль нарэшце з іхняга боку брызенту не вылузнула галава Джорджа й не загаварыла.

А сказала яна такое:

— Бадай табе рукі паадсыхалі, тупалобіна, чаго стаіш, як доўбня?! Ты, афэлак, не бачыш, што мы тут задыхаемся?!

Я ніколі не пакідаю па-за ўвагай мольбаў аб паратунку, таму хутка падбег і разблытаў іх. Ледзь паспеў, Гарысаў твар якраз пачарнеў.

Потым нас чакалі паўтары гадзіны катаржнай працы. Урэшце мы пачысцілі палубу і ўзяліся за гатаванне вячэры. На носе чоўна мы паставілі на агонь чайнік, каб згатаваць вады. Потым пайшлі на карму і сталі ўдаваць, нібыта па горла занятыя справамі й не звяртаем на чайнік ніякай увагі.

Не глядзець на чайнік — адзіны спосаб змусіць яго гатаваць ваду хутчэй. Калі ён заўважыць, што вы яго нецярпліва чакаеце, дык не закіпіць ні за што.

Трэба адсунуцца і прыняцца за вячэру так, нібыта гарбата вам без патрэбы. Не след нават азірацца. І тады вы пачуеце, як свісток аж разрываецца ад галашэння, просячы вас ператварыць кіпень у гарбату.

Калі вы аж смягнеце, добра размаўляць адно з адным на поўны голас, што гарбаты вам зусім не хочацца і што вы нават не збіраецеся яе рабіць. Вы падыходзіце да чайніка, каб ён змог пачуць вашы размовы, і выгукаеце:

— Я гарбаты піць не буду! Ты ж, Джордж, таксама не хочаш?

На што Джордж гарлае ў адказ:

— Не-а-а, дружа! Не люблю я гарбаты! Пап'ем лепш ліманадзіку! У мяне ад гарбаты пякотка.

У гэтым выпадку чайнік, грукочучы дншчам аб спіртоўку, кіпіць, як шалёны.

Гэты нявінны хітрык спрацаваў. Калі вячэра была прыгатаваная, кіпень ужо чакаў нас.

Запаліўшы ліхтар, мы адразу селі вячэраць, бо моцна агаладалі.

Пяць з паловай хвілін з чоўна не даносілася ні зыку, за выняткам бразгату нажоў і талерак ды раўнамернага шуму ад працы чатырох пар сківіц. А па прашэсці пяці з паловай хвілін Гарыс выдыхнуў: "У-ух!", дастаў з-пад сябе левую нагу ды памяняў яе на правую.

Яшчэ праз пяць хвілін Джордж таксама сказаў: "У-ух!" і адкінуў талерку на зямлю. Яшчэ праз тры хвіліны першыя прыкметы задаволенасці з моманту, калі мы вырушылі ў рачную вандроўку, выказаў Манмарансі. Ён паваліўся на бок і выпрастаў лапы. Тут ужо і я выгукнуў: "У-ух!" Адкінуўшы галаву назад, я выцяўся аб адзін з абручоў, але мне было ўсё роўна. Я нават не вылаяўся.

Як жа добра быць сытым! Як жа файна табе самому, і ўсё навокал таксама здаецца файным! Мудрыя людзі кажуць, што шчаслівым і задаволеным чалавека робіць чыстае сумленне. Але поўны страўнік спраўляецца з гэтым заданнем ніяк не горш — і, варта заўважыць, за меншую, даступную амаль кожнаму цану. Пасля грунтоўнага і добра ператраўленага абеду чалавек проста выпраменьвае дабрыню і шчодрасць. Які ж ён тады шляхетны і які сардэчны!

Неверагодна, як жа наш страўнік пануе над нашым глуздам! Пакуль страўнік не дазволіць, мы не ў стане ані працаваць, ані думаць. Ён дыктуе нашы пачуцці ды распаляе жарсці. Пасля яечні з беконам камандуе: "Давай працуй!" Пасля біфштэксу й моцнага піва кажа: "Давай спі!" Пасля шклянкі гарбаты (дзве лыжкі на шклянку і запарваць не больш за тры хвіліны) загадвае нам:

“А цяпер давай падыміся й пакажы, які ты моцны! Будзь красамоўны, глыбакадумны й пяшчотны. Асягні ясным розумам глыбіні Прыроды й Жыцця. Разгарні белыя крылы мыслення, лунай, які дух Божы па-над цемрай ды безданню. Ляці праз зіхоткія россыпы срэбных зорак аж да самай брамы неўміручасці!”

Пасля яшчэ цёплых кексаў страўнік кажа: “А цяпер давай дурней, як тупая жывёліна, рабіся бязглуздым быдлам з бессэнсоўным позіркам. Патушы ў сабе апошнія промні фантазіі, надзеі, пачцівасці, кахання, жыцця”.

Пасля ладнай дозы каньячку страўнік кажа:

— Ну, дурань, а зараз выскаляйся й гарэзнічай, каб з цябе смяяўся твой субутэльнік! Вярзі лухту й крычы ўсялякае абы-што. Рабіся паўдуркам, чые розум і воля патанулі, быццам кацяняткі, у плыткай калюжыне алкаголю!

Мы ўсяго толькі пакорлівыя, прыніжаныя рабы свайго страўніка! Не ўздымайце ж паўстанняў супраць цэлага свету! Лепей, сябры, пільнуйце свой страўнік! Насычайце яго ежай з асцярожнасцю ды памяркоўнасцю. І тады самохаць, без усякай прынукі ў вашым сэрцы паселяцца спакой і дабрадзейнасць. Вы зробіцеся сумленным грамадзянінам, верным мужам і ласкавым бацькам. Карацей, шляхетным і справядлівым чалавекам.

Перад вячэраю Гарыс, Джордж і я сварыліся, злаваліся і бурчэлі. Пасля вячэры сядзелі і адорвалі адзін аднаго (і нават Манмарансі) прамяністымі позіркамі. Мы любілі свайго блізкага, мы любілі ўсіх. Гарыс, уві-

хаючыся, выпадкова наступіў Джорджу на мазоль. Каб гэта здарылася да вячэры, дык Джордж бы з усім красамоўствам выказаў свае пажаданні што да далейшага незайздроснага лёсу Гарыса ў гэтым і ў замагільным свеце. Палымяныя пажаданні, ад якіх нязвыклага да праклёнаў чалавека можа перасмыкнуць. Але Джордж адно прамовіў:

— Асцярожна, чалавеча, гэта мой улюбёны мазоль...

І Гарыс, замест таго каб выказацца ў сваім фірмовым стылі, што звычайнаму чалавеку не абысці Джорджавых ступакоў у радыусе дзесяці метраў ад месца, дзе Джордж рассеўся, а таксама выказаць здзіўленне, як увогуле Джордж улазіць у чалавечы абутак са сваімі гіганцкімі ступакамі, і настойліва парэкамендаваць Джорджу выкінуць свае атопкі за борт... Замест усіх тых словаў, якія Гарыс мог сказаць не паеўшы, цяпер ён толькі вымавіў:

— Прабач, браце! Я табе там нагу не адціснуў?

І Джордж адказаў “ды не” і выбачыўся, што ўвогуле гэта яго віна, а Гарыс запярэчыў, што, наадварот, ягоная. Я аж заслухаўся.

Мы запалілі люлькі і сядзелі так, сузіраючы ціхамірную ноч ды ведучы гутарку.

Джордж зазначыў, чаму б нам не застацца тут назаўжды, як найдалей ад свету з ягонай грахоўнасцю і спакусамі. Весці здаровае, цвярозае, ціхамірнае жыццё і рабіць толькі дабро. Я сказаў, што часам таксама сумую па такім жыцці. Мы абмеркавалі, як уцячэм з горада, —

мы, чацвёра, на нейкі выгодны, уладкаваны востраў, і будзем жыць там на ўлонні прыроды.

Гарыс сказаў, што самае кепскае ў бязлюдных выспах, наколькі ён чуў, гэта іх забалочанасць, але Джордж запярэчыў, што калі іх як след асушыць, дык зусім не.

Потым гутарка перакінулася на асушэнне балот, і Джорджу прыйшла да галавы вельмі смешная гісторыя, што здарылася з яго бацькам. Джордж апавеў, што аднойчы яго бацька падарожнічаў са сваім сябрам па Ўэльсе. Неяк уначы яны спыніліся ў невялічкім гатэльчыку, дзе былі яшчэ іншыя хлопцы, да якіх і далучыліся бацька з сябрам і правялі ў іх таварыстве ўвесь вечар.

Вечар выдаўся як мае быць, заседзеліся занач. Калі прыспеў час класціся спаць, яны (а Джорджаў бацька тады быў яшчэ вельмі маладым хлопцам) былі крыху пад чаркай. Яны, то-бок бацька і ягоны сябра, мусілі спаць у адным пакоі, але ў розных ложках. Яны ўзялі свечкі і падняліся ў пакой. Калі яны туды заходзілі, полымя свечкі замітусілася й пагасла, і таму яны мусілі раздзявацца й залазіць у пасцель навобмацак.

Яны раздзеліся і ляглі: але замест таго, каб легчы ў розныя ложкі, залезлі ў адзін. Ляглі валетам. Адзін як трэба, а другі паклаў ногі на падушку.

На імгненне запанавала ціша, і потым Джорджаў бацька паклікаў:

— Джо!

— Том, чаго? — адказаў голас Джо з супрацьлеглага канца ложка.

— Таго! У мяне ў ложку нехта ёсць, — адказаў Джорджаў бацька. — Вось яго нага на маёй падушцы.

— Каб я так жыў, Том! У маім ложку таксама нехта ёсць! — адказаў сябра.

— Што будзеш рабіць? — запытаўся Джорджаў бацька.

— Выганю да чортавай мацеры! — сказаў Джо.

— І я! — сказаў Джорджаў бацька злавесна.

Потым паследавала бліскавічная бойка, што завершылася двума ўдарамі аб падлогу, і трошкі плаксівы голас сказаў:

— Том, а, Том?

— Га?

— Як ты там?

— Калі шчыра, той хлопец скінуў мяне з ложка.

— І мой мяне таксама! От жа ж паскудны гатэль!..

Тут Гарыс запытаў Джорджа:

— А як ён называўся?

— “Кныр са свістулькай”, — адказаў Джордж. — А што?

— А-а, не, то быў іншы гатэль, — зазначыў Гарыс.

— У сэнсе?

— Ну, проста такая ж гісторыя прылучылася ў адным вясковым гатэльчыку з маім бацькам. Ён часта пра гэта апавядаў. Дык я і падумаў, што гэта той самы...

Тым вечарам мы пакладіся а дзясятай, і я падумаў, што засну моцным сном, бо надта здарожыўся. Але я памыляўся.

Зазвычай я раздзяваюся і кладу галаў на падушку. А потым заўжды нехта грукае ў дзверы і паведамляе, што ўжо палова на дзявятую і трэба ўставаць. Але сёння вечарам усё, здавалася, супраць мяне. Незнаёмая абстаноўка. Мулкая палуба. Нязручная поза (я ляжаў нагамі пад адной лаўкай, а мая галава — на другой). Плёскат хваляў аб барты, вецер, які гуляе між галінамі, — усё гэта турбавала мяне і не давала разняволіцца.

Пару гадзін я ўсё ж паспаў, але потым адна частка чоўна, здавалася, вырасла за ноч — прынамсі калі мы адчальвалі, яе не было, — а пад ранак зноў скурчылася і стала ціснуць мне на шыю. Гэтак я трохі паспаў, сасніўшы, што праглынуў залатую манету і што нейкія злыдні свідруюць мне ў спіне дзірку, каб дастаць яе. Я падумаў, што гэта нахабна з іх боку, і сказаў злыдням, што лепш пазычу ім грошай, якія яны змогуць атрымаць у канцы месяца. Але злыдні, вядома, прыходзяць на два тыдні, і гэтым было трэба проста зараз, інакш, маўляў, накруцяць вялікія працэнты. Пасля гэтага я ўзлаваўся на іх трохі. Выпаліў, што пра іх думаю, і тады яны гэтак балюча тузанулі свердлам, ажно я прачнуўся.

У чоўне стаяла задуха, галава балела. Я вырашыў выйсці на свежае паветра. Накінуў на сябе ўсю адзежыну, якую знайшоў, — сваю, Джорджаву й Гарысаву, — ды выпаўз з-пад брызенту на бераг.

Раскашавала ноч. Месяц растаў, пакінуўшы сцішаную зямлю сам-насам з зоркамі. Здавалася, пакуль мы, яе дзеці, спім у цішы і моўчы, зоркі размаўляюць са

сваёй сястрой Зямлёй. Галасамі надта нізкімі й нячутнымі для грубага вуха чалавека яны вядуць гутарку аб велічных таямніцах.

Яны наганяюць багавейны страх, гэтыя дзіўныя зоркі. Такія халодныя, такія ясныя. Мы як дзеці, чые малыя ногі блукаюць у цёмным храме бостава, якое іх вучылі шанаваць і якога яны так і не спазналі. І яны стаяць пад гулкім скляпеннем, што свеціцца мільярдамі агнёў, і падымаюць вочы ўгору са страхам і надзеяй убачыць таямнічае нешта, што ззяе там, увышыні.

І ўсё ж Яе Мосць Ноч поўніцца ўтульнасцю і харастам. У яе велічнай прысутнасці нашыя дробныя беды знікаюць прысаромленыя. Дзень прайшоў у хваляваннях і турботах. Нашыя сэрцы тузала ліха ды горкія думкі, і свет здаваўся нам бязлітасным. А потым Ноч, нібы вялікая пяшчотная маці, далікатна кладзе далонь на нашае стурбаванае чало, туліць наш заплаканы твар да сябе ды ўсміхаецца. І хоць яна не размаўляе, мы ўсё роўна ведаем, што яна хоча сказаць, і прыціскаем гарачыя шчокі да яе грудзей, і боль наш мінае.

Часам наш боль глыбокі і ўсюдыісны, і мы стаім перад ёй сцішаныя, бо для нашых пакутаў няма мовы, а толькі енкі. Тады сэрца Ночы поўніцца спагадай да нас. Яна не можа трываць нашых стогнаў. Яна бярэ нашы рукі ў свае. І наш свет робіцца малым і далёкім ды ўцякае з-пад ног. І на ейных цёмных крылах мы пераносімся высока-высока, да Істоты, яшчэ магутнейшай за яе саму, і ў дзівосным святле гэтай Істоты ўсё чалавечае жыццё робіцца

нам бачным, як разгорнутая кніга, і мы разумеем, што Пакута і Смутак — толькі божыя пасланцы.

Толькі тыя, што зведалі цярновы вянец пакутаў, могуць глядзець на гэтае дзівоснае ззянне, але ж і яны, вярнуўшыся на зямлю, не могуць апісаць гэтага й падзяліцца адкрытай ім таямніцай.

Аднойчы праз нязнаную краіну ехала колькі добрых рыцараў. Іх дарога бегла праз лясны гушчар, і вострыя церні абступалі з усіх бакоў, і варта было камусьці хоць крыху збочыць, як шыпы балюча ўпіваліся ў цела. І лістота ў лесе расла такая цёмная й густая, што ані праменьчыка святла не магло прабіцца праз галіны, каб разагнаць той змрок і панурасць.

І згубіўся ў цёмным лесе адзін з рыцараў. Так далёка адхіліўся, што больш не мог вярнуцца да іх. І астатнія вершнікі з сумам паскакалі далей, аплакваючы свайго сябра, як нябожчыка.

І вось даехалі рыцары да цудоўнага замка, мэты іх падарожжа. І жылі яны ў тым замку шмат дзён, і балявалі ў ім. А неяк увечары, калі рыцары сядзелі ля агню ў вялікай гасцёўні, з'явіўся іх згублены сябра ды павітаўся з грамадой. Яго вопратка была падзёртая, не раўнуючы ў жабрака. Балючыя раны спрэс пакрывалі ягонае прыгожае цела, але твар свяціўся ўсмешкаю шчырай радасці.

Сябры спыталіся, што з ім здарылася. І рыцар апавёў, як згубіў дарогу ў зачараваным чарналессі і як ехаў шмат дзён і шмат начэй, пакуль, зранены і скрываўлены, не зваліўся на дол, каб прыняць немінучую смерць.

І калі зусім блізютка падкралася смерць… Гэй, што гэта?! Праз дзікі гушчар ідзе да яго велічная панна. Бярэ яго за руку й вядзе праз невядомыя людзям сцяжыны, пакуль над лясной цямрэчай не заззяла незямное святло, побач з якім сонца — проста хатняя свяцільня. І ў гэтым чароўным святле наш заблукалы рыцар, нібыта праз сон, убачыў вопратку. І такой урачыстай, такой шчырай падалася яму гэтая вопратка, што ён забыўся пра ўсе свае балючыя раны і стаяў агаломшаны, як чалавек, чыя радасць — глыбокая, быццам мора, і дна ёй не будзе.

Потым вопратка растала, а рыцар укленчыў ды падзякаваў Госпаду Усёмагутнаму за тое, што вывеў яго з гэтага смутнага лесу й даў убачыць схаваную ў гушчарах вопратку.

А лес той зваўся — Журба. Але пра вопратку, якую пабачыў рыцар, мы не ў праве казаць нікому…

# Раздзел XI



*Хто рана ўстае: Джорджавы пакуты. — Джордж, Гарыс і Манмарансі круцяць носам. — Гераізм і адвага Дж. К. Дж. — Джордж і яго кашуля: гісторыя з мараллю. — Гарыс-кухар. — Гістарычная рэканструкцыя для пазакласнага чытання.*

Я прачнуўся а шостай і ўбачыў, што Джордж таксама не спіць. Мы сінхронна павярнуліся на другі бок і пасталіся заснуць зноў, аднак рады не далі. Калі б знайшлася нейкая прычына, якая б не дазваляла нам спаць далей, а, наадварот, прымушала б падняцца і апрануцца, дык мы б заснулі яшчэ падчас глядзення на цыферблат і праспалі да дзясятай. Але паколькі такой прычыны не існавала і наша ўставанне ад шостай да восьмай выглядала б недарэчнай дурасцю — тады як наша ляжанне рабілася непазбежнай наканаванасцю, да якой змушаў нас сусветны парадак рэчаў, — дык мы ўрэшце адчулі неверагодную бадзёрасць.

Джордж зазначыў, што аналагічны (толькі з кепскім канцом) выпадак адбыўся з ім паўтара года таму, калі ён арандаваў пакой у спадарыні Джэнінгз. Аднаго вечара яго гадзіннік сапсаваўся і спыніўся на чвэрці на дзявятую. Але Джордж пра гэтае не ведаў. У той вечар з невядомых прычын Джордж забыўся накруціць гадзіннік перад сном (такое здараецца з ім нячаста) ды паклаў гадзіннік пад падушку, нават не глянуўшы на стрэлкі.

Гэта адбывалася ўзімку. Дні зрабіліся кароткія, а тут яшчэ штодзённы туман. Вось чаму, калі Джордж прачнуўся, навакольная цемрадзь ні пра што не сведчыла. Джордж выпрастаўся й выцягнуў з-пад падушкі гадзіннік. Была чвэрць на дзявятую.

— Святыя ўгоднічкі! — выгукнуў Джордж. — А дзявятай мне трэба быць у Сіці! І чаму мяне ніхто не абудзіў? От жа ж паскудства!

Ён адклаў гадзіннік і выскачыў з ложка. Прыняў халодную ванну і памыў твар. Апрануўся й пагаліўся ў ледзяной вадзе (часу падагрэць ужо не было). Рынуўся ў спальню і зірнуў на гадзіннік яшчэ раз.

Можа, таму, што Джордж яго трос, калі ляжаў у ложку, — тут дакладна невядома, — але ж гадзіннік зноў пайшоў і цяпер паказваў дваццаць хвілін на дзявятую.

Джордж схапіў гадзіннік і збег са сходаў. У гасцёўні панавалі цемра і цішыня. Камін не запалены, і ніякага табе сняданку. Джордж спісаў недагляд на рахунак спадарыні Джэнінгз. Адзначыў сабе, што калі вернецца дамоў, дык абавязкова выкажа ёй свае прэтэнзіі. Потым ён ускочыў у паліто і начапіў капялюш. Схапіўшы

парасон, пабег да парадных дзвярэй. Аніхто нават не парупіўся адсунуць засаўкі, якія засоўваюцца на ноч. Джордж аблаяў у думках спадарыню Джэнінгз “старой гультайкай”. І неўпрыцям адзначыў, маўляў, вельмі дзіўна, што абслуга не паднялася загадзя, як зазвычай, каб адсунуць засаўкі і адамкнуць парадныя дзверы. Урэшце Джордж выбег на вуліцу.

Ён прыпусціў штомоцы й прабег паўкіламетра. Пры канцы дыстанцыі яму зрабілася няўцям, чаму вакол гэтак мала людзей, а крамы зачыненыя? Так, вядома ж, раніца вельмі цёмная і туманная, але спыняць праз такую акалічнасць справы — гэта ўжо занадта! Напрыклад, ён, Джордж, проста абавязаны трапіць на працу. А рэшта людзей што, павінна заставацца ў ложку толькі праз тое, што на вуліцы пануюць цемра і туман?!

Нарэшце ён дабег да Голбарна. Ніводнай адчыненай аканіцы! Ніводнага омнібуса на дарозе! На вуліцы ён убачыў толькі траіх, адзін з якіх быў паліцыянтам. Грузавая фурманка, поўная капусты. Лядашчага выгляду дрожкі. Джордж дастаў гадзіннік і зірнуў на цыферблат — божухна, пяць хвілін да дзявятае!

Джордж спыніўся і памераў пульс. Ён хапатліва схіліўся й памацаў свае ногі. Потым, з гадзіннікам у руках, падышоў да паліцыянта і запытаў, якая гадзіна.

— Якая гадзіна?.. — перапытаў паліцыянт, аглядаючы Джорджа з ног да макаўкі з несхаванай падазронасцю. — А вось памаўчыце хвілінку і пачуеце...

Джордж прыслухаўся, і найбліжэйшыя куранты імгненна адгукнуліся.

— Але куранты прабілі толькі тройчы! — крыўдлівым голасам прамовіў Джордж, калі бой спыніўся.

— Ну а колькі вы хацелі? — спытаўся канстэбль.

— Э-э, разоў дзевяць, — адказаў Джордж, дэманструючы цыферблат свайго гадзінніка.

— Вы ведаеце свой адрас? — сувора запытаў ахоўнік грамадскага парадку.

Джордж падумаў і сказаў адрас.

— Там і жывяце, так? — перапытаў паліцыянт. — Ну то, шаноўны, паслухайце мяне: забірайце гэты ваш гадзіннік з сабою і вяртайцеся ціха-ціхенька дадому. І больш гэткіх дэмаршаў не пачынайце!

Вярнуўшыся дадому, Джордж найперш вырашыў распрануцца і зноў пакласціся спаць. Але як падумаў, што зноў давядзецца мыцца і апранацца, а ў дадатак грэць ваду для ванны, дык пастанавіў, што лепей перачакаць і падрамаць у фатэлі.

Аднак Джорджу не спалася. Здаецца, яшчэ ніколі ў жыцці ён не адчуваў сябе так бадзёра! Таму Джордж запаліў лямпу, дастаў шахматы і згуляў сам з сабою партыю. Але гульня ў шахматы нагнала аскомы. Ён адклаў шахматы і паспрабаваў пагартаць кнігу. Джорджу не чыталася. Ён схапіў паліто і выйшаў на шпацыр.

На вуліцы панавалі маркота і панурасць. Усе паліцыянты аглядалі Джорджа з непрыхаванай падазронасцю. Накіроўвалі на яго праменьчыкі ліхтароў ды праводзілі позіркам. Гэткая падазронасць так паўплывала на Джорджа, што ён сапраўды пачаў думаць, быццам

учыніў нешта благое. Пачуўшы стук абцасаў, ён даваў дзёру ў найбліжэйшы завулак ды хаваўся па цёмных завуголлях.

Вядома, гэтыя дзеянні прымусілі ахоўнікаў закону падазраваць яго яшчэ больш. Урэшце паліцыянты падкраліся, выцягнулі яго з нейкага завуголля ды спыталі, што ён тут робіць. Ён адказаў, маўляў, нічога, проста выйшаў на шпацыр. А была чацвёртая ночы, і паліцыянты відавочна не паверылі ніводнаму ягонаму слову. Два канстэблі ў цывільным пайшлі з Джорджам, каб праверыць, ці сапраўды ён жыве па адрасе, які назваў. Яны назіралі, як ён адамкнуў дом сваім ключом. Пасля занялі пазіцыю насупраць і сталі пільнаваць уваход.

Джордж думаў, што, вярнуўшыся дахаты, каб забіць час, ён запаліць камін і згатуе сабе сняданак. Але адчуў, што не можа ўзяць нічога, пачынаючы ад вядра з вугалем і сканчаючы чайнай лыжачкай, бо ўсё проста валіцца з рук. А гэта, вядома ж, можа нарабіць шуму! Яго праняў жах, што гэты шум абудзіць спадарыню Джэнінгз. Яна, у сваю чаргу, падумае, што залезлі зладзеі. Адчыніць акно і закрычыць: “Паліцыя, паліцыя!” А два канстэблі тут як тут — рынуцца ў дом, начэпяць на яго кайданкі і пацягнуць у пастарунак.

Джордж дужа знерваваўся. Ён намаляваў сабе страшную карціну суда, і як ён намагаецца апісаць суддзям усе акалічнасці справы, і як ніхто яму не дае веры, і як яго прысуджаюць да дваццаці гадоў катаржных работ, і як ягоная маці памірае ад разрыву сэрца. Таму Джордж не

стаў гатаваць сняданак. Захутаўся ў палітон. Сеў у фатэль і стаў чакаць, аж пакуль а палове на восьмую не прыйшла спадарыня Джэнінгз.

З таго часу, — казаў Джордж, — ён намагаецца ніколі не падымацца занадта рана. Навука не прайшла дарэмна.

Пакуль Джордж апавядаў сваю жахалку, мы, захутаныя ў лахманы ды дзяружкі, туліліся адзін да аднаго. А як толькі ён скончыў, я паспрабаваў абудзіць Гарыса вяслом. На трэцім тычку ён прачнуўся. Павярнуўся на другі бок і сказаў, што ён зараз спусціцца ў гасцёўню, бо ўжо завязвае матузкі на ботах. Але ў хуткім часе мы з дапамогай бусака нагадалі яму, дзе ён. Гарыс ускочыў з лежака. Ажно Манмарансі, што спаў як жыта прадаўшы ўпоперак яго грудзей, паляцеў на дно чоўна.

Пасля мы паднялі брызент і ўсе чацвёра высунулі галовы з-за борта. Зірнулі на ваду і перасмыкнуліся. Бо ўчора ў нас завялася ідэя. Маўляў, падымемся рана-ранкам. Скінем лахманы й дзяружкі. І, пакідаючы за спінай брызентавы дамок, скокнем у ваду з радасным крыкам і напоўніцу аддамося водным працэдурам! Але ж, калі доўгачаканы ранак нарэшце настаў, ідэя страціла ўсякую прывабнасць. Вада выглядала мокрай ды сцюдзёнай, а вецер прабіраў да костак.

— Ну, і хто першы? — урэшце пацікавіўся Гарыс.

Ахвочых чамусь не назіралася. Джордж удаў, нібыта ў нетрах чоўна яму трэба знайсці шкарпэткі. Манмарансі збіўся на безупынны брэх, так, нібыта сама думка

пра купанне была для яго невыноснай пакутай. Гарыс заўважыў, што пасля плавання будзе цяжка ўскараскацца назад у човен, ды стаў атрасаць порткі.

Я не прывык здавацца, хаця ў ваду адразу не палез. А што, калі нейкі корч ці водарасці? Я пайшоў на кампраміс: вырашыў стаць на пляжы ды пырснуць трохі вады на жывот. І, захапіўшы ручнік, стаў прабірацца на бераг. Папоўз па галіне нейкага дрэва, што схілялася да вады.

Было страшэнна холадна. Вецер кроіў, як нож. Я вырашыў, што апырсквацца вадой я не стану. І лепей запаўзу назад у човен і зноў апрануся. І я ўжо быў павярнуўся, але пры павароце дурная галіна захадзіла ходырам. І я — шабулдых! — апынуўся ў вадзе разам з ручніком. І перш чым скеміў, што тут да чаго, плынь вынесла мяне на сярэдзіну Тэмзы з пяццю літрамі рачной вады ў горле.

— Здурнець можна! Наш Джэй даў нырца!– пачуў я, як кажа Гарыс, калі выплыў на паверхню. — Вось не думаў, што ў яго хопіць мужнасці... А ты?

— Ён там у парадку? — выгукнуў Джордж.

— У поўным! — адгукнуўся я. — Хто не скача, той дурны. Я б такога ні за што не прапусціў. Наперад, сябры! Трэба быць рашучымі!

Але я іх не пераканаў.

Тым ранкам прылучылася надзвычай забаўнае здарэнне. Калі я дабіраўся да чоўна, мяне білі моцныя дрыжыкі, і таму, спяшаючыся апрануць кашулю, я выпадкова ўпусціў яе ў ваду. Мяне гэта страшэнна ўзлавала, асабліва пасля таго як зарагатаў Джордж. На маю

думку, тут не было з чаго смяяцца, і я сказаў аб гэтым Джорджу, але той зарагатаў яшчэ гучней. Я ніколі не бачыў, каб чалавек рагатаў у такім параксізме. Урэшце я страціў цярпенне, і я звярнуў яго ўвагу на тое, які ж ён абрыдлівы афэлак, але яго было не спыніць — чалавек рагатаў, як наняты.

І тут, намагаючыся вылавіць кашулю, я заўважыў, што гэта ўвогуле не мая кашуля, а Джорджава, якую я пераблытаў са сваёй. Камічнасць усёй сітуацыі ўрэшце дайшла таксама да мяне, і зарагатаў ужо я. І чым часцей я пераводзіў позірк з мокрай Джорджавай кашулі на самога Джорджа, тым больш я цешыўся. Я так заўзята рагатаў, што зноў упусціў кашулю ў ваду.

— Ты... ты... не палезеш яе... забіраць? — запытаў Джордж паміж прыступамі рогату.

Я быў не ў стане адказваць, бо таксама рагатаў, але ўрэшце, паміж уздрыгваннямі, улучыў хвілінку, каб паведаміць:

— Гэта не мая кашуля, а твая!

За ўсё жыццё я не бачыў, каб радасць так раптоўна ператваралася ў панурасць.

— Ча-го?! — заенчыў ён, выпрастаўшыся. — Палена ты дурное! Ты што, не можаш быць больш асцярожным з чужымі рэчамі?! Чаму ж ты, халера цябе бяры, апранаўся тут, а не на беразе? Цябе ж проста супрацьпаказана браць у рачныя вандроўкі! Дай мне бусак.

Я спрабаваў прадставіць сітуацыю ў камічным святле. Але часам пачуццё гумару здраджвае Джорджу — ён вызверыўся.

Гарыс прапанаваў на сняданак яечню і выклікаўся яе падсмажыць. Запэўніў, што ён вялікі спецыяліст па яечнях. Маўляў, яго — як славутага яечняроба — запрашаюць гатаваць на пікніках ці падчас выправаў на яхце. Людзі, якія хоць раз пакаштавалі Гарысаву яечню, — гэтак я зразумеў са словаў яго самога, — больш не могуць думаць ні пра што іншае. Гібеюць і марнеюць, небаракі, без жаданай стравы, і ўрэшце паміраюць неспатоленыя.

Пачуўшы гэта, нашыя раты мімаволі напоўніліся слінай. Мы выцягнулі для нашага кухара газоўку, патэльню, а таксама ўсе яйкі, які яшчэ не пакалоліся і не пазмешваліся ў кашы з іншымі рэчамі. І сталі просам прасіць, каб Гарыс пачаў гатаваць.

У яго былі цяжкасці з разбіваннем яек. Не столькі з разбіваннем, колькі з заліваннем ужо разбітых яек на патэльню. А яшчэ праблемы з пэцканнем яйкамі портак. І з зацяканнем жаўткоў пад рукаво. Урэшце Гарыс заліў паўтузіна яек на патэльню, сеў на карачкі ля газоўкі і стаў памешваць відэльцам.

Катаржная праца, як паспелі заўважыць мы з Джорджам. Кожны раз, як Гарыс падыходзіў да патэльні, ён апякаўся. Тады ён кідаў усе прылады і скакаў вакол газоўкі. Варушыў і трос пальцамі, праклінаючы ўсё навокал. Далібог, гледзячы на яго, нам з Джорджам падавалася, што сваімі скокамі Гарыс дэманструе вяршыню кулінарнага майстэрства. Мы падумалі, што гэта неад’емная частка кухарскіх рытуалаў.

Мы ўжо вырашылі, што гаворка не пра звычайную яечню. Можа, гэта індыянскія далікатэсы ці прысмакі

з Сэндвічавых астравоў? Адным словам, ежа, якая, згодна з рэцэптам, патрабуе рытуальных скокаў і магічных заклёнаў?

Прыбег Манмарансі і сунуў нос у патэльню. Тлушч абпырскаў і апарыў яго. Тады эстафету скокаў ды бруднай лаянкі перахапіў ужо Манмарансі. Увогуле кухарскі працэс выявіўся надзвычай маляўнічым. Мы з Джорджам нават пашкадавалі, што ўсё так хутка скончылася.

Вынік выявіўся не такім, як разлічваў Гарыс. Наедку выйшла з жабіны прыгаршчы. Шэсць яек трапіла на патэльню, але ўсё, што ад іх засталося, — чайная лыжачка невядомага і, хутчэй, неядомага рэчыва.

Гарыс сказаў, што ва ўсім вінаватая патэльня. На яго думку, было б лепей, каб наступным разам мы ўзялі ў вандроўку саган для варкі рыбы і газавую плітку. Гэтак мы кінулі ідэю прыгатаваць яечню, пакуль не здабудзем усіх неабходных прылад.

Калі мы даядалі сняданак, сонца стала прыпякаць. Вецер аціх і ўрэшце ўсталявалася харашмяная ўзорная раніца. Навокал амаль нічога не нагадвала нам роднага дзевятнаццатага стагоддзя. Аглядаючы раку ў ранішнім святле, мы маглі лёгка ўявіць, нібыта стагоддзі, якія аддзяляюць нас ад таго векапомнага ліпеньскага ранка 1215 года, злушчыліся. Мы маглі ўявіць сябе сынамі англельскіх ёмэнаў, якія ў саматканых апранахах, падпярэзаныя кінжаламі, чакаюць, як на іх вачах напішацца выбітная старонка ангельскай гісторыі. Ейны сэнс будзе ў поўнай меры патлумачаны простым людзям толькі

праз чатыры з гакам сотні гадоў нейкім Оліверам Кромвелем, які паруціцца карпатліва вывучыць яе*.

Цудоўная летняя раніца — сонечная і ціхамірная. Аднак паветра прасякнута ўжо будучым гармідарам. Кароль Джон начуе ў маёнтку Данкрафт-Гол. Наканадні па гарадку Стэйнз рэхам разносілася бразгатанне зброі. Па-над грубым каменнем будынкаў ляцеў конскі тупат, гучныя каманды сотнікаў, лютыя праклёны і змрочныя жарты барадатых лучнікаў, алебарднікаў, пікінераў і дзіўнамоўных наймітаў-іншаземцаў.

Мінаюць конна стракатыя аддзелы рыцараў і збраяносцаў. Усе запыленыя і зацвэганыя. Вечар навылёт сціплыя дзверы гараджанаў мусяць спрытна адчыняцца, каб дазволіць уваліцца ў хату вайсковым хеўрам. Ваяроў тут мусіць чакаць сталаванне або начлег, а лепей усё разам. Інакш гора гэтаму дому і яго жыхарам! Бо ў ліхія часы меч тут — і суддзя, і пракурор, і кат, які плаціць за забранае толькі такім чынам, што ашчаджае тых, каго яму ашчадзіць захацелася.

На рынкавых плошчах вакол вогнішчаў гуртуюцца войскі мяцежных баронаў. Ваяры ўмінаюць на поўную

*Тут гаворка ідзе пра падпісанне паміж каралём Джонам (Янам Беззямельным) і ангельскімі ўплывовымі феадаламі, баронамі, "Магна Карты", Вялікай Хартыі Вольнасцяў, якая юрыдычным актам істотна абмяжоўвала ўладу ангельскай манархіі. Вялікую Хартыю Вольнасцяў праз колькі стагоддзяў паднялі на шчыт праціўнікі абсалютызму на чале з генералам Оліверам Кромвелем *(заўвага перакладчыка)*.

Ігар Бабкоў

# Для Кіры Насаева, калыханка

Няхай будзе цёплым неба
Гаваркімі аблокі

Няхай Ісус падпявае
Твайму нябеснаму хору

Няхай анёлы трымаюць
Словы для партытуры

Песняў змагання і веры,
Ленана і кукарачы...

Кіра, Кірачка, Кіра
Хтосьці заснуў, прачнуўся

У затрыманым часе
Нечаканай стаянкі

На прыгожым узвышшы
Пасля трысьнягу і бруду

Ты ўжо ведаеш пэўна
Ці сапраўды апошняй



губу ды заліваюць вочы алкаголем. Пакуль вечар ператвараецца ў ноч, яны гарлаюць п'яныя песні, ідуць у заклады, сварацца. Вогнішчы кідаюць дзівосныя цені на іхнія масіўныя рукі ды нязграбныя постаці. Местачковыя дзеці круцяцца наўкола і з цікавасцю назіраюць за вайскоўцамі. Мажныя мужычкі, смеючыся, праходзяць ля карчмы. Яны перакідваюцца жартамі і кпінамі з фанабэрыстымі жаўнерамі, што так розняцца ад вясковых дзецюкоў, якія атрымалі сёння адстаўку і цяпер стаяць наўзбоч з дурнаватым ашчэрам на шырокіх тварах.

А на палях гараць зыркія агні аддаленых лагераў. Там світа нейкага ўладатрымцы адпачывае ў поўнай баявой гатоўнасці. Побач — французскія найміты вераломнага Джона, нібыта зграя ваўкоў, пахаджаюць вакол гарадка. На кожнай цёмнай вуліцы стаіць варта, а яе сігнальныя вогнішчы зіхцяць на пагорках.

Ноч блякне, і па-над прыгожай далінай старой Тэмзы хутка загараецца ранак вялікага дня, што акрэсліць лёс будучых, яшчэ не народжаных, пакаленняў.

Ужо з шэрага світанку, на ніжэйшым з двух астравоў, проста па-над тым месцам, дзе сёння стаім мы, лунае гоман рамеснікаў. На гэтым месца ўчора ўвечары паўстаў велічэзны будан. Цесляры занятыя майстраваннем лаваў, світа з Лондана мільгае ў стракатых шатах з ядвабу, расшытага золатам і срэбрам.

І тут — глядзі-тка! — знізу па тракце, адкуль у наш бок дзьме вецер, па беразе ракі ад Стэйнс, да нас рушаць, смеючыся і перамаўляючыся гарлавым басам, паўдзясятка

дужых алебарднікаў — людзі мяцежных баронаў — і спыняюцца за метраў сто ад нас. Абапёршыся на сваю зброю, яны застываюць на процілеглым беразе ў чаканні.

І гэтак, гадзіна па гадзіне, па тракце крочаць аддзелы ўзброеных ваяроў. Іхнія шаломы і металёвыя нагруднікі адбіваюць доўгія сонечныя прамяні. Тракт, як кінуць вокам, ператвырыўся ў мур, складзены з зіхоткай сталі і асядланых коней. Крыклівыя вершнікі-пасланцы лётаюць з загадамі ад купы да купы. Маленькія сцяжкі лянотна матляюцца на цёплым ветрыку.

Раз-пораз пачынаецца мітусня і ўсеагульная ўзрушанасць. Шарагоўцы і сяржанты адбягаюць наўзбоч і сунуцца ўжо абапал дарогі. Гэта імчыцца нехта са слаўных баронаў на баявым кані, з гвардыяй целаахоўнікаў, каб стаць на чале сваіх пахолкаў ды васалаў.

Проста насупраць, на вершаліне пагорка Купер, стаіць-таўчэцца ўзрушаны і цікаўны натоўп гараджанаў, якія прыбеглі са Стэйнса. Ніхто з іх да канца не ведае, з якой прычыны ўсчаўся гамідар, аднак кожны выказвае сваю версію будучых вялікіх падзеяў. Нехта кажа, што сённяшні дзень прынясе шмат дабра ўсяму ангельскаму люду, але старажылы адно хітаюць галовамі, маўляў, усё гэта — казаная казка...

Рака да Стэйса ўсеяная малымі суднамі, чаўнамі і рыбарскімі лодкамі-пляцёнкамі (сёння, у дзевятнаццатым стагоддзі, яны выходзяць з ужытку, цяпер імі карыстаюцца хіба што незаможныя). Каля порогаў, дзе праз гады паўстане ахайны шлюз Бэл-Вір, гэтыя чаўны

прыцягнулі па сушы ці па вадзе мажныя весляры. Цяпер весляры сунуцца як мага бліжэй да стругаў, шырокіх драўляных баржаў, якія, наладаваныя, калываюцца на вадзе. Стругі гатовыя ўзяць на свой борт караля Джона да вострава, дзе лёсавызначальная Хартыя чакае свайго падпісання.

Ужо полудзень, мы разам з іншым людам шмат гадзін цярпліва чакаем. Паўзуць чуткі, што слізкі Джон зноў вылузнуў з рук баронаў. Конна даў драпака з Данкрафт-Гола на чале сваіх пешых наймітаў. І неўзабаве прымецца за свае заўсёдныя кепствы, скасаваўшы падпісанне ўсялякіх там хартый-шмартый.

Як бы не так! Гэтым разам Джона надзейна ўзялі ў абцугі — цярэбіцца і тузаецца ён дарэмна. Па-над дарогай удалечыні паднялася аблачынка пылу. Яна набліжаецца і расце. Раўнамерны пошчак капытоў гучнее, і паміж сям-там раскіданых купак вайскоўцаў цярэбіць сабе шлях раскошная кавалькада пышна ўбраных лордаў і рыцараў. А паперадзе і ў ар'ергадзе, а таксама па флангах скачуць ёмэны баронаў. І пасярэдзіне, аточаны імі, — сам кароль Джон.

Ён скача туды, дзе ў чаканні стаяць пласкадонныя стругі, і самыя заможныя бароны ступаюць са сваіх шэрагаў яму насустрач. Ён вітае іх усмешкай, смехам. Яго словы ліюцца як мёд, так, нібыта тут ладзіцца фэст у яго гонар, на якім ён — дарагі госцік. Але калі ён спешваецца, дык неўпрыцям кідае знерваваны позірк, каб спадылба ацаніць сілу-моц сваіх французскіх наймітаў і параўнаць іх з людзьмі баронаў, якія ўзялі яго ў кальцо.

Дык, можа, яшчэ не позна? Адзін хвосткі ўдар па найбліжэйшых конніках, адзін вокліч ягоным французампяхотнікам, адна дзёрзкая атака па гэтых разняволеных шэрагах… І мяцежныя бароны горка пашкадуюць пра дзень, калі наважыліся працівіцца каралеўскай волі!

Нават у гэты момант яшчэ можна было ўсё змяніць моцнай правіцай. Каб жа тут быў старэйшы брат Рычард Ільвінае Сэрца! Кубак вольнасці, мусіць, тады расплёскаўся б, не трапіўшы ў вусны Ангельшчыне. І наша Бацькаўшчына не пакаштавала б смаку свабоды яшчэ доўгія стагоддзі!

Але сэрца караля Джона трымціць ад выгляду суворых твараў ангельскіх ваяроў, і рукі караля Джона вяртаюцца да лейцаў. Ён спешваецца і займае падрыхтаванае яму месца ў першай струзе. За ім следуюць бароны, трымаючы на дзяржальнах мячоў закутыя ў панцыр далоні. Гучыць каманда аддаць канцы.

Пакрысе цяжкія стругі адчальваюць ад берага Раніміда. Насуперак хуткай вадзе, яны агорваюць шлях, пакуль з глыбокім грукатам не ўразаюцца ў бераг маленькай выспы, якая адгэтуль будзе насіць імя Магна Карта. Кароль Джон ступае на бераг. А мы з затоеным дыханнем чакаем, пакуль усеагульны крык не праража паветра вострава. Тады зробіцца ясна, што дзень ангельскай волі некалі абавязкова настане.

## *Раздзел XII*

*Генрых VIII і Ганна Балейн. — У адным будынку з парай каханкаў. — Здзек з простага ангельскага народа. — У пошуках эталону прыгажосці. — Пахаджане. — Гарыс рыхтуецца паміраць. — Анёл прыходзіць адзін. — Вынік нечаканай весялосці ў Гарыса. — Лёгкая вячэра. — Другі сняданак. — Муштарда або жыццё! — Жахлівая бойка. — Мэйдэнгэд. — Заплыў. — Тры рыбакі. — Нас выклялі.*

Я *сядзеў на беразе, уяў*ляючы ў думках гістарычныя сцэны, калі прыйшоў Джордж. Ён сказаў, што калі я ўжо адпачыў, дык, можа, дапамагу яму мыць посуд? Выцягнуты з даўніх слаўных дзён у празаічную цяперашчыну з яе дробязнай мітуснёй, я споўз у човен. Я памыў патэльню драўлянай палачкай і жменяй пяску, а канчатковы глянец навёў з дапамогай яшчэ вільготнай кашулі Джорджа.

Мы наведалі востраў Магна Карта і ўбачылі камень, што стаіць ля аднапавярховага дома. Ля таго каменя, як кажуць, была падпісаная Вялікая Хартыя Вольнасцяў. Ці была яна падпісная менавіта тут? Або, як даводзяць іншыя, гэта адбылося на другім беразе, на лузе Ранімід? Цяжка адказаць. Што да мяне, я аддаю перавагу "астраўной тэорыі". Калі б я быў адным з баронаў, дык горача раіў бы памясціць такога слізкага суб'екта, як кароль Джон, далей ад граху, на востраў, дзе б у яго засталося менш магчымасцяў для хітрыкаў і выбрыкаў.

На землях фальварка Анкервайк раскінуліся руіны старога кляштара, да якога прымыкае "Даліна пікнікоў". Каля яе месціцца пляцоўка, дзе якраз і стаяў кляштар, у якім, як кажуць, Генрых VIII сустракаўся з Ганнай Балейн. Акрамя кляштара, яны таксама ладзілі спатканні ў замку Гівер графства Кент і яшчэ недзе там, ля царквы святога Албанса. У тыя часы сур'ёзным грамадзянам, мусіць, было цяжкавата знайсці куточак ангельскай зямлі, які б яшчэ не акупавалі легкадумныя юнакі і дзяўчаты са сваімі пешчамі й мілошчамі.

Ці даводзілася вам жыць у доме, дзе сустракаюцца каханкі? Пакута і выпрабаванне!

Вы запланавалі пасядзець у гасцёўні. Але, адчыніўшы дзверы, чуеце, як нехта выгукае "а-а-а!" так, нібыта раптам нешта прыгадаў. Калі вы заходзіце ў гасцёўню, Эмілі стаіць ля акна і з усёпаглынальнай увагай разглядае процілеглы бок вуліцы. А ваш сябра Джон Эдвард з невымоўнай зацікаўленасцю гартае фотаздымкі чыіхсьці чужых сваякоў.

— О! — вітаецеся вы, затрымліваючыся ў дзвярах. — Я не ведаў, што тут нехта ёсць!

— Ну, ясна, не ведалі! — кажа Эмілі халодным тонам, з якога вынікае, што яна вам ні на шэлег не верыць.

Вы пастаялі-паторкаліся, а потым кажаце:

— Цямнее... Можа, запалім святло?

Джон Эдвард кажа:

— О! Я і не заўважыў.

А Эмілі кажа, што татуля не любіць, калі так рана запальваюць газ.

Вы паведамляеце пару-тройку навін, дзеліцеся з імі сваім бачаннем ірландскага канфлікту — але ім, здаецца, нават не абыходзіць. Іх рэакцыя на любыя паднятыя тэмы гэткая: “О!”, “Праўда?”, “Чаго?”, “Так?”, “Не можа быць!” Пасля дзесяці хвілін такой змястоўнай гутаркі вы патроху сунецеся назад і хуценька выслізгваеце за дзверы. Якія за вашай спінай вокамгненна захлопваюцца і самі сабой замыкаюцца.

Праз паўтары гадзінкі вам прыходзіць на думку папаліць люльку ў аранжарэі. Але адзінае крэсла там ужо занятае Эмілі, а Джон Эдвард апусціўся ніжэй за плінтус (у прамым сэнсе — ён чамусьці сядзіць на падлозе). Яны маўчаць, але кідаюць на вас такія вымоўныя позіркі, якімі ў цывілізаваным грамадстве можна забіць. Вы, не раўнуючы рак, даяце задні ход і зачыняеце дзверы за сабой.

Цяпер вы носу нікуды не кажаце. Трохі пабадзяўшыся па сходах угору й долу, вы зашываецеся ў спальню. Але неўзабаве вам робіцца нудна. Вы начапляеце капя-

люш і выходзіце ў сад. Ідзяце па алейцы. Мінаеце альтанку. Зазірнуўшы ўсярэдзіну, бачыце гэтых двух маладых ідыётаў, якія забіліся ў самы кут. Яны вас заўважаюць. Ім ужо здаецца, што вы маніякальна сочыце за імі.

— Чаму не завядуць спецыяльны пакой для любошчаў? — мармычаце вы сабе пад нос. — І не прымусяць каханкаў нікуды з яго не выходзіць?

Вы вяртаецеся ў вітальню, хапаеце парасон і сыходзіце прэч.

Нешта такое, відаць, адбывалася, калі свавольнік Генрых VIII заляцаўся да сваёй маленькай Ганны. Букінгемшырцы, мусіць, сутыкаліся з імі абсалютна нечакана, калі парачка бадзялася вакол Ўіндзара і Рэйзберы, і выгукалі: "Ой, Ваша Вялікасць, вы тут?!" А Генрых чырванеў і адказваў: "Ой, ага, у мяне тут якраз праходзіла каралеўская нарада". А Ганна Балейн выгукала: "Ой, я так радая вас бачыць, васпане! Ну, скажыце, якое супадзенне! Я тут толькі што спаткала Яго Вялікасць Генрыха VIII на алеі, і нам з ім выявілася па дарозе".

І мясцовыя жыхары, мабыць, збягалі, кажучы сябе: "Ох, лепей нам сысці ад гэтых каханняў-здыханняў падалей! Лепей мы паедзем сабе ў графства Кент".

А калі яны прыязджалі ў Кент, дык што яны там бачылі? Анягож, Генрыха і Ганну, якія бадзяюцца ля замка Гівер!

"Хай іх няхай! — лаяліся жыхары. — Трэба адсюль валіць. Так больш не можа працягвацца. Лепей паедзем у кляштар святога Албанса, у гэты зацішны пустэльны куточак".

А прыехаўшы ў кляштар, яны зноў заспявалі гэтую салодкую парачку, якая цалавалася пад мурамі. Потым жыхары збягалі на ўзмор'е і, як мы ведаем з гісторыі, ад нявыкруткі рабіліся піратамі*, аж пакуль саюз Генрыха і Ганны не ляснуў.

Ад "Даліны пікнікоў" да Стараўіндзарскага шлюза — прыемны і харашмяны адцінак ракі. Цяністая дарога, абапал якой сям-там выглядаюць ахайныя сядзібкі, бяжыць угору па берагу да гатэліка. "Званы Озлі"– маляўнічы гатэлік, як і большасць заезных дамоў у вярхоўях Тэмзы. Шыкоўнае месца, каб выпіць куфаль першакласнага элю. Гэтак сказаў Гарыс, а ў такіх пытаннях ён вялікі знаўца. Стары Ўіндзар — вельмі знакамітае месца. Тут стаяў замак англасаксонскага караля Эдварда Спавядальніка. Тутсама граф Годўін Ўэсэкскі, ці не самы магутны на той момант чалавек у Англіі, быў абвінавачаны тагачаснай сістэмай правасуддзя ў замаху на брата караля.

Граф Годўін адламаў кавалак хлеба і трымаў яго ў руцэ.

— Калі я забойца, — сказаў граф, — дык няхай я падаўлюся гэтым кавалкам.

Адкусіўшы, ён праглынуў хлеб. Падавіўся і памёр.

За Старым Ўіндзарам Тэмза робіцца чамусьці не такой цікавай. Гэтак доўжыцца да прадмесцяў Боўні. Джордж і я цягнулі човен на буксіры праз увесь Гэмптан-Корцкі парк. Той разлёгся на правым беразе ад моста Альберта да

* Тут аўтар, пэўна, кпіць з Генрыха VIII, які дзеля сваіх каланіяльных мэтаў патураў пірацкаму руху *(заўвага перакладчыка)*.

моста Вікторыі. Мінаючы Дачэт, Джордж запытаў, ці памятаю я нашу першую вандроўку ўверх па Тэмзе? Тады мы прычалілі ля Дачэта а дзясятай вечара на начлег. Я адказаў, што памятаю вельмі добра. Такое забудзецца няхутка.

Была субота, першы дзень жнівеньскіх трохдзённых выходных. Мы (тая ж тройца) былі здарожаныя і галодныя. Прычалілі да берага. Дастаўшы кош, дзве торбы, дзяружкі, курткі ды іншыя транты, скіраваліся ў Дачэт на пошукі начлегу.

Мы падышлі да вельмі сімпатычнага гатэльчыка "Лось" з ганкам у плюшчы й павойніку. Але ў гэтым маляўнічым суплёце чамусь бракавала вытанчаных кветак бружмелю. Немаведама з якой прычыны, але я тады зацыкліўся менавіта на гэтай расліне. Я сказаў:

— Не, не пойдзем сюды! Пройдзем трохі далей, пашукаем гатэльчык з бружмелем.

І гэтак мы крочылі сабе, пакуль не натрапілі на іншы гатэльчык, "Палацык". Таксама дужа прыемны фасад, нават з кветкамі бружмелю абапал. Але Гарысу не спадабаўся выгляд мужчыны, які абапёрся на ўваходныя дзверы. Гарыс сказаў, што той выглядае на кепскага чалавека, да таго ж абуты ў брыдкія атопкі.

І мы пайшлі далей. Агаралі ладны кавалак дарогі, не сустрэўшы ніводнага гатэля. Праз нейкі час мы спаткалі мужчыну і папрасілі яго паказаць нам якія-небудзь гатэлі. Мужчына адказаў:

— Ну, вы якраз аддаляецеся ад іх. Каб трапіць у "Лася", вам трэба назад і направа.

Мы адказалі:

— Ох, мы ўжо былі там, і нам не спадабалася — няма бружмелю.

— Ну, тады ў "Палацык", проста насупраць. Вы там былі?

Гарыс адказаў мужчыну, што не пажадаў туды ісці. Маўляў, яму не спадабаўся выгляд валацугі, які ў тым "Палацыку" пасяліўся, а таксама колер яго валасоў і фасон чаравікаў.

— Тады я не ведаю, што вам рабіць, спадарства, — прамовіў тубылец. — Бо "Лось" і "Палацык" — адзіныя гатэлі ў гарадку.

— І што, няма іншых? — выгукнуў Гарыс.

— Аніводнага! — адказаў мужчына.

— Дык што нам, напрамілы Бог, рабіць?! — выгукнуў Гарыс.

Тут загаварыў Джордж. Ён сказаў, што Гарыс і я, калі нам так хочацца, можам застацца тут і збудаваць гатэль пад сябе, а таксама выгадаваць адмысловых людзей, якія будуць у ім там жыць. Што да яго, дык ён вернецца ў "Лася".

Светачам эпохі ніколі не ўдаецца ажыццявіць свае шляхетныя ідэалы, і таму мы з Гарысам падпарадкаваліся дыктату абывацельскіх жаданняў ды пацягнуліся ўслед за Джорджам.

Мы пацягнулі свой багаж у бок "Лася" ды згрузілі яго на падлогу перад рэцэпцыяй. Гаспадар выйшаў да нас і павітаўся:

— Добры вечар, спадарства!

— Добры, добры... — адказаў Джордж. — Нам трэба тры ложкі, калі ласка.

— На вялікі жаль, спадарства, — адказаў гаспадар, — няма!

— Не бяды! — парыраваў Джордж. — Можна і два ложкі. Двое нашых могуць паспаць і ў адным... — працягнуў Джордж, павярнуўшыся да нас з Гарысам: — Праўда ж?

Гарыс адказаў: "Без пытанняў!" Ён, відаць, таксама падумаў, што я з Джорджам досыць лёгка ўладкуемся ў адным ложку.

— Мне вельмі шкада, спадарства! — паўтарыў гаспадар. — Але ва ўсім гатэлі не знойдзецца аніводнага вольнага ложка. Кажучы шчыра, дык у кожны ложку ўжо панапакавана па двое-трое джэнтльменаў.

Гэта нас трохі збянтэжыла.

Але Гарыс, падарожнік са стажам, давёў, што здольны весці рэй. З прафесійнай усмешкай на вуснах ён прапанаваў гаспадару:

— Ну, дык не бяды, дружа! Нашто нам збыткоўнасці і раскоша? Вы можаце пасяліць нас проста ў більярдным пакоі.

— Мне вельмі шкада, спадарства. Трое джэнтльменаў ужо спяць на більярдным стале, двое — у гасцёўні. Сёння для вас тут дакладна няма месцаў.

Мы схапілі транты і пайшлі ў "Палацык". Як жа тут было ўтульна! Я сказаў, што ён мне падабаецца нават

больш за "Лася", і Гарыс пагадзіўся, маўляў, усё будзе добра, нам проста не трэба перыцца на чалавека з рудым валоссем ля ўваходных дзвярэй. Маўляў, чалавек жа не вінаваты, што такім, рудавалосым, нарадзіўся на свет.

Калі трэба, дык Гарыс — сама карэктнасць і прыязнасць.

Але персанал у "Палацыку" выявіўся не надта спагадлівы. Гаспадыня проста на парозе сустрэла нас словамі, што, маўляў, за апошнія паўтары гадзіны мы ўжо чатырнаццатыя, каго яна выправіла назад на вуліцу. Нашы нясмелыя прапановы наконт стайні, більярднага пакоя ці сутарэння для вугалю яна сустрэла горкімі кпінамі. Усе гэтыя цёплыя месцейкі госці пазаймалі даўным-даўно.

Можа, яна ведае яшчэ якое месца ў вёсцы, дзе мы зможам знайсці начлег? Ну, калі шаноўнае спадарства не будзе брыдзіцца, то-бок у сэнсе яна асабіста не раіць, але ёсць маленькі бровар за які кіламетр на Ітанскім тракце...

Далей мы не слухалі. Схапіўшы кош, торбы, курткі, дзяружку, пакункі, мы прыпусцілі штомоцы. Адлегласць была хутчэй два кіламетры, чым адзін. Але мы ўрэшце дапялі да бровара. І ўварваліся, задыханыя, у шынок.

Персанал у шынку сустрэў нас груба. Яны проста рагаталі. Ва ўстанове месцілася ўсяго тры ложкі, але ў іх ужо спала сем самотных джэнтльменаў і дзве сямейныя пары. Прыязны лодачнік, што якраз завітаў туды, параіў нам бакалейную краму наўпоблізь "Лася", і мы далі задні ход.

Бакалея была бітма набітая. Кабета, якую мы сустрэлі ў краме, ласкава пагадзілася ўзяць нас паўкіламетра далей да нейкай спадарыні, сваёй сяброўкі, у якой, на шчасце, вызваліўся пакой.

Кабетка чыкільгала паволі, і мы ішлі да яе сяброўкі хвілін дваццаць. У дарозе кабетка падымала нам настрой тым, што апісвала характар сваіх боляў у спіне.

Нам адчыніла яе сяброўка. І параіла нам звярнуцца ў дом №27. Дом №27 быў поўны, і нас паслалі ў дом №32. Той таксама стаяў набіткаваны.

Тады мы выйшлі на тракт. Гарыс сеў на кош і адмовіўся ісці далей. Ён сказаў, што гэта цалкам сабе мілы кут, і ён хоча, каб яго пахавалі тут. Ён папрасіў нас з Джорджам пацалаваць ягоную матулю, сказаць усім сваякам, што ён ім усё даруе, і ўрэшце пакінуць яго спакойна паміраць.

У гэты час з'явіўся анёл у аблічча малога хлопчыка (не магу ўявіць больш удалага аблічча для анёлаў) з глякам піва ў адной руцэ і нечым, што мела струну на канцы, — у другой. Гэтую струну хлопчык апускаў на кожны пляскаты камень, які траплюўся яму па дарозе, і пасля тузаў угору, і гэта рабіла надзвычай непрыемны гук, што наводзіў на думку пра пакуты і катаванні.

Мы запыталі гэтага пасланца нябёсаў (што высветлілася неўзабаве), ці мо ён ведае якую хату з нешматлікімі ды нямоглымі жыхарамі (найлепей — пажылымі бабулькамі ды спаралюшаванымі дзядкамі), якіх тры зняможаныя джэнтльмены могуць хутка і лёгка выгнаць з іхніх

# Маршрут пяты:
## рака Бярэзіна, Магілёўшчына

Гэты маршрут пасуе для тых, хто забыў вёслы дома. Вось што давядзецца рабіць, калі вы пойдзеце гэтым маршрутам: НІЧОГА. Шырокая супакойная водамагістраль спрыяе побытаваму п'янству на борце, разыгрыванню на вадзе сацыякультурных драм "Бунт юнг" і ўнутрыкалектыўнаму чэмпіянату па макрамэ. Самым папулярным медыкаментам на Бярэзіне будзе мазь ад пролежняў.



## Каардынаты маршруту

Такое ж абібоцтва адбудзецца з вамі, калі пойдзеце па шырокіх рэчках з такімі гучнымі тытуламі, як Нёман, Дзвіна і Дняпро.



ложкаў? А калі ён не ведае, дык мо пакажа на пусты загон для свіней ці закінутую мануфактуру з печкай для абпальвання вапны? Ці яшчэ якую халабуду на выселках? Хлопчык пра такія месцы не ведаў — прынамсі паблізу такіх не было. Але ён сказаў, што калі мы пойдзем з ім, дык яго маці здае пакой, і яна можа пусціць нас на ноч.

Пры святле месяца мы кінуліся яму на шыю і асыпалі блаславеннямі. Усё гэта магло стаць вельмі прыгожай карцінай, каб хлопчык, пад грузам нашых пачуццяў, не паваліўся на зямлю, а мы ўсе покатам паваліліся на яго. Гарыса настолькі перапоўніла радасць, што ён, здаецца, страціў прытомнасць. Перш чым вярнуцца да памяці, ён выхапіў гляк з півам ды выжлукціў палову. А потым пабег наперад, кінуўшы ўвесь багаж на нас з Джорджам.

Хлопчык жыў у невялікім чатырохпакаёвым дамку, і яго маці — от ужо сапраўды гасцінная жанчына! — падала нам гарачую грудзінку. Мы струшчылі яе цалкам — дзве з паловай кілі! — а потым яшчэ пірог з сочывам і два чайнікі гарбаты. І ўрэшце пайшлі спаць.

У пакоі стаяла два ложкі. Адзін быў раскладанкай сямідзесяцісантыметровай шырыні. На яе пакладаліся мы з Джорджам, абвязаўшыся абодва прасцінай, каб не выкуліцца. Другі ложак належаў нашаму анёлку, і Гарыс атрымаў яго ў сваё поўнае распараджэнне. Зранку мы ўбачылі Гарысавы голыя ногі, што на паўметра вытыркаліся з дзіцячага ложачка. Мыючыся, мы з Джорджам вешалі на іх ручнікі.

Наступным разам едучы ў Дачэт, мы ўжо не былі такімі пераборлівымі ў справе гатэляў.

Але вернемся да цяперашняй вандроўкі. Нічога экстраардынарнага не здарылася. Мы прычалілі трохі ніжэй за Малпін востраў. Там мы атабарыліся і з'елі другі сняданак. Мы былі прыняліся за халодную цяляціну, як высветлілася, што забылі муштарду. Не думаю, што калісь раней ці некалі пазней у сваім жыцці мне гэтак моцна хацелася муштарды. Увогуле кажучы, я невялікі аматар муштарды. Ужываю яе зрэдчас. Але ж сёння я быў гатовы аддаць за яе ўсю адзежку і грошай дзежку.

Я не знаёмы з людзьмі, якія мераюць грошы дзежкамі, але ў гэты самы момант я гатовы быў адшкадаваць гэтую ёмістасць першаму-лепшаму, хто пачастуе мяне лыжкай муштарды. Калі я не маю чаго хачу, дык раблюся легкадумным марнатраўцам!

Гарыс сказаў, што таксама гатовы аддаць грошай дзежку за лыжку муштарды. Няблага ж уладкуецца той, хто прыйдзе да нашага закутка з цэлым слоікам муштарды: ён можа забяспечыць сабе бязбедную старасць.

Але ўвага! Мушу прызнацца. Калі б у той вечар мы з Гарысам усё ж атрымалі муштарду, дык, хутчэй за ўсё, мы паспрабавалі б скасаваць гэты гешэфт. Бо празмерныя абяцанкі робяцца ў момант захопленасці. Але калі даходзіць да асэнсавання, адразу высвятляецца, наколькі мы пераацанілі аб'ект нашых жаданняў.

Чуў неяк пра аднаго мужчыну, які караскаўся па швейцарскіх Альпах і кідаўся абяцанкамі, быццам асыпле

золатам за куфаль піва. А калі ўрэшце трапіў у маленькую карчму, дзе падавалі піва, дык усчаў вэрхал толькі таму, што за бутэльку "Баскага бровара" яму выставілі рахунак на пяць франкаў. Ён сказаў, што цэны ў Альпах таксама завоблачныя і ён абавязкова напіша пра гэта ў "Таймс".

Ад недахопу муштарды ў чоўне запанавала панурасць. Мы моўчкі з'елі цяляціну. Жыццё здавалася плоскім і нецікавым. Мы прыгадвалі шчаслівыя дзянькі дзяцінства ды роспачна ўздыхалі. Зрэшты, мы трохі ажылі душой, калі прыняліся за яблычны пірог. А калі Джордж выцягнуў з глыбіняў каша бляшанку кансерваваных ананасаў і перакаціў яе на сярэдзіну чоўна, дык мы зусім ачунялі. Хай там што, але жыццё — рэч вартая.

Думкі пра ананас захапілі нашу свядомасць. Мы ўгляделіся ў этыкетку на бляшанцы ды марылі пра сакавітыя плады. Мы ўсміхаліся адзін аднаму, а Гарыс ужо трымаў лыжку напагатове.

Мы ўзяліся шукаць нож, каб адкрыць бляшанку. Усё паперакулялі ў кашы. Павытрушвалі ўсе торбы. Падаставалі дошкі з днішча чоўна. Павыцягвалі на бераг усе рэчы. Але кансервавага нажа — ані знаку.

Потым Гарыс намагаўся адкрыць бляшанку складанчыкам, але толькі паламаў яго ды моцна парэзаўся. Джордж спрабаваў ужыць нажніцы, але тыя адскочылі і толькі цудам не выкалалі Джорджу вока. Пакуль Гарыс з Джорджам перабінтоўвалі раны, я стаў свідраваць дзірку вастрыём лодачнага бусака. Бусак саслізнуў і пацяг-

нуў мяне за сабой у ваду, у паўметровую каламуць між чоўнам і берагам. Тым часам бляшанка, цэлая і непашкоджаная, адкацілася й разбіла парцалянавы кубачак.

Мы проста азвярэлі. Узялі гэтую бляшанку на бераг, пайшлі ў поле ды знайшлі там востры камень. Я вярнуўся ў човен і выцягнуў з яго мачту. Джордж трымаў бляшанку, Гарыс паставіў камень вострым канцом да вечка. Я ўзяў мачту, падняў высока ў паветры, сабраўся з сіламі ды з усяе моцы пляснуў ёй па бляшанцы.

Гэтым разам Джорджава жыццё ўратаваў саламяны брыль. Ён і цяпер захоўвае той брыль (ці тое, што ад яго засталося). Зімовымі вечарамі, калі люлькі запалены і мужчыны дзеляцца гісторыямі пра ўсякія выпрабаванні і небяспечныя прыгоды, што яны зведалі ў жыцці, Джордж заўжды прыносіць гэты брыль. Ён пускае яго па коле і апавядае — штораз па-новаму, з новымі перабольшаннямі.

Гарыс абышоўся неглыбокай ранай.

Урэшце я схапіў бляшанку і пляжыў яе мачтай, пакуль не выбіўся з сілаў і не адчуў уколаў у сэрцы. Тады бляшанку, як эстафету, пераняў Гарыс.

Мы з Гарысам пляжылі яе згары ўніз. Друзгаталі яе з усіх бакоў. Лупцавалі пад усімі вугламі, вядомымі й невядомымі геаметрыі. Аднак не змаглі прабіць у бляшанцы нават маленечкай дзюрачкі.

Потым да нашых забаваў далучыўся Джордж. Пад яго звярынымі ўдарамі бляшанка набыла такую дзіўную, такую вычварную, такую нялюдскую форму, што

ён сам спалохаўся і адкінуў мачту. Пасля мы ўтрох селі вакол бляшанкі на траве і сталі ўзірацца ў яе.

На паверхні бляшанкі красавалася невялічкая выбоіна, якая мела форму здзеклівай усмешкі. Гэта ўзлавала нас канчаткова, ажно Гарыс накінуўся на бляшаную навалач. Схапіў і шпурнуў яе на сярэдзіну Тэмзы. І пакуль яна ішла на дно, мы сыпалі ёй наўздагон праклёны і абразы. Мы залезлі ў човен, адчалілі ад берага і не спыняліся да самага Мэйдэнгэда.

Мэйдэнгэд — гарадок надта пыхлівы, каб яго любіць. Гэта логвішча рачных фарсуноў ды іх фанабэрлівых спадарожніц. Гарадок крыкліва-яркіх гатэльчыкаў, якія наведваюць збольшага гарадскія франты ды балерыны. Гэта вядзьмарскае кубло, адкуль у раку трапляюць пякельныя выпаўзні — паравыя баркасы. "Лонданскі часопіс" любіць менаваць Мэйдэнгэд "ідылічным месцейкам", а кожная гераіня томнай (шматтомнай!) свецкай хронікі заўжды тут абедае, таемна спаткаўшыся з чужым мужам.

Мы хутка мінулі Мэйдэнгэд і, запаволіўшы хаду, спакойна прайшлі цудоўны адцінак між Баўлтэрскім і Кукгэмскім шлюзамі. Кліўдэнскі лес яшчэ не знасіў сваіх веснавых шатаў, красуючыся над вадой усёй палітрай разнастайных сакавіта-зялёных адценняў. Відаць, нішто на ўсёй рацэ не зраўняецца з непарушнай прыгажосцю гэтага куточка. Зачараваныя, мы ледзь вялі наш човен праз гэтую глыбокую ціхамірнасць.

Адразу пасля Кукгэма мы збочылі ў завадзь, дзе згатавалі гарбаты. Калі мы міналі шлюз, надышоў вечар.

Узняўся вятрыска, і, каб было смяшней, — спадарожны. Паводле ўсіх правілаў ракі, вецер заўсёды дзьме вам насустрач, у якім бы кірунку вы ні рухаліся. Толькі вы зранку выходзіце на ваду, а ён ужо дзьме вам насустрач. Потым вы агорваеце вялікую адлегласць, мроячы, што ўжо назад будзеце вяртацца ўлегцы пад ветразем. Але пасля вечаровай гарбаты вецер падступна мяняе кірунак. Каб вы мусілі выжыльвацца і ўсю зваротную дарогу таксама.

Вецер будзе дзьмуць вам у спіну туды й назад, усю дарогу, але толькі ў адным выпадку — калі вы забыліся ўзяць ветразь. Ось так! Гэты сусвет — суцэльнае выпрабаванне, і чалавеку наканавана тут вечна пакутаваць, як іскрам вогнішча — вечна імкнуцца ўгору, гаснучы ў цемры.

Аднак гэтым разам, пэўна, у сістэме ўсеагульнай несправядлівасці адбыўся нейкі збой, і вецер, замест таго каб дзьмуць нам у твар, падсцёбваў нас у спіну. З гэтай нагоды мы языка не вытыркалі і, пакуль прырода не заўважыла сваёй памылкі, хуценька паднялі ветразь.

Мы разваліліся ў чоўне ў глыбакадумных паставах. Ветразь надзьмуўся, напяўся, затрапятаўся на мачце, і човен паплыў.

Я сядзеў за стырном.

Няма нічога больш захапляльнага за плаванне пад ветразем. На сённяшні дзень гэта самае блізкае, у чым чалавек хоць трохі падабраўся да птушынага палёту. Ну, калі не лічыць палётаў у сне. Крылы парывістага ветру, здаецца, нясуць вас наперад, немаведама куды. Вы больш не марудныя, лядашчыя кавалкі плоці, што вечна

корпаюцца, поркаюцца ў зямлі. Цяпер вы частка Маці-Прыроды! Вашыя сэрцы грукаюць ва ўнісон! Яе чароўныя рукі абдымаюць вас, тулячы да матчыных жыццядайных грудзей! Яе Дух — гэта ваш дух. Вашы канцавіны наліваюцца жыццём! Паветра, напоенае галасамі, спявае для вас. Зямля падаецца вам маленькай і драбнюткай. І хмаркі, цёмныя вашыя братанькі, так блізка над галавой, што можна працягнуць руку і дастаць.

Тэмза належала толькі нам, хіба што далёка-далёка мы бачылі пастаўленую на катвігу пасярод рэчкі рыбацкую пласкадонку, у якой сядзелі тры рыбакі. Мы слізгалі па вадзе і міналі зарослыя дрэвамі берагі. Вакол панавала маўчанне.

Калі мы падплылі бліжэй, дык убачылі трох старых і самавітых рыбароў. Яны сядзелі на трох крэслах у пласкадонцы і сачылі за сваім вудамі. А чырвоны заход сонца кідаў таямнічае святло на паверхню вады, крыху афарбоўваў выгоністы лес і дадаваў залацістага глянцу набеглым аблачынкам. Стаяла часіна вялікай урачыстасці, узнёслай надзеі і тугі. Маленькі ветразь, што ўзвышаўся на фоне пурпуровых нябёсаў і сутонлівага краявіду, здавалася, ахутваў увесь свет вясёлкавымі ценямі. За намі кралася ноч.

Мы рабіліся падобнымі да рыцараў з сівой легенды, што плывуць праз таямнічае возера сярод нязнанага валадарства ценяў да вялікай краіны на захадзе.

Да валадарства ценяў мы не даехалі. Мы ўрэзаліся ў пласкадонку, у якой сядзелі тыя старыя рыбары з вудамі. Спярша мы не скемілі, што здарылася, паколькі ве-

тразь засланіў увесь агляд. Аднак са словаў і фразаў, якія панесліся ў вечаровае паветра, мы зрабілі выснову, што трапілі ў самы асяродак чалавечага жыцця, якое, да таго ж, злуецца й абураецца.

Гарыс апусціў ветразь, і мы ўбачылі, што здарылася. Мы скінулі трох пажылых рыбароў у адну купу на днішчы пласкадонкі. Цяпер яны пакутліва адляпляліся адзін ад аднаго, атрасаючы вопратку ад рыбы. Робячы гэта, рыбары клялі нас. Але ж не нейкай там простай, павярхоўнай лаянкай. Гэта былі доўгія, абдуманыя, выкшталцоныя праклёны, якія змяшчалі ў сабе наш жыццяпіс, наш радавод да пятага калена й нашы незайздросныя жыццёвыя перспектывы. Яны далучылі да сваіх праклёнаў нашых родных і блізкіх, сяброў і знаёмых ды ўсё, так бы мовіць, навакольнае асяроддзе. Няма чаго сказаць — фундаментальная кляцьба.

Гарыс крыкнуў рыбарам, што тыя мусяць яшчэ падзякаваць нам, што мы іх хоць неяк разварушылі. Бо сядзяць тут поседам увесь дзень навылёт... А яшчэ ён заўважыў, што прыкра чуць, як людзі ў такім паважаным веку так лёгка паддаюцца гневу.

Але ж яго словы гучалі як аб сценку гарох.

Пасля гэтай аварыі Джордж сказаў, што за стырно сядзе ён сам. Ён дадаў, што калі мы хочам ацалець, дык не варта давяраць кіраванне такому светачу, як я. Лепш, калі гэтым зоймецца чалавек з народа. Сказаўшы так, чалавек з народа сеў за стырно і давёз нас да Марлоў.

У Марлоў мы сышлі з чоўна ля моста і ўладкаваліся на начлег у “Кароне”.

# *Раздзел XIII*



*Марлоў. — Абацтва Бішам. — Мэдмэнгэмскія манахі. — Манмарансі вырашае забіць старога ката́... — ...але ўрэшце дарue яму жыццё. — Ганебныя паводзіны аднаго фокстэр'ера ля крамы. — Бывай, Марлоў! — Урачыстае шэсце. — Паравыя баркасы і як з імі змагацца. — Мы адмаўляемся піць рачную ваду. — Самы спакойны сабака ў свеце. — Дзіўнае знікненне Гарыса і пірага.*

Марлоў — адно з самых прыемных месцаў на Тэмзе. Гэтае ажыўленае мястэчка ў цэлым не вельмі прыгожае, гэта праўда, але з мноствам пекных куткоў і закуточкаў. Усё яшчэ дзейсны пралёт у амаль разваленым Мосце Часу, па якім можна выправіцца ў падарожжа да тых дзён, калі фальварак Марлоў купіў саксонец Элгар. Потым Вільгельм Заваёўнік падарыў яго каралеве Матыльдзе Фландрыйскай. А пасля фальварак перайшоў да графа Ўорыка, а ад яго — да мудрага лорда Пэджэта, дарадцы чатырох наступных манархаў.

У ваколіцах Марлоў таксама маляўніча. Пасля веславання шпацыр вельмі дарэчы. Тут Тэмза паўстае ва ўсёй сваёй красе. Уніз да Кукгэма, паўз Кворскі лес і лугі, падарожнікаў чакае хараство краявіду.

Стары добры Кворскі лес! Твае стромыя сцежкі і ўтульныя паляны дыхаюць водарам згадак пра сонечныя летнія дзянькі! Твае цяністыя сцежкі поўняцца ласкавымі зданямі, што ўсміхаюцца нам здалёк. У тваёй шапаткой лістоце чуваць галасы даўно мінулых дзён!

Ад Марлоў уверх да Сонінга краявіды яшчэ прыгажэйшыя. Бішамскае абацтва вялізнае ды старажытнае. Яго каменныя муры чулі гаману тампліераў і ў розныя часы былі прытулкам для Ганны Кліўскай, чацвёртай жонкі Генрыха VIII Сіняй Барады, і каралевы Лізаветы. Абацтва нас чакае праваруч, за які кіламетр пасля Марлоўскага моста.

Бішамскае абацтва багатае на меладраматычны рэквізіт. У яго нетрах месцяцца абвешаныя габеленамі пачывальні, маемныя пакоі, схаваныя ў тоўшчы муроў. Здань лэдзі Голі, якая збіла свайго сына да смерці, паранейшаму блукае тут начамі, намагаючыся адмыць прывідныя рукі ў прывіднай купелі.

Рычард Нэвіл, граф Ўорык, празваны за сваю ўплывовасць Манархаробам, спачывае тут, абыякавы да каралёў і каралеўстваў, такіх пустых цяпер для яго словаў. Побач — Ўільям Монтэгю, граф Солсберы, які добра даў рады ў бітве пры Пуацье падчас Стагадовай вайны.

Перад уваходам у абацтва, па правым беразе, стаіць Бішамская царква. І калі ўжо вам рупіць адведаць

магілачкі ды помнічкі, дык варта зазірнуць на тутэйшы цвінтар. Дарэчы, менавіта праплываючы бішамскія букі, Шэлі, які тады жыў у Марлоў (цяпер яго дом можна ўбачыць на Заходняй вуліцы), склаў рамантычную паэму "Паўстанне ісламу".

Побач з Гёрлійскім шлюзам — трохі вышэй па рацэ — мне заўжды прыходзіць да галавы думка, што я мог бы жыць тут месяц, сілкуючыся адным хараством краявіду. Вёска Гёрлі, пяць хвілінаў хады ад шлюза, — ці не найстарэйшая на Тэмзе. Калі карыстацца трохі нягеглай фразеалогіяй гісторыкаў, летазлічэнне Гёрлі ідзе "ад часоў англасаксонскіх каралёў Себерта і Офы".

Пасля грэблі, уверх па рацэ — Дацкае поле. Тут калісьці атабарыліся скандынаўскія захопнікі падчас паходу на Глочэстэршыр. А крышку далей, ля маляўнічай лукавіны, параскіданыя парэшткі Мэдмэнгэмскага абацтва.

Тут збіралася слынная суполка вальнадумцаў "Мэдмэнгэмскія манахі", або "Клуб пякельнага полымя", як яе ўсе цяпер мянуюць, чыім сябрам лічыўся скандальна вядомы ліберал-радыкал Джон Ўілкс. Братэрства, чыім лозунгам было "Рабі што хочаш", яго і цяпер відаць над паўразбуранай брамай абацтва. За шмат гадоў да заснавання гэтага, з дазволу сказаць, абацтва з яго сходкамі дзёрзкіх блазнаў, на гэтым самым месцы стаяў кляштар больш суворага кшталту. А яго насельнікі моцна розніліся ад гулякаў, якія прыйшлі ім на змену пяцьсот гадоў пазней.

Манахі-цыстэрцыянцы, чыё абацтва стаяла тут у XIII стагоддзі, апраналі адно грубыя сутаны з капюшонамі. Не елі ані мяса, ані рыбы, ані яек. Спалі на голай саломе і падымаліся апоўначы да святой імшы. Бавілі дні ў працы, чытанні ды малітвах. А па-над іхнім жытлом лунала адно магільная ціша, бо яны давалі зарок маўчання.

Панурае брацтва, што вядзе панурае жыццё, і гэта ў кутку, які Гасподзь стварыў такім радасным і чароўным! Дзіва дзіўнае, што галасы Маці-Прыроды — далікатнае цурчанне вод, шоргат прыбярэжнай травы, музыка няўрымслівага ветру — не здолелі навучыць манахаў жыццёвай мудрасці! Чакаючы голасу з нябёсаў, манахі безумоўна чулі гэтыя гукі тут, у сваёй кляштарнай цішы. Усе дні і ўсе ночы навылёт Нябёсы размаўлялі з імі тысячамі галасоў, а манахі заставаліся глухімі!

Ад Мэдмэнгэма да чароўнага Гэмблдонскага шлюза рака поўніцца ціхамірным хараством. Аднак пасля Грынлэндса робіцца нецікавай. Тут жыве прадавец газетаў — сціплы ціхмяны дзядок. Улетку яго тут можна часта сустрэць. Гандляр няспешна, але ў ахвотку вяслуе. Або прыязна балбоча са старым наглядчыкам шлюза.

Берагі тут голыя і аднастайныя. Краявід ажывае толькі пасля Гентлі.

У Марлоў мы прачнуліся адносна рана і пайшлі ўмыцца перад сняданкам. Пачынаўся панядзелак.

Забягаючы наперад: Манмарансі выставіў сябе поўным дурнем. Адзінае, у чым мы з Манмарансі маем

канцэптуальныя разыходжанні, — гэта каты. Я іх люблю, а Манмарансі шчыра ненавідзіць. Убачыўшы ката, я прыгаворваю: “Бедная кіся-бíся!”, спыняюся й лашчу пяшчотнага гаротніка за вушкам. Кот падымае хвост, быццам жалезную рулю. Выгінае спіну й пачынае церціся носам аб порткі. Словам, узаемная далікатнасць і зычлівасць.

Калі ж ката сустракае Манмарансі, дык пра гэта ведае ўся вуліца. А брудныай лаянкі, што вылятае з сабачай пашчы ў наступныя дзесяць секунд, памяркоўнаму джэнтльмену мусіць хапіць на ўсё жыццё.

Я не вінавачу Манмарансі (зазвычай я абмяжоўваюся тым, што даю яму кухталя або шпурляю каменьчык), бо, пэўна, такая ўжо ў яго сабачая прырода. Кожны фокстэр’ер з нараджэння ў чатыры разы больш схільны да грэхападзення, чым іншыя сабакі. Толькі доўгія гады нашай хрысціянскай апекі над імі хоць неяк змякчаюць іх зацятую фокстэр’ерскую натуру.

Памятаю, стаяў я аднойчы ў вестыбюлі крамы “Гэймаркет”. Чакаючы вяртання сваіх гаспадароў, што рабілі закупы ўсярэдзіне, вакол мяне круціліся розныя сабакі. Там быў мастыф, адзін ці два колі, сенбернар, колькі спаніэляў і ньюфаўндлендаў, ганчак, французскі пудзялёк з капой поўсці на галаве, але з праплешынамі бліжэй да макаўкі, бульдог, некалькі сталічных штучак велічынёю з пацучкоў і парачка нечыстакроўных ёркшыраў.

Сядзелі сабе, цярплівыя і шляхетныя. Здавалася, ля ўваходу панаваў суцэльны спакой. Атмасфера ціхмянасці, пачцівасці і далікатнага смутку лунала ў паветры.

І тут зайшла мілая паненка, ведучы на шворцы лагоднага фокстэр'ера. Паненка пакінула фоксіка, навязаўшы між бульдогам і пудзяльком.

Фоксік сеў і абвёў позіркам навокал. Потым падняў вочы на столь і, мяркуючы па выразе ягонай пыскі, падумаў пра сваю мілую матулю. Потым пазяхнуў. Азірнуўся на іншых сабак, таксама сцішаных і самавітых.

Фоксік зіркнуў на бульдога, які драмаў ад яго па правую лапу. Потым — на фанабэрлівага пудзялька, што наструніўся па левую лапу. Пасля, без ніякага папярэджання, абсалютна нічым не справакаваны, ён узяў ды ўкусіў пудзялька за бліжэйшую пярэднюю лапу. Пакутлівы віскат прарэзаў паветра вестыбюлю.

Выдае на тое, што вынікі першага эксперыменту моцна прыпалі фоксіку да сэрца, дык ён пастанавіў замацаваць поспех. Фоксік пераскочыў пудзеля і з імпэтам атакаваў колі. Колі прачнуўся й адразу ўвязаўся ў лютую й гучную бойку з пудзелем. Потым фоксік вярнуўся на сваё месца ды ўхапіў бульдога за вуха, яўна маючы на мэце тое вуха адарваць. Бульдог, сэрца на далоні, стаў паляваць на ўсіх, хто рухаўся, уключаючы швейцара. Нашаму міламу фоксіку гэта дало ўнікальную магчымасць стаць сведкам вайны ўсіх супраць усіх, да якой далучылася й парачка баявітых мяшанцаў з Ёркшыра.

Кожнаму, хто ведае сабачую натуру, ужо, відаць, стала ясна, што ў той момант усе астатнія сабакі цапаліся так, нібыта ішло змаганне за долю і волю, нібыта ім трэба было бараніць родны парог. Вялікія сабачыскі за-

цята біліся адно з адным, маленькія сабачкі — міжсобку, а паўзы запаўнялі кусаннем лап моцных гэтага свету.

Вестыбюль ператварыўся ў пекла. У паветры лунаў шалёны брэх. У натоўпе, які сабраўся звонку, людзі пыталіся, ці не ладзіцца тут святочная літургія, і калі не, дык, можа, кагось публічна пакаралі смерцю, але — за што? Папрыбягалі мужчыны з каламі й вяроўкамі. Паспрабавалі расцягнуць сабак, нехта нават выклікаў паліцыю.

Пасярод вэрхалу вярнулася мілая паненка і ўзяла свайго любенькага гадаванца, які пяць хвілін таму прынамсі на месяц зняшкодзіў аднаго з ёркшырскіх мяшанцаў. Паненка ўзяла фоксіка на ручкі. Ах, ён, ягнятка-немаўлятка, маркоціўся тут без яе цэлую вечнасць! Паненка дала фоксіку буську і запытала, ці ж гэтыя жудасныя бестыі не чапалі яго? А фоксік скруціўся на яе руках і паглядзеў у вочы так, нібыта казаў: “О, я так рады, што ты нарэшце прыйшла і мне больш не трэба быць сведкам гэтых крывавых вулічных драмаў!”

Паненка ўголас абвесціла, што ўсякія-розныя не маюць права прыводзіць у краму здаравезных пачвараў і навязваць іх побач з сабачкамі прыстойных людзей і што ёй карціць падаць на некаторых тут прысутных у суд.

...Такая ўжо ў іх натура, у гэтых фокстэр’ераў. Таму сёння я не стану вінаваціць Манмарансі за яго прагуварагаваць з катамі. Хоць гэтым ранкам, відавочна, пад чорным лесам трапіў чорт на беса...

Мы, як я ўжо казаў, вярнуліся з умывання, і напаўдарозе з нейкага дома проста перад наміываліўся кот ды трушком стаў перабягаць галоўную вуліцу.

Манмарансі заскавытаў. Яго скавытанне нагадвала вокліч ваяра, які бачыць, што закляты вораг сам бяжыць яму ў рукі. Відаць, гэтаксама загаласіў лорд-пратэктар Олівер Кромвель, калі ў 1650 годзе падчас бітвы пад Данбарам шатландцы легкадумна спусціліся з пагорка, робячыся тым самым яго лёгкай здабычай.

Ахвярай Манмарансі мусіў стаць чорны кацяра з пысай рэцыдывіста. Звяруга ўжо страціў паўхваста і першапачатковую форму носа. Выцягнуты, падхорцісты экзэмпляр. Самавіты, самазадаволены.

Манмарансі прыпусціў за сваёй ахвярай з хуткасцю трыццаць кіламетраў на гадзіну, а кот нават не прыспешыўся. Ён, мабыць, пакуль не асягнуў розумам, што яго жыццё вісіць на валаску. Кот бег няспешным трушком, пакуль адлегласць паміж ім ды патэнцыйным забойцам не скарацілася да аднаго метра. Урэшце павярнуўшыся, ён усеўся пасярод дарогі, зірнуўшы на Манмарансі з далікатным цікаўным выразам, як бы кажучы:

— Слухаю! Вам мяне?

Манмарансі — не з палахлівых. Але было нешта такое ў гэтым кацяры, што астудзіла б сэрца нават самага адважнага сабакі. Манмарансі пастаяў-паторкаўся. І зноў зіркнуў у бок ката.

Яны так і стаялі моўчкі. Але гутарка паміж імі была прыблізна гэткая:

КОТ. Чым магу быць карысны, шаноўны дружа?

МАНМАРАНСІ. Не, нічым! Я тут нічога такога…

КОТ. Не саромцеся! Калі што трэба, шаноўны, то абавязкова кажыце.

МАНМАРАНСІ (*падаўшыся спінай да галоўнай вуліцы*). О, не, нічога такога! Праўда, не бярыце да галавы! Пэўна ж, я пераблытаў вас з іншым знаёмым. Прабачце, што патурбаваў.

КОТ. Вось драбніцы, нічога вы не патурбавалі, гэта нават для мяне гонар. Праўда, нічога не трэба?

МАНМАРАНСІ (*па-ранейшаму падаючыся назад*). Нічога, нічога. Дзякуй за прапанову. Добрага вам ранку!

КОТ. І вам не хварэць!

Кот падняўся і далей пабег трушком, а Манмарансі, падціснуўшы свой хвасток, вярнуўся да нас і заняў сціплае месца на галёрцы.

Яшчэ і цяпер, калі вы гукняце: “Кот!” — Манмарансі заўважна перасмыкнецца і з дакорам зірне на вас, быццам кажа:

— Калі ласка, перастань...

Пасля сняданку мы схадзілі на закупы ды запасліся на тры дні. Джордж сказаў, што варта ўзяць гародніны, бо не есці гародніны — вельмі шкодна для здароўя. Ён дадаў, што яе хутка і лёгка гатаваць, і ён возьме гэта на сябе. Мы набылі пяць кіляў бульбы, шэсць літраў гароху і пару качаноў капусты. А таксама пірог з ялавічынай і пару агрэставых кексаў. У заезным доме купілі барановую нагу. І ў дадатак — садавіну, піражныя, хлеб, масла, сочыва, паляндвіцу, яйкі і яшчэ сёе-тое, што раздабылі, аблазіўшы ўвесь гарадок.

Адпраўленне з Марлоў я лічу за наш, можа быць, самы шыкоўны выхад у свет. Гэта была велічная працэ-

сія, але без збыткоўнай пампезнасці. Мы настоялі, каб ва ўсіх крамах, дзе мы нешта куплялі, нам зрабілі неадкладную дастаўку. Ніякіх "Так, шаноўны спадар, я дашлю ўсе вашы тавары адразу ж!", ніякіх "Не хвалюйцеся! Хлопец-кур'ер будзе чакаць ля вашага чоўна раней за вас!", ніякіх чаканняў хлопца ля прыстані ды вяртанняў назад у краму па сто разоў, ніякіх просьбаў паспяшацца. Кожнага разу мы ўважліва сачылі, каб гаспадар крамы спакаваў нашы кашы з пакупкамі, і адразу ж бралі кур'ера з сабою.

Гэткую стратэгію мы ўжылі ў кожнай краме, дзе былі. У выніку мы сабралі багатую калекцыю хлопчыкаў з кашамі, якія крочылі за намі, як на парадзе. Наш фінальны марш па сярэдзіне галоўнай вуліцы да ракі стаў тым яшчэ відовішчам, Марлоў не бачыў такога здавён-даўна. Парадак працэсіі быў такі:

*Манмарансі, які нясе палачку.*

*Два сумнеўнага выгляду дварнякі, сябрукі Манмарансі.*

*Джордж, які нясе курткі й анучы ды паліць кароткую люльку.*

*Гарыс, які імкнецца ступаць з нязмушанай зграбнасцю, несучы вялізны саквояж у адной руцэ і бутэльку цытрынавага соку ў другой.*

*Хлопчык з крамы зеляніны і хлопчык з хлебнай крамы, з кашамі.*

*Служка з гатэля, які нясе вялізны куфар.*

*Хлопец з кандытарскай, з кашом у руках.*

*Хлопец з бакалеі, з кашом у руках.*

*Патлаты сабака.*

*Хлопец з сырнай крамы, з кашом у руках.*

*Дзіўнага выгляду грузчык, што цягне торбу.*

*Таварыш дзіўнага выгляду грузчыка, з рукамі ў кішэнях, які паліць кароткую керамічную люльку.*

*Хлопец з крамы "Садавіна", з кашом у руках.*

*Я сам, нясу тры капелюшы і пару чаравікаў і ўдаю, нібыта з імі не знаёмы.*

*Пяць малых хлопчыкаў і чатыры прыблудныя сабакі.*

Калі мы падышлі да прычала, лодачнік спытаў:

— Хвілінку, даражэнькія. У вас быў паравы баркас ці плывучы дом?

Наш адказ пра маленькі чатырохвёславы човен лодачніка здзівіў.

У тую раніцу мы напакутаваліся з паравымі баркасамі. Гэта было напярэдадні Гэнлійскай універсітэцкай рэгаты, так што іх прыбывала сюды вялікая колькасць. Некаторыя самі-адны, іншыя цягнулі на буксіры плывучыя дамы.

Як я ненавіджу паравыя баркасы! І, думаю, усе весляры будуць са мной салідарныя. Кожны раз, калі бачу паравы баркас, ува мне прачынаецца неадольнае жаданне завабіць яго ў зацішны куток Тэмзы і, пакуль ніхто не бачыць, патапіць.

Ёсць у паравых баркасах нейкая знарочыстая пыхлівасць, якая абуджае ўва мне звярыныя інстынкты. Я сумую па тых старых-добрых часах, калі, узброіўшыся сякерай, дзідай і стрэламі, можна было падысці і шчыра сказаць чалавеку, што ты пра яго думаеш. Адзін выраз твару капітана баркаса, які, паклаўшы рукі ў кішэні,

стаіць ля стырна і паліць цыгару, можа апраўдаць вераломны пачатак любой вайны. Адзін гэты загадны свісток, што прызначаны вам, каб вы, шаноўнае спадарства, расступіліся, — сур'ёзная прычына, каб суд вынес вердыкт "забойства з мэтамі неабходнай самаабароны" (калі будуць судзіць весляра, канешне). Бач ты — яны нам яшчэ свісцяць, свістуны!

Не хачу выхваляцца, але скажу, што за гэты тыдзень на Тэмзе наш маленькі човен, які раз-пораз заступаў паравым баркасам дарогу, прынёс ім засмучэнняў і затрымак больш, чым усе іншыя чаўны разам узятыя.

— Увага! Баркас на гарызонце! — крычаў хто-небудзь з нас, згледзеўшы ворага на даляглядзе. І мы — вокамгненна напагатове. Я сядаю за стырно, а Гарыс і Джордж — перада мной спінай да ворага. І наш човен ціхенька кіруе на сярэдзіну ракі.

Напаўняючы наваколле свістам, з'яўляўся паравы баркас. Мы ж, як нічога ніякага, працягваем дрэйфаваць. Метраў за сто баркас пачынаў галасіць, як дурны. Каманда падбягае да бартоў і гыркае. Але мы — нуль увагі! Як нічога ніякага, Гарыс апавядае фрашкі пра сваю маці, а мы з Джорджам слухаем з падвойнай увагай.

Тут баркас выплёўвае свой апошні аргумент, які, здаецца, ледзь не разрывае яму паравы кацёл. Потым дае задні ход, абплывае нас збоку ды сядае на мель. Уся каманда на борце бяжыць да парэнчаў і лямантуе. Людзе на беразе стаяць і таксама крычаць на нас, а чаўны спыняюцца, трапіўшы ў затор, — і вось ужо ўся Тэмза, некалькі кіламетраў

уніз і ўверх па вадзе, шалее ў гістэрыцы. І толькі тады Гарыс перарывае свой захапляльны аповед і, пазіраючы наўкола з лёгкім здзіўленнем, кідае Джорджу:

— Ох, браце, каб я так жыў, калі гэта не паравы баркас!

А Джордж млява адказвае:

— Слухай, я таксама нешта пачуў...

І мы ўсе такія знерваваныя і збянтэжаныя не ведаем, як прыбраць човен з дарогі. Людзі на баркасе збіраюцца ў купу і даюць нам парады:

— Правым вяслуй, палена ты дурное! Цяпер левым табань. Ды не, не ты — іншы ты — кінь стырно ў спакоі, ты што, не чуеш — а цяпер абодва разам! НЕ ТАК! Ах, ты...

Затым людзі перасядалі з баркаса ў шлюпку і давалі нам помач. Пасля пятнаццаці хвілін працы нас урэшце прыбіралі з дарогі, каб можна было плысці далей. Мы дзякавалі ім і прасілі ўзяць нас на буксір. Але яны ніколі не пагаджаліся.

Мы знайшлі яшчэ адзін спосаб патузаць гэтых нервовых пыхліўцаў. Удавалі, нібыта пераблыталі баркас з выязной кухняй. Мы крычалі, што калі яны вязуць ежу для працаўнікоў інжынера Ўільяма Кубіта (або для сяброў “Бермандсійскага таварыства цвярозасці”), дык ці не могуць яны пазычыць нам рондаль?

Кабеты ў гадах, незнаёмыя з рачнымі норавамі, заўжды вельмі хвалююцца пры сустрэчы з паравым баркасам. Памятаю, аднойчы мы ішлі ад Стэйнза да Ўіндзара з трыма спадарынямі азначанага вышэй веку. На тым адцінку водныя абсягі якраз кішма кішаць гэтымі меха-

нічнымі пачварамі. Божа, злітуйся! Толькі згледзеўшы ўдалечыні паравы баркас, яны проста на каленях прасілі нас прыстаць да берага і перачакаць, пакуль той не знікне з відавоку. Кабеты апраўдваліся, маўляў, яны паабяцалі дзецям і ўнукам лішне не рызыкаваць сваім жыццём.

Ля Гэмблдонскага шлюза ў нас скончылася вада. Тады мы ўзялі слоік і пайшлі да вартоўні і наглядчыка шлюза.

Джордж зрабіўся нашым парламенцёрам. Ён нацягнуў на твар чароўную ўсмешку і запытаў наглядчыка:

— Ці не падзеліцеся з намі вадзічкай?

— Ды калі ласка, — адказаў наглядчык. — Бяры, колькі ўнясеш.

— Вялікі дзякуй, — прамармытаў Джордж, аглядаючы навокал. — А дзе… дзе яе ўзяць?

— Там, дзе і заўжды, юнача, — быў флегматычны адказ. — Проста за тваёй спінай.

— Нешта не бачу, — адказаў Джордж, павярнуўшыся.

— Разуй вочы, хлопец! — быў адказ наглядчыка, калі ён павярнуў Джорджа і абвёў рукой рачны працяг.

— А-а! — выгукнуў Джордж. Да яго ўрэшце дайшло. — Але ж піць ваду з ракі няможна.

— Так, усю Тэмзу няможна, але нейкую частку — можна, — адказаў наглядчык. — Я, да прыкладу, п’ю і п’ю яе апошнія пятнаццаць гадоў — і, як бачыце, яе яшчэ тоны.

Джордж заўважыў, што манеры і выгляд наглядчыка — не надта добрая рэклама для гандлёвай маркі “Тэмза”, а ён сам, Джордж, аддае перавагу вадзе з калонкі.

## Закінутыя вёскі

Нашы зніклыя продкі дбаюць пра нас. Таму часам у пакінутай, але з моцным дахам і крэпкімі сценкамі, адрыне ці лазні вандроўнікам добра перачэкваць раптоўную начную залеву. Чытаючы пад сковыт стыхіі раскіданыя старонкі польскага адрыўнога календара за 1934 год ці пякучыя скаргі калгасніцы ў сельсавет на суседскіх курэй, разглядаючы на сценных фотапартрэтах твары нашай мінуўшчыны. Духі дзядоў звычайна пасмейваюцца ў прыпечку.



Вады нам далі ў нейкай хаце трохі вышэй па Тэмзе. Думаю, тое была таксама рачная вада, але, прынамсі, мы пра гэта не ведалі. Як той казаў, там, дзе вочы не вядуць, трасцу ўсякую ядуць.

Аднойчы, гэта было ўвосень, мы каштавалі рачную ваду — але выйшла не вельмі. Мы ішлі ўніз па рацэ і ля Ўіндзара збочылі ў старыцу папіць гарбаты. Наш слоік спусцеў, і гэта быў якраз той выпадак, калі “або-або”: або застаешся без гарбаты, або бярэш ваду з ракі. Гарыс галасаваў за тое, каб рызыкнуць і згатаваць рачной вады. Ён сказаў, што ўсё будзе добра. І дадаў, што мікробаў і ўсякія атруты, якія плаваюць у вадзе, заб’е кіпень.

Мы напоўнілі чайнік вадой са старыцы Тэмзы. І згатавалі яе, сочачы, каб яна закіпела як след.

Потым запарылі гарбату. І толькі прымайстраваліся былі, каб папіць, як Джордж з кубкам на паўдарозе да рота знерухомеў і раптам загаласіў:

— А гэта што такое?!

— Гэта якое? — перапужаліся мы з Гарысам.

— Вось тое! — адказаў Джордж, паказваючы ўверх па рацэ.

Мы з Гарысам прасачылі за ягоным позіркам і ўбачылі, як да нас млявенька плыў нейкі сабака. Ні раней, ні пазней я не сустракаў такога рахманага й ціхмянага цюцьку. Ні раней, ні потым я не сустракаў больш задаволенай жывёліны. Сабака дрэйфаваў сабе няспешна на спіне, а яго чатыры лапы прасталіся ўгору. Скажам так, пульхнаваты экзэмпляр з добра развітай грудзінай.

Гэтак і плыў сабе: спакойны, поўны самапавагі і ўнутранага спакою — аж пакуль не параўняўся з нашым чоўнам. Сярод чаротаў сабака сцішыў ходу і спыніўся ў іх на начлег.

Джордж сказаў, што больш яму не хочацца ніякай гарбаты, і выліў свой кубак у раку. Гарыс таксама больш не адчуваў смагі — і паследаваў прыкладу сябра. Я на той момант ужо выпіў паўкубка, але ж як цяпер шкадаваў пра гэта!

Я спытаў Джорджа, ці не магу я падхапіць тыфус.

Ён адказаў: "Ды наўрад ці!" Пасля запэўніў мяне, што тыфус — яшчэ не смяротны вырак. І што, у дадатак, я маю цэлыя пяцьдзясят працэнтаў: або заражуся, або не. І, як сапраўдны сябра, супакоіў, маўляў, так ці гэтак, а ўжо праз нейкія два тыдні я пра ўсё абавязкова даведаюся.

Потым мы выплылі са старыцы да вёскі Ўоргрэйв. Шлях напрасткі да яе пачынаецца па беразе за кіламетр пасля Маршскага шлюза. Я вельмі раю скарыстацца ім. Пекны цяністы ручай, які ў дадатак эканоміць кіламетр дарогі.

Ці трэба казаць, што ручай утырканы слупамі і ланцугамі ды таксама аздоблены тычкамі з шыльдамі, якія наперабой абяцаюць усе магчымыя віды катаванняў, арыштаў і егіпецкіх караў кожнаму, што наважыцца гэтым шляхам скарыстацца? Нават робіцца дзіўна, чаму гэтыя хамуйлы — я пра ўласнікаў прыбярэжнай паласы — не здагадаліся абкласці саракашылінгавым штрафам паветра вакол ракі і спаганяць яго з усіх, хто дыхае кіслародам?

Слупы і ланцугі, прыклаўшы трохі ўмельства, можна лёгка абмінуць. Што да шыльдаў: маючы крыху вольнага часу і ніводнай жывой душы навокал, можна ўзяць адну-дзве ды шпурнуць іх у ваду.

Агораўшы палову старыцы, мы выбраліся на бераг і прыняліся за другі сняданак. У часе яды мы з Джорджам перажылі нервовы шок.

Трохі скаланула і Гарыса. Але не думаю, што Гарысаў шок быў хоць напалову такі моцны, як мой з Джорджавым.

Вось жа, усё развівалася так: мы сядзелі на лузе, метраў за дзесяць ад ракі. Мы толькі падрыхтаваліся да прыёму ежы. Гарыс трымаў мясны пірог між каленяў і рэзаў яго на порцыі. Мы з Джорджам чакалі з талеркамі напагатоў.

— У нас тут ёсць лыжка? — запытаўся Гарыс. — Трэба лыжку, каб зачарпнуць мясны сок.

За намі стаяў закрыты кош, і мы з Джорджам павярнуліся, каб дастаць лыжку. Мы былі спінай да Гарыса секунд пяць, не болей. Калі ж павярнуліся, дык Гарыс з пірагом расталі, як цукар у кіпні.

Вакол рассцілалася шырокае голае поле. На сотні метраў ані дрэўца, ані слупочка. У ваду ён скокнуць не мог, бо мы стаялі з боку ракі, і ён не здолеў бы прашмыгнуць паўз нас незаўважаны.

Мы з Джорджам глянулі навокал. Потым зірнулі адзін на аднаго.

— Можа, Гарыса ўзялі на неба? — пацікавіўся я.

— Але нашто ім там наш пірог? — запярэчыў Джордж.

Выдавала на тое, што Джордж падаў важкі довад, і версію ўнебаўзяцця давялося адкінуць. Джордж, звярнуўшыся да больш зямных тэорый, выказаў дапушчэнне, што адбыўся землятрус. І пасля дадаў, з лёгкай скрухай у голасе:

— Але пірог ён мог пакінуць на зямной паверхні...

Уздыхнуўшы, мы кінулі позірк на той лапік зямлі, тую сумную юдоль, дзе ў апошні раз бачылі Гарыса. І пірог.

І тут кроў застыла ў нашых жылах і валасы сталі дыба, бо мы ўбачылі галаву Гарыса. Галаву — і нічога больш. Яна вытыркалася, не раўнуючы гузак, сярод высокай травы. Пунсовы твар Гарыса палаў шчырым абурэннем.

Першым ачомаўся Джордж.

— Кажы! — закрычаў ён. — Ці ты жывы, ці ты памерлы, скажы нам: дзе рэшта цябе?

— Не дуры, афэлак! — адказала галава Гарыса. — Ты ўсё і падстроіў.

— Што падстроіў? — выгукнулі мы з Джорджам у адзін голас.

— Падстроіў, каб я тут захрас, — адказаў Гарыс. — Дурныя жарты! На, вазьмі пірог.

З нетраў зямных вылез пірог, скамечаны і скалечаны. За пірагом выпаўз ускудлачаны й завэдзганы Гарыс.

Высветлілася, што ён сядзеў на самым краі вымытага вадой раўчука, які надзейна схавала высокая трава. Калі Гарыс трохі нахіліўся, дык упаў туды разам з пірагом.

Гарыс прызнаўся, што ніколі падзеі не развіваліся ў ягоным жыцці гэтак імкліва. Нават калі стаў правальвацца пад зямлю, ён усё роўна не разумеў, што адбываецца. Спярша яму стрэльнула ў галаву думка, што настаў канец свету.

Гарыс і дагэтуль упэўнены, што мы з Джорджам спланавалі ўсё загадзя. Што ж, несправядлівыя падазрэнні часам не абмінаюць нават нявінных. Бо як там у “Гамлеце”: “Будзь чыстая, як лёд, белая, як снег, — усё роўна абгавораць”. Праўдзівыя словы!

## *Раздзел XIV*



*Ўоргрэйв. — Музей васковых фігур. — Сонінг. — Ірландскае рагу. — Унёсак Манмарансі. — Няроўны бой Манмарансі з чайнікам. — Джордж-музыка. — Цяжкая доля аматараў музыкі. — Гарысаў смутак пасля вячэры. — Мы з Джорджам ідзём на праходку. — І вяртаемся галодныя й халодныя. — Лебядзіная песня Гарыса. — Гарысу не спіцца.*

П*асля другога снядан*ку мы злавілі брыз, які лёгка панёс нас паўз Ўоргрэйв і Шыплэйк. Песцячыся ў лагодных промнях летняга адвячорка, Ўоргрэйв раскінуўся там, дзе Тэмза пачынае пятляць. Ўоргрэйв паўстае ў вобразе старога добрага мястэчка, і ягоныя абрысы надоўга застаюцца на сятчатцы памяці.

Тутэйшая карчма "Святы Юры ды Цмок" ганарыцца насценнымі малюнкамі, нарысаванымі з аднаго боку акадэмікам Лэслі, а з другога — акадэмікам Годжсанам. Лэслі паказаў зацятае змаганне; Годжасан у тым

жа стылі выявіў сцэну пасля бітвы: святы Юры, зрабіўшы сваю справу, цешыцца куфлем піва.

Томас Дэй, аўтар славутай дзіцячай кнігі "Сэнфард і Мэртан", жыў тут і — што важней для славы мястэчка — быў тут забіты. У мясцовай царкве вісіць урачыстая шыльда ў гонар мецэнаткі Сары Гіл. Штогод на Вялікдзень адзін фунт дзеляць паміж двума хлопчыкамі і дзвюма дзяўчаткамі, якія "цэлы год былі паслухмянымі, ніколі не казалі брудных словаў, не хлусілі, не кралі і не білі шыбаў у бацькоўскіх хатах"...

Але ж ці вартая шуму ўся аблава? Як можна прапусціць пералічаныя вышэй асалоды за нейкую там чвэртку фунта?!

Гуляюць чуткі, што багата гадоў таму ў горадзе з'явіўся хлопчык, які насамрэч не рабіў пералічаных вышэй кепстваў. Проста ніколі нічога не рабіў. І вось калі ласка — атрымаў вянец пераможцы. Тры дні таго хлопчыка выстаўлялі напаказ пад шкляным каўпаком у ратушы.

Што робяць з грашыма, прызначанымі для праведных пераможцаў, невядома. Кажуць, прэмію перадаюць у суседні з царквой музей васковых фігур.

Шыплэйк — прыгожае сяло. Але яго не ўбачыш з ракі, бо яго асланяе пагорак. У Шыплэйцкай царкве браў шлюб паэт Альфрэд Тэнісан.

Далей па дарозе ў Сонінг Тэмза кружляе і пятляе сярод шматлікіх выспачак. Тут яна ціхамірная, бязлюдная і самотная. Людзей — вобмаль. Хіба што ў сутонні вынырне пара ці дзве закаханых сялянаў, што шпацыруюць уздоўж ракі. Арысы з Енрыетамі, а таксама дэндзі са

сваімі фарсуністымі спадарожніцамі, засталіся ззаду, у гарадку Гэнлі-на-Тэмзе, а да бруднага Рэдынга яшчэ далёка. На гэтым адцінку найлепш летуценіць пра сівую даўніну, забытыя твары і згубленыя рэчы. Марыць, што б магло быць, але ж лёс склаўся так… Трасца на яго!

Мы выйшлі ў Сонінг на экскурсію. Сонінг — ці не самы чароўны куток на Тэмзе. Тут усё выглядае хутчэй як дэкарацыі вясковага жыцця, чым сапраўдная цагляная вёска. Кожная камяніца патанае ў ружах, і цяпер, раннім чэрвенем, усё паветра прасякнутае далікатным водарам кветак.

Калі вы трапіце ў Сонінг, спыняйцеся ў “Быку”, што адразу за царквой. Там вы ўбачыце непадробныя карцінкі з жыцця старасвецкага заезнага дому. Зялёны квадратны падворак, на лаўках пад дрэвамі групкі дзядкоў п’юць эль і пляткараць на сельскія тэмы. Старамодныя пакоі з нізкай столлю і закратаванымі вокнамі. Нехлямяжыя сходы і пакручастыя калідоры.

За якую гадзіну мы аблазілі харашмяны Сонінг. Зрабілася запозна — і паўстала небяспека захраснуць у смярдзючым Рэдынгу на ноч. Таму было вырашана вярнуцца на адну з выспачак ля Шыплэйка і заначаваць там.

Калі мы там атабарыліся, было яшчэ не позна, Джордж сказаў, што як маем процьму часу, дык цудоўная нагода згатаваць пышную, як мае быць, вячэру. Ён дадаў, што пакажа нам, якія шыкоўныя стравы можна зрабіць у паходных умовах. І прапанаваў зварыць ірландскае рагу з парэштак халоднай цяляціны, гародніны ды іншым

усякім-розным. Мы з радасцю пагадзіліся. Джордж набраў дроваў ды распаліў вогнішча, а мы з Гарысам узяліся за бульбу.

Ніколі не думаў, што абіраць бульбу так цяжка. Праца выявілася ці не самай моташнай за ўсю маю кухарскую кар'еру. Пачалі мы бадзёранька, нават, можна сказаць, зухавата. Але пасля першай абранай бульбы ўвесь імпэт мінуўся. Чым больш мы абіралі, тым больш лушпаек заставалася. Калі мы паабабралі ўсю бульбу і павыразалі ўсе вочкі, самой бульбы засталося з жабіны прыгаршчы. Падышоў Джордж і агледзеў вынікі. Кожная бульбіна была памерам з гарох.

Джордж сказаў:

— Не, так не пойдзе. Вы толькі пераводзіце прадукт. Гэтую бульбу трэба скабліць.

Мы прыняліся скабліць, што цяжэй за простае абіранне. Бульба мае такую няроўную форму — адныя гузакі, блямбы і западзіны. За дваццаць пяць хвілін мы наскаблілі чатыры бульбіны. Спыніліся, бо зразумелі, што рэшту вечара правядзем, адскабліваючы саміх сябе.

Скабленне бульбы — найкарацейшы шлях да поўнага забруджання мужчыны. Цяжка было даць веры, што лушпайкі, якімі мы з Гарысам пакрыліся з макаўкі да пят, былі здабытыя ўсяго толькі з чатырох бульбін. Гэта выдавала на цуд, на чароўнае размнажэнне адкідаў.

Джордж зазначыў, што кідаць чатыры бульбіны ў ірландскае рагу — дурнота. Тады мы памылі штук шэсць-сем бульбін ды ўкінулі іх у мундзірах. Таксама кінулі туды

капусты і літры чатыры гароху. Памяшаўшы ўсё як след, Джордж сказаў, што тут яшчэ шмат месца. Тады мы перакулілі кош і высыпалі ў рагу ўсякія рэшткі і ападкі, што засталіся на дзнішчы. Там была палова пірага са свінінай і кавалачак адварной грудзінкі. Потым Джордж вытрыбушыў у саган паўбляшанкі варанага ласося.

Ён сказаў, што плюс ірландскага рагу — за адзін заход можна пазбыцца шмат якіх прадуктаў. Я вычапіў пару яек, якія пакалоліся, і таксама выліў іх у саган. А Джордж ухвальна ківаў і прыгаворваў, што яны дададуць наварыстасці.

Цяпер я ўжо не прыгадаю, што мы кідалі яшчэ, але я ўпэўнены, што нічога не абмінулі. Памятаю толькі, што Манмарансі, які праяўляў моцнае зацікаўленне ўсім працэсам гатавання, пры канцы знік з натхнёным і ўзрушаным выглядам. Колькі хвілін пазней ён вярнуўся з мёртвай нутрыяй у зубах. Нутрыя яўна мусіла стацца ягоным унёскам у агульную справу. Ці гэта быў ягоны жарт, ці шчырае жаданне дапамагчы — даруйце, спадарства, мне цяжка сказаць.

Нутрыя зрабілася прадметам палкай дыскусіі: ці трапіць яна ў рагу, ці не. Гарыс зазначыў, што ўсё будзе добра, паколькі нутрыя змяшаецца з іншымі складнікамі. Бо ў нас кожнаму паводле патрэбаў, а ад кожнага — паводле здольнасцяў. Аднак Джордж настойваў на агульначалавечым досведзе. Ён, маўляў, ніколі не чуў пра нутрый у ірландскім рагу, і, маўляў, лепей не кідацца ў рызыкоўныя эксперыменты.

Гарыс запярэчыў:

— Калі мы не будзем спрабаваць новыя падыходы, дык як тады зможам даведацца, добра гэта ці дрэнна? Менавіта такія, як ты, Джордж, заняхайваюць прагрэс! Вось падумай на хвілінку пра адважнага і бясстрашнага чалавека, які ўпершыню пакаштаваў нямецкую кілбаску.

Рагу выйшла як мае быць! Не ведаю, ці каштаваў я што-небудзь смачнейшае. Пярчынка стала яе разынкай. Наш густ прытупіўся звыклымі стравамі — а гэтае рагу несла навіну: адметны водар і непаўторны смак.

Рагу — вельмі пажыўная рэч. Найперш дзякуючы добра падабраным прадуктам, лічыць Джордж.

Гарох і бульба маглі быць, напэўна, трохі мякчэйшыя, але такой бяды! Мы ўсе маем моцныя зубы. Мясны сок — паэма! Хіба што на слабы страўнік трошачкі перанасычаны. Аднак пажыўны.

Завершылі мы вячэру гарбатай з вішнёвым пірагом. Падчас чаявання Манмарансі змагаўся з чайнікам — і пацярпеў паразу.

Усё падарожжа Манмарансі дэманстраваў вялікую зацікаўленасць чайнікам. Манмарансі пачасту сядзеў у одуме, назіраючы, як той закіпае. Усяляк спрабаваў узлаваць яго з дапамогай брэха. Калі чайнік пачынаў сычэць і выкідаць пару, дык Манмарансі выснoўваў, што чайнік выклікае яго на дуэль. Аднак заўжды знаходзіўся нехта, хто ў гэты момант здымаў чайнік з агню, тым самым пазбаўляючы Манмарансі яго законнай здабычы.

Але сёння Манмарансі вырашыў: ангельскія сабакі не здаюцца. Калі з чайніка вырваліся першыя зыкі, Манмарансі ўзняўся і з адважным гырчаннем наскочыў

на ворага. Гэта быў усяго толькі маленькі чайнік, але яго раздзірала сапраўдная злосць. Ён падскочыў і плюнуў Манмарансі ў твар.

— Ах, ты так?! — прагырчаў Манмарансі, ашчэрыўшы іклы. — Зараз я навучу цябе паважаць працавітага, шаноўнага сабаку! Гнюсны даўганос! Мурзатая поскудзь! Сюды ідзі!

І ён рынуўся на гаротны чайнік і ўхапіў яго за носік. Вечаровую цішу парушыла жудаснае скавытанне. Манмарансі выкуліўся з чоўна. Зрабіў тры колы вакол выспы з хуткасцю пяцьдзясят кіламетраў на гадзіну, раз-пораз спыняючыся, каб асцюдзіць свой нос у прахалоднай твані.

З таго моманту Манмарансі ставіцца да чайнікаў з сумессю багавейнасці, падазронасці й нянавісці. Штораз, як чайнік трапляе яму на вока, фоксік скавыча і гойсае ў неспакоі. Ягоны хвост падціскаецца. Манмарансі, спрытна пераскокнуўшы спіртоўку, выслізгвае з чоўна. Садзіцца на беразе і цярпліва чакае, пакуль чайная цырымонія не завершыцца.

Пасля вячэры Джордж схапіў банджа і ўжо быў зайграў на ім, але Гарыс запярэчыў. Ён сказаў, што яму баліць галава і трываць гэтую музыку ў яго не стае моцы. Джордж запэўніў Гарыса, што банджа пойдзе яму на карысць, маўляў, гранне звычайна суцяшае нервы і здымае мігрэнь. Каб прадэманстраваць моц мастацтва, Джордж для прыкладу ўзяў тры акорды. Гарыс адказаў, што хай у яго лепей пабаліць галава.

Аж да сённяшніх дзён Джордж так і не навучыўся граць на банджа. У гэтай справе яму перапала так мала падтрымкі ды заахвочвання з боку сяброў! Потым, падчас нашай вандроўкі, два ці тры вечары ён шчыра намагаўся паспрабаваць. Але ж разгарнуцца на ўсю сілу-моц яму не дазволілі. Гарысава манера кпіць можа знішчыць каго заўгодна. У дадатак, пачуўшы банджа, Манмарансі садзіўся на заднія лапы і пачынаў скавытаць нараспеў. Шанцаў папрактыкавацца ў нашага пачаткоўца не было аніякіх.

— Ён што, так і будзе скавытаць, пакуль я граю?! — выгукаў Джордж абражана, цэлячыся ў Манмарансі ботам.

— А ты што, так і будзеш брынькаць, пакуль ён скавыча? — адказваў Гарыс, ловячы бот. — Хай скавыча. Бачыш, набалела. Бо, у адрозненне ад цябе, у Манмарансі ёсць музычны слых. І тваё бразгатанне прымушае яго выказаць галасны пратэст.

Гэткім парадкам, Джордж вырашыў адкласці банджа на вяртанне дамоў. Але нават там яму не шчасціла. Спадарыня Попетс прыйшла і сказала, што яна вельмі перапрашае — як на яе, дык хай сабе грае, ёй падабаецца, — аднак суседка зверху цяпер цяжарная. І лекар баіцца, што музыка можа нашкодзіць дзіцяці.

Потым Джордж паспрабаваў браць банджа з сабой і познім вечарам практыкавацца на гарадской плошчы. Але жыхары паскардзіліся ў паліцыю, і Джорджа затрымалі за “загадзя спланаваныя антыпраўныя дзеян-

ні ў публічным месцы". У дадатак Джорджа абвінавацілі ў нецэнзурнай лаянцы і на сто восемдзесят сутак узялі пад нагляд паліцыі.

Выдае на тое, што пасля гэтага выпадку Джордж страціў цікаўнасць да банджа. Калі мінулі шэсць месяцаў нагляду, ён зрабіў быў яшчэ дзве ці тры кволыя спробы, але сутыкнуўся з ранейшай непрыяззю. Цэлы свет процістаяў яму з той жа заўзятай салідарнасцю. Па некаторым часе Джордж адчаяўся. Ён выставіў банджа на продаж з вялізнай зніжкаю, напісаўшы ў абвестцы, што "ўладальніку інструмент без патрэбы", — і аддаўся картачным фокусам.

Здаецца мне, навучанне на музычным інструменце — занятак не для слабахарактарных. Спярша можа падацца, што наша шаноўнае грамадства, дбаючы пра сваіх членаў, будзе рабіць усё магчымае, каб падтрымаць чалавека, які хоча засвоіць мастацтва грання на музычным інструменце... Але ж насамрэч — скулля!

Ведаў я аднаго маладзёна, які вучыўся граць на дудзе. Моц грамадскага адпору проста не ведала межаў. Больш за тое — нават сямейнікі не праявілі талерантнасці, не кажучы ўжо пра падтрымку. Ягоны бацька ад самага пачатку выказаўся наконт сынавага захаплення гранічна няўхвальна. Каб папрактыкавацца, маладзён быў змушаны падымацца рана ранкам. Аднак праз сястру неўзабаве мусіў адмовіцца і ад гэтага. Сястра, асоба пабожная, сказала, што пачынаць Божы дзень пякельнай какафоніяй — вялікі грэх.

Тады замест ранкаў для заняткаў музыкай маладзён абраў вечаровыя гадзіны — ужо пасля таго, як сямейнікі клаліся спаць. І з гэтага выйшаў пшык, бо дом адразу набыў кепскую рэпутацыю. Людзі, якія вярталіся ў поцемках дахаты, спыняліся ля дома маладзёна і прыслухоўваліся. На наступны дзень па горадзе папаўзлі чуткі пра жахлівае забойства, якое адбылося ўчора ў доме спадара Джэферсана. У дадатак перадаваліся апісанні жудасных енкаў ахвяры і лютых грозьбаў забойцы, за якімі следавалі апошнія мальбы аб літасці і агонія спакутаванага цела.

Тады маладзёну дазволілі практыкавацца апоўдні, на кухні, за зачыненымі дзвярмі. Нягледзячы на гэтыя засцярогі, ягоныя найбольш сакавітыя пасажы пратачаліся ў гасцёўню і даводзілі маці маладзёна да слёз. Яна казала, што гранне ажыўляе ўспаміны пра яе гаротнага бацьку — небараку праглынула акула, калі яго карабель праходзіў паўз берагі Новай Гвінеі. Але якая сувязь тут была з сынавай музыкай, гэтага маці дакладна не тлумачыла.

Потым маладзёну вызвалілі куток на задворках саду, паўкіламетра ад дома, і прымусілі яго цягаць туды інструмент кожны раз, як яму заманецца зайграць. Час ад часу мінакі, якія не былі ў курсе — ці іх забылі папярэдзіць, ці што, — выходзілі на шпацыр у сад і траплялі ў радыус дзеяння дуды. Людзей з моцнай псіхікай усяго толькі білі канвульсіі, тады як больш далікатныя натуры папросту з’язджалі з глузду. Ёсць, ёсць нешта

невытлумачальна панурае і прыгнятальнае ў гуках, якія вывяргаюць дудары-пачаткоўцы са сваіх інструментаў! Мушу прызнаць гэта, бо сам чуў, як граў той маладзён.

З іншага боку, граць на дудзе — нясцерпная пакута. Перад пачаткам трэба набраць паветра на ўсю мелодыю — прынамсі так рабіў Джэферсан. Ён дыхтоўна пачынаў з паўнагучнай ваяўнічай ноты, якая прымушае ўсіх навокал абудзіцца. Але па меры грання мелодыя ўсё больш патухае, і апошнія зыкі з шыпеннем ды вуркатаннем зазвычай крышацца на кавалкі.

Каб граць на дудзе, трэба быць у добрай фізічнай форме.

Джэферсан вывучыўся граць усяго адну мелодыю. Але я ні разу ні ад каго не чуў скаргаў на беднасць яго рэпертуару. Паводле маладзёна, ён граў шатландскую салдацкую “Клан Кэмбэлаў ідзе, ура, ура!”. Аднак яго бацька настойваў, што гучалі “Сінія званочкі Шатландыі”. Але ні ў сына, ні ў бацькі не было стоадсоткавай пэўнасці. Незнаёмым людзям прапаноўвалася ўгадаць мелодыю з трох разоў. І кожнага разу людзі давалі розныя, абсалютна непадобныя да іншых варыянты. Хай там што, але ўсе сыходзіліся на думцы, што гучала гэтая мелодыя вельмі па-шатландску.

Пасля вячэры Гарыс зрабіўся пануры: думаю, яго засмуціла наша рагу. Гарыс не прывык да высокіх стандартаў жыцця. І таму мы з Джорджам пакінулі яго ў чоўне, а самі высадзіліся, каб пабадзяцца вакол гарадка Гэнлі-на-Тэмзе. Гарыс сказаў, што вып’е шклянку віскі,

папаліць люльку і будзе рыхтавацца да сну. А калі мы вернемся з праходкі, сказаў ён, дастаткова гукнуць яго. І тады ён, маўляў, прыплыве з выспы і забярэ нас.

— Чалавеча, ты ж толькі не засынай! — сказалі мы Гарысу на развітанне.

— Пакуль гэтае рагу віруе ўва мне, дык вам няма чаго баяцца, — буркнуў ён у адказ, ужо адплываючы на чоўне да выспы.

Гэнлі-на-Тэмзе рыхтаваўся да рэгаты, і таму тут панаваў вэрхал. Мы сустрэлі мноства лонданскіх знаёмых — у іх прыемнай кампаніі час праляцеў незаўважна. І таму толькі блізу адзінаццатай гадзіны мы выправіліся ў сямікіламетровую дарогу дадому (як мы ўжо прызвычаіліся клікаць наш маленькі човен).

Стаяла панурая, халаднаватая ноч. Імжэла. Амаль не перамаўляючыся і безупынку спраўджваючы дарогу, мы валачыліся праз цёмныя маўклівыя нівы. І думалі пра наш родны човен, пра месяцовую дарожку на вадзе, пра Гарыса і Манмарансі, пра віскі — і пра наш вялікі сум па ўсім гэтым.

Мы ўяўлялі сябе ў чоўне. Змораныя і крыху згаладнелыя, сярод панурай Тэмзы і бясформенных дрэваў. І, як гіганцкі святляк сярод гэтага краявіду, гойдаецца наш таварыш човен, угрэўны ды ўтульны. Мы ўжо бачылі сябе за вячэрай. Як мы накідваемся на халоднае мяса і перадаём адзін аднаму кавалкі хлеба. Мы ўжо чулі жвавае бразгатанне нажоў, смех, які поўніць прастору і ляціць праз начныя абсягі.

Каб мары хутчэй сталі яваю, мы паспяшаліся дадому.

Мы дабеглі да буксірнай сцежкі. Адчулі палёгку, бо датуль зусім не былі пэўныя, ці мы набліжаемся да ракі, ці ж аддаляемся. Калі ты стомлены і хочаш спаць, гэтая няпэўнасць не можа не турбаваць. Калі стрэлкі паказалі чвэрць на дванаццатую, мы прамінулі вёску Скіплэйк. І тады Джордж сказаў глыбакадумна:

— Ты, вядома, не памятаеш, якая з выспаў нашая?

— Дзе там... — адказаў я, зрабіўшыся таксама глыбакадумным. — А колькі іх усяго?

— Толькі чатыры, — сказаў Джордж. — Але думаю, мы знойдзем. Галоўнае, каб Гарыс не спаў.

— А калі спіць? — пацікавіўся я.

Джордж прапанаваў такіх дапушчэнняў больш не рабіць.

Мы спыніліся насупраць першай выспы. І сталі крычаць, але не атрымалі адказу. Тады мы сталі насупраць другой і паспыталі шчасця там. З тым жа вынікам.

— Аёй! Я прыгадаў! — выгукнуў Джордж. — Нам на трэцюю выспу.

Усцешаныя гэтым адкрыццём, мы пабеглі да трэцяй выспы, па дарозе гукаючы Гарыса.

Ані вокам не відаць, ані слыхам не чуваць!

Справа набыла сур'ёзны абарот, бо ўжо было далёка занач. Гатэлі ў Скіплэйку і Гэнлі-на-Тэмзе, мусіць, запоўненыя дарэшты. І ў вясковую хату не папросішся — няможна пагрукацца сярэдначы і папытаць гаспадароў, ці не маюць яны вольнага пакою. Джордж прапанаваў

# Андрэй Хадановіч
## Мужыцкая праўда

Там, дзе зарослай пратокай плывуць героі,
Кінуўшы сем'і і хатнюю гаспадарку;
Там, дзе збірацца нельга больш чым па трое,
Каб не залішне перагружаць байдарку;

Там, дзе ўсё так неймаверна і так яскрава,
Што падаецца фільмам з нянашым удзелам,
Толькі руку аператара водзіць то ўлева, то ўправа
Ў вузкім зазоры між плыняю й вашым целам;

Там, дзе збываюцца ўсе непатрэбныя мары,
Дзе не пужаюць бярвенні, карчы й камяні,
Калі глядзіш на сонца праз цёмныя акуляры
І вяслуеш так хутка, што адстаюць сляпні;

Між Летувой (ці Літвой) і Гарадняю (ці Гроднам),
На скрыжаванні прыемнасці і карысці
Ты адчуваеш сябе амаль несмяротным –
У параўнанні з істотай, якая хацела ўгрызці...

Марная марнасць па найтаннейшым у краі кошце.
(Праўда, "піла" тут назоўнік, а не дзеяслоў.)
Можна пісаць лісты і слаць у бутэлькавай пошце –
Скідзельскім пенсіянеркам будзе багаты ўлоў!

П'еш самаробны напой на зёлках і мёдзе
І адно выпадкова не перабіраеш мяжы,
Каб, абудзіўшыся зранку ў цёплым, сухім намёце,
Верш рамантычны скласці пра холад і пра дажджы.

вярнуцца ў Гэнлі-на-Тэмзе і нецэнзурна абразіць паліцыянта. Каб гэткім парадкам атрымаць спакойны начлег у пастарунку. Але ў адказ прагучала думка, што паліцыянт проста саб'е нас на горкі яблык і пакіне, дзе мы былі.

Мы не маглі змагацца з паліцыянтам усю ноч навылёт. Да таго ж нам не хацелася прабавіць шэсць месяцаў у турме.

У роспачы мы паспрабавалі чацвёртую выспу, але ўдача адвярнулася ад нас. Дождж цяпер ліў як з цэбра і, відавочна, меў намер працягваць сваю падрыўную дзейнасць далей. Мы прамоклі да рубчыка. Стаялі змерзлыя і вартыя жалю. Нам нават падумалася, што, можа, выспаў не чатыры, а больш. Або, можа быць, мы не дайшлі якіх пару кіламетраў да патрэбнага месца. Ці ўвогуле трапілі на іншы адцінак ракі. У цямрэчы ўсё выглядала дзіўна і нязвыкла. У цёмным лесе мы пачуваліся, як Гензэль і Грэтэль.

І толькі калі мы цалкам паддаліся роспачы... (Ведаю, у раманах і казках заўжды прыходзіць такі момант, але гэта святая праўда! Пачаўшы пісаць гэтую кнігу, я пастанавіў для сябе, што буду шчыры і праўдзівы да канца, і таму я буду гаварыць чысцюткую праўду, нават калі мне пад руку патрапяць збітыя фразы.)

Але, можа, лепей сказаць: “Калі мы страцілі ўсякую надзею”? Добра...

Якраз тады, калі мы страцілі ўсякую надзею, на іншым беразе я знянацку згледзеў дзіўнае зіхценне сярод дрэваў. Спачатку ў галаву прыйшлі здані — настолькі

тое святло здавалася таямнічым і прывідным. У наступны момант да мяне дайшло, што гэта наш човен. Я так моцна загаласіў, што, здаецца, прымусіў саму спадарыню Ноч здрыгануцца ў сваім ложку.

Знямелыя, мы чакалі якую хвіліну, і тут — о, цудоўная музыка цемры! — пачуўся брэх Манмарансі ў адказ. Мы закрычалі так, што сваім крыкам маглі абудзіць нават семярых эфескіх пакутнікаў (я, дарэчы, ніколі не мог сцяміць, чаму, каб абудзіць семярых пакутнікаў, патрабуецца больш шуму, чым для абуджэння аднаго). Па некаторым часе, які падаўся нам вечнасцю, але насамрэч доўжыўся якіх хвілін пяць, мы ўбачылі асвечаны човен, які прасоўваўся праз цямрэчу. І пачулі голас Гарыса, які, яшчэ сонны, пытаўся, дзе мы стаім.

З Гарысам тварылася нешта дзіўнае. Гэта было нешта большае, чым проста стома. Ён прышвартаваўся да берага так, што залезці ў човен было амаль немагчыма, ды імгненна заснуў. Нам спатрэбілася доўга гукаць, каб абудзіць яго. Урэшце ў нас атрымалася.

Калі мы забіраліся ў човен, дык заўважылі, што Гарыс выглядае вельмі тужліва, не раўнуючы як чалавек, што трапіў у бяду. Мы запыталі, што здарылася, і Гарыс адказаў:

— Лебедзі!

Выявілася — мы атабарыліся непадалёк ад лебядзінага гнязда. Неўзабаве пасля таго, як мы з Джорджам сышлі, падплыла лябёдка і ўсчала вэрхал. Гарыс прагнаў яе. Лябёдка адступіла, але паклікала свайго лебедзя.

Гарыс кажа, што ў яго разыграўся цэлы трохбой з парай лебедзяў. Адвага і ўмельства ўрэшце перамаглі, і ён нанёс ім рашучую паразу.

Але праз паўтары гадзіны пара лебедзяў вярнулася з васямнаццаццю сябрамі! Паводле Гарыса, на гэтым самым месцы адбылася лютая бітва. Лебедзі намагаліся выдзеўбці яго. Манмарансі выскачыў з чоўна і некалькіх з іх патапіў. Яны гераічна адбіваліся чатыры гадзіны запар і шмат каго з іх пазабівалі, а ацалелыя лебедзі папаўзлі прэч, каб ціхенька памерці ў змроку...

— Дык колькі, кажаш, было лебедзяў? — спытаў Джордж.

— Трыццаць два, — запінаючыся, адказаў Гарыс.

— Ты ж сказаў, васямнаццаць, — заўважыў Джордж.

— Не казаў я такога, — абурыўся Гарыс. — Я сказаў “дванаццаць сяброў лябёдкі”. Я што, лічыць не ўмею?!

Што было праўдай у гэтай эпахальнай бойцы, мы так ніколі й не даведаліся. Калі мы дапытвалі Гарыса зранку, ён адказаў: “Якія яшчэ лебедзі?” — і, здаецца, падумаў, што мы з Джорджам усё прыснілі.

Ах, як прыемна было схавацца ў чоўне пасля ўсіх нашых выпрабаванняў! Мы з Джорджам з’елі пажыўную вячэру і ўжо хацелі пакаштаваць чаго мацнейшага. І сталі былі ўжо шукаць віскі, але нічога не знайшлі. Мы дапытвалі Гарыса, што ён зрабіў з ім, але ён, здавалася, ведам не ведае, што мы ўвогуле маем на ўвазе пад словам “віскі”. Манмарансі глядзеў на нас так, нібыта быў у курсе, аб чым тут вядзецца, але ж прамаўчаў.

У тую ноч я спаў як пяньку прадаўшы. Я мог бы, вядома, спаць як забіты, калі б не Гарыс. Я прачынаўся з тузін разоў ад таго, што Гарыс соваўся па чоўне з ліхтаром, шукаючы вопратку. Усю ноч навылёт ён пераймаўся сваёй вопраткай. Двойчы ён абудзіў Джорджа і мяне, каб спраўдзіць, ці не ляжым мы на яго портках. Другі раз Джордж не вытрымаў:

— На якую халеру табе патрэбныя сярод ночы порткі?! Кладзіся спаць!

Наступным разам, калі я прачнуўся, дык пабачыў заклапочанага Гарыса, які шукаў шкарпэткі. Апошні мой успамін — мяне перакочваюць на бок, а Гарыс пытаецца, куды б мог запраторыцца парасон.

## *Раздзел XV*



*Хатнія абавязкі. — Працалюбства. — Старое рукаво. — Скепсіс маладога пакалення. — Успаміны вандроўніка. — Усё пра сплаў. — Джордж-вясляр. — Стары лодачнік і яго метад. — Ціха, мірна… ціхамірна. — Пачатковец. — Скокі з шастом. — Што такое сапраўднае сяброўства. — Мой першы досвед хаджэння пад ветразем. — Лагічнае тлумачэнне, чаму мы ўсё-ткі не патанулі.*

*П*рачнуліся мы позна. На замову Гарыса зрабілі просты, “без фокусаў”, сняданак. Потым памыліся.

Пасля ўмывання сталі прыводзіць усё да ладу. Гэты від працы не мае ні канца, ні краю. Яна, напэўна, робіцца, каб я змог адказаць на пытанне, што столькі гадоў мучыла мяне, а менавіта: “Як хатняя гаспадыня можа ўвіхацца цэлы дзень ад рана да рана ў адным доме?”

Каля дзясятай мы ўрэшце пачалі тое, што можна акрэсліць як “добры вяслярны дзень”.

Мы прыйшлі да згоды, што сённяшнім ранкам, дзеля разнастайнасці, не пацягнем човен на буксіры, а будзем веславаць. Гарыс сказаў, што найлепш размеркаваць справы так: мы з Джорджам на вёслах, а ён за стырном. Я выказаў рашучы пратэст. На маю думку, было б слушна, каб Гарыс з Джорджам селі за вёслы, а мне далі адпачыць. Мяне пераследавала неадчэпная думка, што падчас гэтай вандроўкі я раблю больш за астатніх. І штодня я пераконваўся ў гэтым усё больш.

Мне заўжды здаецца, што я перапрацоўваю. Гэта не азначае, што я супраць працы, — барані божа! Я люблю закасаць рукавы, мяне захапляе рабочы працэс. Я магу сядзець і назіраць за ім гадзінамі. Я люблю атачаць сябе працаўнікамі. Думка, што некалі ў мяне гэта адымуць, уганяе мяне ў роспач.

Новую працу мне даваць небяспечна, бо і старую працу няма дзе захоўваць. Назапашваць працу стала маёй жарсцю. Мой кабінет проста набіткаваны назапашанай працай, пальца няма куды сунуць. Хутка трэба будзе дабудоўваць новае крыло.

У дадатак я вельмі ашчадны да сваёй працы. Некаторыя нязробленыя заданні захоўваюцца ў мяне па некалькі гадоў, чыстыя і некранутыя. Я ганаруся сваёй працай. Я нашуся з ёй, як чорт са свечкай, я змахваю з яе пыл. Я чэмпіён свету па беражлівым стаўленні да працы.

Па шчырасці, я цягнуся да працы. Проста я ніколі не прашу працы больш, чым магу выканаць.

Але часам я атрымліваю яе, калі ўвогуле пра гэта не прасіў. І вось тут пачынаюцца пытанні.

Джордж сказаў, што мне на гэты конт пераймацца не варта. Што мая надта далікатная натура дарэмна трывожыцца, быццам я працую тут за траіх, бо насамрэч я не раблю і паловы. Думаю, Джордж сказаў гэта, каб мяне суцешыць.

У чоўне, я заўважыў, кожны член экіпажа ўзурпаваў тую самую думку, што ён тут працуе за ўсіх. Гарыс заўважыў, што працу робіць толькі ён, а мы з Джорджам строім дурняў. Джорджа, у сваю чаргу, цікавіць, ці робіць Гарыс нешта іншае, акрамя як есць і спіць. Джордж трымаецца думкі, што менавіта ён, Джордж, круціць жорны гэтага свету.

Ён кажа, што яшчэ ні разу не хадзіў у вандроўкі з такімі заўзятымі абібокамі, як я і Гарыс.

Гарыса гэта шчыра здзіўляе. Ён паварочваецца да мяне:

— Клінічны гультай Джордж загаварыў аб працы! Паўгадзіны напружання галасавых звязак звядуць яго ў магілу. Вы калі-небудзь бачылі, каб Джордж працаваў?

Я пагаджаюся з Гарысам, што не, ніколі не бачыў, прынамсі ад пачатку нашай вандроўкі.

— Ну, мне нават незразумела, як вы можаце ведаць пра гэта! — ідзе ў контратаку Джордж. — Бо вы ж праспалі добрую палову дарогі. Ці вы бачылі Гарыса, які не спіць, акрамя як падчас кароткіх перапынкаў на абед і вячэру? — пытае Джордж, звярнуўшыся да мяне.

Гэтая рэмарка змушае мяне пагадзіцца таксама і з Джорджам. Ад Гарыса ў чоўне мала карысці.

— Ну, добранька, хай ужо мяне няхай! Але ж я прынамсі раблю больш, чым наш дарагі сябар Джэй, — парыруе Гарыс.

— Ха! Менш за Джэя зрабіць проста немагчыма, — дадае Джордж.

— Ну, Джэй жа перакананы, што яго ўзялі тут на пасаду вясельнага маршалка, — працягвае Гарыс.

Вось яна, чалавечая падзяка за тое, што я цягну гэтую пасудзіну ўсю дарогу ад Кінгстана! За ўвесь мой клопат ды ўвіханні вакол іх, за маю рабскую адданасць агульнай справе! Вось як усё ўладкавана ў гэтым чэрствым і несправядлівым свеце!

Урэшце мы пагадзіліся на кампраміс. Гарыс і Джордж будуць веславаць паўз Рэдынг, а я пацягну човен на буксіры далей. Цягнуць груваcткі човен супраць моцнай плыні ў маіх гадах мне не вельмі падабаецца. Калісь я змагаўся, каб атрымаць працу пацяжэй. Сёння ж я гатовы даць шанец маладым.

Я заўважыў, што як толькі з'яўляецца малады небарака, здольны цягнуць на буксіры, як усе вандроўнікі-старажылы пачынаюць драмаць у цяньку. Вы заўжды можаце выявіць такіх старажылаў па тым, як яны расхамячыліся на падушках на дне чоўна і заахвочваюць наваспечаных бурлакоў гісторыямі пра свае леташнія геройствы.

— Ат, хіба ж гэта цяжка?! — расцягваючы словы, звяртаюцца яны паміж дзвюма смачнымі зацяжкамі люлькі да двух увапрэлых навічкоў, якія апошнія паўтары

гадзіны цягнуць човен супраць плыні. — Не, вось Джым Біфлс, Джэк і я летась — вось гэта было цяжка! Калі мы цягнулі ад Марлоў да Горынга за паўдня — і ні разочку не спыніліся. Памятаеш, Джэк?

Джэк, зладзіўшы сабе пасцельку з разнастайных анучаў ды лахманоў і прадрамаўшы апошнія дзве гадзіны, нарэшце расплюшчвае адно вока. Ён таксама аднаўляе ў памяці сваю леташнюю вандроўку. У прыватнасці, якая неверагодна моцная была тады плыня — не раўнуючы вецер у твар.

— Кіламетраў з пяцьдзясят мы тады прайшлі, думаю, ніяк не менш, — дадае першы старажыл, шукаючы яшчэ адну падушку, каб падкласці сабе пад галаву.

— Ну, Том, не перабольшвай! — буркоча Джэк з дакорам. — Максімум сорак восем.

Джэк і Том, зմораныя размовамі і прыгадамі, зноў правальваюцца ў сон. А добрыя дурні працягваюць напінаць жылы. І робяць яны гэта з пачуццём гонару, маўляў, вось яны, малайчынкі, цягнуць на сабе такіх выбітных весляроў, як Джэк і Том.

Калі я быў малады, дык уважліва слухаў старэйшых таварышоў. Шчыра верачы ў гэтыя байкі, я глытаў іх, старанна пераҗоўваў кожнае слова і прасіў дабаўкі. Але цяперашняе пакаленне не дае веры проста так. Летась мы з Джорджам і Гарысам узялі з сабой навічка ды ўсю дарогу частавалі яго нашымі старымі байкамі пра вяслярскія вычыны.

Мы скармілі яму ўсё звычайнае меню — выпрабаваную часам ману, якая ў апошнія гады ўвайшла ў абавязко-

вую праграму ўсіх ангельскіх весляроў, плюс выдумалі сем абсалютна новых баек. Сярод гэтых сямі трапілася досыць праўдападобная гісторыя, якая насамрэч здарылася — хіба з пэўнымі агаворкамі — з нашымі сябрамі. У тую байку без шкоды для здароўя мог паверыць нават конь.

Але наш юнга падняў усе байкі на смех. Нават патрабаваў, каб мы ўзялі ды паўтарылі згаданыя подзвігі і геройствы. Ён хацеў пайсці з намі ў заклад, што мы, маўляў, усё панавыдумлялі.

Таму тым ранкам мы зноў мусілі паўтараць пра нашы вяслярскія вычыны, абсмоктваць нашы першыя крокі ў навігацыйным мастацтве.

Мае першыя прыгадкі: мы з сябрамі склаліся па тры пенсы і атрымалі нешта-нейкае, пасудзіну дзіўнай канструкцыі, на якой выйшлі ў вандроўку па возеры ў Рыджэнтс-парку. У выніку гэтай вандроўкі мы ўсёй камандай сушыліся ў вартоўні паркавага наглядчыка.

Спазнаўшы смак вады, потым я шмат паплаваў па розных прыгарадных кар'ерах. Досвед больш цікавы і захапляльны, чым можа падацца на першы погляд, асабліва калі вы заплылі на сярэдзіну сажалкі, а ўладальнік матэрыялаў, з якіх сканструяваны ваш плыт, знянацку выходзіць на бераг з даўжэзным дрынам у руках.

Вы бачыце гэтага джэнтльмена, і чамусьці ваша першае парыванне — адвярнуцца і не размаўляць з ім. Але ж вам не хочацца падацца непачцівым. Таму вы вырашаеце, што лепей вам з ім увогуле не сустракацца — выскачыць на процілеглым беразе сажалкі й цішком-трушком

## Каардынаты маршруту

Пачатак маршруту – стойка бармена кафетэрыя “Пралеска” на возеры Мястра. Канец маршруту – вёска Слабада або тады, калі вы папросіце аднаэкіпажнікаў дзеля аблягчэння пакут ад укусаў задушыць вас вяслом.



# Маршрут шосты:
## рака Нарачанка, Меншчына

Маршрут пачынаецца як маленькая пераможная вайна. На гарадскім пляжы Мядзела проста ў намёт вам прыносяць шашлык з рэстарана. На возеры Нарач ля цэкоўскага санаторыя "Сосны", не вылазячы з байдаркі, вы заказваеце афіцыянту на пірсе марозіва і піва. Аднак з вусця Нарачанкі наступае напалеонаўскі крах. Непралазны чарот, невылазныя берагі, камараслепні, п'яўкі і бабровыя турмы. Пад мостам менскай трасы аднаго з байдарачнікаў пару гадоў назад нават укусіў за пяту рак.



прыпусціць у кірунку дома, удаючы, што вы нікога не бачылі. Але ж, як на злосць, джэнтльмен, наадварот, вельмі хоча схапіць вас за руку і паразмаўляць з вамі сам-насам.

Высвятляецца, ён ведае вашага бацьку і хоча асабіста пазнаёміцца з вамі, але ж вас да джэнтльмена зусім не вабіць. Ён кажа, што пакажа вам, як гэта — красці ягоныя дошкі і рабіць з іх плыт. А што тут паказваць, вы і так ужо цудоўна засвоілі ўсю тэхналогію крадзяжоў, таму яго прапанова збыткоўная і непатрэбная. Ну, нашто вам прыносіць джэнтльмену лішнія клопаты.

А ён усё прагне з вамі асабіста пазнаёміцца, гойсаючы ўздоўж става, каб схапіць вас на беразе, і вас гэта трохі непакоіць.

І каб жа ён быў лядашчым курдупелем! Вы б з лёгкасцю ўхіліліся ад яго прапановы. Але ён — маладжавы цыбаты тыпус, і ўсё непазбежна ідзе да вашага з ім рандэву. Ваш дыялог трохі абрывісты, большасць рэплік кажа ён, а вашыя заўвагі збольшага маюць характар аднаскладовых выгукаў. Як толькі надараецца магчымасць даць драпака, вы тут жа ёй карыстаецеся.

Я прысвяціў тры месяцы мастацтву плавання на плытах. Атрымаўшы неабходную для гэтага кваліфікацыю, я вырашыў пайсці ў веславанне. Дзеля гэтага я ўступіў у адзін вяслярскі клуб на рацэ Лі.

Катанні на рацэ Лі, асабліва суботнімі адвячоркамі, абавязкова зробяць з вас хвацкага весляра. Вы зможаце спрытна ўхіляцца ад смяротных баржаў. Вы навучыцеся зграбна распластвацца на дне чоўна, каб чыйсьці

буксірны канат не змахнуў вас у ваду. Але гэта не сфармуе вам стылю. Адно калі я трапіў на Тэмзу, я набыў свой стыль. А мой стыль веславання заслугоўвае ўсякіх пахвал. Людзі кажуць, што ён вельмі адметны...

Да шаснаццаці гадоў Джордж ніколі не набліжаўся да вады. А потым ён і яшчэ восем джэнтльменаў таго ж узросту паехалі ў К'ю з намі веславаць да Рычманда і назад. Адзін з членаў каманды, маладзён на імя Джоскінс, меў досвед: яго аднойчы ці двойчы бралі ў вандроўкі па копанцы Серпентайн. Ён і сказаў, што "катацца на лодачках" — гэта весела.

Калі яны дасягнулі прыстані, струмень бег досыць хутка, а таксама дзьмуў рэзкі вятрыска, але гэта іх не надта турбавала, і яны сталі выбіраць свой човен.

Там стаяла гоначная васьмёрка. Яна і прыцягнула іх увагу.

Лодачніка не было на месцы, яго замяшчаў малады хлопец. Хлопец паспрабаваў адцягнуць іх увагу ад васьмёркі і паказаў ім два ці тры выгодныя на выгляд чаўны, прызначаныя для сямейных пікнікоў. Але яны маладых джэнтльменаў зусім не ўразілі. Яны думалі, што найлепш будуць выглядаць менавіта ў гоначным чоўне.

Тады хлопец спусціў яго на ваду. Яны знялі курткі і ўжо гатовыя былі заняць свае месцы. Хлопец прапанаваў Джорджу, які ўжо тады быў самы мажны ў любой кампаніі, каб той сеў пасярэдзіне, чацвёртым нумарам. Джордж сказаў, што будзе шчаслівы папрацаваць чацвёртым нумарам, але спрытна ўсеўся на самы нос, прычым

спінай да кармы. Урэшце яго ўсадзілі як належыць, і за ім паследавалі астатнія.

Самага неўраўнаважанага хлопца прызначылі стырнавым, і Джоскінз патлумачыў яму прынцыпы кіравання чоўнам. Сам Джоскінз сеў на месца заграбнога. Ён сказаў астатнім, што нічога складанага ў веславанні няма. Усё што трэба — гэта паўтараць ягоныя рухі.

Яны сказалі, што гатовыя, і хлопец на прыстані ўзяў бусак ды адштурхнуў човен ад берага.

Што сталася з Джорджам пасля, няможна апісаць словамі. Ён толькі цьмяна прыгадвае, як адразу ж пасля старту яго насціг жудасны ўдар лопасцю вясла ад нумара пятага. Адначасова з гэтым яго ўласнае сядзенне дзіўным чынам уцякло з-пад азадка, і ён гахнуўся аб дно. Ён таксама заўважыў, што па незразумелым супадзенні нумар два таксама апынуўся на дне чоўна. Прычым нагамі дагары, быццам у яго пачаўся нейкі прыпадак.

Пад К'юскім мостам яны пайшлі ўпоперак ракі на хуткасці пятнаццаць кіламетраў за гадзіну. Прычым веславаў адзін Джоскінз. Джордж, якому ўдалося вярнуцца на месца, паспрабаваў яму дапамагчы. Але толькі апусціў вясло ў ваду, як яно адразу ж, на здзіў свайго ўладальніка, знікла пад корпусам чоўна і пацягнула яго за сабою. Тады стырнавы шпурнуў абодва штур-тросы за борт і расплакаўся.

Ніхто не ведае, якім чынам яны вярнуліся, але гэта заняло хвілін сорак.

Вялікі натоўп са шчырым захапленнем назіраў за іх прыгодамі з моста. Людзі выкрыквалі парады, якія адна

адной супярэчылі. Тройчы васьмёрка выбіралася з-пад моста, і тройчы іх зацягвала назад. Кожны раз, калі стырнавы глядзеў угору ды бачыў над галавой мост, ён заліваўся горкімі слязьмі.

Джордж прызнаецца, што ў той дзень яго не раз наведала думка, ці не паставіць крыж на вяслярскай кар'еры.

Што да Гарыса, то ён больш прызвычаены да марскіх вандровак, чым да рачнога веславання, і значна часцей аддае перавагу першым. Я ж наадварот. Памятаю, летась узяў я напракат малы човен у Істбарне. Калісь я няблага веславаў на моры. І я чамусь падумаў, што ў мяне ўсё атрымаецца. Аднак высветлілася, што я ўсё пазабываў. Калі адно вясло зануралася ў ваду, дык другое матлялася ў паветры. Так што я мог веславаць толькі стоячы. На ўзбярэжнай шпацыравала цалкам прыстойнае таварыства, а я мусіў веславаць паўз яго ў гэтай смеху вартай позе. Урэшце я ўбіўся ў бераг і папрасіў старога лодачніка даставіць мяне назад.

Да чаго ж добра назіраць, як вяслуе стары лодачнік (асабліва наняты пагадзінна). Колькі велічы і спакою ў ягоных рухах. Наколькі ён вольны ад марнага спяхоцця й бессэнсоўнай мітусні, якія чым далей, тым болей робяцца сумнай азнакай нашага шалёнага дзевятнаццатага стагоддзя. А яму не трэба абганяць іншыя чаўны. Іншыя абганяюць яго? І на здароўечка! Яго гэта зусім не раздражняе.

Калі быць шчырымі, то ўсе чаўны абганяюць яго — прынамсі тыя, якія ідуць у адным з ім кірунку. Кагось

іншага гэта магло б нерваваць і дратаваць, ды толькі не яго. Узнёслая раўнавага нанятага пагадзінна лодачніка — добры прыклад для ўсіх нас, амбітных нецярпякаў.

Не так ужо й складана навучыцца мастацтву веславання ў стылі “завіхайся, але не спяшайся”. Вядома ж, калі ты не вяслуеш паўз дзяўчат. Вось дзе патрэбна шмат намаганняў, каб пачувацца ў сваёй талерцы.

Навічку самае галоўнае — трапіць у рытм.

— Чорце што! — кажа ён, у дванаццаты раз за пяць хвілін адчапляючы сваё вясло ад вашага. — А я ж выдатна веславаў, калі быў адзін.

Глядзець, як два весляры-новікі спрабуюць трапіць у такт, — тое яшчэ задавальненне. Нумар першы, седзячы на носе, лічыць, што нумар другі на карме махае вёсламі, проста абы памахаць, і таму трапіць у такт ніяк немагчыма. Вядома ж, нумар другі таксама абураецца і тлумачыць, што апошнія дзесяць хвілін спрабуе прыстасаваць свой стыль да абмежаваных магчымасцяў нумара першага. Той, у сваю чаргу, абражаны і просіць, каб калега не пераймаўся ім, а ўсю сваю ўвагу прысвяціў уласнаму веславанню.

— Можа, я сяду заграбным? — дадае ён, перакананы, што ўсё робіць слушна.

Яны так вяслуюць яшчэ сто метраў з пераменным поспехам, а потым нумар другі здагадваецца, у чым прычына іхніх няўдач.

— Я скажу табе, што тут не так. Ты проста ўзяў мае вёслы! — крыкнуў ён, павярнуўшыся. — Вярні іх назад!

— То ж бо то! А я тут ламаю галаву, — адказвае першы нумар і з палёгкай прыступаецца да абмену. — Зараз пойдзе як па масле!

Але ўсё зноў захрасае. Заграбному, каб дастаць да сваіх вёслаў, трэба вывернуць рукі з суглобаў. А весляру на носе вёслы са страшнай сілай б'юць па грудзях. Тады яны яшчэ раз мяняюцца і ўрэшце прыходзяць да высновы, што лодачнік замест вёслаў увапхнуў ім ламачча з розных камплектаў. Агульны аб'ект нянавісці і супольныя праклёны на яго адрас зноў робяць іх зладжаным калектывам.

Джордж сказаў, што раз-пораз, дзеля разнастайнасці, ён не вяслуе, а адштурхоўваецца шастом. А гэта не такі ўжо й лёгкі занятак. Ты, як і ў веславанні, досыць хутка вучышся кіраваць чоўнам. Але ж трэба доўга практыкавацца, пакуль навучышся рабіць гэта з годнасцю, не залiваючы сабе рукавы.

Аднаго майго таварыша, маладзёна, напаткаў вельмі прыкры выпадак, калі ён плыў на пласкадонцы, паслугуючыся шастом. Спачатку ён настолькі добра сабе радзіў, ажно страціў пільнасць. Пачаў гойсаць па чоўне туд-сюд з легкадумным нядбальствам. Ён ішоў да носа пласкадонкі, апускаў шост у ваду і пасля спяшаў на карму, не раўнуючы нейкі спрактыкаваны шаставік. Выглядаў ён проста цудоўна.

Ён бы і далей так выглядаў, але, на жаль, азірнуўшыся, каб пацешыцца краявідам, зрабіў адзін лішні крок і вылецеў за борт. Шост захрас у глеі, і мой таварыш

застаўся вісець на ім, а пласкадонка плыла сабе па плыні. Яго позу ўжо нельга было назваць самавітай. Нейкі нявыхаваны падшыванец нават крыкнуў сваёй хеўры: “Хутчэй, гляньце, тут малпа матляецца па шасце!”

Даць помачы я быў не ў стане, бо, як на злосць, мы не ўзялі з сабою запаснога шаста. Я мог толькі сядзець і назіраць. Ніколі не забуду выразу твару майго таварыша, калі шост пакрысе сыходзіў пад ваду разам з ім. У таварыша быў твар сапраўднага мысляра.

Я назіраў, як шост апускаецца ўсё ніжэй, а мой засмучаны і мокры таварыш караскаецца па ім усё вышэй. Я не вытрымаў і засмяяўся, бо выглядала ўсё камічна. Я ўсё яшчэ душыўся смехам, калі да маёй галавы пачало даходзіць, што, як на добры лад, камізм сітуацыі трохі перабольшаны. Бо вось ён я, сам-адзін у пласкадонцы. Без шаста, плыву бездапаможна па рацэ — можа быць, у бок вадаспаду.

І я абурыўся паводзінамі майго таварыша: як ён мог выскачыць за борт, не пакінуўшы мне шаста?!

Мой човен праплыў недзе з паўкіламетра, калі я ўрэшце трапіў на вока двум старым рыбакам, што сядзелі ў чоўне пасярод ракі. Убачыўшы, што я плыву проста на іх, яны крыкнулі, каб я збочыў.

— Не магу! — адгукнуўся я.

— Дык ты нават не спрабуеш!

Падплыўшы, я патлумачыў усю гаротнасць майго становішча. Тады яны перанялі мяне і пазычылі шост. Да вадаспаду заставалася пяцьдзясят метраў.

Першы раз я плыў з шастом у кампаніі трох хлопцаў. Меркавалася, што яны пакажуць мне, як ім карыстацца. Але мы не маглі выехаць усе разам, і я сказаў, што паеду першым і вазьму напракат пласкадонку. Крыху пакручуся ля берага, папрактыкуюся трошкі да іх прыходу.

Гэтым поўднем я не змог дастаць пласкадонкі — іх усіх парасхапалі. Мне не заставалася нічога, як сядзець на беразе, глядзець на раку і чакаць маіх сяброў.

Неўзабаве маю ўвагу прыцягнуў адзін чалавек у пласкадонцы, які, як я заўважыў са здзіўленнем, насіў дакладна такія ж пінжак і кепку, што і я. Без сумневу, ён карыстаўся шастом упершыню. І смех і грэх: калі ён занураў шост у ваду, нельга было здагадацца, што зараз адбудзецца з чоўнам. Ён таксама гэтага не ведаў. Часам ён вёў човен па плыні, а часам — супраць яе. Раз-пораз ён проста круціўся на месцы вакол шаста. І што б ні рабіў, кожны раз быў моцна незадаволены вынікам.

Хутка ён зрабіўся цэнтрам усеагульнай увагі. Гледачы сабраліся — і нават сталі ісці ў заклад, што станецца з пласкадонкай пры яго наступным руху.

Праз пэўны час мае сябры прысталі да процілеглага берага, спыніліся й таксама сталі назіраць за ім. Ён быў спінай да іх, і таму яны бачылі толькі пінжак і кепку. З чаго імгненна зрабілі выснову, што гэта я, іх шаноўны сябар па вандроўцы, які выстаўляе сябе дурнем. Іхняя радасць проста не ведала межаў! Яны бязлітасна здзекаваліся з небаракі.

Спярша я не заўважыў іхняй памылкі і падумаў: “Як груба з іхнага боку гэтак здзекавацца, ды яшчэ

з абсалютна незнаёмага чалавека!” Я быў хацеў іх паклікаць ды паўшчуваць за цынізм, ажно раптам зразумеў іх памылку і схаваўся за дрэвам.

О, як жа яны цешыліся, мыючы здзекамі гэтага небараку з шастом! Добрых пяць хвілін стаялі і выкрыквалі на яго адрас кпіны. Зневажалі, перадражнівалі яго, ганілі ягонае становішча. Яны згадалі колькі барадатых жартаў і нават вынайшлі парачку новых, пусціўшы ў ход таксама. Яны выдаткавалі на небараку ўвесь запас прынятых у нас шпілек і фрашак, якія яму былі, мабыць, цалкам незразумелыя. І тут, не выцерпеўшы брутальных кпінаў, чалавек павярнуўся да іх тварам.

Я з прыемнасцю заўважыў, што ў маіх спадарожнікаў у душы засталася яшчэ кропля прыстойнасці, і яны зразумелі, якога далі пудла. Яны патлумачылі нябогу, што прынялі яго за свайго сябра. Яны дадалі, што ён жа не думае, быццам яны маглі гэтак абражаць абсалютна незнаёмага ім чалавека. Ну, ясная рэч, тое, што яны пераблыталі небараку з сябрам, цалкам апраўдвае іх!

Памятаю, Гарыс апавёў мне пра адзін эпізод з купаннем у гарадку Булёнь-сюр-Мэр. Гарыс плаваў ля берага, як раптам адчуў, як нехта хапае яго за патыліцу і гвалтоўна цягне на дно. Гарыс стаў супраціўляцца. Ды той, хто схапіў яго, пэўна, меў сілы Геркулеса, і ўсе тузанні Гарыса пайшлі намарна. Урэшце Гарыс перастаў брыкацца і засяродзіўся на збавенні сваёй душы. І тут знянацку яго захопнік аслабіў абдымкі.

Гарыс устаў на ногі і павярнуўся да свайго меркаванага душагубцы. Ліхадзей стаяў побач, смеючыся з усяе

Падчас байдарачнай вандроўкі псуецца вопратка і сціраецца абутак, і па вяртанні трэба купляць новае. У вандроўцы прачынаецца ваўчыны апетыт і ты ясі за траіх. Яшчэ падчас сплаву здараюцца аварыі і траўмы. І самае важнае — з вадой сыходзіць час, твой каштоўны час квітнеючага жыцця. Вось і атрымліваецца, што водная вандроўка робіць нас беднымі, тоўстымі, хворымі. І старымі.

Ігар Логвінаў



душы. Але, зірнуўшы на твар Гарыса, які вынырнуў з вады, адскочыў назад і пазмрачнеў.

— Я прашу прабачэння... — прамармытаў ён збянтэжана. — Я прыняў вас за аднаго свайго сябра.

Гарысу тады прыйшло ў галаву, што яму яшчэ пашчасціла. Калі б яго прынялі за блізкага сваяка, ляжаць бы яму на дне.

...Плаванне пад ветразем таксама вымагае ведаў і практыкі, хоць у юнацтве я так не думаў. Мне здавалася, што ўсё прыходзіць само сабой, як уменне гуляць у ангельскую лапту ці ў квача. Я ведаў іншага хлопца, які трымаўся аналагічнага пераканання, і адным ветраным днём мы вырашылі заняцца гэтым відам спорту. Мы прыехалі ў Ярмут і вырашылі, што пойдзем супраць плыні па рацэ Яр. Мы ўзялі напракат на прыстані ля моста ветразнік і стартавалі.

— Паскудны дзянёк сёння, — сказаў нам лодачнік, калі мы адчальвалі, — вазьміце лепей рыф і як след трымайце стырно па носе.

Мы запэўнілі, што прымем да ўвагі ягоныя словы. Пазычыўшы яму заставацца здаровым, сталі чухаць патыліцу, дзе нам узяць гэты самы рыф і як гэта трымаць стырно, ды яшчэ па носе.

Мы веславалі, пакуль горад не схаваўся з вока, і калі перад намі разгарнуўся шырокі прасцяг рачной роўнядзі, а вецер закручваў вакол нас віхуру, мы падумалі, што самы час дзейнічаць.

Гектар — так, здаецца, клікалі майго сябра — працягваў веславаць, пакуль я ставіў ветразь. На першы

погляд, заданне не з лёгкіх, але я ўрэшце даў яму рады. Вось толькі адразу ж паўстала пытанне, дзе ў ветразя верх, а дзе ніз?

Паслугуючыся нашай інтуіцыяй, мы ўрэшце прыйшлі да мудрай высновы, што ніз — гэта верх, і ўсталявалі ветразь дагары нагамі. Пакуль мы неяк пераўсталявалі яго, мінулася шмат часу. Сам ветразь, пэўна, вырашыў, што мы гуляем тут у пахаванне. Маўляў, я тут за нябожчыка, а ён узяў сабе ролю пахавальнага савана.

Калі ветразь дапяў, што тут не тэатр, ён гучна пляснуў мне па твары і адмовіўся рабіць хоць нешта.

— Намачы яго, — сказаў Гектар, — кінь яго ў ваду, каб намок.

Гектар дадаў, што маракі на караблях, перад тым як разгарнуць ветразь, заўжды яго мочаць.

Я намачыў ветразь, але гэта толькі пагоршыла становішча. Калі сухі ветразь чапляецца за ногі і абгортваецца вакол галавы — канешне, непрыемна. Але калі ён ліпне да цела мокры, гэта проста нясцерпна.

Урэшце талакой мы ветразь паднялі. Замацавалі яго не зусім дагары нагамі — хутчэй крыху наўскасяк. Прывязалі яго да мачты з дапамогай насавога каната, які мы знарок дзеля гэтага адрэзалі.

Човен не перакуліўся — неверагодна, але факт. Чаму ён не перакуліўся, я патлумачыць не ў стане. Я часта разважаю на гэтую тэму, але так і не знайшоў адказу, які б мяне задаволіў.

Магчыма, гэта вынікала з натуральнага жадання ўсіх рэчаў на свеце дзейнічаць чалавеку на злосць. Ві-

даць, з нашых паводзін човен зрабіў выснову, што мы рыхтуемся да ранішняга самагубства, і вырашыў расчараваць нас. Гэта адзінае тлумачэнне, якое прыходзіць мне да галавы.

Адчайна чапляючыся за фальшборт, мы сяк-так утрымаліся на палубе, але сілы пакінулі нас. Гектар сказаў, што піраты ды іншыя мараходы падчас моцнага шторму звычайна прывязваюць стырно да чагосьці ці да кагосьці і трымаюць па ветры з дапамогай аднаго ветразя. Ён лічыў, што мы можам паследаваць прыкладу тых мараходаў. Я быў за тое, каб пусціць човен па ветры.

Паколькі мой варыянт было прасцей выканаць, мы ўрэшце яго і абралі. Злучыліся абняць фальшборт мацней ды пусцілі човен па ветры.

Човен пайшоў два кіламетры ўверх па рацэ з такой хуткасцю, з якой я раней ніколі дагэтуль не плаваў (і больш не хачу гэтага рабіць).

Праз нейкі час палова нахіленага ветразя апынулася пад вадой. Потым нейкім цудам ён выраўняўся, і човен урэзаўся ў доўгую палоску твані.

Твань уратавала нас. Човен прааранаў палову палоскі ды захрас у ёй. Запэўніўшыся, што нас больш не матляе, нібыта парсючкоў у мяху, мы рынуліся да мачты і спусцілі ветразь.

Усё, наплаваліся. Ад плавання пад ветразем нас нудзіла. Так, у нас ёсць ветразь — выдатны надзейны ветразь! — але цяпер нам хацелася проста веславаць.

Мы ўзялі вёслы і паспрабавалі выбрацца з твані, прычым зламалі адно весла. Потым мы рабілі ўсё з вялікай

асцярожнасцю, але вёслы былі абое старое. Таму другое хруснула яшчэ хутчэй за першае, пакінуўшы нас бездапаможнымі.

Перад намі было метраў сто твані, а за намі плёскала вада. Адзінае, што можна было зрабіць, — сядзець і чакаць дапамогі.

Гэты дзень не надта вабіў людзей на раку, і мінула гадзіны тры, першы чым нехта з'явіўся на даляглядзе. Гэта быў стары рыбак. З нялюдскімі намаганнямі ён урэшце выцягнуў нас, а потым узяў на ганебны буксір аж да лодачнай станцыі.

Шчодры гасцінец чалавеку, які вярнуў нас дадому, завоблачная плата за паламаныя вёслы плюс чатыры з паловай гадзіны прастою — гэтая вандроўка на колькі месяцаў пазбавіла нас усіх кішэнных грошай. Але ўзамен мы атрымалі карысны досвед, а за яго, як той казаў, колькі ні плаці, ніколі не пераплаціш.

## *Раздзел XVI*



*Рэдынг. — Нас бярэ на буксір паравы баркас. — Абуральныя паводзіны маленькіх чаўноў. — Джордж і Гарыс разнявольваюцца ў цяньку. — Адвечная жальба. — Стрытлі і Горынг.*

Рэдынг з'явіўся на далягладзе гадзіне аб адзінаццатай. Рака тут брудная і панурая. Затрымлівацца ў ваколіцах Рэдынга не хочацца. Сам горад — старадаўні і славуты, першыя згадкі пра яго дайшлі з часоў англасаксонскага караля Этэльрэда. Колісь тут, у Кенэце, прыставалі на баявых ладдзях дацкія вікінгі. І пачынаючы ад Рэдынга, рабавалі спрэс ангельскае гаспадарства Ўэсэкс. Менавіта каля Рэдынга Этэльрэд і яго брат Альфрэд Вялікі, даўшы датчанам адлуп, перамаглі. Этэльрэд з дапамогай малітвы, Альфрэд — зброі.

Пазней, калі ў сталіцы справы з розных прычынаў прымалі кепскі абарот, у Рэдынг з ахвотаю перасяляліся лонданцы. Парламент пераязджаў сюды, калі ва Ўістмін-

стэры лютавала чумы. Да таго ж у 1625 годзе Карл I прыняў закон, каб у Рэдынг пераехаў вярхоўны суд, і ўсе судовыя працэсы вяліся ў Рэдынгу. Вось як, спаслаўшыся на звычайную бубонную чуму, можна адным заходам нейтралізаваць і заканадаўчую, і судовую ўлады.

Падчас разгону парламента ў XVII стагоддзі Рэдынг узяў у аблогу граф Эсэксcкі. Чвэрць стагоддзя пазней герцаг Вільгельм Аранскі разбіў тут войска караля Джэймса Сцюарта.

Генрых I пахаваны ў Рэдынгу, у мурах Бенедыктынскага абацтва, дарэчы, заснаванага ім самім. Руіны абацтва можна ўбачыць і сёння. Тутсама бацька Генрыха IV, Джон Гонт, герцаг Ланкастэрскі, пабраўся шлюбам з лэдзі Бланш.

Да Рэдынга нас узяў на буксір паравы баркас, які належаў аднаму майму сябру. Нас цягнулі да Стрытлі амаль два кіламетры. Ехаць на буксіры — суцэльная асалода. Значна выгодней, чым веславаць. Паездка магла б працякаць у больш прыемнай атмасферы, калі б не ўсякія маленькія чаўны, які безупынку заступалі дарогу нашаму баркасу. Асцерагаючыся пратараніць іх, наш баркас вымушаны быў раз-пораз сцішваць ходу або ўвогуле спыняцца. Гэта абуральна, як усякія-розныя заторваюць фарватар! Нешта трэба з гэтым рабіць. Малыя чаўны — такія нахабы! Вы можаце свістаць, пакуль у вас не трэсне бак, а тыя — нуль увагі. Можа быць, крыху паскараць ходу. Калі б я мог, дык наклаў бы ім усім у каршэнь.

Трохі вышэй за Рэдынг Тэмза зноў прыгажэе. Чыгунка сапсавала яе выгляд ля Тайлгёрста, але ад Мэйплдэргама да Стрытлі рака проста чароўная.

Вышэй за Мэйплдэргэмскі шлюз вы прамінеце фальварак Гардўік, дзе Карл I любіў гуляць у шары. Ваколіцы Пэнбурна, дзе стаіць мілы гатэльчык “Лебядзіны”, відаць, нагналі аскоміну не толькі тутэйшым, але таксама заўсёднікам лонданскіх мастацкіх вернісажаў.

Баркас майго сябра адпусціў нас адразу пасля Басільдонскага грота. Гарыс паведаміў, што зараз мая чарга веславаць. Яго патрабаванне падалося мне неабгрунтаваным і пазбаўленым усякай логікі. Мы ж дамовіліся зранку, што я дастаўлю човен пяць кіламетраў вышэй за Рэдынг. Ну і вось яны мы — ажно пятнаццаць кіламетраў вышэй за Рэдынг! Я ні кроплі не сумняваўся, што цяпер веславаць павінен Гарыс.

Але пераканаць Джорджа з Гарысам было проста немагчыма. Чым марнаваць сілы на спрэчку, прасцей было ўзяцца за вёслы.

Я паспеў пасядзець за вёсламі, можа, з якую хвіліну, калі Джордж згледзеў нешта-нейкае. Чорнае, што калывалася на паверхні. Мы падплылі бліжэй. Джордж схіліўся й дакрануўся рукой. І раптам з крыкам адхапіў руку, пачырванеўшы.

На вадзе гайдаўся труп жанчыны. Лагодны і рахманы твар. Не тое каб прыгожы, бо заўчасна састарэлы. Шчокі запалыя і напятыя, калі на тое пайшло. Але ж рысы — далікатныя і прыемныя, нягледзячы на сляды пакутаў і нястачы. Выраз патолі на твары.

На шчасце для нас (бо нам не надта хацелася паўстаць перад вачыма следчага з аддзела па забойствах),

нейкія людзі таксама заўважылі труп і ўзялі ўвесь клопат на сябе.

Пазней мы дазналіся пра гэтую жанчыну. Старая як свет гісторыя. Яна закахалася і здрадзіла мужу, а потым каханак яе кінуў. Хай там што, але яна саграшыла, як грашым час ад часу ўсе мы, а яе сямейнікі ды сябры, абражаныя і зняважаныя, захлопнулі перад ёй дзверы сваіх дамоў.

Пакінутая з гэтым светам сам-насам, пад цяжарам ганьбы, што павісла ў яе на шыі, яна пакрысе ішла на дно. Пэўны час кабета, выжыльваючыся на чорных працах, жыла за дванаццаць шылінгаў на тыдзень. Выдаткоўвала шэсць шылінгаў на дзіця. На рэшту гібела, неяк захоўваючы душу ў бедным целе

Але шасці шылінгаў на тыдзень недастаткова, каб душа надзейна трымалася ў целе, дзеля гэтага патрэбныя мацнейшыя повязі. І аднойчы пакуты й безнадзейнасць існавання перамаглі. Будучыня жахнула кабету асабліва моцна. Апошні раз яна паспрабавала звярнуцца да сяброў, але сутыкнулася толькі з глухім мурам добрапрыстойнасці. Голас збітай з добрай дарогі выгнанніцы застаўся непачуты. Урэшце яна прыйшла апошні раз зірнуць на сваё дзіця. Узяла на рукі й пацалавала, адчуваючы жудасную роспач і журбу, але не выдаючы сваіх пачуццяў. Дала дзіцяці танную шакаладку. А на апошнія грашы купіла квіток і паехала ў Горынг.

Магчыма, самыя сумныя згадкі яе жыцця былі звязаныя з навакольнымі гаямі ды зіхотка-зялёнымі паплавамі,

што разлягліся вакол Горынга. Кабета (яны заўжды схопяцца за нож, што працяў іх) зноў з галавою занурылася ў сонечныя ўспаміны з колішніх часін, праведзеных у засені гэтых дрэваў-асілкаў, што схіляюць свае ніцыя галіны да самай зямлі.

Яна бадзялася ў прыбярэжных лясах увесь дзень навылёт. А калі спусціўся вечар і шэрыя прыцемкі разгарнулі свае сутонлівыя шаты па-над вадой, кабета працягнула рукі да ціхай ракі, што ведала ўсе ейныя радасці й смуткі. І рака прыняла кабету ў свае абдымкі. Пяшчотна паклаўшы пакутную галаву сабе на ўлонне, спыніла ейны боль.

Бедная кабета пражыла грэшнае жыццё, грэшнай была і ейная смерць. Хай Госпад Бог злітуецца з ейнай душы! І з усіх іншых грэшнікаў, калі яны яшчэ засталіся на зямлі.

...Горынг леваруч і Стрытлі праваруч. Тут можна рабіць цудоўныя днёўкі, стаянкі на некалькі дзён. Рака ля Пэнгборна — выдатнае месца для плавання сонечным поўднем або для прагулянак пад месяцам. Прырода навокал проста раскашуе. У гэты дзень мы планавалі дайсці да Ўолінгфорда, але ўсмешлівы твар Тэмзы намякнуў, што варта затрымацца. Ля моста мы вылезлі з чоўна, падняліся да Стрытлі і, на радасць Манмарансі, схадзілі павячэраць у страўню "Бык".

Кажуць, што пагоркі паабапал ракі некалі злучыліся і сфармавалі сцяну, якая спыніла Тэмзу. І рака разлілася ля Горынга ў вялікае возера. Я не магу ні пацвердзіць, ні адпрэчыць гэтую версію. Проста перадаю яе.

Стрытлі — старадаўняе мястэчка. Яго гісторыя, як гісторыя большасці прыбярэжных гарадкоў і вёсак, сягае яшчэ старажытных часоў саксаў ды брытаў. Як па шчырасці, дык Горынг не такі прывабны для прыпынку, як Стрытлі, але яго можна хутка праплыць. І ў дадатак ён месціцца недалёка ад чыгуначнай станцыі. Добрая перавага на выпадак, калі вы не захочаце плаціць па рахунку ў гатэлі.

## *Раздзел XVII*



*Пранне. — Рыба і рыбакі. — Мастацтва рыбнай лоўлі. — Сумленны аматар лоўлі нахлыстам. — Хто злавіў стронгу?*

Два дні мы заставаліся ў Стрытлі і мылі вопратку. Мы паспрабавалі праць яе ў рацэ пад чуйным кіраўніцтвам Джорджа. Якая памылка! Нават не памылка, а памылішча! Бо вопратка зрабілася бруднейшая, чым была да прання. Так, святая праўда, да таго як мы памылі нашу вопратку, яна была вельмі-вельмі брудная — але ж яе прынамсі можна было сяк-так насіць. Пасля таго як мы памылі яе ў Тэмзе, кавалак паміж Рэдынгам і Гэнлі-на-Тэмзе зрабіўся значна чысцейшы, бо падчас мыцця мы сабралі ў сваю вопратку ўвесь бруд, які там плаваў.

Прачка са Стрытлі заявіла, што яе маральны абавязак спагнаць з нас утрая больш. Яе праца менш за ўсё нагадвала пранне, сказала яна. Гэта былі хутчэй землярыйныя работы.

Без лішніх спрэчак мы заплацілі па рахунку.

Ваколіцы Стрытлі і Горынга — вотчына рыбакоў. Рыбы тут чортава процьма. Тэмза кішма кішыць шчупакамі, акунямі, плоткамі, печкурамі й вуграмі. Сядзі ды лаві дзень навылёт.

Некаторыя так і робяць. Але, шчыра кажучы, ніколі нічога не ловіцца. Я не ведаю ніводнага чалавека, які выцягнуў у вярхоўях Тэмзы хоць што-небудзь. Калі не лічыць жабак і здохлых катоў, але якое дачыненне яны маюць да ўлову?

Не выпадкова ў мясцовым "Дапаможніку рыбака" слова "рыба" не сустракаецца. "Дапаможнік" адно паведамляе, маўляў, "тутэйшае ўрэчча — прыдатнае месца для лоўлі".

І гэта шчырая праўда. Відаць, няма на зямлі такога кутка, дзе жыццё б так шчыльна было знітаванае з рыбнымі тэмамі і дзе можна было б так доўга бавіцца з вудай. Некаторыя рыбакі прыязджаюць сюды на дзень, іншыя спыняюцца на месяц. Можна нават кінуць-рынуць гарадское жыццё й застацца тут на год, але вынік будзе той самы.

Іншае выданне, "Малая падарожная кніжка для рыбакоў на Тэмзе", кажа, што "тут ловяцца маладыя шчупакі й акуні", але ж шаноўнае выданне яўна памыляецца. Шчупакі й акуні, можа быць, тут сапраўды ёсць, і я нават бачыў доказы іх існавання. Можна ўбачыць іх на водмелях, калі ідзеш паўз бераг. Рыбіны спыняюцца й напаўцела высоўваюцца з адкрытым ротам у чаканні печыва. Калі вы ідзяце купацца, яны гуртуюцца вакол вас, заступаючы дарогу. Але калі ў вас у руках вуда і на канцы кручка наколаты чарвяк, яны растаюць, як цукар у кіпні!

Як рыбак я — невялікае што. Колісь я прысвячаў удасканаленню ў рыбацтве ўвесь свой вольны час. Мне нават падавалася, што я магу дасягнуць поспеху. Аднак старыя знаўцы пастанавілі, што з мяне ніколі не выйдзе добрага рыбака, ды параілі кінуць дурное. Яны сказалі, што вуду я закідваю бездакорна, а таксама я — ад прыроды як мае быць кемлівы і ў дастаткова ступені абібок. Але ўсё роўна яны былі пэўныя, што сапраўднага рыбака з мяне не атрымаецца.

Дык у чым праблема? Я не маю належнай фантазіі!

Знаўцы сказалі, што, можа быць, у якасці калумніста, ці аўтара падарожных нататак, або, на благі канец, як рэпарцёр я, напэўна, прафесійна здатны. Аднак каб пісаць для “Малой падарожнай кніжкі для рыбакоў на Тэмзе” — о не! Тут трэба мець сапраўдны палёт фантазіі й проста нястрыманую прагу да выдумкі.

Некаторыя людзі перабываюць у аблудным перакананні, што для таго, каб зрабіцца выдатным рыбаком, дастаткова хлусіць без запінкі і не чырванець. О, якая вялікая памылка! Простай гаварнечы недастаткова. Першы-лепшы навічок здатны на выхваленні. Сакрэт хаваецца ў руплівым апісанні дэталяў. У дробных мазках, якія прымушаюць публіку даць веры апавядальніку. Праўдападобнасць і яшчэ раз праўдападобнасць — вось дэвіз дасведчаных рыбакоў.

Кожны можа прыйсці і заявіць, маўляў, “учора звячора нацягаў я, хлопцы, сто пяцьдзясят акунькоў” або “у нядзельку па раненьку зладзіў я метровага печкура на пятнаццаць кіляў”.

А дзе тут мастацтва, дзе аратарскае майстэрства, так неабходныя ў гэтай сітуацыі?! Плёткі старой цёткі, дый годзе...

О не! Дасведчаны рыбак мусіць гідзіцца такой шчырай хлусні. Яго аповед — гэта цэлая навука.

Ён прыходзіць у капелюшы. Моўчкі займае самае выгоднае крэсла. Запальвае люльку. У поўнай цішы выдыхае дым. Дазволіўшы маладзёнам павыхваляцца, падчас кароткай паўзы ён дастае люльку з рота і, вытрасаючы попел на барную стойку, кідае драматычную заўвагу:

— У аўторак вечарам была ў нас выправа, але пра ўлоў я лепей памаўчу.

— Так? А чаму? — ажыўляюцца маладзёны.

— Дык усё роўна ніхто не паверыць, — ціха адказвае ён нават без ценю гаркоты ў голасе. Потым набівае люльку і просіць карчмара прынесці яму тры скотчы з лёдам.

Запаноўвае паўза — ніхто не адважваецца на працяг гутаркі з самавітым спадаром. І тады ён працягвае без усякага заахвочвання з боку публікі.

— Ну, натуральна, я сам бы не паверыў, калі б нехта апавёў мне такое, — кажа ён задуменна. — Але факты — рэч упартая... Сядзеў я ў той вечар і практычна нічога не выцягнуў — можа, якіх пару дзясяткаў платвічак і колькі маладых шчупачкоў. Я ўжо збіраўся быў кінуць дурное, калі адчуў моцны рывок. Спярша я падумаў, што гэта зноў драбяза, і ўзяўся яе падсякаць. Але каб жа я здолеў скрануць вудзільна! Паўтары гадзіны —

даражэнькія, *паўтары*! — я выцягваў гэтую рыбіну. І штохвілі быў чакаў, што лёска зараз парвецца. Урэшце я яго выцягнуў, і што вы думаеце? Асяцёр! Пудовы асяцёр! І ўзяўся на звычайную вуду, даражэнькія! Вы, я бачу, у шоку — а я каўтну яшчэ. Гэй, карчмар! Патройную порцыю шатландскага, калі ласка!

І потым ён дабівае прысутных аповедам пра ашаломленасць сведкаў, і што сказала яго жонка, калі ён вярнуўся дадому, і як адрэагаваў Джо Баглз...

Аднойчы я спытаў гаспадара заезнага дома, які месціцца ў вярхоўях Тэмзы, ці ж не абрыдла яму слухаць і слухаць усе гэтыя рыбацкія байкі ды здубавецці.

— О не, зусім не, даражэнькі! — адказаў гаспадар. — Спярша, канешне, вушы вялі, але паціху-патроху прыцярпеўся. Я і мая жонка слухаем цяпер іх ад рана да рана. І, ведаеце, прывыклі. Далібог, цяпер без іх нават жыць не можам.

Калісь я ведаў аднаго маладзёна, надзіва сумленнага хлопца. Дык вось, калі той маладзён стаў займацца лоўляй нахлыстам, дык пастанавіў для самога сябе, што не будзе перабольшваць свае дасягненні больш, чым на дваццаць пяць адсоткаў.

— Калі я злаўлю сорак рыбін, — вырашыў ён, — дык скажу, што выцягнуў пяцьдзясят, і гэтак далей. Але ашукваць я не буду, бо хлусіць — вялікі грэх.

На жаль, "дваццаціпяціадсоткавы план" не спрацаваў. Бо ўжыць яго не было ніякай магчымасці. Найбольшая колькасць рыбін, якую змог злавіць маладзён, была —

тры. А да трох дадаць дваццаць пяць адсоткаў нельга. Прынамсі, калі вымярэнне вядзецца ў цэлых рыбінах.

Тады маладзён павялічыў працэнтную стаўку да трыццаці трох і трох дзясятых. Але зноў жа нічога не атрымлівалася — ён лавіў адну ці дзве рыбіны. Тады ён, канчаткова ўсё спрашчаючы, пастанавіў колькасць злоўленага падвойваць.

Ён трымаўся гэтай формулы пару месяцаў, але яго незадаволенасць толькі мацнела. Ніхто не даваў веры, што ён усяго толькі падвойвае. З гэтай прычыны маладзён не заваяваў добрага імені сярод рыбацкай супольнасці. У дадатак ягоная сціпласць ставіла яго ў няроўныя ўмовы. Калі маладзён лавіў тры маленькія рыбкі і заяўляў, што выцягнуў шэсць, дык тады люта зайздросціў рыбаку, які злавіў усяго толькі адну, але выхваляўся, быццам выцягнуў два тузіны.

І вось урэшце маладзён дамовіўся сам з сабою, заключыў сам з сабой пагадненне, якога зацята пільнуецца аж да сённяшніх дзён. Кожная рыбіна лічыцца за дзесяць, але дзесяць — гэта найменшы магчымы ўлоў. То-бок, калі ён не злавіў ніводнай рыбіны, маладзён кажа, што выцягнуў дзесяць. Паводле гэтай сістэмы нельга злавіць менш за дзесяць штук. Гэта аснова над асновамі. Калі аднойчы, па збегу акалічнасцяў, маладзён усё ж выцягнуў адну рыбку, дык паведаміў усім, што дваццаць. Дзве рыбіны — гэта трыццаць, тры — сорак. І гэтак далей.

Гэта просты і дзейсны метад, у свой час ён нарабіў шмат шуму. Два гады запар рада “Задзіночання ангельскіх

# Міхал Анемпадыстаў

# ULTIMA THULE

Я палю сваю файку,
Вецер дзме мне ў спіну,
У паўночным кірунку
Нясе мой карабель.

Мой карабель,
Ветразяў бель.
Бі, вецер, бі
У яе, як у бубны.
Дзмі, вецер, дзмі,
Дзмі, не шкадуй,
Нясі карабель мой
На Ультыма Тхулле.



Ультыма Тхулле,
Чароўная выспа,
Там выспацца можна
Пасля вандраванняў
І кожны вандроўнік
Там знойдзе прытулак,
Там, на выспе далёкай,
Выспе Ультыма Тхулле.

А на той выспе далёкай
Ёсць корчмы і бары,
Там клёцкі за дзякуй,
Там піва задарма
І прыгажуні
Прагнуць кахання
Там, на выспе далёкай,
Выспе Ультыма Тхулле.





А яшчэ там ёсць дуб,
Стары і магутны,
І такі ён стары,
Што стаяў там спрадвеку,
І такі ён магутны,
Што трымае ён неба,
Каб яно не ўпала
На выспу Ультыма Тхулле.

Я палю сваю файку,
Вецер дзме мне ў спіну,
У паўночным кірунку
Нясе мой карабель.

рыбаловаў" рэкамендавала ўвесці гэты метад у афіцыйны ўжытак, але некаторыя старэйшыя сябры "Задзіночання" адпрэчылі яго. Яны казалі, маўляў, не трэба нічога тут выдумляць — лепей скарыстацца дзедаўскім прыёмам, калі кожную рыбіну лічаць за дваццаць.

Калі вам надарыцца прабавіць вечар у вярхоўях Тэмзы, дык я парэкамендаваў бы заскочыць у адзін невялічкі вясковы гатэльчык і сесці там ля барнай стойкі. Я амаль перакананы, што вам на вочы трапяцца адзін-два старыя рыбакі, якія, пацягваючы пунш, за паўтары гадзіны апавядуць дастаткова гісторый, каб арганізаваць вам разумовы разлад на месяц наперад.

...Нам з Джорджам стала няўцям, што зрабілася з Гарысам. Адвячоркам той выйшаў, каб пагаліцца. Потым вярнуўся і прабавіў сорак хвілін за глянцаваннем чаравікаў. З таго моманту мы (у сэнсе — мы з Джорджам ды Манмарансі) яго не бачылі. Пакінутыя ім, у другі вечар выбраліся на шпацыр да Ўолінгфордзе. Пасля засяліліся ў невялічкі прыбярэжны гатэльчык, для адпачынку і сяго-таго іншага...

Мы зайшлі ў гасцёўню гатэльчыка і селі ля стойкі. Там ужо ўладкаваўся немалады мужчынка, які паліў доўгую гліняную люльку. Паміж намі завязалася жвавая гутарка.

Мужчынка сказаў, што сёння цудоўнае надвор'е, і мы адказалі, што ўчора было цудоўнае надвор'е. Потым мы ў адзін голас прамовілі, што маем надзею, маўляў, і заўтра будзе цудоўнае надвор'е, а Джордж дадаў, маўляў, выдае на тое, што сёлета збяруць неблагі ўраджай збожжавых культур.

Потым пакрысе з нас выцягнулі прызнанне, што мы нетутэйшыя і што заўтра нам з раніцы з'язджаць.

Запанавала паўза, падчас якой нашыя позіркі блукалі па сценках гасцёўні. Урэшце яны спыніліся на старой запыленай шкляной шафе, павешанай вельмі высока панад камінам. У ёй была выстаўлена стронга. Гэтая рыбіна мяне ўразіла — сваім проста такі гіганцкім памерам. Калі шчыра, дык спярша я падумаў, што гэта атлантычная траска.

— А-а! — выгукнуў мужчынка, прасачыўшы за нашымі позіркамі. — Сур'ёзная балэбала, праўда?

— Левіяфан! — прамармытаў я. І Джордж спытаўся, колькі, на думку мужчынкі, яна важыць.

— Восем кілаграмаў трыста сорак грамаў, — адказаў наш новы сябар, падымаючыся і здымаючы з кручка палітон. — Во як, — працягваў мужчынка. — У наступным месяцы трэцяга дня споўніцца шаснаццаць гадоў, як я злавіў яе. Я злавіў яе пад мостам на блясну. Тады хлопцы казалі, што нехта сваволіць у рацэ, а я адказаў, што злаўлю жэўжыка — і, як бачыце, стрымаў слова. Мусіць, вы такіх аграмадзін яшчэ не бачылі. Дабранач, даражэнькія, дабранач!

І мужчынка выйшаў, пакінуўшы нас адных.

Рыбіна была — вачэй не адвесці. Выкшталцоны экзэмпляр. Мы па-ранейшаму казелілі на яе вочы, калі ў дзвярах з'явіўся яшчэ адзін пастаялец, мясцовы кур'ер са жбанам піва ў руцэ. Зайшоўшы ў гасцёўню, ён таксама кінуў позірк на чучала.

— Здаравезная стронга, далібог! — сказаў Джордж, павярнуўшыся да кур’ера.

— Шчырая праўда, даражэнькі! — адказаў той. І лыкнуўшы піва, дадаў: — Праўда, вас жа тут не было, калі яго злавілі?

— Мы не тутэйшыя, — адказалі мы.

— А-а, ну так, ну так... — זаківаў кур’ер. — Здарылася гэта пяць гадоў назад. Гэтую пачвару выцягнуў я.

— А-а, дык гэта вы яе? — здзівіўся я.

— Так і ёсць! — пацвердзіў стары кур’ер. — Злавіў за шлюзам, ну, ці тады гэта ён толькі будаваўся — у пятнічку папоўдні. І што самае цікавае, даражэнькія, злавіў яе на звычайную муху. У той дзень пайшоў я на шчупака. Клянуся мамай і татам, думаць не думаў пра стронгу! А калі ўбачыў гэтую балэбалу на канцы вуды, дык усё меркаваў, чаму яна мяне назад у рэчку не зацягнула! Важыць адзінаццаць восемсот. Дабранач, спадарства, дабранач!

Праз пяць хвілін зайшоў трэці чалавек і апісаў, як ён злавіў гэтую стронгу адным пагожым ранкам на верхаводку. Калі трэці чалавек сышоў, у гасцёўню завітаў самавіты мужчына ў сярэдніх гадах з разняволеным выразам твару і сеў ля акна.

Нейкі час мы маўчалі. Але потым Джордж павярнуўся ў бок новага наведніка і прамовіў:

— Я дужа перапрашаю, але спадзяюся, што вы мне даруеце вольнасць, з якой мы — людзі нетутэйшыя — у вас паводзімся, але мае сябры і я вельмі хочуць пачуць аповед пра тое, як вы злавілі гэтую стронгу.

— Э-э, а хто вам сказаў, што стронгу злавіў менавіта я?

Мы адказалі, што ніхто — проста на інстынктыўным узроўні адчулі, што яе выцягнуў шаноўны спадар.

— Здурнець можна! — адказаў разняволены незнаёмец, смеючыся. — Інстынкт вас не падвёў — яе сапраўды злавіў я. Нават не верыцца, што вы, спадарства, такія пранікლівыя. Далібог, празорцы!

Потым ён апавёў, як у яго заняло паўтары гадзіны, каб выцягнуць яе на бераг, і як рыбіна зламала яму вудзільна. Ён сказаў, што калі ён вярнуўся дадому і руплíва яе ўзважыў, дык шалі паказалі пятнаццаць кілаграмаў чатырыста грамаў.

Потым сышоў і гэты спадар, і па яго сыходзе ў гасцёўню ўрэшце вярнуўся дзядок-карчмар. Мы апавялі яму ўсе гэтыя разнастайныя версіі. Ён выказаў уражанасць, і мы разам пасмяяліся ад душы.

— Джым Бэйтс і Джо Маглз, спадар Джонз і стары Білі Мондэрс, усе гэтыя фантазёры сказалі вам, што стронгу злавілі яны?! Ха-ха-ха! Смешна ў роце! — прамовіў сціплы дзядок, рагочучы ад душы. — Дык чаго яны пакінулі тую рыбіну ў маім шынку? Ха-ха-ха!

І потым ён апавёў нам праўдзівую гісторыю гэтай стронгі. Злавіў яе ён, калі быў маладым хлопцам. Але не дзякуючы нейкаму асабліваму ўмельству, а хутчэй сляпому шанцаванню, якое раптоўна напатыкае хлопца, калі сонечным ранкам той дае драпака з заняткаў і кіруецца на рыбу з кавалкам лёскі, навязаным на выламаны пруток.

Ён дадаў, што, каб не атрымаць дыхту ад настаўніка за прагул, ён прынёс яе ў школу і што нават дырэктар

школы адзначыў, што рыбіна вартая прагулу чатырох урокаў.

На гэтых словах дзядка паклікалі з вялікай залы. І мы з Джоржам перакіравалі свае позіркі на рыбіну.

Колькі-там-дзясяткаў-кілаграмовая стронга рабіла моцнае ўражанне. Чым больш мы на яе пазіралі, тым больш мы ёй зачароўваліся. Стронга нагэтулькі захапіла Джорджа, што ён, каб лепей яе агледзець, нават ускараскаўся на спінку крэсла.

Але крэсла захісталася і Джордж, у адчайнай спробе ўратавацца, ухапіўся за палічку, на якой стаяла чучала стронгі. Урэшце, разам з крэслам і жудасным хрустам, Джордж паляцеў долу.

— Ты ж, спадзяюся, рыбіну не пашкодзіў? — закрычаў я ўзрушана, кідаючы роспачны позірк на пустую паліцу.

— Спадзяюся, не, — адказаў Джордж, асцярожна прыўздымаючыся і аглядаючыся.

Але мы яе пашкодзілі — стронга разляцелася на тысячу кавалкаў. Я кажу "тысячу", але насамрэч іх магло быць толькі дзевяцьсот. Я іх не лічыў.

Мы падумалі, што гэта досыць дзіўна і неверагодна, што чучала стронгі развалілася на кавалкі.

Аднак дзіўна і неверагодна гэта было б, каб разбілася набіткаванае чучала стронгі. Паколькі насамрэч ніякім чучалам яно не было.

Стронга была з гіпсу.

Калі турыст спіць,
То наносіць навакольнаму асяроддзю
найменшую шкоду.

Ірына Дубянецкая



# Раздзел XVIII



*Шлюзы. — Нас з Джорджам здымае фатограф. — Ўолінгфорд. — Дорчэстэр. — Абінгдан. — Сямейны чалавек. — Прыгожы закуток для аматараў тапіцца. — Цяжкая вада. — Дэмаралізоўчы эфект рачнога паветра.*

На досвітку мы пакінулі Стрытлі і даплылі да Кулгама, дзе яшчэ паспалі пад брызентам у завадзі.

Рака між Стрытлі і Ўолінгфордам — невялікае што. З Кліва пачынаецца дзесяцікіламетровы адцінак без шлюзаў. Вышэй за Тэдынгтан — гэта, мусіць, найдаўжэйшы вольны ад наводных фартыфікацыяў адцінак. Оксфардскі клуб джэнтльменаў выкарыстоўвае яго для трэніровак на васьмёрках.

Адсутнасць шлюзаў, напэўна, цешыць прафесійных весляроў, тады як простых адпачывальнікаў яна засмучае.

Як на мяне, дык я люблю шлюзы. Яны перарываюць манатоннасць рачной вандроўкі. Мне падабаецца сядзець

у чоўне й адчуваць, як вось-вось ты падымешся пад-над сцюдзёнымі глыбінямі ў новыя абсягі і свежыя краявіды. Або наадварот: ляцець долу, ўсё роўна як у падземную западзіну. Стаяць і чакаць, як змрочная брама рыпне, і тады вузкая палоска дзённага святла выблісне паміж дзвюма палоўкамі... І вось усмешлівая рака ўжо разляглася перад вачыма! Ты вызваляеш свой маленькі човен з кароткай няволі і вядзеш на чароўныя водныя прасцягі.

Шлюзы — яны вельмі маляўнічыя. Мажны дзядокнаглядчык і ягоная прыязная жонка. Або іхняя сінявокая дачка. З гэтымі людзьмі заўжды прыемна перакінуцца словам. Менавіта тут вы сустракаеце іншыя чаўны і абменьваецеся рачнымі плёткамі. Без аздобленых кветкамі шлюзаў Тэмза не стала б тым казачным каралеўствам, якім яна ёсць цяпер.

Апавядаючы пра шлюзы, я прыгадаў пра адзін няшчасны выпадак, які ледзь не здарыўся са мной і Джорджам адным летнім ранкам ля Гэмптан-Корцкага шлюза.

Стаяў пагодны дзянёк. Ля шлюза віраваў натоўп. Як часта адбываецца ў такіх месцах, пакуль мы падымаліся да шлюза, нейкі спрытны фатограф зняў усіх нас на картачку.

Спярша я не сцяміў, што адбываецца. І таму быў дужа здзіўлены, калі заўважыў, што Джордж спехам прыгладжвае рукамі свае пакамечаныя штаны і прыводзіць у парадак валасы. Зухаватым рухам ссоўвае кепку на патыліцу, нацягвае на твар змяшаны выраз прыязнасці і самавітасці. Прымае годную паставу, спрабуючы схаваць голыя ступакі.

Маёй першай думкай было, што Джордж згледзеў нейкую знаёмую дзяўчыну. Я стаў азірацца ў пошуках, хто б гэта мог быць. Я зірнуў навокал, і ў мяне склалася ўражанне, што ўсе людзі здзеравянелі. Усе стаялі або сядзелі ў нязграбных і вычварных позах, не раўнуючы маляваныя фігуркі на японскім веера. Усе дзяўчаты ўсміхаліся. О, як жа харашмяна яны выглядалі! У сваю чаргу, усе хлопцы хмурыліся, выглядаючы адначасова сурова і самавіта.

Тут, зрэшты, у маёй галаве праблíснула здагадка, і мне таксама захацелася трапіць у кадр. Наш човен плыў першым, і я падумаў, што было б няветліва з майго боку сапсаваць калектыўны здымак. Я вокамгненна павярнуў шыю і заняў месца ў носе чоўна. Там я з далікатнай вытанчанасцю, выпраменьваючы на ўсе бакі спрыт і моц, абапёрся на металічны бусак. Я хуценька прычасаўся, скінуўшы на лоб кудлы. Дадаў вачам выразу лагоднай тугі плюс каліўца цынізму, што, як кажуць, мне вельмі да твару.

І гэтак мы знерухомелі ў чаканні жаданага моманту, калі за спінай я пачуў чыёсьці галашэнне:

— Гэй! Паглядзіце на нос!

Я не мог павярнуцца, каб убачыць, у чым рэч і на чый нос варта звярнуць увагу. Краёчкам вока я зіркнуў на нос Джорджа. Нос як нос, нічога звышнатуральнага. Мімаволі скасавурыўся на ўласны нос — усё як заўжды.

— Ды глянь ты на свой нос, тупалобіна! — пачуўся той жа голас, толькі гучней.

І тут умяшаўся іншы:

— Адсуньце ваш нос, гэй, вы, двое з сабакам!

Ні я, ні Джордж не наважыліся павярнуцца. Рука фатографа была на рамцы, і ён мог засняць нас у любы момант. Дык якога ляда яны нас клічуць?! Што ўжо такога сталася з нашымі насамі?! З ягой нагоды яны гоняць нас з кадра?

Але тут пачаў гукаць ужо ўвесь шлюз, а ззаду прагрымеў нечы зычны голас:

— Мужчынкі ў чырвона-чорных кепі, ды гляньце ж вы на свой нос! Калі не паспяшаецеся, дык на здымак трапяць вашыя трупы.

Урэшце мы агледзеліся і ўбачылі нос нашага чоўна, які захрас у драўлянай абшыўцы шлюза. Вада, якая ўвесь час прыбывала, сілілася пераруліць човен. Праз якую секунду нам быў бы гамон. Мы абодва спрытна схапілі па вясле і, энергічна адштурхнуўшыся, вызвалілі човен. А потым, зняможаныя, паваліліся на спіну.

На здымку мы не выйшлі прыгожа. Як і чакалася з нашым шчасцем, фатограф прывёў у дзеянне свой апарат менавіта ў той момант, калі мы абодва ляжалі на спінах са здзічэлым выразам на тварах, маўляў, "і дзе я? і што я?" — а нашыя ногі і рукі шалёна матляліся ў паветры.

Ногі зрабіліся цэнтральнымі героямі фатаграфіі. Іншага было амаль не відаць. Яны запоўнілі сабою ўвесь пярэдні план. Па-за імі вы можаце ўбачыць мітусню іншых чаўноў і трохі навакольных дэкарацый. Аднак, у параўнанні з нашымі нагамі, усе і ўсё вакол шлюза выглядаюць малюпасенькімі ды нязначнымі. Іншыя людзі нават пакрыўдзіліся і адмовіліся купляць фотакартку.

Уладальнік паравога баркаса, які замовіў шэсць копіяў, убачыўшы негатыў, адразу адмяніў заказ. Ён сказаў, што абавязкова купіць фатаграфіі, калі нехта пакажа яму на здымку ягоны баркас. Аднак ніхто рады не даў. Баркас хаваўся недзе за правым ступаком Джорджа.

Пачаўся непрыемны торг. Фатограф быў упэўнены, што мы павінны набыць як найменей тузін копіяў, паколькі на здымку сфатаграфаваныя збольшага мы. Мы адмовіліся. Мы сказалі, што так, гэта мы, але нам бы хацелася, каб ад нас на здымку прысутнічалі таксама іншыя часткі цела...

Ўолінгфорд, які месціцца за восем кіламетраў уверх па рацэ ад Стрытлі, вельмі старадаўні горад, дзе адбываліся знакавыя падзеі ангельскай гісторыі. У часы брытаў, якія прыйшлі сюды, гэта быў невялічкі пабудаваны з гліны гарадок. Рымляне захапілі яго і замянілі гліняныя сцены на каменныя муры велічных фартэцыяў. Тыя муры нават яго мосць Час так і не змог зруйнаваць, настолькі грунтоўна ўмелі будаваць тагачасныя муляры.

Аднак час, які спыніўся ля муроў гэтай фартэцыі, усё ж здолеў разваліць саму Рымскую імперыю. Пазней ля гэтых муроў біліся дзікія саксы і мажныя датчане, аж пакуль урэшце не ўварваліся нарманы.

Гэтыя муры ды іншыя рымскія фартыфікацыі захаваліся да часоў грамадзянскай вайны між парламентарыстамі і раялістамі ў XVII стагоддзі. Горад моцна пацярпеў, калі сэр Томас Ферфакс, ачольнік парламенцкіх войскаў, узяў яго ў доўгую і заўзятую аблогу. Урэшце горад здаўся, а яго рымскія муры зруйнавалі.

Ад Ўолінгфорда да Дорчэстэра мясцовасць абапал ракі робіцца ўсё больш перасечаная, а прырода — разнастайная і маляўнічая. Дорчэстэр стаіць за кіламетр ад ракі. Калі ў вас маленькі човен, дык да яго можна даплысці па ціхай завадзі, якая адыходзіць ад асноўнай плыні Тэмзы. Але найлепш выйсці на бераг ля Дэйскага шлюза і прайсціся праз палеткі. Дорчэстэр — прыемны стары гарадок, які дрэмле ў цішыні і спакоі.

Дорчэстэр, як і Ўолінгфорд, граў важную ролю ў старабрытанскія часы. Тады ён менаваўся па-кельцку Каер Дорэн, "горад над вадой". Яшчэ раней рымляне паставілі тут фартыфікацыйныя пабудовы, чые рэшткі сёння выглядаюць як нізкія згладжаныя пагоркі. У часы англасаксаў Дорчэстэр быў сталіцай удзельнага княства Ўэсэкс. Старажытны, магутны і велічны. Цяпер Дорчэстэр застаўся наўзбоч ад віравання вялікага свету. Старэча водзіць носам і летуценіць.

Раўнд Кліфтан Гэмпдэн — вельмі-вельмі прыемная вёсачка. Старасвецкая, ціхамірная, уся патанае ў кветках. Тутэйшыя краявіды цешаць вока дабрабытам і хараством. Калі вы вырашыце застацца тут, дык лепшага месца, чым заезны дом "Ячменны Стог", вам не знайсці. На маю думку, самы чароўны заезны дом на рацэ. Тут усё вядзецца, як у даўнія часы. Ён месціцца праваруч ад моста — канешне, ад самой вёскі далекавата. Яго нізкія вільчакі, саламяная страха і вітражныя вокны выглядаюць так, нібыта ён трапіў сюды проста з чароўнай казкі. А ў сярэдзіне дома ўсё выглядае яшчэ больш старажытным.

Для гераіні сучаснага рамана "Ячменны Стог" не вельмі прыдатнае месца. Гераіня сучаснага рамана заўжды "сажнёвага росту" і заўжды "з гонарам трымае сваю выпрастаную спіну". У "Стозе" з такімі манерамі яна будзе біцца галавой аб столь.

Для аматараў узяць чарку "Ячменны Стог" таксама не пасуе. Тут тоіцца зашмат нечаканак у выглядзе непрадбачаных прыступак па дарозе на жылы паверх. Падняцца ў нумар на падпітку робіцца невыканальнай місіяй.

Паколькі мы хацелі трапіць у Оксфард яшчэ адвячоркам, дык прачнуліся на досвітку. Дзіву даешся, як рана можна ўскруціцца, калі ты начуеш не ў сваім ложку! Наколькі вялікая розніца ў гучанні фразы "яшчэ пяць хвілінак", калі ты ляжыш, загорнуты ў рызманы, на дне чоўна з саквояжам замест падушкі і калі ты пачываеш дома на пярынах!

Мы паснедалі і а палове на дзявятую ўжо міналі Кліфтанскі шлюз.

Паміж Кліфтанам і Кулгамам бераг Тэмзы палогі, аднастайны і нецікавы. Але толькі вы мінеце Кулгамскі шлюз — самы халодны і самы глыбокі шлюз на рацэ, — дык краявід пакрысе паляпшаецца.

У Абінгдане Тэмза кружляе сярод вулак. Абінгдан — тыповы правінцыйны гарадок. Ціхмяны, шляхетны, чысты і неверагодна нудны. Ён ганарыцца сваёй гісторыяй, але калі параўнаць яго радавод з Ўолінгфордам ці Дорчэстэрам, дык вынік будзе не на карысць Абінгдана. Калісь тут высіліся будынкі славутага абацтва. У парэшт-

ках, якія засталіся ад асвечаных арэолам святасці муроў, сёння варць горкі эль.

У абінгданскай царкве святога Міколы стаіць помнік Джону Блэкўэлу і ягонай жонцы Джэйн, якія мелі шчаслівы шлюб і пайшлі з жыцця ў адзін дзень, дваццаць першага жніўня 1625 года. У царкве святой Алены ёсць шыльда ў гонар нейкага Ў. Лі, які памёр у 1637-м і "з чрэслаў каторага выйшла на свет без трох дзве сотні". Калі вы пачняце рабіць няхітрыя вылічэнні, дык атрымаецца, што спадар Ў. Лі меў сто дзевяноста сем дачок і сыноў. Спадар Ў. Лі, якога пяць разоў абіралі бурмістрам Абінгдана, быў, без сумневу, вялікі дабрадзей свайго пакалення. Аднак, я спадзяюся, у яго не знойдзецца шмат паслядоўнікаў у нашым бітма набіткаваным людзьмі дзевятнаццатым стагоддзі.

Ад Абінгдана да Нунгама Картні — таксама цудоўны адцінак. Абавязкова схадзіце ў Нунгэмскі парк. Ён адчынены штосераду і штопятніцу. У паркавай сядзібе — выдатная карцінная галерэя і калекцыя рэдкасцяў. А пляцоўкі для прагулянак вельмі маляўнічыя.

Калі вы хочаце ўтапіцца, сажалка пад Сэнфардскай грэбляй, якая разліваецца адразу пасля шлюза, — вельмі для таго прыдатнае месца. Падводная плынь тут надзвычай моцная, і як толькі вы занурыцеся ў ваду цалкам, лічыце, справа зробленая. Помнік дакладна паказвае месца, дзе патанулі двое мужчынаў. Маладзёны, якія выпрабоўваюць сябе на непатапляльнасць, карыстаюцца прыступкамі помніка ў якасці трампліна.

Шлюз і млын ля Іфлі, за пару кіламетраў ад Оксфарда, акупавалі мастакі. Але тыя, хто бачыў гэтыя пабудовы ў рэчаіснасці, моцна расчаруюцца. Увогуле я даўно заўважыў — родныя ангельскія краявіды саступаюць мастацкаму выяўленню.

Мы мінулі шлюз Іфлі а палове на дванаццатую і прыступіліся да працы, прыводзячы човен да ладу і рыхтуючыся да развароту. Мы веславалі нашыя апошнія кіламетры.

Паміж Іфлі і Оксфардам — ці не найскладанейшы адцінак. Трэба на ім нарадзіцца, каб зразумець, што тут да чаго. Я быў тут шмат разоў, але так і не сцяміў, як тут кіраваць. Чалавек, які зможа прайсці на вёслах ад Іфлі да Оксфарда, без сумневу, зможа жыць у ладзе пад адным дахам са сваёй жонкай, цешчай, яе старэйшай сястрой і старым служкам, які прыйшоў у сям'ю, калі сам гаспадар толькі нарадзіўся.

Спярша вада шпурляе вас на правы бераг, пасля — на левы, а потым валачэ да сярэдзіны. Тройчы перакручвае вакол восі і зноў цягне за струменем. Усё заканчваецца спробай размазаць вас аб борт прагулачнай баржы.

Само сабой зразумела, цягам гэтых двух кіламетраў мы заступалі дарогу процьме іншых чаўноў, а яны, натуральна, нам. Як вынік, раз-пораз сям-там гучалі выбухі непрыстойнай лексікі.

Не ведаю, з якой нагоды, але людзі на рацэ раздражняюцца мацней, чым на сушы. Дробныя казусы, якіх вы нават не заўважыце ў горадзе, тут, на вадзе, даводзяць

да шаленства. Калі Гарыс ці Джордж выдурняюцца на беразе, я толькі паблажліва ўсміхаюся. Аднак калі яны дурэюць на рацэ, я ўжываю найпякельнейшую лаянку. Калі мне дарогу заступае іншы човен, дык мяне працінае жаданне схапіць вясло і папраломваць чарапы ўсім членам экіпажа.

Найлагаднейшыя на зямлі людзі ў чоўне робяцца гвалтоўнымі і крыважэрнымі. Аднойчы я паехаў на лодачную выправу з маладой паненкай. Яна была найдалікатнейшая і найшляхетнейшая з усіх, каго я ведаў. Аднак на рацэ з кожным ейным выклікам у мяне ўсё больш вялі вушы.

— А каб у цябе рукі паадсыхалі! — выгукала яна, калі нейкі гаротны вясляр заступаў ёй дарогу. — Зрэнкі пралупі і глядзі, куды едзеш!

— Ах ты стары корч! — гыркала яна, калі нехта не мог прышвартавацца. А потым хапала вясло і брутальна трэсла ім у паветры. На беразе яна зноў ператварылася ў сардэчнага і прыязнага чалавека.

Паветра ракі мае дэмаралізоўчы эфект на людскі характар. З гэтай прычыны лодачнікі і паромнікі такія грубыя і гэтак моцна лаюцца. У спакойнай абстаноўцы яны, напэўна, шкадуюць пра свае не надта годныя паводзіны.

## *Раздзел XIX*

*Оксфард. — Рай у версіі Манмарансі. — Човен, узяты напракат у вярхоўях: перавагі і заганы. — "Гонар Тэмзы". — Перамена надвор'я. — Рака з розных ракурсаў. — Вечар не вельмі. — Прага немагчымага. — Жарты, смешкі. — Джордж дае банджавы канцэрт. — Жалобная мелодыя. — Яшчэ адзін мокры дзень. — Уцёкі. — Сціплая вячэра і чаркаванне.*

*Мы правялі два вельмі* прыемныя дні ў Оксфардзе.

У горадзе мноства сабакаў. У першы дзень Манмарансі ўзяў удзел у адзінаццаці бойках і ў чатырнаццаці — у другі, і, мабыць, думаў, што трапіў у рай.

Сярод людзей ад прыроды лядашчых або ад прыроды лянотных — адным словам, тых, якія хочуць, не дужа выжыльваючыся, адчуць усе вабноты рачной паездкі, — вельмі папулярна браць напракат човен у Оксфардзе

і сплаўляцца ўніз па рацэ. Аднак людзям з характарам лепейісці супраць плыні.

Плысці за вадой не заўжды добра. Значна прыемней гнуць спіну, змагацца супраць плыні. Плысці не дзякуючы, а насуперак. Прынамсі я так адчуваю, калі, сеўшы ля стырна, назіраю, як Джордж з Гарысам налягаюць на вёслы.

Для тых, хто жадае зрабіць Оксфард сваім адпраўным пунктам, я параіў бы ўзяць уласны човен. Ці, калі ёсць магчымасць, пазычыць чужы човен, але каб гаспадар не даведаўся. Чаўны, якія можна ўзяць напракат на Тэмзе уверх ад Марлоў, — гэта вельмі добрыя чаўны. Яны без адзінай шчыліны, і калі з імі абыходзіцца як след, дык яны наўрад ці могуць пакрышыцца ці патануць. Яны прасторныя і абсталяваныя ўсім неабходным — ну, амаль усім, — каб веславаць і кіраваць.

Але ім бракуе шыку. Човен, які вы возьмеце напракат уверх ад Марлоў, не прызначаны, каб у ім, напрыклад, ляжалі. Такая ўжо ў іх адметнасць. Човен напракат не дазволіць усякія выбрыкі, што заманецца членам экіпажа.

Стаўцеся да маіх словаў, як да сяброўскай парады.

Той, хто бярэ човен напракат, — чалавек непатрабавальны і непублічны. Ён любіць трымацца цяністага боку. Любіць вандраваць рана ранкам ці на ноч гледзячы — у час, калі яго ніхто не бачыць.

Калі такі чалавек ва ўзятым напракат чоўне згледзеў кагось знаёмага, дык ён адразу спяшаецца да берага, каб схавацца пад шатамі дрэваў.

Неяк улетку я быў у кампаніі, якая ў вярхоўях ракі ўзяла напракат човен для вандроўкі на колькі дзён.

Ніхто з нас дагэтуль не браў напракат чаўноў у вярхоўі. Таму экзэмпляры, убачаныя на лодачнай станцыі, вельмі нас здзівілі.

Мы зарэзервавалі човен — пласкадонку-тройку. Калі мы спусціліся ў падворак з рэчамі і назвалі нашы імёны, лодачнік сказаў:

— Ага, так!.. Вы — кампанія, якая зарэзервавала трохмесцавую пласкадонку? Добра, Джым, ідзі падрыхтуй для людзей "Гонар Тэмзы".

Хлопец сышоў. Ён з'явіўся зноўку праз пяць хвілін, згінаючыся пад цяжарам дапатопнага кавалка драўніны, які, здавалася, толькі што аднекуль выкапалі.

Прычым выкапалі абы-як, бо моцна пашкодзілі падчас раскопак.

У першае імгненне, убачыўшы гэты артэфакт, я падумаў, што перад намі — старажытнарымскія парэшткі немавед чаго. Мабыць, дамавіны.

Рэч у тым, што берагі Тэмзы ў сваіх вярхоўях усеяныя рымскімі парэшткамі, і мая здагадка мела пад сабой грунт. Але адзін наш хлопец, які трошкі геолаг, адпрэчыў маю "рымскую тэорыю" і сказаў, што нават самым касамозгім людзям зразумела (з яго тону вынікала, што я асабіста й да гэтай катэгорыі чалавецтва пакуль не даспеў), што перад намі акамянелыя парэшткі кіта. Потым ён падаў доказы, якія мусілі давесці, што парэшткі паходзяць з даледавіковага перыяду.

Спярша адказ хлопчыка, які настойваў на тым, што гэта човен, падаўся нам вельмі дасціпным. Нехта з нас

нават даў яму двухпенсавік за яго жарт. Аднак, калі хлопчык працягваў гнуць сваё, мы страцілі цярпенне.

Пачалася дыскусія. Каб развязаць нашу спрэчку, мы зноў звярнуліся да хлопчыка. Мы папрасілі яго прызнацца: гэта парэшткі познебіблійнага кіта ці раннерымскай дамавіны?

Хлопец адказаў, што гэта “Гонар Тэмзы”.

— Не выдурняйся, хлопча, і не кажы абы-чаго! — сказаў наш капітан сувора. — Вярні сваёй матулі яе ночвы, у яе сёння, напэўна, вялікае мыццё. І прынясі нам нармальны човен.

Тады да нас прыйшоў сам лодачнік і забажыўся ўсімі карабельнымі святымі, што вось гэтае *штось* і ёсць сапраўдным чоўнам. Калі дакладней — падвойным вясլярскім ботам, які мы зарэзервавалі для вандроўкі ўверх па Тэмзе.

— Вам яшчэ страшэнна пашанцавала, — дадаў ён.

Мы адказалі, што ён мог прынамсі павапнаваць човен ці прасмаліць яго, каб можна было адрозніць човен ад кастра дроваў. Але ён не бачыў у ім ніякае заганы.

Лодачнік, здаецца, нават абурыўся. І сказаў, што выбраў для нас найлепшы човен і што мы маглі б выказаць крыху больш удзячнасці.

Ён дадаў, што “Гонар Тэмзы” ўжо сорак гадоў стаіць на службе (я б сказаў — “ліпіць” на службе), і наколькі яму вядома, яшчэ ніхто не наракаў на човен, і ён не разумее, чаму мы павінны быць першымі.

Больш мы не спрачаліся.

Нейкім абрыўкам вяроўкі мы сцягнулі так званы бот да купы, узялі нейкі лапік шпалераў і пазаклейвалі самыя дзіравыя месцы. Памаліліся і ступілі на борт.

Нам налічылі трыццаць пяць шылінгаў за шэсць дзён пракату гэтага рэшата. Падобнае ламачча можна было спакойна купіць за паўпята шылінга як дровы на распалку.

На трэці дзень памянялася надвор'е... ой, даруйце, я пераключыўся ўжо на аповед пра нашу цяперашнюю вандроўку... ...І пад безупыннай імжой мы выправіліся з Оксфарда назад, уніз па рацэ.

*Тэмза — зменлівая! Летам, калі ў небеззяе сонца, танчаць водблiскi на хвалях, пазалочваючы лісце ды камлі вялізных букаў, цемру з лесу гоняць прэчкі, дораць вербам дыяменты, граюць на млыновых колах, пацалункі шлюць лілеям, што гарэзяць між куўшынак, кожны мост — стары, замшэлы — пакрываюць чыстым срэбрам, чалавечыя сялібы аздабляючы праменнем, кожнай купінцы ды сцежцы дадаюць красы чароўнай, усміхаюцца ў затоках, лашчаць ветразі ласкава, летучы з вятрамі ўдалеч, поўняць радасцю паветра, — у такія хвілі Тэмза выглядае чарадзейнай чыстай плыняй залатой.*

*Калі ж дождж плюецца ў плыню брудных ды брунатных хваляў, Тэмза робіцца сцюдзёнай ды нявеtла пахмурнее, плача, бы ўдава ў вязніцы, у якой забралі дзетак; дрэвы цьмяныя, як здані, у туманных выпарэннях стынуць вартаю жалобнай, быццам памяць пра злачынствы, позіркам сяброў забытых на цябе глядзяць з дакорам, — у такую непагоду Тэмза, быццам нежывая, чорнаю ракою смутку ў замагільны свет цячэ.*

Сонечнае святло — гэта кроў Прыроды. Калі яно чэзне і знікае, дык Маці Зямля глядзіць на нас панурымі бяз-

душнымі вачыма. Быць з ёй сам-насам у гэтую хвіліну нам няўтульна. Здаецца, яна нас не пазнае і не любіць нас. Не раўнуючы як удава, у якой нядаўна памёр каханы муж, а яе дзеткі спрабуюць схапіць яе за рукі й зазірнуць ёй у вочы, ды яна не адказвае ім прыязнай усмешкай.

Мы веславалі пад дажджом увесь дзень — сум дый годзе! Спярша мы ўдавалі, што цешымся з веславання. Мы запэўнівалі сябе, што нам падабаецца рака ў любое надвор'е. Што сонца кожны дзень — гэта занадта. Мы казалі, што Прырода — прыгожая, калі яна ў слязах.

Першыя пару гадзін нам з Гарысам гэтае надвор'е падабалася. Мы спявалі песні пра цыганскае жыццё. Пра тое, як жа добра быць цыганом: адкрытым усім бурам ды сонечным прамяням, усім павевам ветру! Пра тое, як мы радыя дажджу і колькі ўсяго добрага ён нам прыносіць. І як мы смяёмся з людзей, якія не любяць ападкаў.

Потым Джордж паставіўся да гэтага больш цвяроза і разгарнуў парасон.

Перад тым як пайсці на другі сняданак, мы шчыльна захінуліся брызентам і трымалі яго над сабой усю другую палову дня. У брызенце мы пакінулі невялікую шчыліну, праз якую адзін з нас вызіраў і кіраваў чоўнам. Гэткім парадкам мы агоралі трынаццаць кіламетраў і спыніліся на ноч ля Дэйскага шлюза.

Не магу сказаць, што ў нас атрымаўся вясёлы вечар. Імжа сыпалася долу маўкліва й манатонна. У чоўне ўсё зрабілася вільготным і халодным на дотык. Вячэра не смакавала. Пірог з халоднай цяляціны хутка нагнаў аскоміну.

Мне хацелася селядцоў і адбіўной. Гарыс трызніў камбалай пад белым соусам ды спрабаваў скарміць рэшткі пірага Манмарансі. Манмарансі круціў носам. Ён абразіўся гэтай непрыстойнай прапановай да глыбіні душы. Адбегся ды сеў на карме.

Джорж папрасіў ні ў якім разе не размаўляць на далікатэсныя тэмы, пакуль мы не даямо запас халоднага мяса без муштарды, нашага праклёну.

Пасля вячэры гулялі ў "напалеон". Гулялі гадзіны паўтары. Джордж выйграў чатыры пенсы, яму заўжды шчасціць у картах, а мы з Гарысам, адпаведна, прайгралі па два.

Потым вырашылі, што гульня на грошы — не для нас. Як выказаўся Гарыс, "яна стварае ў згуртаваным калектыве нездаровы ажыятаж і сацыяльнае расслаенне". Джордж прапанаваў нам адыгрыцца, але мы з Гарысам цвяліць фартуну больш не рызыкнулі.

Потым мы зрабілі сабе трохі пуншу ды селі ў кола пагаманіць для падняцця настрою. Джордж апавёў нам пра аднаго знаёмага маладзёна, які хадзіў у вандроўку два гады назад і спаў у вільготным чоўне, чым зарабіў сабе рэўматычную ліхаманку. Яго не ўратавалі, і ён сканаў у страшнай агоніі праз дзесяць дзён. Джордж дадаў, што маладзён быў заручаны. І падсумаваў, што гэты выпадак — сапраўдная трагедыя.

Тады Гарыс згадаў свайго таварыша, які пайшоў у войска і правёў у намёце пад Алдэншотам адну вільготную ноч ("дарэчы, вельмі падобную да сённяшняй",

дадаў Гарыс) і зранку прачнуўся калекам, спаралізаваным на ўсё жыццё. Гарыс дадаў, што пазнаёміць нас з тым таварышам, калі мы вернемся ў Лондан. Калі мы яго ўбачым, прамовіў Гарыс, кроў застыгне ў нашых жылах.

Потым гэтая прыемная гутарка натуральным чынам перайшла на тэмы радыкуліту, ліхаманкі, разнастайных прастудаў, запалення лёгкіх і бранхіту. Гарыс дадаў, што барані бог, калі тут, далёка ад дактароў з іх якаснай медыцынскай дапамогай, нехта з нас сур'ёзна захварэе.

У момант слабасці, каб прагнаць сум, навеяны гэтай гутаркай, я прапанаваў Джорджу прынесці банджа, а мы, маўляў, пабачым, ці зможа ён стрымацца і не зайграць смешнай песенькі.

Джордж не прымусіў сябе доўга чакаць. Ён не крычаў: "Я забыў ноты дома!" ці нешта ў такім стылі. Ён адразу вычапіў аднекуль банджа і ўвесь аддаўся песні "Не за вочы сінія".

Да самага гэтага дня я лічыў, што "Не за вочы сінія" — зацяганая песенька. Але глыбокі сум, якім Джордж напоўніў сёння вечарам гэтую легкадумную мелодыю, агаломшыў мяне.

Чым даўжэй цягнулася гэтая жалобная Джорджава варыяцыя, тым больш нас з Гарысам апаноўвала жаданне кінуцца адзін аднаму на плячо і разрыдацца. Толькі вялікім намаганнем волі мы стрымлівалі слёзы, слухаючы журлівы спеў моўчкі.

Калі дайшла чарга да прыпеву, мы нават зрабілі роспачнае намаганне ажывіць кампазіцыю. Мы напоўнілі

шклянкі і далучыліся да рэфрэну. Джордж дрыготкім ад расчуленасці голасам выводзіў сола, а мы з Гарысам далучаліся праз некалькі словаў:

*Не за вочы сінія!*
*Не за бровы смуглыя!*
*А за сэрца шчырае*
*Палюбіла я...*

Тут мы зламаліся. Невымоўны пафас Джорджавага акампанементу на словах “палюбіла я” канчаткова расчуліў нас. Гарыс румзаў, як немаўля. Манмарансі скавытаў на ўсе застаўкі, мне ажно здалося, што зараз ён абавязкова нешта надарве: ці то маё сэрца, ці то свой голас.

Джордж замахнуўся на другі куплет. Яму падалося, што калі ён дадасць шчымлівасці ў мелодыю і закіне туды больш душэўнага надрыву, дык гэта трохі ажывіць манатонную песню. Але прыхільнікі стабільнасці перамаглі дзёрзкага наватара.

Больш нам не засталося чаго рабіць. Мы пайшлі спаць, то-бок раздзеліся, улягліся на дно чоўна і круціліся, як вужакі на патэльні, тры-чатыры гадзінкі. А пасля забыліся неспакойным сном да пятай ранку. А пятай падняліся і паснедалі.

Наступны дзень быў кропля ў кроплю як папярэдні. Зноў ліло як з цэбра, а мы сядзелі, захутаныя ў плашчы пад брызентам, пакрысе плывучы ўніз па рацэ.

Адзін з нас — я цяпер ужо не памятаю, хто дакладна, але, мусіць, гэта быў я, — зрабіў зранку пару кволых намаганняў вывергнуць з сябе старую цыганскую баладу пра дзяцей Прыроды і пра радасць быць прамоклым.



Неяк я вандраваў у адной байдарцы з тэолагам Ірынай Дубянецкай і філосафам Валянцінам Акудовічам. Камандзе з некалькіх чаўноў трэба было трапіць з возера Нарач у рэчку Нарачанку.

Уваход у раку быў шчыльна зарослы трысняговом. Наша – першая – байда літаральна прасякала шлях наперад. Больш за гадзіну няспыннай працы. Так сталася, што найстарэйшы з усіх – Валянцін Акудовіч – зрабіў найбольшы кавалак работы.

Пазней, калі стомлена-радасныя мы паціху пачыналі ісці па вольнай вадзе ракі, Валянцін стаўся самым апошнім. Па старой сваёй звычцы замыкаў ар'ергард, зрабіўшы на карме байдаркі падабенства трону з заплечніка і дыванка.

Я быў пасярэдзіне, а на носе кіравала тэолаг Ірына Дубянецкая. Задача першага ў байдзе – пільнаваць карчы, завалы ды іншыя небяспечныя перашкоды на шляху вандроўнікаў. А галоўная рулявая цяга, якая дае магчымасць максімальна хутка развярнуць човен, знаходзіцца ў вясле капітана на карме.

– Корч, корч! – закрычала Ірына Дубянецкая.

– Так, – задумённа зацягваючыся цыгарэтай, адказаў філосаф Валянцін Акудовіч. – Там наперадзе будзе яшчэ шмат карчоў.

Севярын Квяткоўскі




Але скулля што з гэтага выйшла. Усе гэтыя “зноў падае мокры дождж... кудысьці та-там... на шкло” былі да болю вiдавочныя і настолькі выражалі эмоцыі нас усіх, што і спяваць гэтыя словы было немагчыма.

У адным пытанні мы прыйшлі да згоды. Хай там што, але мы давядзем гэтую працу да самага канца! Мы выправіліся на два тыдні, каб атрымаць асалоду ад *двухтыднёвай* вандроўкі, і гэтую асалоду мы атрымаем, нават калі яна заб’е нас! Ну, так, гэта будзе сумная навіна для нашых сяброў і сваякоў, але слова ёсць слова. Мы пастанавілі, што паддацца кепскаму надвор’ю ў нашых кліматычных умовах азначае стварыць для суайчыннікаў шкодны прэцэдэнт.

Гарыс сказаў:

— Яшчэ нейкія няшчасныя два дні, і мы вяртаемся моцныя і дужыя. У нас усё атрымаецца.

Ля чацвёртай гадзіны мы пачалі абмяркоўваць нашыя планы на вечар. Мы мінулі Горынг і вырашылі заначаваць у Пэнгбурне.

— Яшчэ адзін феерычны вечарок... — прамармытаў Джордж.

Мы селі й пачалі разважаць над нашымі перспектывамі. Мы можам трапіць у Пэнгбурн а пятай. Скончым вячэру прыблізна а палове на шостую. Пасля гэтага можна выйсці на шпацыр пад залевай і прабадзяцца да ночы. Або можам сесці ў шынку і пачытаць альманах.

— А ў “Альгамбры”, напэўна, сёння шоу-праграма, — сказаў Гарыс, вызіраючы за брызент на момант і аглядаючы неба.

— А потым маглі б там павячэраць, — дадаў я машынальна.

— Ну і дурні ж мы, што прывязалі сябе да гэтага чоўна! — сказаў Гарыс. На нейкі час запанавала маўчанне.

— Ну, калі мы не давалі слова гонару памерці тут, усярэдзіне гэтай старой дамавіны, — сказаў Джордж, зласліва аглядаючы човен, — дык дазвольце трохі вартай вашай увагі інфармацыі. Недзе адразу пасля пятай ад Пэнгбурна адыходзіць цягнік, які можа дамчаць нас да Лондана, і ў нас застанецца трохі часу, каб пераапрануцца і пайсці ў кабарэ-рэстаран, які вы згадалі.

Усе маўчалі. Мы зірнулі адзін на аднаго, і кожны прачытаў свае зласлівыя думкі на твары суседа. У цішыні мы вылезлі і агледзелі Глэдстоўн. Мы зірнулі ўверх і ўніз па рацэ — ніводнай жывой душы.

Праз дваццаць хвілін можна было ўбачыць тры пастаці, за якімі следаваў прысаромленага выгляду сабака, што давалі драпака ад лодачнай станцыі “Мая белая лебедзь” у кірунку станцыі чыгуначнай. Пастаці былі апранутыя ў такія лахманы:

*чорныя завэдзганыя скураныя чаравікі;*
*неймаверна брудныя фланэлевыя кашулі;*
*вельмі запыленыя пыльнікі;*
*плашчы, мокрыя да ніткі;*
*парасоны.*

У Пэнгбарне мы адшукалі лодачніка (і пасля яго ашукалі). Мы не адважыліся прызнацца, што ўцякаем ад залевы. Мы пакінулі човен і ўсе нашы транты пад яго апеку, з прадпісаннем, што гэта мусіць быць гатова а дзявятай

гадзіне наступнага ранку. А калі адбудзецца нешта нечаканае, сказалі мы яму, што не дазволіць нам вярнуцца і забраць човен, дык мы яму абавязкова напішам.

А сёмай мы даехалі да Падынгтанскага вакзала і скіраваліся ў рэстарацыю, якую я апісаў вышэй. Там мы замовілі лёгкую закуску, пакінулі Манмарансі разам з замовай на вячэру, якая мусіць быць гатовая а палове на адзінацатую, і паехалі на Лэйчэстэр-Сквэр.

У “Альгамбры” мы не абы-як прыцягнулі да сябе ўвагу. Пры нашым з’яўленні касір стаў выпраўляць нас прагуляцца вакол Замкавай, бо мы на паўтары гадзіны спазніліся на сеанс.

Мы доўга і цярпліва пераконвалі касіра, што не з’яўляемся “сусветнавядомымі цыркачамі з гімалайскіх гор”. Урэшце той прыняў нашы грошы і літасціва дазволіў увайсці.

Усярэдзіне мы здабылі проста шалёны поспех. Нашыя забранзавелыя на сонцы твары і маляўнічыя апранахі прыцягнулі захопленыя позіркі ўсёй залы. Безумоўна, мы былі гваздом шоу-праграмы. А трыумфальны ўваход у залу зрабіўся хвілінай славы для нашай чацвёркі.

Мы сышлі пасля першага аддзялення і скіраваліся назад у рэстаран, дзе для нас ужо накрылі стол.

Мушу прызнацца, што вячэра нас парадавала. Амаль два тыдні мы харчаваліся выключна халодным мясам, пірагамі, хлебам ды сочывам. Просты і пажыўны рацыён, але не надта ўсцешны. Водар бургундскага, пах французскіх соусаў, выгляд чыстых сурвэтак і парыжскіх багетаў — усё адгукалася ў нас, нібы крокі доўгачаканых гасцей.

Нейкі час мы моўчкі кроілі ежу і асушалі келіхі. Пасля настала хвіліна, калі мы ўжо не сядзелі выпрастана, трымаючы перад сабой нож і відэлец, а адкінуліся на крэслы й працавалі прыборамі паволі й нядбала. Выцягнулі ногі пад сталом, перасталі падымаць сурвэткі, якія валіліся на падлогу. Сталі больш крытычна аглядаць закураную столь. Мы паклалі нашы акуляры перад сабой на стале і адчулі прыліў рахманасці, памяркоўнасці ды талерантнасці.

Пасля Гарыс, які сядзеў ля акна, адшморгнуў фіранку і вызірнуў на вуліцу.

На залітай дажджом вуліцы цьмяныя ліхтары міргалі з кожным парывам ветру. Дождж манатонна падаў на ходнік. Збіраўся ў ручайкі, бег вадасцёкамі. Некалькі прамоклых постацяў спяшалася па вуліцы, ледзьве трымаючы парасоны. Жанчыны высока падбіралі спадніцы.

— Дык вось, — сказаў Джордж, намацваючы рукой акуляры. — Гэта была цудоўная вандроўка, і шчыры табе дзякуй, Матухна Тэмза! Але, думаю, мы зрабілі слушна, што ўцяклі ад яе. За траіх без чоўна! Будзьма!

І Манмарансі, прыўстаўшы на заднія лапы ды вызірнуўшы ў акно, кораценька гаўкнуў на знак поўнай згоды з тостам Джорджа.

## *Уцешны дадатак*



### *Тандэм*

*(урывак з падарожнай аповесці-сіквела „Трое на чатырох колах“)*

А*д двухмесцавага ровара* адны непрыемнасці. Раварыст, які сядзіць сперад у, пераканаваны, што той, хто едзе ззаду, нічога не робіць. А той, хто едзе ззаду, упэўнены, што круціць педалі толькі ён, а ягоны партнёр адно імітуе цяжкае дыханне. Што адбываецца насамрэч, мы, бадай што, ніколі не высветлім. У момант, калі Памяркоўнасць шэпча вам на адно вушка не пераацэньваць свае мажлівасці і паберагчы сэрца, а Пачуццё Справядлівасці кажа на другое вуха наступнае: “Ты чаго ўвогуле круціш педалі?! Ты ж не рыкша, а ён — не твой пасажыр!”, — вельмі крыўдна пачуць такое:

“Гэй, ты што там, педалі згубіў?”

Аднойчы праз гэткае няведанне, што робіць чалавек, які сядзіць за тваёй спінай, маладажон Гарыс

пашыўся ў дурні. Яны з жонкай падарожнічалі па Галандыі. Дарога трапілася камяністая. Іхні ровар-тандэм дыбіўся пад самае неба.

— Трымайся мацней! — крыкнуў Гарыс, не паварочваючыся.

А Гарысава жонка пачула чамусьці: "Саскоквай хутчэй!"

Чаму яна падумала, што Гарыс крыкнуў: "Саскоквай хутчэй!", калі насамрэч ён гукнуў: "Трымайся мацней!", ніхто з іх так і не змог патлумачыць.

Гарысава жонка кажа так:

— Калі б ты крыкнуў: "Трымайся мацней!", дык якога ляда мне саскокваць?!

Гарыс кажа гэтак:

— Калі б я хацеў, каб ты саскочыла, дык з якой такой нагоды мне крычаць: "Трымайся мацней"?!

Праз шмат гадоў злосць, можа, ужо мінулася, але ж спрэчка так і не затухае.

Тлумачэнне прычынаў, на жаль, нічога не зменіць у тым факце, што Гарысава жонка спрытна саскочыла, тады як сам Гарыс працягваў штомоцы круціць педалі, мяркуючы, што жонка па-ранейшаму сядзіць у яго за спінай.

Спярша жонка падумала, што Гарыс, выстаўляючыся перад ёй, хоча трыумфальна падняцца на ўзгорак. У тыя дні яны абое былі маладыя, і Гарыс такім чынам раз-пораз выхваляўся. Яна чакала, што, дасягнуўшы пад'ёму, муж саскочыць на зямлю і, зухавата абапёршыся на ровар, будзе чакаць яе там. Калі ж яна ўбачыла, што Гарыс ужо мінуў вяршыню ды працягвае заложна круціць педалі, дык знерухомела. Спярша — ад нечаканасці, потым — ад абразы, і ўрэшце — ад страху.

Дабегшы да вяршыні пагорка, яна загаласіла, а ён нават не павярнуў галавы. Жанчына бачыла, як Гарыс знікае сярод лесу за тры кіламетры ад яе. Потым села і заплакала. Зранку яны крыху пасварыліся, і яна была падумала, што ён прыняў гэта блізка да сэрца і хоча яе кінуць. У яе не было грошай, яна не ведала ні слова па-нідэрландску. Людзі, якія праходзілі побач, ставіліся да яе са шкадаваннем. Яна спрабавала патлумачыць, што з ёй здарылася. Галандцы разумелі яе так, што яна нешта згубіла, але не цямілі, што менавіта. Людзі павялі Гарысаву жонку да найбліжэйшай вёскі і знайшлі для яе паліцыянтаў.

З яе жэстаў паліцыянты зразумелі, што нейкі мужчына скраў у яе ровар. Яны запусцілі тэлеграф, і ў адной вёсцы за восем кіламетраў знайшлі нейкага небараку, які ехаў на дамскім ровары састарэлай мадэлі. Яго прывезлі да Гарысавай жонкі ў паліцэйскай брычцы, але паколькі яна не выказала цікаўнасці ні да небаракі, ні да ягонага ровара, дык паліцыянтам давялося адпусціць мужчыну на волю. Урэшце паліцыя ўмыла рукі.

Тым часам сам Гарыс працягваў цешыцца роварнай вандроўкай. Яму чамусьці стрэльнула ў галаву, што ён у вокамгненне зрабіўся мацёрым раварыстам. І таму звярнуўся да жонкі, якая, па ягоным разуменні, сядзела тут:

— Слухай, пада мной проста конь-агонь! Свежае паветра нам спрыяе!

Потым Гарыс сказаў жонцы не баяцца, бо зараз пакажа ёй, на якую хуткасць ён здатны. Гарыс налёг на

стырно і закруціў педалі штомоцы. Ровар паляцеў, як ветрам гнаны, мінаючы фермы і цэрквы. Сабакі і куры сустракаліся па дарозе і знікалі ззаду. Старыя сяляне сталі і праводзілі Гарыса позіркам. Дзеці махалі рукамі і гукалі наўздагон.

Гэтак Гарыс зухавата прамчаўся кіламетраў з восем. Праз нейкі час, як кажа сам Гарыс, трывога ўсё ж зазвінела ўвушшу дакучлівым званочкам. Ён не здзівіўся цішыні — вецер моцна дзьмуў і ровар голасна рыпеў.

Урэшце Гарысам апанавала пачуццё пустэчы. Ён працягнуў руку назад — і адчуў, што там нікога няма. Пустая прастора. Ён саскочыў, ці, дакладней, сцішыў хаду, і глянуў назад. Ззаду цягнулася дарога — белая і простая дарога праз лес. І ніводнай жывой душы на ёй.

Гарыс зноў ускараскаўся на ровар і паехаў назад да пагорка. Праз дзесяць хвілін ён вярнуўся да месца, дзе дарога разыходзілася на чатыры сцежкі. Тут Гарыс спешыўся і паспрабаваў прыгадаць, па якой з чатырох дарог ён сюды прыехаў.

Пакуль ён разважаў, па ўзбочыне праехаў мужчына на кані. Спыніўшы мужчыну, Гарыс патлумачыў, што згубіў жонку. Мужчына, здаецца, ані здзівіўся, ані пашкадаваў яго. Пакуль яны размаўлялі, падышоў нейкі фермер, якому першы мужчына патлумачыў сітуацыю. Аднак апавёў не як здарэнне, а як добрую байку. Што найбольш здзівіла другога мужчыну, гэта тое, чаму Гарыс узняў вэрхал. Не атрымаўшы ад сялянаў дапамогі, праклінаючы ўвесь белы свет, Гарыс сеў на ровар і паехаў па сярэдняй дарожцы.

На паўдарозе да вяршыні сустрэў дзвюх маладзіц і аднаго маладзёна. Здаецца, яны дапамаглі яму найбольш. Ён спытаў іх, ці не бачылі яны яго жонкі. Яны спыталі, як яна выглядае. Каб апісаць жонку як след, нідэрландскай мовы яму не хапіла. Ён сказаў, што яна — прыгожая жанчына сярэдняга росту. Гэтых дэталяў, відавочна, не ставала, бо апісанне было занадта агульнае. Апісаўшы жонку такім чынам, любы можа прысабечыць абсалютна любую жанчыну. Тады галандцы спыталі ў Гарыса, у што ягоная жонка была апранутая. А ён — от хоць ты што! — прыгадаць не змог.

Я вельмі сумняюся, што праз дзесяць хвілін пасля таго, як жанчына сышла, мужчына зможа апісаць, як яна выглядала. Гарыс прыгадаў блакітную спадніцу, і быў яшчэ, здаецца, нейкі аксэсуар, які трымаў сукенку на шыі, ці што... Можа, гэта была блузка? У яго засталося такое ўражанне, што быў паясок, але якая блузка? Ці ж яна зялёная, ці жоўтая, ці блакітная? Ці ж быў каўнер, ці яна мацавалася на дузе? А ў капялюшыку ў яе было пяро ці кветкі? І ці быў увогуле капялюшык? Гарыс не мог адназначна сказаць, баючыся, што пашле па фальшывым следзе за дзясяткі кіламетраў. Дзве дзяўчыны хіхікалі, што пры дадзеных акалічнасцях раззлавала Гарыса. Хлопец, відавочна, хацеў, каб ад яго адчапіліся. Ён прапанаваў звярнуцца ў паліцэйскі пастарунак у бліжэйшым гарадку.

Гарыс паехаў туды. У паліцыі яму далі аркуш паперы і сказалі падрабязна апісаць жонку, разам са звесткамі, калі і дзе ён яе згубіў. Гарыс не ведаў, дзе ён яе згубіў. Усё, што Гарыс здолеў паведаміць, — гэта назва

вёскі, дзе яны з'елі другі сняданак. Ён ведаў, што тады яна была з ім і што яны выехалі адтуль разам.

Паліцыя не хавала сваіх падазрэнняў. Яны сумняваліся наконт трох пунктаў. Па-першае, ці сапраўды яна ягоная жонка? Па-другое, ці сапраўды ён яе згубіў? І па-трэцяе, з якой мэтаю ён згубіў яе?

З дапамогаю гаспадара гатэля, што трохі ўмеў па-ангельску, Гарыс развеяў усе падазрэнні. Паліцыянты паабяцалі пачаць пошукі і ўжо ўвечары прывезлі жонку да Гарыса ў крытай брычцы, разам з рахункам на выдаткі.

Іх сустрэчу нельга было назваць радасным уз'яднаннем. Гарысава жонка — невялікая акторка, ёй заўжды цяжка хаваць свае эмоцыі. А гэтым разам, варта прызнаць, яна нават не спрабавала.

# ЗМЕСТ

Джэром Клапка Джэром

# Т Р О Е   Ў   Ч О Ў Н Е   І   П Ё С   З   І М І

Jerome K. Jerome

*Three Men in a Boat (To Say Nothing of the Dog)*

*Перакладчык і аўтар нататак* Павал Касцюкевіч
*Рэдактар* Андрэй Хадановіч
*Карэктарка* Ліда Наліўка
*Мастачка* Кацярына Пікірэня

Logvino Literatūros namai
J. Savickio 4, LT-01108 Vilnius

Надрукавана ў ПВУП «Логвінаў»
вул. Сухая, 4, Мінск

